

Adam Mickiewicz



АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ ЛІТАРАТУРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

АДАМ МІЦКЕВІЧ

# Пан Тадэвуш



Пераклад з польскай Б. ТАРАШКЕВІЧА

МІНСК «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1981

Прадмова, падрыхтоўка тэксту
і каментарыяў А. І. МАЛЬДЗІСА

Рэдактар |Ю. С. ПШЫРКОЎ|,
заслужаны дзеяч навукі БССР,
доктар філалагічных навук

Рэцэнзенты: А. А. Лойка,
доктар філалагічных навук;
А. С. Ліс, кандыдат філалагічных навук

**Міцкевіч А.**

М 70 Пан Тадэвуш / [Пер. з пол. Б. Тарашкевіча].— Мн.: Навука і тэхніка, 1981.— 295 с., 2 л. іл.

У пер.: 1 р. 70 к.

Выданне з'яўляецца першай поўнай публікацыяй на беларускай мове вядомай эпапеі геніяльнага польскага паэта Адама Міцкевіча, падзеі якой адбываюцца на тэрыторыі Беларусі. Пераклад паэмы зроблены на пачатку 30-х гадоў у польскай буржуазнай турме выдатным грамадскім дзеячам і вучоным, акадэмікам АН БССР Браніслававам Тарашкевічам. Публікацыя прымеркавана да 150-годдзя напісання паэмы, 90-годдзя з дня нараджэння перакладчыка і 50-годдзя самога перакладу.

70404—085
М ———————— 142—81 4703000000
М316—81

ББК 84.4П
И(Пол)



# *Пераклад-подзвіг*



У гісторыі культуры ёсць з'явы, якія з цягам часу набываюць сімвалічнае значэнне. Да іх, безумоўна, адносіцца пераклад на беларускую мову эпапеі Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», зроблены Браніславам Тарашкевічам пяцьдзесят год назад. Па загаду буржуазных улад яго, рэвалюцыянера і вучонага, кінулі тады ў гродзенскую турму — бадай, самую строгую ў даваеннай Польшчы. Пасадзілі яго, хворага на сэрца, у камеру-адзіночку. Зрэдку аднастайную адзіноту вязня перапыняла з'яўленне наглядчыка, які кідаў колькі абыякавых, а то і абразлівых слоў. Словы гэтыя былі на мове блізкай, зразумелай, але не роднай, не той, на якой гаварылі бацькі і суседзі Тарашкевіча ў маленькім засценку Чарнулішкі, што каля Вільні. Польская мова ў вуснах турэмнага начальства не вешчавала і не магла вешчаваць для вязня нічога добрага...

І тым не менш Браніслаў Тарашкевіч, седзячы ў польскай турме, дзень за днём перакладаў на беларускую мову шэдэўр польскага генія. Перакладаў у надзвычайна цяжкіх умовах. Начальства пільна ўлічвала кожны шматок паперы, нумаравала кожную старонку ў агульным сшытку. Таму нельга было дазволіць сабе раскошу рабіць чарнавікі. Увесь пераклад выношваўся і шліфаваўся ў галаве і толькі потым фіксаваўся на паперы — ужо ў закончаным выглядзе. Не было пад рукой самага элементарнага — слоўнікаў, даведнікаў. І зноў прыходзілася спадзявацца толькі на памяць, на грунтоўныя веды, назапашаныя ў Віленскай гімназіі і Пецярбургскім універсітэце. Каментарыі да перакладу адзіўляюць сваёй энцыклапедычнасцю, а сам пераклад — багаццем мовы, творчым выкарыстаннем дыялектызмаў, дакладнасцю ў перадачы зместу і формы міцкевічаўскага арыгінала.

Чаму Браніслаў Тарашкевіч, знаходзячыся ў зняволенні, выбраў для перакладу — побач з «Іліядай» Гамера — менавіта «Пана Тадэвуша»? Ды, відаць, таму, што, з'яўляючыся інтэрнацыяналістам, ён добра ўсведамляў: санацыйныя ўлады не маюць нічога агульнага з гераічным і шматпакутным польскім народам. Відаць, таму, што «Пан Тадэвуш»— вяршыня ў творчасці выдатнага сына гэтага народа Адама Міцкевіча, вяршыня ва ўсёй польскай паэзіі. І не толькі ў польскай. Гэта адна з вяршынь агульнаславянскіх, агульнаеўрапейскіх, сусветных. Твор, які можна па праву паставіць побач з «Яўгеніем Анегіным» Пушкіна і «Фаўстам» Гётэ. Твор, які з'яўляецца выражэннем не толькі нацыянальнага духу, але і агульначалавечых імкненняў да свабоды і шчасця.

І яшчэ, відаць, таму, што паэма была напісана земляком перакладчыка, заснавана на беларускім матэрыяле. Яе аўтар, Адам Міцкевіч (1798—1855), нарадзіўся на Навагрудчыне. У Навагрудку прайшло яго дзяцінства. Ходзячы па сялянскіх кірмашах і вяселлях, будучы паэт пільна прыслухоўваўся да мясцовых песень і казак, прыглядаўся да народных абрадаў. На Навагрудчыне, у Туганавічах, жыло першае вялікае каханне Міцкевіча — Марыля Верашчака. У родныя мясціны паэт часта прыязджаў з Вільні, дзе ён вучыўся ва універсітэце, з Коўна, дзе працаваў настаўнікам. Сюды, у край свайго дзяцінства і юнацтва, імкнуўся ён у марах, калі знаходзіўся ў ссылцы і эміграцыі.

З гэтай нязмернай любові да Навагрудчыны, да яе народа нарадзіліся лепшыя творы Міцкевіча — балады «Свіцязь», «Свіцязянка», «Рыбка», паэма «Гражына», другая частка «Дзядаў». Нарадзіўся «Пан Тадэвуш»[1].

Задума напісаць вялікае эпічнае палатно прыйшла да Міцкевіча сто пяцьдзесят год назад, у 1831 г., калі ў сувязі з нацыянальным паўстаннем паэт знаходзіўся ў ваколіцах Познані. Работа працягвалася ў эміграцыі — у Парыжы. Апошні радок быў дапісаны ў лютым 1834 г., а ў ліпені таго ж года паэма выйшла з друку двума асобнымі томікамі.

---

[1] Падрабязней пра сувязі Міцкевіча з беларускім фальклорам гл.: Лойка Алег. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура. Мн., 1959.



«Пан Тадэвуш»— гэта ўзнёслы гімн Навагрудчыне, яе палям і лясам, яе працавітым людзям. У паэме творча выкарыстаны беларускія казкі і легенды, ужываюцца беларускія словы (покуць, вырай, рунь і інш.). Міцкевіч каларытна паказаў быт і норавы мясцовай шляхты, з якой выйшаў і сам. Паэт любуецца сваімі Сапліцамі, Гарэшкамі, Дабрынскімі, часам нават ідэалізуе іх. Аднак у цэлым «Пан Тадэвуш», як пісаў сябар Аляксандра Герцэна Станіслаў Ворцаль, з'явіўся «магільнай плітой, пакладзенай рукою генія на старую Польшчу». Сімпатыі аўтара перш за ўсё на баку юнага Тадэвуша, адважнага змагара за вызваленне радзімы і шчырага народалюбца, які дае свабоду сялянам. Сваёй эпапеяй паэт хацеў натхніць суайчыннікаў на барацьбу з самаўладствам, даць ім адказ на самыя хвалюючыя пытанні. Праўда, адказ гэты ў многім утапічны. Міцкевіч падзяляў пашыраныя тады напалеаніўскія ілюзіі, празмерна вялікія надзеі ўскладваў на добрую волю шляхты, на тое, што яна сама вызваліць народ ад прыгону. Аднак не гэта галоўнае ў паэме. Галоўнае — страсная любоў да сваёй заняволенай айчыны і пераканаsuccessful вера ў яе вызваленне — пачуцці, якія валодалі і Браніславам Тарашкевічам.

Нягледзячы на забарону царскай цэнзуры, «Пан Тадэвуш» хутка стаў вядомы ў Беларусі, трапіў «пад сялянскія стрэхі». Яго перапісвалі, завучвалі на памяць. У 1858 г., відаць, рыхтуючыся да 60-годдзя з дня нараджэння Міцкевіча, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч зрабіў беларускі пераклад паэмы. Гэта быў яе першы славянскі пераклад — ранейшы, чым рускі, чэшскі, сербскі, і пазнейшы толькі за нямецкі. У 1859 г. першыя дзве кнігі (былıцы) «Пана Тадэвуша», «прыбранага ў мужыцкую сярмягу», былі выдадзены ў Вільні. Але цэнзура спаліла ўвесь тыраж, і сёння ад яго захаваліся толькі два экземпляры. Потым Дунін-Марцінкевіч двойчы, у 1882 і 1884 гг., прапаноўваў выдаць пераклад асобнай кніжкай, ды заклік ягоны застаўся без рэха. Толькі ў 1888 г. у Львове быў апублікаваны — побач з іншымі — пачатак беларускага перакладу як сведчанне папулярнасці Міцкевіча сярод славянскіх народаў.

Услед за Дуніным-Марцінкевічам за пераклад «Пана Тадэвуша» на беларускую мову ўзяўся Аляксандр Ельскі. Першая частка яго працы, на жаль, вельмі недаска-

налай у мастацкіх адносінах, убачыла свет у Львове ў 1892 г.[2]

І вось у 1931—1932 гг. у турэмных засценках нарадзіўся трэці беларускі пераклад паэмы, той самы, які прапануецца цяпер чытачу. Для нас асаблівае значэнне мае той факт, што зрабіў яго Браніслаў Адамавіч Тарашкевіч (1892—1938), выдатны грамадскі дзеяч, вучоны-энцыклапедыст, акадэмік АН БССР. Яго імя добра вядома беларускаму народу. Прыгадаем, што ў 1923—1927 гг. Тарашкевіч з'яўляўся паслом польскага сейма, дзе страсна абараняў правы працоўных Заходняй Беларусі. У 1925 г. ён звязаў свой лёс з КПЗБ. Тады ж узначаліў Беларускую сялянска-рабочую грамаду, якая аб'ядноўвала каля 120 тысяч членаў. Гэта была самая масавая дэмакратычная арганізацыя ў тагачаснай буржуазнай Еўропе. Польскія ўлады неўзабаве разагналі Грамаду, а яе кіраўніка прыгаварылі да 12 год зняволення. Турмы ў Вільні, Грудзёндзы, Плоцку, Вронках, Гродна... Знаходзячыся ў заключэнні, Тарашкевіч пісаў рэвалюцыйныя адозвы і брашуры, стварыў тэкст песні «Марш Грамады», працаваў над гістарычнай граматыкай беларускай мовы, перапрацоўваў сваю славутую «Беларускую граматыку для школ», якая вытрымала шэсць выданняў. У абарону вязня выступіла прагрэсіўная грамадскасць Еўропы. У Мінску камітэт у абарону Грамады і яе кіраўніка ўзначаліў Янка Купала.

Пад націскам грамадскасці польскія ўлады вымушаны былі адпусціць Тарашкевіча. У 1933 г. ён прыязджае ў СССР. З сабой вязе пераклады «Пана Тадэвуша» і «Іліяды», акуратна перапісаныя выпускніком Радашковіцкай гімназіі Леанідам Ліманоўскім. У Маскве Тарашкевіч загадвае аддзелам Польшчы і Прыбалтыкі ў Міжнародным аграрным інстытуце, піша працы па эканоміцы, гісторыі, мовазнаўству, уносіць праўкі ў рукапіс перакладу «Пана Тадэвуша», рыхтуецца яго выдаць.

Пасля смерці Тарашкевіча[3] восем тоўстых сшыткаў з перакладам засталіся ў Маскве, у яго ўдавы Ніны Аляксандраўны. У 1967 г. яна перадала рукапіс у адзін з музеяў. Аднак шырокая літаратурная грамадскасць не ведала пра існаванне сшыткаў. Лічылася, што яны загінулі. І ўсё ж жыла вера, што раней або пазней пераклад Тарашкевіча знойдзецца. Калі ў 1962 г. у «Полымі» быў надрукаваны ўрывак з паэмы, выдатны польскі пісьменнік Яраслаў Івашкевіч аптымістычна пісаў: «Трэба мець надзею, што пераклад Тарашкевіча поўнасцю будзе апублікаваны ў самым бліжэйшым часе».

Ішлі гады. Эпапея польскага паэта па-ранейшаму прываблівала беларускіх перакладчыкаў. Былі апублікаваны ўрыўкі з яе ў перакладзе Максіма Танка, Сяргея Дзяргая. Сёння ўжо існуюць у рукапісах поўныя пераклады паэмы, зробленыя Язэпам Семяжонам і Пятром Бітэлем. У беластоцкім альманаху «Белавежа» ў 1971 г. была надрукавана чацвёртая быліца з Тарашкевічавага перакладу «Пана Тадэвуша». У Вільнюсе, на кватэры былой супрацоўніцы Беларускага банка Марыі Паўловіч, знайшлі арыгінал 11 і 12-й быліц таго ж перакладу. Урэшце ў музейных запасніках адшукаліся і сем «маскоўскіх» сшыткаў. У 1978 г. яны паступілі ў аддзел рэдкай кнігі і рукапісаў Фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР. Там жа захоўваецца частка арыгінала, знойдзеная ў Вільнюсе. На аснове ўказаных рукапісаў і падрыхтавана гэта публікацыя.

Такім чынам, сёння можна сказаць, што надзея Яраслава Івашкевіча здзейснілася. Беларускі чытач упершыню атрымоўвае поўны тэкст «Пана Тадэвуша» на роднай мове. Як сцвярджае ў Польшчы пісьменнік Сакрат Яновіч, для перакладу, зробленага пяцьдзесят год назад у турэмных засценках, уласціва «кранальная вернасць у дачыненні да арыгінала, якая шчасліва спалучаецца з бясспрэчнай паэтычнасцю»[4]. Праца Браніслава Тарашкевіча з'яўляецца красамоўным сімвалам беларуска-польскага літаратурнага яднання, дружбы двух братніх славянскіх народаў.

*Адам Мальдзіс*

[2] Падрабязней пра першыя пераклады паэмы на беларускую мову гл.: Skibińska-Charyło Zofia. O przekładach «Pana Tadeusza» na język białoruski.— Studia Polono-Slavica Orientalia, t. II (1973), с. 181—198.

[3] Падрабязней пра рэвалюцыйную і навуковую дзейнасць Браніслава Тарашкевіча гл.: Ліс Арсен. Браніслаў Тарашкевіч. Мн., 1966; Bergman Aleksandra. Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu. Warszawa, 1977.

[4] Janowicz Sokrates. «Pan Tadeusz» w celi więziennej.— Kultura, 1977, nr 12, s. 5.

# *Быліца першая*



## ГАСПАДАРКА

### ЗМЕСТ

Паніч варочаецца дамоў.—Першае спатканне ў святліцы, другое пры стале.— Важная навука Суддзі аб ветласці.— Падкаморага палітычныя ўвагі аб модах.— Пачатак споркі пра Курту і Сакала.— Жальбы Войскага.— Апошні Возны трыбунала [1].— Узгляд на тагачасны палітычны стан Літвы і Еўропы.

Радзіма Літва [2]! Як здароўе, так ты, дарагая;
як шмат цябе трэба цаніць, толькі той і спазнае,
хто страціў цябе. Усю красу тваю бачу дзіўную
й сягоння апісваю, бо па табе я сумую.

Паненка, што Ясну бароніш гару Чанстаховы
і свеціш у Вострай у Браме [3], што горад замковы
бароніш Навагрудскі з верным ягоным жа людам!
Вось так, як мяне да здароўя вярнула ты цудам
(тады, як ад плакаўшай маці табе пад апеку
я ахвяраваны, падняў амярцвелу павеку
і зараз жа мог да святыняў тваіх да парогу
йсці пешкі, за вернута жыцце падзякаваць богу) [4],
так нас ты цудоўна павернеш пад родны блакіты...[5]
Тым часам душу маю стужану перанясі ты
да ўзгоркаў лясных, да зялёных лугоў травяністых,
шырокіх пры сіняга Нёмана водах бруістых,
да гэтых палёў самым розным збожжам маляваных,
пшаніцай залочаных, жытам найбольш пасрабраных;
туды, дзе, як бурштын, свірэпка, дзе грэчка бяленька,
як снег, дзе ружовіцца дзятліна, моў бы паненка,
а ўсё спавіваюць зялёныя межаў істужкі,
ды зрэдку на межах сядзяць там ціхія ігрушкі.

Паміжы такімі палямі калісь, пры ручаі,
на ўзгорку лагодным такім, у бярозавым гаі



стаяў падмураваны двор, хоць кругом дзераўляны [6];
аж зводдаль свяціліся сцены яго пабяляны,
бялейшыя тым, што ад зелені цёмнай адбіты,
ад топаляў, добрай увосень ад ветру зашчыты.
Той дом невялікі, ды чысты наўкола і ўсюды;
вялізна гумно, а пры ім тры стагі, быццам буды,
дабра, што пад стрэхі ў тарпы утаўпіцца не можа.
Відаць, што ваколіца дужа багата на збожжа,
й відно з ліку копак, што свецяць так густа, як зоркі,
ушыркі і ўдоўжкі, і з ліку плугоў каля воркі,
плугоў, уздымаўшых папар шырачэнны так рана
зямлі чарназёмнай, хіба ж прыналежнай да пана,
упраўленай добра на лад агароджаных градак:
што ў доме у гэтым дастатак жыве і парадак.
А брама, расчынена насцеж, праходнаму весце,
што кожнага просяць у госці, папіць і паесці.

Якраз во й заехаў у браму панок маладзенькі
й, абегшы падвор'е, скруціў аж пад ганку ступенькі.
З ваза сабе вылез, а коні, пакінуты самі,
шчыпаючы траўку, паволі цягнулі да брамы.
Пусцютка у доме, бо дзверы ад ганку замкнуты
зашчэпкамі, й тыя зашчэпкі калком ператкнуты.
Панок жа не бег на хвальварак, каб слуг запытаці:
раз-два — адчыніў, уляцеў, каб той дом прывітаці.
Даўно ўжо не бачыў яго, бо ў далёкім жа месце
навукі канчаў і канца дачакаўся нарэшце.
Уляцеўшы, ён прагна кідае пагляды на сцены
і чула вітае старэнькіх знаёмых, нязменных.
Абоі і спраты старыя у кожным кавалку,
усё, чым любіў забаўляцца ад самага малку,
ды толькі паменшалі бытта і крышку збрыдчэлі.
Таксама й партрэты старыя на сценах віселі:
Касцюшка ў чамарцы кракоўскай [7], як жыў, выступае,
з вачыма, у неба паднятымі, меч свой трымае
абедзвюх; бо ім прысягаў ён народ ратаваці
і трох акупантаў магутных із Польшчы прагнаці
ці пасці самому на меч. Дальш у польскай апрацe
сядзіць там Райтан [8] і трудную па вольнасці страце,
трымаючы нож у руцэ з гастрыём каля лона,
а кнігі прад ім — то «Федон»[9] і пра жыцце Катона [10].
Ясінскі [11], прыгожы юнак, хоць пахмурны, як трупны,
а побач Карсак [12] з ім, таварыш яго неадступны,

стаяць на акопах, сякуць маскалёў [13] без развагі
у цэлыя кучы, наўкола ж пажар ужо Прагі [14].
А нават пазнаў і гадзіннік стары курантовы,
што ў шафцы драўлянай стаяў пры ўваходзе альковы [15],
і рады, як малец, пацяг матузочкам праз дзюрку,
пачуць каб Дамброўскага мілу старую мазурку [16].

Бягма ён шукаў між пакояў святліцу дзяціну,
дзе рос ён маленькі, што дзесяць гадкоў як пакінуў.
Ўвайшоў, адступіўся, кружыў там здумлёныя вочы
па сценах: то ж гэта няйначай — пакойчык жаночы [17].
Да хто ж бы тут жыў? Стары дзядзька не быў і жанаты,
а цётка жыла ў Пецярбурзе, сталіцай занята.
Не быў то пакой ахмістрыні? Чаму фартэп'яна?
І ноты і кніжкі; усенечка параскідана
нядбана, бязладна — такі непарадак, то й міла:
відаць, не старая то ручанька ўсё нарабіла!
Была тут сукенка, з калка, каб адзецiся, знята
нядаўна й на поручнях крэсла свабодна распята;
на вокнах вазончыкі, розны пахучыя зёлкі,
геранія, гожа ляўконія, астры, фіёлкі.
А стаў падарожны ў вакне, дык і тамака дзіва:
у садзе, дзе некалі толькі лапух і крапіва
раслі, быў гародчык, дарожкамі складна пацяты,
паўнюткі букетаў травы і ангельскае мяты.
Платочак малюсенькі, хітра павязаны з дужак;
стакроткаў ірдзеўся рад яркіх бліскучых істужак.
Відацца, што свежа па градках было палівана,
і поўна вады йшчэ стаяла начынне бляшана,
ды толькі гародніцы ўжо анідзе не відацца.
Во толькі што вышла; не кончылі йшчэ калыхацца
варотцы папхнуты; відаць невялічкае ножкі
сляды на пясочку, ды без чаравік і панчошкі.
На дробным пясочку, сухуткім і белым, як снегу,
выразны, хоць лёгкі слядок; адгадаем, што ў бегу
у шпаркім ад нечыяй дробненькай ножкі застаўся,
ад нечыяй, хто, летучы, чуць зямлі дакранаўся.

Стаяў у вакне падарожны, глядзеў задумёны
і дыхаў ад кветак павеі наздзіў дабравонны;
аж тварам сваім на кусты фіялковы схіліўся,
вачыма цікавымі й думкай па сценах насіўся,
спыніўся ізноў на слядох і не мог дагадацца,



чые то жаночыя ножкі й адкуль маглі ўзяцца.
Прыпадкам ён вочы падняў, аж прад ім пры баркане
дзяўчына стаіць маладая. На гібенькім стане
да грудкаў адно яе белая вопратка крые,
відацца ж адслонены плечыкі й лабудздзя [18] шыя.
Літвінка у строі такім прахаджаецца зрання,
ды толькі у хаце, й баіцца з мужчынам спаткання;
таму свае грудкі рукамі закрыла паненка,
каб тое схаваці, чаго не схавала сукенка.
Яе валаскі неразвіты, ў малы вузялочкі
пакручаны й схованы ў дробныя белы стручочкі,
галоўку наздзіў харашылі: ад бліску ад сонца
свяціліся так, як карона святых на іконцы.
А твару відаць не было. Бо звярнуўшыся ў поле,
вачыма кагосьці шукала далёка у далі;
угледзела, пляснула ў рукі й зайшлася ад смеху
ды раптам, як белая птушка, з баркану ў паспеху
сарвалася й лётам гародам, праз кветную градку,
платы ўзляцела на гібку дашчаную кладку,
прыпёрту к сцяне. Не паспеў аглянуцца ў здзіўленні:
яна праз вакно, як бы месяца тыя праменні,
раптоўна і ціха, і лёгка ў пакой уляцела.
З прыпеўкай сукенку хапіла, да люстра хацела,
аж раптам — хлапец! Дык із рук яе сукня упала,
і з тварам, ад страху і дзіву збялеўшым, стаяла
дзяўчына. Хлапец загарэўся ж чырвенню на твары,
во так, як ад ранняй заранкі чырвеняцца хмары.
Ён вочы заплюшчыў стыдліва, рукой прысланіўся,
хацеў штось сказаць, перапрашаваць; толькі скланіўся
й падаўся назад. І ускрыкнула дзеўка балюча,
вось так, як дзіця, што спалохана, ў сне — нерашуча;
спалохаўся й госць і зірнуў, аж яе ані духу.
Выходзіў змяшаны, і білася сэрца у руху
гвалтоўным, а сам ён не ведаў, ці меў то смяяцца
з такога спаткання, ці цешыцца мо', ці стыдацца.

Тым часам ужо спахапіліся й на фаліварку,
пры браме пабачыўшы тую гасціную парку.
Ўжо коней забралі у стайню, і добра ім дана
аброку і сена, як трэба у добрага пана.
Суддзя не любіў бо ніколі на новую моду
гасціныя коні к жыдам адсылаць у гасподу.
Хоць слугі й не вышлі, ды толькі не думай німала,

што бытта у доме Суддзі і служылі нядбала [19];
чакаюць жа слугі, пакуль то пан Войскі ўбярэцца [20],
бо ён загадаў, што вячэра за домам даецца.
Ён пана самога у доме цяпер заступае,
ў ягону адсутнасць гасцей забаўляе, прымае,
(далёкі бо панскі то родзіч і прыяцель дому).
Пазнаўшы гасця, ён да хаты садзіў пакрыёму;
не хочучы выйсці у ткацкім сваім пудармане [21],
надзеў як мага найхутчэй жа святочнае ўбранне,
ад рання ужо прыгатована: добра бо ведаў,
што будзе нямала гасцей і вяліка бяседа.

Пан Войскі здалёку пазнаў падарожнага тога
і з крыкам давай абымаць, цалаваць маладога.
Пайшла памяшаная хуткая гутарка-мова,
што колькігадовы падзеі замкнуці у слове
хацела б — каротка, ды зблытана: рад запытанняў,
усклічнікаў, новых уздыхаў ды йзноў прывітанняў.
Як Войскі даволі ужо навітаў, папытаўся,
ў канцы тагадзейныя дзеі сказаць абяцаўся.

«Ну, добра, Тадэвуш (бо так называўся хлапчына,
а даць жа імя Касцюшкова такая прычына,
што, знача, у часе вайны Касцюшкоўскай радзіўся),
дык добра, Тадэвуш каханенькі, ты прылучыўся
дадому, якраз як паненак мы маем тут веле [22],
бо дзядзька плануе табе ужо справіць вяселле;
а ё з чаго выбраць: у нас і таварыства лічна [23]
збіраецца гэтымі днямі на суд пагранічны [24],
каб з Графам пакончыць старую няскончану спорку;
пан Граф гэтаксама прыедзе у двор наш на зборку;
з сям'ёй Падкаморы [25] прыехаў судзіць у працэсе.
Ну, моладзь пайшла забаўляціся стрэльбай у лесе;
усе ж вун старыя й жанчыны жніво аглядаюць
пад лесам і тамака пэўне на моладзь чакаюць.
Хадзем, калі хочаш спаткаць недалёка ад брамы
там дзядзьку свайго, падкаморых і важныя дамы».

Пан Войскі з Тадэем ідуць аж пад лес той дарогай;
ім нагаварыцца даволі дык проста не змога.
А сонца на бераг нябесны ужо дахадзіла;
хоць меней, ды неяк шырэй, як уводні, свяціла;
усё счарванёна, як твар той здаровы, чырвоны



у гаспадара, што, закончыўшы дзень свой працоўны,
ідзе на спачынак. Ўжо сонечны круг прамяністы
спускаецца зверху на бор, і змярканне імглістa
вярховіны дрэў, галіны цямном напаўняе
ды ўсенечкі лес як бы вяжа ў вадно і зліває;
і бор зачарнеўся на від аграмнястага гмаху,
а сонца над ім, як пажар той чырвоны на даху.
І раптам запала; йшчэ раз паміж дрэваў зірнула,
як свечка праз шпары ваконных заслонаў блiснула
і згасла. Адразу пры збожжы сярпы, грамадою
звінеўшыя, й граблі, ў лугох што ішлі чарадою,
заціхлі і сталі: канец ужо працы і годзе,
ад пана Суддзі загадана канчаць пры заходзе.
«Пан свету сам ведае, колькі на працу патрэба;
як сонца, ягоны работнік, зыходзе ўжо з неба,
тады й земляніну [26] пара уступіціся з поля».
Любіў так казаці Суддзя, а ягоная воля
таксама была й аканому пачціваму свята;
бо нават вазы, у якія ўжо складаці пачата,
ідуць з недаложаным жытам сабе ў прыгуменне,
і рады валы, што так лёгка: шчасліва здарэнне!

А з лесу вярталісь паны: хоць вясёлы — ў парадку!
Наперадзе дзеці з дазорцам [27], казаў бы, у статку;
за імі Суддзя з паважанаю Падкамарынай,
а побач і сам Падкаморы з усенькай радзінай;
паненкі ступалі за старшымі, моладзь жа збоку;
паненкі прад хлопцамі йшлі на якія паўкроку
(бо так выпадае). Ніхто не казаў аб парадку,
ні дам, ні мужчынаў не ставіў, а йшло усё гладка,
бо кожны парадку тады пільнаваў мімаволі:
Суддзя абычай старасвецкі трымаў і ніколі
на то б не дазволіў, каб хібілі нейкага ўзгляду
для веку, ўраджэння ці розуму альбо ураду.
«Тым ладам,— казаў ён,— дамы і народы ўзрастаюць,
з ягоным упадкам дамы і народы шчазаюць».
Таму да парадку прывыкшы ўсе хатнія, й кожны
прыезны там госць ці радня, ці чужы, падарожны,
як толькі адведаў Суддзю і забавіўся мала,
прымаў абычаі, якімі усенька дышала.

З пляменнікам каратка дзядзькі было прывітанне:
руку сваю даў ён Тадэю для пацалавання

і, пацалаваўшы ў шчаку, паздаровіў прыкладна;
хоць мала з ім гутарыў,— дзеля гасцей бо нясkладна —
відацца са слёзаў было, што адлётам кантуша [28]
ён жвава абцёр, як жа моцна любіў Тадавуша!

А следам за панам да хаты усё адным разам:
і з пасбішч, і з поля, і з бору, як нейкім наказам.
У вуліцы стада авечак таўчэцца з бляяннем
пад хмараю пылу; за імі ж ідзе з разважаннем
тырольскае стада кароў і званочкамі звоне,
а далей з пакосаў нясуцца іржучыя коні.
Усё гэта рвецца да студні, дзе жораў драўляны
скрыпіць і ў карыта ўлівае напітак жаданы.

Суддзя, хоць і струджаны дужа й гасцьмі быў заняты,
павіннасць сваю гаспадарскую поўніў заўзята:
пры студні ён сам. Гаспадар бо як з вечара гляне,
то бача найлепей жывёлу, ў якім яна стане;
дазору ж такога ніколі слугам не даруча,
бо то ж гаспадарскае вока каня добра туча.

А Войскі і Возны [29] Пратазы са свечкамі ў сені
стаялі й гамонку вялі, ды крыху ў скалачэнні;
ў нябытнасць бо Войскага Возны узяў пакрыёму
й сказаў, каб з вячэрай сталы павынашываць з дому
й паставіць хутчэй як мага пасярэдку замчышча,
якога відацца было аж пад лесам звалішча.
Нашто пераносіны гэтыя? Войскі крывіўся
й Суддзю перапрошываў; той, хоць не мала здзівіўся,
ды — сталася, позна! што зробіш цяпер, чалавеча?
Гасцей перапросіш і мусіш павесці ў пустэчу!
Дарогаю Возны Суддзі безупынна тлумачыў,
чаму ён устройства і панскі загад перайначыў:
няма у дварэ аніводнай абшырнай святліцы,
дзе столькі гасцей паважаных магло бы змясціцца;
у замку ж вялікія, добра захованы сені,
сцяна хоць і лопнуўшы, але цалюткі скляпенні;
што вокны без шыбаў, улетку зусім то не шкодна,
а блізкасць скляпоў, то для чэлядзі будзе выгодна...
Даводзячы, ўсё ён міргаў да Суддзі; з яго міны
відалася: меў ён і таіў важнейшы прычыны.

Той замак шагоў дваццаць сотняў стаяў па-за домам,
паказны будоўляй, паважны вялізным агромам.



А спадчына гэта старое фаміліі Гарэшкаў [30].
Сам вотчыч прапаўшы у часе краёвых замешкаў;
майно ўсё дазвання зністожылі ўраду секвестры [31],
бязладнасць апекі, суды і аплаты палестры [32];
крыху дасталося з таго для радні па кудзелі [33],
крэдытарам рэшта пайшла за даўгі пры раздзеле.
А замку ніхто не хацеў, бо ў шляхоцкім то стане
і трудна лажыць такі кошт на яго утрыманне.
Ды Графіч, радня хоць далёка Гарэшкаў, багаты
сусед, калі вышаў з апекі, паніч дзіўнаваты,
муры спадабаў, як вярнуўся сюды з падарожы
бо, кажа, гатыцкае архітэктуры, харошы;
дармо што Суддзя з дакументам праконаваў потым,
што той архітэктар быў віленскім майстрам, не готам.
Даволі, што Графу ўсхацелася замку. Й старому
Суддзі зажадалася тое ж, чаму — невядома.
Цягаліся ў земстве, ў галоўным судзе — ну, бязмерне —
ў сенаце, ізноў жа у земстве, а ўрэшце ў губерні;
ў канцы, пасля коштаў страшэнных і ўказаў шматлічных
вярнулася справа ізноў да судоў пагранічных.

А праўду казаў жа той Возны, што сені замковы
і прошаных змесцяць гасцей і палестру судову:
вялізныя, як рэфектар [34], на філярах скляпенне
харошае выпукла пнецца, падлога з камення
і чыстыя сцены, хоць жаднай аздобы не мелі.
Наўкола аленнія й сарнія рогі стрычэлі
з надпісамі, дзе і калі кожны звер быў здабыты;
і тут паляўнічых гербоўныя клейнаты [35] рыты
ці рэзаны, й выпісан кожны стаіць паіменні;
Гарэшкавы ж герб, той Паўкозіч [36], свяціў на скляпенні.

Ў парадку ўвайшлі: сталі колам; цішэй разгаворы;
вышэйшае месца заняў за сталом Падкаморы;
такі яму гонар і з веку і ўраду належа,
йдучы, усё кланяўся дамам, старым, маладзежы.
Пры ім жа квастар [37], а Суддзя пры ксяндзу барнадыне;
кароткія пацеры той злапатаў па лаціне;
мужчынам гарэлку далі; тады ўсе пасядалі
і жвава ды моўчкі смачны халадзец засцябалі.

Тадэвушка, хоць маладзік, за гасця ж уважаны,
пасаджан высока пры Ягамосці, дзе дамы;

а побач між ім і Суддзёю адно засталося
пустое там месца, казаў бы, чакала кагосьці.
На гэтае месца й на дзверы і дзядзька ўглядаўся
не раз, і відаць, што кагосьці чакаў, дамагаўся.
Тадэвуш няўхільна сачыў за ягоным узрокам:
на дзверы, на месца пустое, маўляў, пад урокам.
І дзіўная справа! Наўкола сядзелі паненкі,
што смела здаволіць маглі б каралевіча зрэнкі,
усе радавіты, ды кожна прыгожа і складна,
а ён спаглядае туды, дзе няма ані жаднай.
Загадка!— а моладзь жа любе загадушкі гэткі.
Рассеяны так, да прыгожай сваей да суседкі
сказаў колькі словаў тыкеле [38], да Падкамаранкі;
не мене талеркаў і не налівае ей шклянкі,
суседніх паненак не баве ён гутаркай ветлай,
сталічну навуку сваю паказаць каб прыметнай.
Адно толькі месца пустое яго прыцягае...
Ужо не пустое, бо думкі хлапцоўскі трымае.
Па месцы тым сотні дагадак скікае ў натузе,
як жабкі па буйным дажджы на самотным дзе лузе.
Між імі адна каралюе там постаць дзяўчыны,
бы возера ясна лілея ў пагодны гадзіны.

Далі ужо трэцюю страву. А пан Падкаморы,
падліўшы віна пару капляў дачцэ сваей Рожы
й папхнуўшы к малодшай з талеркай бліжэй агурочкі,
сказаў: «Мушу я вам служыць, мае паннaчкі дочкі,
хоць бацька, стары і няўдалы». Адразу, як батам [39]
падсцёбнуты, хлопцы падскочылі й служаць дзяўчатам.
Суддзя ж тады, збоку ўзірнуўшыся на Тадавуша
і важна паправіўшы крышку адлёты кантуша,
падліў сабе венгрыну [40] й кажа: «Мы новым звычаем
цяпер у сталіцу вучыцца дзяцей пасылаем,
і праўда, без спрэчкі, што нашы сыны і унукі
балей ад старэйшых набраліся кніжнай навукі,
а бачу штодзённа, як моладзь жа траце на гэтым,
што школаў няма ўжо, дзе жыці з людзьмі і са светам
вучылі. Бывала, паводле даўнейшае моды,
на панскім дварэ вывучалася моладзь. Без шкоды
і сам я прабыў дзесяць годзікаў дворскім Вайводы [41],
айца то Масцівага Пана (і, кажучы гэта,
Суддзя усцісну Падкамораму шчыра калена);
ён радай мяне да публічнае службы спасобіў,



з апекі не выпусціў і чалавекам во зробіў;
у доме маім яго памяць трываціме вечне,
штодзень за ягону душу я малюся сардэчне.
А тое, што я пры дварэ не здалеў скарыстаці,
як іншы, й, вярнуўшыся, мушу зямельку гараці,
другія ж, балей дастайнейшы Вайводы узглядаў,
дабіліся да найвышэйшых краёвых урадаў:
прынамсі, я то навучыўся, што гэтага дому
павагі пільную й не хібіў ніколі нікому
усцівасці [42], ветласці; ну, а скажу я вам смела,
не лёгкая ветласць навука, вялікае дзела.
Не ў тым бо канец ей, каб толькі нагой вырабляці
умела ці кожнага з мілай усмешкай вітаці;
бо мода такая здаецца мне толькі купецкай,
а не старапольскаю ветласцю і не шляхецкай.
Належыцца кожнаму, але інакшая ветласць:
бо то ж не без ветласці й тая дзіцяча сардэчнасць,
і ў мужа для жонкі увага ў людзёх, і у пана
для слуг, але кожная з іншай адменаю брана.
І доўга то трэба вучыцца й таго пільнаваці,
каб кожнаму гонар належны й усцівасць даваці.
Й старыя вучыліся: гутарка панска, бывала,
жывую гісторыю краю сабой абымала,
а міжы шляхецтва — падзеі дамовы павету.
Давалі пазнаць брату-шляхціцу гутаркай гэтай,
што добра ён ведам, ніхто яго лёгка не важа,
дык шляхціц трымаў абычаі свае, як пад стражай.
Цяпер не пытай чалавека: а хто яго родзе?
з кім жыў? што рабіў? сёння кожны, дзе хоча, ўваходзе,
каб толькі не шпег і не быў бы у нэндзы найгоршай.
Як рымскі той Веспасіян, што не нюхаў ён грошай
і знаць не хацеў, з чыіх рук і з якое краіны [43],
так ведаць не хочуць цяпер абычаяў, радзіны!
Даволі, як важны і з выгляду штэмпель харошы,
шануюць такога, ўсё роўна, як жыд свае грошы».

Гаворачы гэтак, Суддзя на гасцей сваіх ладна
ўзірнуўся, бо хоць гаварыў ён разумна і складна,
ды ведаў, што моладзь цяпер нецярплівая стала:
хоць мова й найлепша, як доўгая — знудзе, прапала.
Усе ж яго слухалі важна, ў маўчанні глыбокім;
Суддзя Падкаморага моў бы выпытываў вокам,
ды той жа рачэй [44] не хацеў перабіць пахвалою,

а толькі патаківаў часта й ківаў галавою.
Прымоўкнуў Суддзя. Падкаморы скіўненнем прызволіў.
Суддзя тады, ў кубкі абодва падліўшы паволі,
далей прамаўляе: «Так, ветласць — то рэч не малая:
калі чалавек навучаецца важыць, як следна,
другіх абычаі, ўраджэнне і век: адпаведна
таму і сваю тады ўласную важнасць спазнае;
бо так, як на вазе: як хочам цяпер сваю ўсталіць,
то трэ' на праціўную шалю другога паставіць.
А, далей жа, варта увагі й асобнае мовы
то ветласць ад моладзі нашай для гожай паловы;
тым больш, калі даме павага й фартуны шчадроты
ляпей асвятляюць прыгожасць, прыродныя цноты.
Адгэтуль ішла да афектаў, кахання дарога,
к саюзу фамільяў [45]. Такая вось думка старога,
а знача...» І тутка зірнуў на Тадэвуша строга,
раптоўна к яму павярнуўшыся так да паловы:
відацца было, што прыходзіў да вывадаў мовы.

Тут — бразь! ў залату табакерку сваю Падкаморы
і кажа: «Паночку, даўней жа было яшчэ горай!
Не ведаю, мода то можа змяняе й старога
ці лепшая моладзь — не бачу згаршэння такога.
Ах, добра я помню часы, як да нас на вялікую шкоду
яшчэ ўпершыню прывазілі французскую моду.
Вось раптам чужынцы-панічыкі к нам, якраз чары,
ўварваліся горшай гардой, як нагайцы-татары [46],
блявузгалі богу і продкаў паганілі веру,
правы, абычаі й адзежы старую манеру [47].
Жалосна было спаглядаць на такіх малакосаў,
у нос гаварыўшых, хоць часта, бывала, без носаў,
багатых на розны брашуркі і розны газеты,
вясціўшых і новую веру, й правы, й туалеты.
А мелі яны над галовамі моц немалую,
бо бог пакараць як захоча старонку якую,
то ад грамадзян адбірае іх розум. Глядзелі
мудрэйшыя людзі, ды з франтамі спорыць не смелі:
збаяўся народ іх увесь, як чумы якой страшнай,
бо чуў у сабе ужо немачы зарад няшчасны.
Крычэлі на франтаў, а бралі ад іх жа узоры:
змянялі і веру і мову, правы і уборы.
Была машкарада тады й карнавальна сваволя,
дык после вялікі той пост жа — няволі!



Я помню, хоць быў шчэ маленькі, здаецца, у леце
раз неяк да бацькі майго у Ашмянскім павеце
прыехаў Падчашыц [48], хоць пан і тутэйшага роду,
ды першы ў Літве завадзіў ён французскую моду.
Лятали за ім жа усе, як за нейкім рарогам [49],
зайздросцілі дому таму, прад якога парогам
спынялась Падчашыца тая двукольна дрындулька,
што звалася йнакш па-французску яна — карыулька [50].
Замест лякаёў два сабачкі сядзелі у кельні [51],
на казлах немчура, як дошка, худы такі вельмі;
даўгія і тонкія ногі, як хмелевы тычкі,
ў панчохах, са срэбнымі клямрамі меў чаравічкі,
парык у гарбайталі [52] звязаны, быццам у меху.
Старыя пры тым экіпажы аж пырскалі з смеху,
жагналіся ўсе мужыкі і казалі: па свеце
венецкі цягаецца чорт у нямецкай карэце.
Задоўга апісваць, як сам той Падчашыц удаўся;
даволі, што нам папугаем ці налпаю [53] здаўся
ў сваім парыку, што да руна любіў раўнаваці,
а мы уважалі схадней калтуном празываці.
Тады, калі хто й вычуваў то, што польскія ўборы
куды харашэй за чужыя налпованы ўзоры,
маўчаў: закрычэла бы моладзь, што перашкаджае
культуры, тамуе прагрэсы, ну проста — здраджáе!
І тут не паможа табе аніякая рада;
такая была у той час перасудаў улада!

Абвесціў заказ свой Падчашыц, што рэфармаваці
нас будзе, цывілізаваці і канстытуаваці:
абвесціў ён нам, што французы якісь красамоўны
зрабілі такое адкрыцце, што ўсе людзі роўны;
хоць пісана гэта даўно ўжо ў господнім законе,
і кожны то ксёндз гэтаксама з амбоны гамоне.
Навука была то старая, ідзе аб спаўненне!
На жаль, панавала такое тады засляпенне,
не верылі рэчам, што нат найдаўнейшы на свеце,
калі не пісала аб тым у французскай газеце.
Хоць роўнасць, Падчашыц прыняў сабе тытул маркіза:
бо, ведама, важныя тытулы йдуць ад Парыжа,
тады ж там у модзе вялікай быў тытул маркіза.
Змяніліся хутка часы ды змянілі і моду.
Той самы маркіз дэмакратам, прыяцель народу;
урэшце, з адмененай модаю пад Напалёнам

з Парыжа вярнуўся дамоў дэмакрат той баронам;
каб жыўшы даўжэй ён, то можа б яшчэ раз змяніўся
й з барона ізноў дэмакратам бы перахрысціўся.
Бо частай адменаю модаў Парыж пахваляйца [54],
а штука француза якраз паляку падабайца.

А, дзякаваць богу, цяпер маладо пакаленне,
як едзе калі за граніцу, то не па адзенне
ці нейкіх правоў там шукаць у друкарскіх крамарнях [55],
ці краснай вымовы вучыцца ў парыжскіх кавярнях [56].
Цяпер Напальён, чалавек ён і мудры і гонкі,
не дасць закапацца у моды й пустыя гамонкі.
Грыміць бо аружжа, й старым нам у сэрца аж звоне,
што свет пра палякаў ізноў жа так зычна гамоне [57].
А ёсцека слава, то будзе і Рэч Паспаліта,
бо вырасце з ляўраў баёвых [58] свабода здабыта.
Ды сумна, што мы тут гадамі мадзеем бяздзельна,
а тыя ж далёка ад нас, ах! далёка так вельмі!
Так доўга чакаць! нават рэдка бывае навінаў!..
Што, войча Чарвяк [59] (тут цішэй гаварыў барнадыну),
ці праўда, што нейкую маеш з-за Нёмна вядомасць [60];
мо' ведаеш нешта пра нашае войска, Ягомасць?»
«Няма нічагутка»,— Чарвяк адказаў раўнадушна
(відацца, што слухаць далей уважаў ён нязручна).
«Палітыка нудзе мяне, а як часам з Варшавы
і маю ліста, то усё барнардынскія справы,
духоўныя, нашы манаскія гэта паперы,
і свецкім яны не цікавы, тым больш пры вячэры».

Тут скоса зірнуў ён, дзе міжы бяседнікаў ліку
знаходзіўся госць, капітан па фаміліі Рыкаў [61],
маскаль і стары ўжо салдат. Ён стаяў на кватэры
у блізкім сяле і запрошаны быў да вячэры.
Той Рыкаў смачно заядаў, гаварыць не стараўся,
ды толькі ж, пачуўшы Варшаву, вось так адазваўся:
«Ну, пан Падкаморы! Ой вы! Заўсяды пан цікавы
аб тым Банапарце, вас цягне усё да Варшавы!
Айчызна! тут я не шпіён і па вашаму ўмею;
айчызна! я чую таксама усё й разумею!
Я рускі салдат, вы палякі, цяпер мы не б'ёмся,
цяпер замірэнне, то разам ямо і нап'ёмся.
Вот на аванпостах бывае, што лепш і не нада,
п'ём водку з французам; як крыкнуць: ура!— кананада.



А прыказка кажа, што хто каго б'е, то і любе:
дружка свайго гладзь, як душу, а лупі, як па шубе.
Па-моему, будзе вайна ўжо у нас. Да маёра
Плута ад'ютант, што са штабу, прыехаў заўчора:
збірацца ў паход! Так відацца, што пойдзем пад турка
або пад француза; ого! Банапарт — то фігурка!
Цяпер без Суворава можа часамі й патузаць!
Казалі у нас у палку, як ішлі на француза:
давай Банапарт чараваць, так тады і Сувораў
за чары [62], бо, ведама, меў ён няўступчывы нораў.
Ў бітвé раз няма Банапарта — шукаці, дзе дзеўся;
змяніўся у ліса, так Сувораў ў харта абвярцеўся;
тады Банапарт абвярнуўся ў ката ды страшнога,
дзярэ кіпцюрамі; Сувораў жа ў куца [63] малога.
Паслухайце ж з тым Банапартам далейшую справу...»—
й, прарваўшы, закусываў Рыкаў. Чацвёртую страву
якраз унасілі, як раптам адкрыліся дзверы.

І новая вышла асоба прыстойнай манеры.
Прыгожая і маладая. Яе паяўленне
раптоўнае, зрост, хараство і бліскуча адзенне
кідаліся ў вочы; усе яе жыва віталі;
акрамя Тадэя, відацца, усе яе зналі.
А стан яе гібкі і складны ды грудзі павабны,
у сукні з ружовай матэрыі, чыста ядвабнай.
Каўнер карункова і выцяты горс, а рукавы
кароткія; веер круціла ў руках для забавы
(было бо не горача); веер той быў залацісты,
ў ваганні блішчэў, разліваў моў бы дождж раз'іскрысты.
Убор галавы: валасы у кругі развіваны
і ў пуклі [64], ружовымі стужкамі пераплятаны,
між імі брыльянт нібы скрыты і не для прыкметы
свяціўся, як нейкая зорка ў хвасце у каметы,—
ну, словам, святочны убор; дык шапталі другія,
што не на штодзень, не на вёску уборы такія.
А ножкаў, хоць сукня кароткая, вокам німала
не ўбачыш: так шыбка ляцела, ну, проста сувала
нагамі, як гэныя лялькі, што ў калядна свята
ў батлейках суваюць схаваныя спрытна рабяты.
Вітаючы лёгкім паклонам усіх, праляцела
й на месцы, пакінутым ей, ужо сесці хацела,
ды трудна было, бо як крэслаў гасцём не хапала,
сядзелі на лавах: чатыры рады іх стаяла;

дык трэ' было рад зварушыць ці праскочыці лаву.
Паміжы дзвюх лаваў патрапіла ўсціснуцца жвава,
а после паміжы сталом і між радам сядзеўшых
кацілася, моў бы білярдная куля, ўляцеўшы.
У разбегу кранулася трафам такім маладзёна:
чыесь зачапіўшы калены сваею фальбонай,
крыху каўзанулася й раптам дарэчы
на пана Тадэвуша ўспёрлася моцныя плечы.
Дык, перапрасіўшы усціва, на месцы засела
між ім і Суддзёю, аднак жа нічога не ела,
а веерам толькі махала ці веера тронкі [65]
круціла або папраўляла брабанцкі каронкі [66]
каўнерыка й лёгкім пясцівай рукі дакраненнем
ледзь гладзіла пукі валосся і стужкаў спляценне.

Прыпынак гаворкі быў больш за чатыры мінуты;
тым часам на дальшым канцы за сталом ужо чутны
быў шорах, а зараз пайшлі у паўголас размовы;
мужчыны судзілі свае тагадзенныя ўловы.
Асэсара з Рэентам спрэчка ужо пачалася [67]
за Курту-харта, ў калатню перайшла, узмаглася.
Бо Рэент расхваліваў Курту, свайго то сабаку,
што ён гэта зайца сягоння схапіў, небараку;
на злосць жа суседу Асэсар даводзіў іначай:
што то Сакалу, а не Курту та слава сабача.
Пыталіся іншых яны, дык усе пры застоллі
Трымалі то Куртавы бок, то Саколі,
адны знатакі, а другія навочныя сведкі.
Суддзя на другім жа канцы да тэй новай суседкі
паўголасам кажа: «Даруй, але трэба сядаці
было, бо вячэры ўжо нельга было адкладаці:
галодныя госці, хадзілі далёка у поле;
я думаў, не будзеш сягоння ў застольным ты коле».
Сказаўшы, ізноў з Падкаморым пры поўным кіліху
аб справах палітыкі дай распраўляці паціху.

Як гэтак заняты абедзьвы стала палавіны,
дзяцюк прыглядаўся да тэй незнаёмай дзяўчыны.
Прыпомніў, што зараз — за першым на месцы паглядам
згадаў ён адразу, чым мела быці пасадам.
Счырвеніўся, й білася сэрца яму незвычайна,
бо бачыў развязку таго, што адгадываў тайна.
Дык знача, відаць, ужо сам гэта лёс так прызначыў,



каб села пры ім хараство, што упоцемку бачыў.
Што праўда, цяпер выдавалася крышку буйнейша,
таму што адзета: убор павяліча й паменша.
І волас у гэнай ясней, залацей і кароткі,
у гэтай жа чорныя, доўгія віліся сплёткі.
Ды зменены колер, відацца, ад сонца прамення:
заходзячы, сонца сабою усё зачырвене.
Ён не спасцярог тады твару, ўцякла тая з'ява;
адга́дуем твар мы харошым — звычайная справа;
ён думаў, што мела, напэўна, чарненькія вочкі,
твар белы і губкі — вішнёвыя два спарышочкі.
У гэтай падобны і твар, і губкі, і вочы,
ды толькі здавалася розніца ў веку дзявочым:
гародніца тая малой выглядала дзяўчынай,
а гэтая пані даспелай гадамі жанчынай;
ды моладзь прыгожай жанчыны гадоў не пытае,
бо так: маладому, то кожная йшчэ маладая,
хлапцу што ні баба здаецца равеснай дзяўчынай,
нявіннаму ж кожна каханка святой і нявіннай.

Тадэвуш, лічыў хоць гадоў сабе дваццаць без мала,
й дзяцінства у месце, у Вільні, усё працякала,
ды быў ад дазорца свайго, ад ксяндза, пільнаваны
і ў строгасці праў дысцыпліны старой гадаваны,
таму і прывёз у старонку радзімую тую
нявіннае сэрца й душу, сваю думку жывую,
аднак — і вяліку ахвоту крыху пасваволіць.
Згары планаваў, што сабе ён на вёсцы пазволіць
з бароненай доўга свабоды зрабіці ужытак:
прыгожы ён быў, пачуваўся і молад і прытак,
у спадку здароўе дастаў ад бацькоў на спажытак,
Сапліцаю зваўся, а, ведама, кожны Сапліца
і крэпкі, і поўны, і дужы, ахвотны пабіцца
і здатны ваяка, а толькі менш пільны вучыцца.

Не быў жа Тадэвушка вырадкам нейкім між продкаў:
і конна бо ездзіў удала й хадзіў дужа ходка,
тупы ён не быў, ды ў навуках не надта ўглыбіўся,
хоць стрый [68] на яго ўзгадаванне зусім не скупіўся.
Ён лепей любіў ці страляці, ці шабляй рабіць,—
а ведаў, што думалі ў войска яго прыспасобіць,
што бацькава нават такая ў тастаманце [69] воля,
дык за барабанам тужыў яшчэ, седзячы ў школе.

Ды дзядзька вось нешта раптоўна ў намерах змяніўся,
казаў, каб прыехаў дамоў і хутчэй ажаніўся,
абняў гаспадарку; маленькую вёску ў пачатак
прырок, а пасля ўвесь маёнтак і ўсенечкі статак.

Вось гэты Тадэвуша ўсенькія цноты й захвалы
сцягнулі увагу суседкі, жанчыны бывалай.
Дык змерыла постаць ягоную стройну й высоку,
магутныя плечы і грудзь яго дужа шырoку,
зірнула на твар, што румянцам уміг заліваўся,
як толькі з яе вачыма наш хлапец спатыкаўся:
ўжо перша пужлівасць мінула, зусім аглядзеўся,
дык смела глядзеў, і агнём яго зрок паланеўся.
Яна гэтаксама глядзела, й чатыры іх вочы
гарэлі насупраць, як свечкі ратныя [70] ўночы.

А першая з ім пачала ды з французскае мовы;
вяртаўся са школы, дык, знача, пра кніжкі пра новы,
пра аўтараў новых Тадэвуша думкі пытала
і з кожнага сказу пытанне ізноў выцягала.
А после ж давай яму правіць яна аб малярстве [71],
аб музыцы, танцах прыгожых, разьбе і друкарстве!
Відаць было, знае і кісць яна, й ноты, і друкі.
Аж астаўпянеў наш Тадэвуш на столькі навукі;
баяўся, каб часам не стацца пасмешышча мэтай,
ды так заікаўся, як вучань, прад гэтай кабетай.
На шчасце, настаўнік той быў і прыгожы й нястрогі;
суседка згадала прычыну ягонай трывогі
й пайшла гаварыць аб прадметах менш мудрых і
трудных,
аб вёсцы, вясковым жыцці, яго клопатах нудных,
як бавіцца трэба на вёсцы і час падзяліці,
жыццё каб прыемным зрабіць і другіх весяліці.
Далей гаварылі, Тадэвуш рабіўся смялейшы
і за поўгадзіны ўжо быў як знаёмы даўнейшы;
а там ужо й жарты малыя, усё як патрэба.
Урэшце прад ім яна ставе тры кулечкі хлеба,
а значыла гэта тры розны на выбар асобы;
узяў найбліжэйшую; падкамаранкі на гэтыя спробы
скрывіліся, гэта ўсміхнулася ж, хоць не сказала,
каго шчаслівейшая кулька тады азначала.

З другога канца пры стале забаўляліся йначай:
ўзмагліся староннікі Сокала славы сабачай



і раптам на партыю Курты бязлітасна ўсселі,
дык спор быў вялізны, што страваў апошніх не елі;
ўжо стойма пілі й калаціліся дужа заўзята,
найгорай жа Рэент, як той цацярук глухаваты:
якраз распачаў, не кідаў сваю рэч такаваці
і жэстамі дужа дабітна яе маляваці
(даўней адвакатам жа быў той пан Рэент Балесты,
празваны Казнодзеем, надта любіў бо ён жэсты).
З рукамі пры боку, у тыл свае выставіў локці,
з-пад плеч сваіх высунуў пальцы й даўгія пазногці,
дзве стычкі хартоў прадстаўляючы гэткім абразам,
канчаў ужо справу. «Выжга! і пусціліся разам
Асэсар і я, ну так разам, казаў бы, два куркі,
што спушчаны пальцам адным у тэй самай двururкі [72];
выжга! і пайшлі, а той заяц, як струнка — палямі,
сабакі за ім жа (гаворачы гэтак, рукамі
хартоў летучы прадстаўляў на стале ён удала),
сабакі туж-туж [73]— адсадзілі ад лесу нямала;
Сакол — шмыг уперад — шпаркі ды занадта гарачы —
прад Куртаю вырваўся гэтак на палец, няйначай,
я ведаў, што хібіць. Шарак той ігрок не для смеху,
смаліў нібы проста, за ім жа й сабакі ў паспеху;
ігрок той шарак, як пачуў, што харты усе тыя
у купе, дык скік тады ўправа, сабакі дурныя
за ім, ён два скокі налева як дасць, як крылаты,
й сабакі налева за ім, ён у лес, а Куртаты
і цап!» Пахіліўшыся так над сталом, незнарoку
дабег сваймі пальцамі Рэент к другому аж боку
і «цап!»— верараснуў над самюсенькім вухам Тадэю.
Як выбухам нейкім Тадэвуш з суседкай сваею,
знячэўку спужаныя ў самым сяродку размовы,
ураз ад сябе мімаволь адхілілі галовы,
як сплецены дрэў верхавіны у момант разлукі,
віхор калі іх разарве; а з тым іхныя рукі,
ляжаўшыя блізка к сабе пад сталом, разышліся
раптоўна, й два твары румянцам адным абліліся.
Прамовіў Тадэвуш, свайго каб не здрадзіць змяшання:
«А праўду пан кажаш, пан Рэент, няма сумлявання,
што Курта харошы на від, як аднолькава й спрытны...»
«Як спрытны?— ўзарваўся пан Рэент.— Мой хорт
фаварытны [74]
не быў бы йшчэ спрытны?»— Тадэвуш ізноў дай
лагодзіць:

ён рады, што гэты сабака без нораву ходзіць,
шкада, што здалёку, вяртаўшыся з лесу, ён бачыў,
таму і не мог распазнаці прыкметы сабачы.

На то аж затросся Асэсар, пусціў з рук кілішак,
ў Тадэвуша зрок утапіў, як страшны базылішак [75].
Асэсар малога быў росту, не так і крыклівы,
як Рэент, шчуплейшага складу і меней рухлівы,
ды быў ён страшны на забаве, на сойміку, балі,
бо жала ён меў, не язык: пра яго так казалі.
Такія дасціпныя жарцікі ўмеў укладаці,
што у календары хіба можна было б друкаваці:
ўсё злыя і вострыя. Пан быў калісьці дастатні,
ды бацькаўскі спадак усенькі і маёнтак братні,
усё прапусціў, на шырокім гуляючы свеце.
Ён дужа любіў паляванне, ці то для забавы,
ці, можа, пры голасе трубкі і відзе аблавы
ізноў яму прыпаміналісь гады маладыя,
як меў і нямала стральцоў і сабакі ліхія.
Цяпер два харты засталіся ва ўсім тым багацці,
да йшчэ за адным не хацелі тут славы прызнаці.
Дык зблізіўся й, гладзячы звольна свае фаварыты [76],
прамовіў з усмешкай, а быў то смяшок ядавіты:
«Ну, хорт без хваста — то што шляхціц які без ураду,
бо хвост памагае харту у разгоне адзаду,
а пан уважаеш, што Курта сабака больш ходкі?
Давай, калі так, запытаемся ў Вашае цёткі.
Хоць пані Тальмена жыла у сталіцы далёка
й нядаўна у нашай ваколіцы, быстрае вока
яе лепш за моладзь спазнайца часамі:
сама бо навука памалу прыходзе з гадамі».

Тадэй, на якога зваліўся так неспадзяваны
той гром, усхапіўся й стаяў напачатку змяшаны
ды толькі страшно узіраўся і быў ужо скоры...
Аж раптам, на шчасце, чыхнуў два разы Падкаморы.
«Віват!»— усе крыкнулі; ён пакланіўся у меру
ды пальцамі звольна званіў у сваю табакеру.
Із золата то ж табакера, з брылянтаў аправа,
ў сярэдзіне быў жа партрэт караля Станіслава [77];
ягонаму бацьку самім каралём даравана,
па бацьку цяпер Падкаморым ганорна трымана.
Ў яе зазваніўшы, даў знак, што хацеў прамаўляці.



Замоўклі усе і не смелі нат губ адкрываці.
Ён кажа: «Вяльможная шляхта, браты, дабрадзеі!
Суды паляўнічым — у пушчы й дзе луг зелянее,
дык тутака дома падобных я спраў не рашаю,
паседжанне наша на заўтра таму адкладаю,
і рэплік старон ужо будзе сягоння даволі.
Гэй, Возны, адклікай жа справу на заўтра на поле.
А заўтра і Граф з паляўнічымі ўсімі прыедзе,
ды вырушыш з намі і Ваша [78], Суддзя, мой суседзе,
і пані Тальмена, паненкі й паважныя пані,
ну, словам, мы зробім вялікае тут паляванне;
й пан Войскі ж адзін не захоча застацца ля дому».
Так кажучы, ён падаваў табакерку старому.

А Войскі на шэрым канцы выдзяляўся суровы.
Ўсё слухаў, заплюшчыўшы вочы, без воднага слова;
хоць моладзь не раз дабівалась ягонага здання [79],
бо гэтак, як ён, то ніхто так не знаў палявання,—
маўчаў ён. Табакі нюшок з табакеркі ўхапіўшы,
між пальцамі важыў і думаў, урэшце зажыўшы,
чыхнуў, аж усенька ізба́ разлягалася рэхам,
й казаў, галавой патрасаючы, з горкім усмехам:
«Ох, як жа мне сумна, старому, не да апісання!
Бо што ж тут старыя мысліўцы [80] сказалі бы сяння,
пабачыўшы, як над хартовым хвастом столькі шляхты,
паноў адпраўляюць суды, укладаюць каншахты [81]?
Райтан [82], каб ажыў бы і з намі стары апыніўся,
вярнуўся б у Ляхавічы зноў і ў гроб палажыўся!
А што бы сказаў Несялоўскі, стары ваявода [83],
што гончых трымае найлепшага ў свеце завода
і дзвесце стральцоў аж дагэтуль абычаем панскім
і мае сяцей сто вазоў у двары варанчанскім [84],
а столькі гадоў, як манах, ён сядзіць сабе ў хаце
й не можа ніхто дапрасіцца яго паляваці,
нат Белапятровічу й то не шчадзіў ён адмовы [85]!
Бо што ж на такіх паляваннях на вашых за ўловы?
Ці ж слаўна было бы, каб пан такі важнага роду
паквапіўся на шаракі, на сягонняшню моду!
Калісьці, мой пане, лічыліся ў мове стралецкай
дзік, лось ды вядзмедзь або воўк зверыною шляхецкай,
а звер без клыкоў, без рагоў, капцюроў пакідаўся
для слугаў для платных і чэляддзю дворскай страляўся;
ніводзін жа пан не узяў бы той стрэльбы паганай

у рукі, што дробным шаротам была набіванай!
Хартоў то трымалі, бо так: як вярталісь з аблавы
ды выскача бедны зайчына, тады для забавы
за ім уздагонку хартоў тыя смычы пускалі
й малыя панічыкі зайцаў на коніках гналі
ўваччу прад бацькамі, якія ледзь-ледзь прыглядацца
хацелі пагоні такой, а не то, каб спрачацца!
Дык Яснаяльможны мой пан Падкаморы, скасуйце
загады свае, калі ласка, й старому даруйце,
што я не паеду на гэтае ўжо паляванне,
нага мая тамака з вамі ніколі не стане!
Завуся Грачэха, а ад караля таго леха [86]
за зайцамі, пэўне, ніводзін не ездзіў Грачэха».

Тут моладзь у смех, заглушыла і Войскага мову.
Ўставалі. А першы устаў Падкаморы і знову,
такі яму гонар і з веку і ўраду належа,
ішоў у паклонах для дамаў, старых, маладзежы.
За ім жа і квестар, а Суддзя пры самым барнадыне;
руку пры парозе падставіў ён Падкамарыне,

Тадэвуш падаў Талімене, Асэсар Крайчанцы,
а Рэент урэшце даў Войскай руку, Грачашанцы.
Тадэвуш з гасцьмі некаторымі йшоў да стадолы,
а чуўся ён нейкі змяшаны ды злы й невясёлы.
У думках разважываў дзень той, здарэннямі рэдкі:
дзіўное спатканне, вячэра пры боку суседкі;
найгорай жа гэтае «цётка» яму каля вуха
зырбела ды так надаедліва, горай, як муха.
Хацеў жа Тадэвуш у Вознага лепш распытацца
аб пані Тальмене, шукаў і не мог з ім спаткацца;
не бачыў і Войскага, бо па вячэры ён зараз
пайшоў за гасцьмі: меў вялікі амбарас [87]
гатовіць пакоі хутчэй у дварэ для спачынку.
Старэйшыя й дамы то спалі у дворным будынку,
а моладзь сказалі Тадэвушу весці на сена,
бо, ведама, летам на сене праспацца не дрэнна.

Так праз паўгадзіны ў дварэ не чувацца ні духа,
бы ў кляштары, после званення на пацеры, глуха,
і ціш прарываў толькі голас начное старожы.
Паснулі усе. Сам Суддзя ісці спаць шчэ не можа:
спадарства ўсяго правадыр, ён у поле мазгуе



паход і у доме на заўтра забаву плянуе.
Загады дае аканомам, вайтам і гуменным,
стральцам, пісарам, ахмістрыні, урэшце, стаенным;
як кончыў у дзённых рахунках усіх разглядацца,
сказаў тады Вознаму, што ўжо пара разбірацца.
Паяс адвязаў яму Возны ўжо, слуцкі, ўвесь літы [88],
густыя блішчэлі пры ім кутасы, бытта кіты,
на полі з парчы залатое — пурпурныя краскі,
навыварат — чорны ядваб пасярэбраны, ў краткі;
паяс такі можна насіць на старонкі на обе,
парчу залатую на свята, а чэрню ў жалобе.
Сам Возны умеў той паяс адвязаць і злажыці,
ды, робячы гэта, канчаў ён вось так гаварыці:

«Ну, што тут благога, што вынес сталы я ў замчышча?
Не страціў на гэтым ніхто, толькі Пан можа зышча,
за гэты ж бо замак цяперака точыцца справа.
Тым часам ад сёння да замку набылі мы права [89]
й, нягледзь на старонкі праціўнай заядласць,
ўзялі відавочна замчышча ў сваю падуладнасць.
Бо хто запрасіўшы у замак гасцей на вячэру,
відацца, што ўласнасць тут мае і добрую веру.
Праціўную нават старонку мы возьмем у сведкі:
я помню, калісьці бывалі здарэнні во гэткі».

Суддзя ужо спаў. Тады Возны ціхутка у сені,
пры свечцы прысеўшыся, кніжачку ўзяў із кішэні,
казаў бы святу́, без якой абысціся не мог жа,
якой не кідаў ані дома, ані ў падарожы.
А гэта была «трыбунальска ваканда»[90]; там радам
стаялі спіса́ныя справы, што перад урадам
ён сам сваім голасам вызваў калісь прад гадамі,
або што даведаўся іншымі после шляхамі.
Каму дык ваканда здавалася б прозвішчаў спісам,
а Вознаму важных, вялікіх малюнкаў нары́сам.
Чытаў і раздумываў Возны: Агінскі з Вызгірдам,
Тут з Рымшаю дамініканцы, а ён з Высагірдам,
з Радзі́вілам пан Верашчака, Гедройць з Радултоўскім,
з кагалам жа пан Абуховіч, Юрага з Пятроўскім,
Малескі з Міцкевічам [91], Граф і Сапліца ў канчатку.
Чытаючы прозвішчы гэтыя ўсе па парадку,
прыводзіў на памяць працэсаў прабег і наследкі;
стаяць прад вачмі яго суд, і старонкі, і сведкі;

і сам сябе бача прад тым трыбуналам прад цэлым
у контушы сінім, у гожым жупане у белым,
на шаблю руку палажыў, а другой падзывае
старонкі к сталу й «Супакойцеся!» ўсіх заклікае.
У думках канчаючы пацеры, гэтак памалу
заснуў той апошні ўжо Возны Літвы трыбуналу.

Вось так на Літве і забавы і спрэчкі вяліся
у дворнай цішы. А на свеце шырокім ліліся
ракамі і слёзы і кроў, калі муж той, празваны
што богам вайны, цэлай цьмою палкоў спамаганы,
гарматамі збройны, арлы залатыя і срэбны
запрогшы ў сваю калясніцу [92], пад Альпы пад небы
аж з-пад пірамідаў ляцеў і грымеў перунамі
у Табар, Марэнго, у Ульм, Аўстэрліц. За арламі
ішлі Перамога й Захват. А вялізная слава
дзялоў і герояў кацілася з гукам і жвава
ад Ніла на поўнач, аж тутка пры беразе Нёмна
адбілася, як бы ад скал, ад стаяўшых нязломна
маскоўцаў, Літву бараніўшых жалезнай сцяною
прад весткаю тэй для Расіі, як пошасць, страшною.

А ўсё-ткі не раз навіна, бытта камень той з неба,
злятала ў Літву. Не раз дзед, папрашаючы хлеба,
жабрак без рукі ці нагі, падаянку пабожна
прыняўшы, ўставаў і наўкола глядзеў асцярожна.
Калі ж у двары не пабачыў расейскіх жаўнераў,
ярмулак, ані паліцэйскіх чырвоных каўнераў,
тады прызнаваўся па праўдзе, кім быў: лег'яністым,
прыносіўшым косці старыя у край свой айчысты,
балей ваяваці не могшы... А як жа бывала,
сям'я тады панская й чэлядзь яго абымала
з няўстрымлівым плачам! А ён, за сталом там сеўшы,
расказваў гістор'і, за казкі старыя дзіўнейшы.
Казаў, як стараецца слаўны ваяка Дамброўскі
з зямлі італьянскай у край свой сцягнуцца у польскі
і як сабірае сваіх на Ламбардскім ён полю [93];
казаў, як Князевіч загады дае з Капітолю
і кінуў, здабыўшы ў баёх ад патомкаў цэзараў,
у вочы французаў ён сотню крывавых штандараў [94];
і як Ябланоўскі забег, аж дзе перац зрастае [95],
дзе топіцца цукер ды вечна вясна дзе трывае



й пахучы лясы зеляніць; з легіёнам Дунаю
ваяка там мурынаў б'е, а ўздыхае да краю.

А гутаркі старца кружылі далей пакрыёму;
хлапец, толькі тое пачуў, прападаў раптам з дому;
лясамі, балотамі перакрадаўся таёмна,
ўцякаючы ад маскалёў, ён кідаўся да Нёмна
й, нырнуўшы, на бераг Варшаўскага княства прачаліў,
а там яго міла ужо як калегу віталі;
аднак на адходзе ўсаскоча на ўзгорак з камення
і крыкне маскоўцам праз Нёман: «Ну, да пабачэння!»
Вось так Межаеўскія, Пац, Гедымін, Абуховіч,
Пятроўскі і Купсць, Абалеўскі, Ружыцкі, Яновіч,
Гарэцкі, браты Барнатовічы й іншых нямала [96],
украдкам праз Нёман праплыўшы, туды паўцякала:
бацькоў і любіму зямельку сваю пакідалі,
а маемасць іхную ў царску казну забіралі.

Часамі ў Літву і далёкі квастар заблуджаўся
й, як толькі з панамі двара ён бліжэй спазнаваўся,
газету паказываў ім, адпароўшы з шкаплераў [97].
Стаяла напісана тамака лічба жаўнераў
і прозвішча кожнага правадыра легіёну,
апісана кожнага дзень перамогі ці скону.
Праз толькі гадоў першы раз прыхадзіла навіна
ў сям'ю аб жыцці ды аб славе і смертухне сына:
жалобаю дом пакрываўся, сказаці ж не смелі,
па кім та жальба; аднак дагадацца умелі
ў ваколіцы, бо у паноў то журба тады гэта
і радасць ціхая былі, як адзіна газета.

Такім патайным квастаром быў Чарвяк той, казалі,
і часта асобна з Суддзёю яны размаўлялі.
Па гутарках гэтых заўсёды якіясь навіны
ішлі па суседству. З манаха фігуры і міны
відалася: не заўсягды ў каптуры ён мадзеўся
і не у кляшторным муры барнадын састарэўся.
Ён меў над сківіцаю правай, над вухам, ад раны
ў далонь шырынёю пісогу скуры разадранай
і у барадзе свежы след ад кап'я ці пастрэлу,
а нельга тых ран прыпісаці пабожнаму дзелу.
Не толькі паглёд яго грозны і ран зарубцоўкі,
а голас і рух нешта мелі з ваеннай муштроўкі.

Пры ймшы, калі ён да народу звяртаўся з рукамі,
паднятымі ад алтара, каб сказаці: «Бог з вамі!»—
то часта так спрытна паверне, бывала,
як «права у тыл» яму нейка каманда сказала,
і слова літург'і такім выгаварываў тонам
к народу, як той афіцэр прад сваім эскадронам:
заўважылі гэта хлапцы, што прыслужвалі до мшы.
Чарвяк і у справах палітыкі болей знаёмшы
быў, як у святых жыціёх; калі ж ездзіў па квесце,
то застанаўляўся ён часта ў паветавым месце.
Паўнюсенька меў інтарэсаў: то пісьмы забраці,
якіх не любіў пры чужых і зусім адкрываці,
то слаць пасланцоў, але дзе і на што, невядома;
бывала, ўначы вымыкаўся і сам пакрыёму
да панскіх двароў і са шляхтай няспынна шаптаўся,
наўкола па вёсках усіх акалічных таптаўся
і часта у корчмах з сялянамі правіў нямала
аб тым, што падзеі ў старонках чужых закранала.
Цяпер і Суддзю, што заснуў не далей ад гадзіны,
прышоў разбудзіць: пэўне, мае якія навіны.



*Браніслаў Тарашкевіч*

# *Быліца другая*



## ЗАМАК

### ЗМЕСТ

Паляванне з хартамі на ўгледжанага.— Госць у замку.— Апошні слуга дворскі шляхціц расказвае гісторыю апошняга з Гарэшкаў.— Пагляд на сад.— Дзяўчына ў агурках.— Снеданне.— Пецярбургская анекдота пані Талімены.— Новы выбух спораў за Курту і Сакала.— Чарвяк умяшаўся ў тую справу.— Гаворка Войскага.— Ну ж у грыбы!

Да хто ж з нас не помне, калі маладым шчэ хлапчынай
ён, свішчучы, ў поле ішоў, на плячох са стральбінай.
А ў полі ні плот, ані вал жа нагі не ўтруджае
І, пераступіўшы мяжу, не пазнаць, што чужая!
Ў Літве паляўнічы ўсё роўна, што лайба [1] на моры,
а дзе сабе й як сабе хоча, шыбае ў прасторы:
ці ў небе, як нейкі прарок, ён прыкметаў шукае,
якія стралецкае вока там толькі спазнае,
або, як вяшчун, прамаўляе з зямлёю, што глуха
маўчыць для мяшчан, паляўнічаму шэпча на вуха.

Там з лугу дзяркач верасnуў, ды шукаці дарэмне
яго: ён шыбае ў траве, як шчупак той у Немне;
там над галавой раззваніўся вясняны званочак:
то жаўрык, глыбока у небе схаваны камочак.
Арол вунь, на крыллі шырокім абшар разбіваўшы,
шуснуў, вераб'ёў, як камета цароў, напужаўшы;
а ястраб, завісшы пад ясныя неба блакіты,
трапеча крылом, як матыль, што на шпільцы прыбіты,
і, ўбачыўшы птушку ці зайца сярод сенажаці,
бы зорка падуча, спадзе, каб дабычу узяці.

Калі ж нам з вандроўкі вярнуцца ўжо суджана будзе
і дома зажыць на раллі, на радзіменькай грудзе [2],
служыць у яздзе, з шаракамі якая ваюе,

або ў пехаце, што на птушак пужлівых палюе,
а іншых, кром кос ды сярпа, каб не ведаць рыштункаў
ды іншых газетаў, акроме дамовых рахункаў!

Узышло над Сапліцавам сонца, на стрэхі ўжо пала
й касулькі праз шчэліны ў дворным гумне пратыка́ла;
па цёмна-зялёным, па свежым, запахлівым сене,
па моладзі мяккай пасцелі гуляла праменне:
сплывалі ускосным руччом залатыя мігушкі
праз чэрню дзіравай страхі, так як з косаў істужкі;
і сонейка губы у сонных касулькай дражніла,
як дзеўка хлапца, каласком пабуджаючы міла.
Зачыркалі, скакучы, ўжо вераб'і пад страхою,
і тройчы гусак закрычаў, а за ім чарадою,
як хорам, індычае й качае войска крычала
й жывёла, ішоўшая ў поле, чувацца, рычала.

Устала ўжо моладзь. Тадэвуш адно не прачнуўся,
заснуўшы з усіх найпазней, бо з вячэры вярнуўся
такі неспакойны, што нават пры пеўняў пянні
вачэй не заплюшчыў, круціўся ўвесь час на пасланні;
ўтануўшы у сене, заснуў ужо позна уночы
ды цвёрда,— аж вецер зімны яму дмухнуў у вочы,
і разам скрыпучыя дзверы раскрыліся з трэскам,
ды ксёндз барнадын з паясом вузлаватым улез там
і, крыкнуўшы «Surge, puer!»[3], над Тадэя плячамі
прастацка вымахіваў тым паясом з агуркамі.

Ужо на падворку чуваць паляўнічыя крыкі,
выводзяцца коні, бражджаць, заязджаючы, брыкі,
такой грамадой, што дзядзінец ледзь-ледзь памяшчае.
Азваліся трубы, адкрыліся псярні, і зграя
хартоў, сыпануўшы ў падворак, вясёла скавыча;
пабачыўшы коні, псароў, даязджаючы смычы,
сабакі, зусім як шалёныя, лётам лятаюць
і шыі свае на аброжы пасля ускладаюць:
усё гэта добрае, знаць, паляванне варожа.
Дык даў Падкаморы урэшце загад падарожы.

Нацкоўшчыкі ехалі звольна ўсе разам спачатку,
за брамай разбегліся доўгім радком у парадку.
Ў сярэдзіне ехаў Асэсар із Рэентам поруч,
а хоць пачувалі ўзаемну нянавісць і горыч,



прыязна з сабой гаварылі, як людзі ганору,
ужо ідучы на рашэнне смяротнага спору:
па словах заўзятасці іх аніхто не пазнае.
Пан Рэент вёў Курту, Саколку ж Асэсар трымае.
За імі у поездах дамы, а моладзь пры боку
трухціць пры калёсах і дам забаўляе ў прыскоку.

Чарвяк па падворку пахаджываў звольненым крокам,
канчаючы раннія пацеры й косячы вокам:
на пана Тадэвуша зморшчыўся і усміхнуўся,
урэшце кіўнуў яму пальцам. Тадэвуш звярнуўся;
Чарвяк на насе яму пальцам паказываў грозьбы,
а толькі, нягледзь на Тадэя пытанні і просьбы,
каб тое, што хоча, выразна яму растлумачыў,
то ксёндз барнадын адказаць ані глянуць не рачыў,
насунуў каптур ды у пацеры зноў углыбіўся.
Тадэвуш ад'ехаў і зараз к гасцям прылучыўся.

Якраз у той час паляўнічыя смычы стрымалі,
і ўсе нерухомыя зразу ў мяйсцох сваіх сталі;
махнулі рукамі на знак, каб шумець не пасмелі
другія, а самі уважна на камень глядзелі,
туды, дзе Суддзя затрымаўся. Ён звера пабачыў
і зараз маханнем рукамі загады тлумачыў...
Усе зразумелі: стаяць, а па спаханым полі
Асэсар і Рэент трухтом пад'язджаюць паволі.
Тадэвуш якта перагнаў аднаго і другога
і, следзячы зырка вачмі, ўжо стаяў ля старога.
Даўно ўжо не быў ён у полі; а трэба умення,
на шэрай раллі каб пазнаць шарака між камення.
Суддзя паказаў яму звера. Сядзеў той зайчына,
наставіўшы вушы, пад камень прынік, бедачына,
і, вокам чырвоным спаткаўшыся з варажым вокам,
не мог адарваці узроку, як бы пад урокам,
і чуў ужо лёс свой страшны́: дык са страху струхлеўшы,
зусім не крануўся, як камень, пад каменем сеўшы.
А тутака пыл на раллі усё бліжай і бліжай,
нясецца на смычы Куртач і Сакол за ім хіжы,
Асэсар із Рэентам разам як крыкнулі стылу:
«Выжга!»— і з сабакамі зніклі ўсклубінах пылу.

Як гэтак пагналіся за шараком, бы за бесам,
нарэшце і Граф паказаўся пад замкавым лесам.

Аб Графічу ведалі ўсе вакалічныя людзі:
нідзе аніколі ў назначаны час не прыбудзе.
І сёння заспаўся; за тое на слугаў злаваўся,
а ўбачыўшы во паляўнічых, галёпам пагнаўся:
сурдут даўгаполы і белы, ангельскага крою
развеіваў вецер, а слугі за ім чарадою
на конях, у капелюхох, як грыбочкі, маленькіх,
у куртачках чорна-бліскучых і портках бяленькіх.
Вось гэтыя слугі, адзеты, як нейкія цацы,
з ангельска джакеямі зваліся ў Графа палацы.

Ўжо Граф з чарадою усею на поле ўзагнаўся,
аж замак угледзеў — каня асадзіў, затрымаўся.
Дагэтуль не бачыў ён зрання муроў тых і вежы;
зусім як не тыя: усходзячы, дзень так асвежыў
і прыхарошыў так зарысы ўсенькай будовы,
што Граф аж здумеўся на від захапляючы, новы.
Здавалася двойчы вышэйшаю вежа: стырчэла
над ранняй імглой, а з бляшанага даху блішчэла,
як золата, сонца: у выбітых шыбаў паследках
між кратаў ламала касулькі ў вясёлкавых кветках.
Ніжэйшыя поверхі мглы заліла павалока,
разломы, і шчэрбы, і шчыліны скрыла ад вока.
А крык паляўнічых, далёкі, вятрамі прыгнаны,
ад замкавых сцен адбіваўся, не раз паўтараны:
казаў бы, што крык гэта з замку, што там пад імглою
муры аднавілі ды йзноў залюднілі дварнёю.

Любіў Граф малюнак, калі незвычайны і новы,
і зваў рамансовым; казаў, што й ён сам рамансовы.
Дый, кажучы праўду, ён дужа дзіўны выдаваўся:
бывала, што за шаракам або лісам пагнаўся
ды раптам стаіць, спаглядае у неба жалосна,
як кот, вераб'я на сасне аглядаючы млосна;
а часта без стрэльбы, сабакаў па гаі бадзяўся,
як некрут [4] уцёкшы, і да ручая прысядаўся,
сядзеў, галаву пахіліўшы, вось так над патокам,
як чапля, што хоча ўсе рыбы праглынуці вокам.
Дык знача, такога дзіўнога быў Граф абычаю;
казалі усе, што чагосьці яму не хапае,
аднак шанавалі, бо кожны ў ваколіцы ведаў,
што з прадзедаў пан і багаты, людскі для суседаў,
жыдоў, мужыкоў.



Графскі конь, павярнуўшы з дарогі,
направіўся полем прасцютка пад замку парогі.
А Граф уздыхаў, спаглядаў на муроў тых зарысы,
дастаў алавік і паперу і чыркаў нарысы.
Аж глянуўшы збоку, шагоў так на дваццаць, пабачыў
мужчыну, які гэтаксама аб замку маячыў:
задзёршы уверх галаву і з рукамі ў кішэні,
здавалася, бытта лічыў ён вачыма камені.
Пазнаў яго Граф, але мусіў не раз яму крыкнуць,
каб здолеў бы голас да ўвагі Гярваза пранікнуць.
Гярвазы быў шляхціц, даўнейшы замковы служака,
апошні з паследніх Гарэшкі дваран, небарака.
Высокі стары, хоць сівы, але твар меў здаровы,
маршчынамі звораны, хмурны і дужа суровы.
Даўней паміж шляхтаю слыў за вясёлыя словы,
ды после бітвы, дзе забіт яго дзедзіч замковы,
змяніўся Гярвазы: гадоў ужо многа мінула,
як больш ні кірмаш, ні вяселле яго не цягнула;
не чулі ўжо жартаў ягоных дасціпных і смешных,
не бачылі смеху на твары, на рысах няўсцешных.
Насіў заўсягды ён Гарэшкаў ліберыю [5] даўну;
галёнам [6] абшытую жоўтую куртачку слаўну;
галён залаты быў калісьці, цяпер пажаўцелы,
гярбы наукола ядвабны, таксама злінелы,
Паўкозічы; згэтуль ваколіца ўсенька празвала
Паўкозічам шляхту старога, й мянюшка прыстала.
А часам ад слова, ўжыванага без перастанку,
яшчэ празывалі старога таксама Мапанку;
а іншыя Шчэрбцам, што лысіну меў ён у шчэрбах [7],
ён сам сябе зваў жа Рубайла. Аб неякіх гербах
было невядома. А тытулам Ключніка зваўся
таму, што калісь тым урадам на замку займаўся.
Дагэтуль насіў пук ключоў, на тасемцы [8] звязаны,
са срэбным такім кутасом, за паяс падатканы.
Не меў ён чаго расчыняць, бо замковыя дзверы
стаялі ўсе насцеж, аднак для прывычкі, з манеры,
ён двое знайшоў, сваім коштам паправіў, уставіў
і гэтых дзвярэй адмыканнем штодня сябе бавіў.
Адну з пустых ізбаў узяў для сябе на мяшканне [9];
хоць мог мецц у Графа і хлеб жа ласкавы й старанне,
аднак не хацеў, бо тужыў і не чуўся здаровы,
як толькі не дыхаў старым тым паветрам замковым.

Як Графа угледзеў, адразу за шапку узяўся,
з раднёю паноў сваіх даўных паклонам вітаўся.
Ў паклоне нахілена лысіна зводдаль блішчэла,
а цятых ад шаблі рубцоў што насечына мела.
Пагладзіў яе, падышоў і яшчэ раз ён, нізка
скланіўшыся, сумна прамовіў: «Мапанку, Паніска,
даруй мне, што гэтак кажу, Ясне Графе, мой Пане,
такі мой звычай, а не нейкае непаважанне:
«Мапанку» казалі усенькі Гарэшкі паноўе,
і Стольнік апошні, мой пан, меў такое прыслоў'е.
Скажэце, ці праўда, Мапанку, што грошай Пан скупіш
на гэты працэс і што замак Сапліцам уступіш?
Не верыў я, аж вось так у павеце чуваці».
І тут, спаглянуўшы на замак, давай уздыхаці.

«Не дзіўна,— Граф кажа,— і кошт завялікі, і нудна [10],
хацеў бы ўжо скончыць, ды шляхціц упёрся марудна;
так зможа мяне замарыці, падумаў дасужа;
балей не стрымаю, сягоння злажу я аружжа
і згоды варункі прымаю, што суд мне паложа».
«З Сапліцамі згода? — ускрыкнуў Гярвазы.— Ці можа
то быці, Мапанку?» І, кажучы гэта, скрывіўся
ён так, як бы ўласнаю мовай сваею здзівіўся.
«Сапліцы і згода! Мапанку, а мой жа Панішча,
хіба пан жартуе? Каб замак, Гарэшкаў сялішча,
пашоў бы у рукі Сапліцаў! Няхай жа Пан рача [11]
з каня толькі ссесці і сам няхай замак пабача.
Яшчэ пан не знаеш нягодна Сапліцава племя!»
І, кажучы так, да ссядання прытрымліваў стрэмя.

Падходзяць. Гярвазы прыстаў на парозе у сені:
«Во тутака,— кажа,— калісьці паны ў акружэнні
дваран рассядаліся ў час паабедзенны; спрэчкі
сялян гадзіў пан або часта у добрым гуморы
гасцём аб цікавых аб розных гісторыях ён распраўляўся
ці жартамі й баснямі іхнымі сам забаўляўся.
А моладзь уся на падворку ў ражонкі [12] гуляла
ці панскіх турэцкіх бахматых [13] каней уязджала».

Ўвайшлі яны ў сені. Гярвазы і кажа: «У сенях
вялізарным бруку не знойдзеш, Пан, столькі каменняў,
віна колькі бочак тут покнула ў час праміяулы,
што шляхта з піўніцаў наверх паясамі цягнула,
сабрана на сойм або соймік які павятовы,
або на паноў імяніны, ці часам на ўловы.
У часе бяседы на хорах капэля стаяла,
ў варганы [14] і ў розныя там інструменты іграла;
А як за здароўе пілі, тады трубы грымелі,
што ў судны той дзень [15], і віваты парадкам гучэлі:
найперш за здароўе яго каралеўскае мосці,
за прымаса [16], после віват каралеве яймосці,
чацвёрты за шляхту, за ўсенькую Рэч Паспаліту,
а ўрэшце, трымаючы кожны шкляніцу наліту,
пілі ўжо «кахаймася» [17], й гэты віват без прастання,
аклікнуты днём, не замоўкнуў да самага рання,
калі ўжо гатовы стаялі і цугі [18] й падводы,
каб кожнага зноў адвязці да ягонай гасподы».

Прашлі ужо колькі пакояў. Стары ў замышленні
кідаў сваім зрокам па сценах, то йзноў па скляпенні,
ўскрашаючы розны падзеі у зменлівым лёсе,
як бытта сказаць ён хацеў бы: «Усё скончылося!»
Кіўне галавою, рукою махне, з усей міны
жалоснай відацца, што мука яму успаміны
і што адагнаці іх хоча. Хаду устрымалі
наверсе, ў люстранай калісьці, вялізарнай залі;
стаялі пустыя там люстраў павыдзертых рамы,
а вокны без шыбін з кружганкам [19] напрост проці брамы.
Ўвайшоўшы, стары галавой задумлёнай схіліўся
і твар свой рукамі закрыў; а калі адсланіўся,
на твары няўстрымлівы жаль і адчай маляваўся.
Хоць Граф аб прычыне не ведаў, а нат не пытаўся,
глянуўшы на старца, якоесь пачуў хваляванне,
руку яму сціснуў. Хвіліну трывала маўчанне;
прарваў яго старац, патросшы паднятай правіцай [20]:
«Не можа быць згоды, Мапанку, паміжы Сапліцай
і кроўю Гарэшкаў. Бо й Пан маеш права прызнацца
да Стольніка [21] родных, а ласне [22] па Лоўчыне [23], матцы,
якая радзілась з другое дачкі Кашталяна [24],
каторы, як ведама добра, быў вуй [25] майго пана.
Паслухай гістор'і фамільнай сваей нечуванай,
што сталася тутака ласне у залі люстранай.

Нябожчык пан Стольнік быў пан над панамі ў павеце,
фамільны, багаты, адно толькі бедны на дзеці:
адну меў дачушку, прыгожу, як анел; бывала

таму у паненкі залётнікаў розных нямала.
Між шляхтаю быў там адзін ды страшны палівода [26]
і зваднік, той Яцка Сапліца, на жарт Ваявода
празваны, хоць праўда, што шмат у вайводстве ён важыў,
бо цэлай вялізнай сям'ёю Сапліцаў ватажыў
і трыста іх меў галасоў у сваім распарадку,
а сам анічога, кром крышку зямелькі і статку
ды шаблі й вялізных вусоў, што ад вуха да вуха.
Дык вось жа пан Стольнік не раз заклікаў таго зуха,
найболей у час сайміковы, гасціў «Ваяводу»
і быў папулярны паміж Сапліцоўскага роду.
Вусач так у пыху узбіўся ласкавым прыняццем,
што думаць наважыўся стацца нат Стольніка зяцем.
У замак няпрошаны ездзіць ён так налажыўся,
што ўрэшце у нас, як у хаце сваей, загняздзіўся
і меў ужо вызнацца, але у час змеркавалі
і ў час яго чорнаю юшкаю [27] пачаставалі.
Мабыць, Стальнічанцы Сапліца й прыпаўся да вока,
адно прад бацькамі ўпадобу таіла глыбока.

Было гэта ў часе Касцюшкі [28]. Пан Стольнік трымаўся
за трэцямаёвае права [29] і з шляхтай збіраўся
на помач да канфедэратаў, пад іхны напрамак,
аж раптам Масква уначы акружыла ўвесь замак.
Ледзь час быў стральнуць на трывогу з гарматкі няўдалай,
вароты на доле замкнуць, заваліці завалай.
А ў замку былі толькі Стольнік, ксёндз пробарщч [30], я, пані,
два кухцікі, кухар, ўсе тры у п'янюсенькім стане,
лякай, чатырох гайдукоў [31] — то хлапцы не такоўскі:
за стрэльбы ды ў вокны. Аж тутака на́таўп маскоўскі,
«ура!» крычачы, ўжо ад брамы к нам прэ па тэрасе,
дык мы — з дзесяці тады стрэльбаў па варожай масе!
Нічога відаць не было, а мы без перастанку
страляем: то служба на доле, а я з панам з ганку.
Усё ішло складна, хоць, праўда, ў вялікай трывозе,
аж дваццаць бо стрэльбаў ляжала у нас на падлозе:
з аднэй толькі стрэліш, адразу другую давалі,
сам ксёндз і жанчыны усе, што былі, набівалі,
і пані, й паненка, дзяўчаты, надворныя панны;
стральцоў было трох, ды агонь жа смаліў пастаянны.



Град куль на нас сыпалі здолу маскоўскія пешкі [32],
мы жарылі зверху цальней, хоць радзей і без спешкі.
Ужо тры разы аж пад дзверы халопства напёрла,
ды кожны раз трое з іх ногі ад куляў задзёрла.
Уцяклі аж пад скарбец [33], а ўжо развіднелася, днела.
Пан Стольнік са стрэльбаю вышаў на ганак ды смела:
як толькі з-пад скарбца дзе лоб маскаля выхіляўся,
агню тады зразу даваў, ані раз не мыляўся;
ў траву кожны раз пакацілася чорна фуражка,
дык рэдка які з-за сцяны паказаўся, бо — цяжка.
Пабачыўшы Стольнік стрывожану варажу сілу,
задумаў наскок, і, схапіўшы за шаблю за мілу,
ён голасна з ганку загадываў слугам прыказы
і крыкнуў, ка мне павярнуўшысь: «За мною, Гярвазы!»
Аж тут нехта стрэліў з-пад брамы: мой пан заікнуўся,
збялеў, штось казаці хацеў, ды крывёй захліснуўся;
пабачыў я, куля папала у грудзь яго саму,
сланяючысь, Стольнік паказываў пальцам на браму.
Пазнаў я нягодніка тога Сапліцу, заразу,
па зросце й вусох! Ад ягонага стрэлу адразу
зваліўся пан Стольнік; я бачыў! Шчэ стрэльба стырчэла,
паднята уверх, і ад стрэлу йшчэ дула дымела!
Я сцэліўся мігам, забойца стаяў скамянелы!
Агню раз за разам я даў, ажно хібілі стрэлы
абодва; са злосці ці жалю я блага складаўся...
Ускрыкнулі бабы, я глянуў — аж пан мой скончаўся».

Тут змоўкнуў Гярвазы і толькі слязамі заліўся,
а после дакончыў: «Маскаль у вароты ўжо біўся,
па смерці бо Стольніка я там стаяў непрытомны
й не бачыў нічога, як бытта зрабілася цёмна.
На шчасце, прышоў нам на водсеч сусед Парфяновіч,
прывёўшы Міцкевічаў дваста з сабой з Гарбатовіч.
А ўсе, як адзін, гэта хвацкая шляхта і многа,
к таму ненавідзяць Сапліцаў ад веку якога.

І згінуў так пан мой магутны, набожны, ласкавы,
што меў ў сваім доме і крэслы, і стугі, й булавы [34],
быў бацькай сялянам ды братам для шляхты. А сыну
не мог завяшчаці ён помсты у гэту гадзіну,
бо меў толькі верных жа слугаў. Я ў кроў яго раны
узяў абмачыў свой рапір, што Цызорыкам званы [35]
(напэўне вы чулі пра гэты Цызорычак спраўны,

на фэстах, на рынку, на соймах і сойміках слаўны),
пашчэрбіць яго прысягнуў на Сапліцавых карках,
праследаваў я іх на сойме, заездах, ярма́рках;
дваіх зарубаў я у спрэчцы, дваіх ў паядынку;
а раз аднаго падпаліў у драўляным будынку,
тады як Карэлічы з Рымшаю мы заязджалі:
як рыбка, упёкся [36]; а тых, па вушах што дасталі,
то шэльмаў не злічыш. Ўжо толькі адзін і гуляе,
што памяткі йшчэ ад мяне і дагэтуль не мае.
Раднюсенькі братка таго вусача, пан Сапліца,
дагэтуль жыве і багаццем вялізным пышы́цца,
да замку Гарэшкаў прыткнуўся граніцай сваёю,
ў павеце з пашанай, з урадам, зрабіўся Суддзёю.
І пан яму замак даеш? Каб нягодныя ногі
тут кроў майго пана сціралі во з гэтай падлогі?
О, не! пакуль мае Гярвазы за грош хоць сумлення
і сілаў хоць столькі, што ў пальцы малым, да скранення
Цызорыка, што на сцяне у баёвым шчэ стане,
то замку пракляты Сапліца датуль не дастане!»

«О! — ўсклікнуў тут Граф, угару жэст рукою
зрабіўшы, —
чуццё меў я добрае, гэты муры палюбіўшы!
Хаця ж і не ведаў, што месцяць гістор'ю вяліку
і повесцей столькі, і сцэн драматычных без ліку!
Як замак я продкаў сваіх адбяру ад Сапліцы,
асядзеш тады у мурох, каб бургграфам [37] зрабіцца.
Аповесць, Гярвазы, твая заняла мяне дужа.
Шкада, што сюды уначы не прывёў мяне, дружа,
ў плашчы драпіровым сеў бы я тут на руінах,
а ты б аб крывавых страшны́х мне расказываў чынах.
Шкада, што не маеш ты дару да апавядання!
А чуў і чытаў не адно я такое паданне.
Ў Германіі, Англіі, Шкоц'і [38] традыцыя цвёрда:
забойства тэатр — кожны замак там графа ці лёрда [39].
У кожнай шляхэтнай, старой і магутнай радзіне
ёсць вестка аб нейкім крывавым ці здрадлівым чыне,
што помста па ім на патомкаў сплывае у спадку:
у Польшчы я першы раз чую аб гэткім прыпадку.
Пачуўшы Гарэшкаў ваяцкую кроў ў сваіх жылах,
і славу й фамільную чэсць бараніць я на сілах.
Так, мушу парваць я з Сапліцай ўсе чыста уклады,
хоць біцца прыйшлося бы на пісталеты ці шпады [40].



Бо гонар...» Сказаўшы, ішоў урачыстым ён крокам,
а стылу заўзяты Гярвазы ў маўчанні глыбокім.
У браме йшчэ Граф да сябе гаварыў, затрымаўся,
затым на каня усаскочыў, а ўсё азіраўся
на замак, самотнай гаворкай і думкай заняты:
«Вось толькі шкада, што Сапліца стары не жанаты,
або каб дачушку прыгожую меў бы Сапліца,
а я каб яе палюбіў, ды не мог ажаніцца,
то новае ў повесці гэтай было б завязанне:
тут сэрца, там доўг! тутка помста, а там — закаханне!»

Прышпорыў каня і ляцеў у такім разгаворы,
аж з боку другога стральцы выязджалі ўжо з бору.
Любіў паляванне пан Граф, паказаліс на вочы
стральцы, дык запомніў усенька і проста к ім скочыў,
мінаючы браму, гарод і платы; ў завароце
агледзеўся толькі й каня затрымаў аж пры плоце,
дзе сад.

Там фруктовыя дрэвы цянілі радамі
шырокае поле; пад сподам шлі грады шляхамі.
Капуста, схіляючы лысы галовы паважна,
казаў бы аб варыва лёсах раздумуе важна;
а боб, у касатую моркву стручкі ўчапіўшы,
глядзіць на яе, сваіх сотню вачэй уляпіўшы.
А там залату булаву падняла кукуруза:
мясцамі пабачыш гарбузава тоўстае пуза:
гарбуз ад сцябла у далёку старонку адбіўся
й гасцём між чырвоных буйных буракоў закаціўся.

Мяжою разрэзаны градкі. На кожным равочку
стаяць, як на варце ў шарэнгах, каноплі ў радочку,
кіпрысы [41] гароду: ціхія і просты й зялёны;
іх лісце і запах іх служаць для град абаронай:
праз лісце не смее пралезці змяя ніякáя,
а запах і гусеніц, і машару забівае.
Вун мак белаватымі сцёбламі высіцца далей:
падумаеш, роем на ім матылі пасядалі,
трапечучы крыллем, з якога мігціць так праменне
багаццем вясёлкі, як бліск дарагога камення:
так макавы краскі прыцягуюць вока чароўна.
У сярэдзіне красак, як месяц між зорачак поўны,
вялікі падсоўнечнік, бытта пакрыты загарам,
з усходу на захад за сонцам выкругуе тварам.

Пад плотам даўгія, вузкія і выпуклы грады,
без дрэваў, без кветак, кустоў: агуркowы пасады.
А выраслі добра і лісцем сваім разлажыстым
акрылі ўсе грады, як нейкім каберцам[42] фалдзістым.
Сярэдзінай шла там дзяўчына, у белі адзета,
затануўшы аж па калені у зелені лета.
Здавалася, бытта па градах яна не ступае,
а ў зелені іхнай плыве й свае ногі купае.
Брылём саламяным яна галаву асланіла,
дзве стужкі ружовыя з шчок развяваліся міла
і ў пуклях развітыя светлыя коскі дзявочы;
ў руках мела кошычак, ўдаль узіраліся вочы,
а правай рукой занясласся як бы да хапання;
як то дзяўчанё, што гуляецца з рыбкамі зрання
ў купальні й схіляецца страшыць, так гэта дзяўчына
з рукамі й кашом нахілялась па фрукт што хвіліна,
які наступіла нагой ці заўважыла вокам.

Захоплены Графіч ціхенька стаяў недалёка
прад відам такім. Тупат конных заслухаўшы здалі,
рукою даў знак, каб стрымалі бы коней; дык сталі.
Ён выцягнуў шыю, глядзеў, як той жораў дзюбаты
здалёку ад сада, калі там пастаўлен для варты,
стаіць на аднэй на назе і чуйно спазірае,
а, каб не заснуць, у другой назе камень трымае.

Збудзіў Графа шорах ціхі над плячмі й галавою;
квастар гэта быў, барнадын, а трымаў ён рукою,
паднятаю ўверх, паяска вузлаваты шнурочкі:
«Гуркоў Ваша хочаш,— ускрыкнуў,— дык маеш
гурочкі[43]!
А псік, Пан, ад шкоды! А брысь! На тутэйшай бо градцы
не Пану Вашэці малінка, няма што й ціка́цца!»
Пасля пагразіў яшчэ пальцам, каптур свой паправіў,
і, кінуўшы Графа на месцы, сам ходу прыбавіў.
Тут Граф праклінаў і смяяўся, што той перашкодзіў,
ды вокам зірнуў на гарод, а ужо на гародзе
яе не было; адно толькі мігнула ад сонца
ружовая хустачка й бела сукенка ў ваконцы.
Відацца на градках, дарогай ляцела якою,
бо лісце зялёнае, ў лёце скранута нагою,
хісталася, момант дрыжэла і рух супыніла,
вось так, як вада, што крылом сваім птушка разбіла.



А там, дзе стаяла яна, толькі кошык лазовы
маленачкі, кінут верх-дном на загон агурковы,
ўвесь фрукт пагубляўшы, на зблутаным лісці застаўся
і ў хвалі зялёнай, як лодка, яшчэ калыхаўся.

Праз момант зрабілася ўсюды самотна і глуха.
Вачмі Граф упёрся у дом той, натужываў вуха;
стаяў задумёны, стральцы увесь час нерухоме
стаялі за ім.— У самотным ціхім гэным доме
пачуўся во шорах, а после і гоман вясёлы,
казаў бы, у вуллі ў пустым, як збіраюцца пчолы.
То значыла: госці вярталіся ўжо з палявання
і служба ўвіхалася бойка да снедання дання.

Там рух панаваў ва ўсім доме вялізны і жвавы:
разносілі стравы, бутэлькі, накрыцці, заставы.
Мужчыны вось так, як былі у зялёных тых строях,
з талеркамі, шклянкамі ходзячы скрозь па пакоях,
і елі й пілі ці, успёршыся пры вушаках,
вялі разгаворы аб стрэльбах, хартох, шараках.
Суддзя й Падкаморства былі за сталом, а ў сумятку
шапталісь паненкі ў кутку; не было там парадку,
які пры абедах, вячэрах звычайна бывае;
ў двары старапольскім то новая мода такая;
Суддзя хоць пры снеданнях часам на гэта згаджаўся,
аднак непарадак такі яму не падабаўся.

Для дам і мужчынаў былі разнародныя стравы:
тут служба на тацах[44] разносіла кавы заставы;
а тацы вялізныя, ў кветкі усё маляваны;
на іх дабравонна дымелі імбрыкі бляшаны,
з саксонскага фарфару, ў золата цвет, філіжанкі;
пры кожнай маленькі гаршчочак яшчэ да смятанкі.
А кавы такой, як у Польшчы, няма ў іншым краю:
у Польшчы ў парадачным доме з даўнога звычаю
да роблення кавы бярэцца асобна жанчына;
кавяркай завецца і кавай займаецца чынна:
з віцінаў[45] ці з места заказуе зерне ў гатунку
найлепшым і ведае тайны гатоўлення трунку,
што чорны, як вугаль, празрысты, як смоль у бурштыне,
запа́х мае моккі[46] і густасць мядовае плыні.
А ведама, чым-то для кавы ды добра смятана;
ў двары на яе і не трудна, кавярка бо рана,

імбрычкі прыставіўшы, йдзе, малачарню звяджае
й лёгенька свежу набелу [47] красу сабірае,
да кожнай як ё філіжанкі ў асобны гаршчочак,
каб кожную з іх у асобны убраць кажушочак.

Старэйшыя пані, устаўшы, раней пілі каву;
цяпер жа затое зрабілі інакшую страву
з гарачага піва з набелам сабранай смятаны,
ў каторым грудкамі плывае тварог пасяканы [48].

А вя́ленне розна на выбар мужчынаў чакала:
кумпяк і паўгускі й скрылькі языка — і нямала
ўсяго й смакавіта, ўсё спосабам свойскім, дамовым
увялена ў коміне моцным дымком ялаўцовым;
затым яшчэ зразы унеслі на апошняе данне.
Такое бывала у доме Суддзі там сняданне.

Дзве розных святліцы змяшчалі дзве розныя групы:
старэйшыя разам пры століку селі да купы,
судзілі аб спосабах новых сваіх гаспадарскіх,
аб новых, што раз то стражэйшых, указах тых царскіх;
там пан Падкаморы судзіў пра ваенныя чуткі
і з чутак рабіў палітычныя вывады хуткі.
Тут Войшчынка, сінія ўздзеўшы на нос акуляры,
жанцэ яго з карт выкладала кабальныя чары.
А моладзь у іншай ізбе распраўляла а ўловах
у болей ціхіх, як звычайна, й спакойнейшых словах.
Асэсар жа й Рэент, абодва аратары першы,
уловаў вялікія знайкі, стральцы як найлепшы,
супроць сябе сеўшы, сядзелі бурлівы і гнеўны.
Абодва як трэ' нацкавалі, і кожны быў пэўны
сабакі свайго перамогі, аж тут раўніною —
мужыцкі шнурочак з нязжатай яшчэ ярыною.
Шмыгнуў туды заяц. Куртач і Сакол ужо бралі.
Суддзя ж на мяжы затрымаў даязджачых, каб далей
ні шагу. Дык мусілі слухаць, хоць надта і гнеўна.
Сабакі вярнуліся самы, й не ведама пэўна,
ці звер той уцёк, ці узяты; ніхто б не пакляўся,
ці ў Куртавы зубы, ці мо' ў Сакаловы папаўся,
ці зразу ў абодвыя: розныя розна казалі
і вырашыць спор той сабачы на дальш адкладалі.

А Войскі стары па пакоях усё прахаджаўся,
направа й налева вачмі неяк дзіўна ўзіраўся;



гаворкі і споры яго не цікавілі надта;
відаць, нечым іншым ягона галоўка занята;
насіў скураную лапатку: хаду устрымае,
раздумуе доўга — й муху на сцяне забівае.

Тадэй з Таліменай стаялі паміж вушакамі
ў праходных дзвярах на парозе, займаліся самі.
Таму што былі ад другіх слухачоў недалёка,
шапталіся ціха. З Тальменаю вока у вока
даведаўся зразу Тадэйка, што цётка багата
і што кананічным [49] радством, дык яны не праз надта
і блізкія між сабою, а нат безумоўна
не ведама добра, ці цётка з Тадэвушам кроўна
павязана, хоць дзядзька сястрою яе называе,
нягледзя на розніцу веку: прывычка такая
ідзе ад бацькоў іх супольных; а после ў сталіцы
яна як жыла, прыслужылася шмат для Сапліцы;
таму шанаваў яе дужа Суддзя і сястрою
любіў называць, каб хвальнуцца такою раднёю,
чаго Талімена праз дружбу і не бараніла.
Тадэю ўсё гэта лягчэй аж на сэрцы зрабіла.
І шмат яшчэ думачак іншых сабе вызнавалі,
а толькі ж хвілінку, здаецца, з сабою стаялі.

А там у пакоі пан Рэент Асэсара дражне
і так пад'язджае: «Казаў я ўчора паважне,
што нашае во паляванне удацца не можа:
занадта йшчэ рана, на пні бо стаіць яшчэ збожжа,
і маса мужыцкіх шнуркоў ярыны непажатай.
Во й Граф не прыбы́ў, хоць запросіны, пэўне, прыняты,
таму, што ён знайка усіх паляўніцкіх умоваў,
не раз гаварыў і аб месцы і часе уловаў.
Пан Граф у чужых бо краёх гадаваўся з дзяцінства
і кажа, што гэта няйначай, як знак барбарынства [50],
во так, як у нас, паляваць без ніякага ўзгляду
на права артыкулы, на прадпісанні ураду,
нягледзь на капцы і на межы чужыя, бадзяцца,
на грунце чужым ды без ведама ўласніка гнацца,
вясною, што й летам, палямі і ў пушчы лятаці
і ліса тады, як ліняе якраз, забіваці;
цярпець, калі котну зайчыху у руні улучаць
харты, заганяюць, а кажучы праўду, замучаць
са шкодаю для зверыны. Таму Граф наракае,

што цывілізацыя польская ў нас не такая:
ў маскоўцаў бо аб паляванні ё царскія ўказы,
дазор паліцэйскі й на вінных ё карны наказы».

Тальмена, батыставай хустачкай ветрачы плечы,
налева звярнулася й кажа на гэткія рэчы:
«А чыстую праўду Граф кажа, каб мне так здароўе!
Я ведаю добра Расію. Мне часта паноўе
не верылі, як гаварыла, што розных паглядаў
хвальбы ўсякай варта там чутнасць і строгасць уладаў.
Была ў Пецярбурку не раз я, для рознай прычыны.
Ах, мілы часы то! мінуўшчыны мілай спаміны!
Вось места дык места! Ніхто з Вас не быў ў Пецярбурку?
Мо' хочаце план паглядзець? План я маю у бюрку [51].
На лета дык свет пецярбургскі на дачы з'язджае,
на вёску (бо дача вясковы палац азначае).
Жыла у палацыку над Нявою шырокай,
ад места не надта каб блізка, не надта й далёка,
наўмысна насыпаным, хоць невялічкім, узгорку.
Ах, што за дамочак! Я план яго маю у бёрку.
Дык вось, на няшчасце маё, на́няў дом у суседстве
чыноўнічак нейкі, заняты пры неякім следстве;
хартоў ён трымаў. Вось дык мука, ну, проста мучарня,
жыве калі блізка чыноўнік маленькі і псярня!
Бо колькі раз выйду я з кніжкай сабе у садочак,
на месяца бліск, на вячэрні ціхі халадочак,
адразу й сабака ўжо круце хвастом, прыляцеўшы,
стрыжэ вушыма ды якраз, бытта ён ашалеўшы.
Не раз напужалася. Сэрца маё варажыла
якоесь няшчасце ад іх; сапраўды, й не змыліла:
на раніцы раз, у садок як выходзіла з ганка,
той хорт пад нагамі маймі задавіў мне каханка
балончыка! Ах, і была ж то раскошная псіна!
Дастала яго я ад князя, ад Сукіна сына [52],
на памятку прэзант; разумны, жывы, як вавёрка,
я маю партрэцік, адно не хачу йсці да бёрка.
Пабачыўшы гэта, дастала з такой альтэрац'і [53]
я млосці і спазмаў і сэрца свайго пальпітац'і [54].
Яшчэ б мо' і горшае нешта мяне там схапіла,
аж тутка, на шчасце, над'ехаў з візытай Кірыла
Гаўрылч Казадусін [55], што лоўчы вялікі надворны.
Пытае прычыну, чаму гэткі гумар мой чорны,
і кажа адразу за вушы цягнуць урадоўца.



Збялеў той, стаіць і дрыжыць, а не кажа ні слоўца.
«Як смееш! — Кірыл загрымеў сваім голасам барскім,—
цкаваць вясной котную ланю пад носам тут царскім?»
Той астаўпянелы чыноўнік дарма заклінаўся,
што за паляванне дагэтуль яшчэ і не браўся,
што, ўрэшце, з вялікага лоўчага тут дазвалення,
сабакі загрызлі сабаку, ніяк не аленя.
«Ах, так? — загрымеў зноў Кірыла,— ты смееў бы,
смуродзе,
спазнаціся на паляванні ў звярынавым родзе
ляпей за мяне, Казадусіна, за егермайстра [56]
цара? Калі так, дык паклікаць сюды паліцмайстра!»
Завуць паліцмайстра і кажуць спісаці дазнанне.
«Я,— кажа Кірыла,— даю аб звяры паказанне,
што ланя, а ён жа пляце, што то псюк пакаёвы;
судзі ты, хто лепш мае знаць зверыну і ўловы!»
На службе сваей паліцмайстра нязгорш разумеўся,
таму над зухвальствам чыноўніка дужа здумеўся
й, адвёўшы яго ў старану, па-братэрску парадзіў,
віну каб прызнаў бы сваю і тым грэх свой загладзіў.
Раздобрыўся лоўчы й прырок распачаці старанне
ў цара, каб злагодзіў прысуд свой за шчыра прызнанне.
Канец быў такі, што сабакі пашлі на вяроўку,
чыноўнік на месяц вастрогу засеў на муштроўку.
Забавіла нас увесь вечар такая пустота;
назаўтра зрабілася хутка з таго анекдота,
што лоўчы вялікі ў суды аб сабачку удаўся;
і ведаю, нават напэўне, што цар пасмяяўся».

Смяяліся ўсе па пакоях. Суддзя з барнадынам
гуляў у мар'яша й збіраўся ўжо козырным вінам
задаць нешта важнае, ксёндз ужо думаў: канчатак!
Аж, повесці гэнай пачуўшы пачатак,
Суддзя наш замоўк і з задзёртаю ўверх галавою,
да біцця гатовую карту занёсшы рукою,
сядзіць да і толькі ксяндза барнадына трывожа.
Калі ж той расказ ужо скончаны, памфіля [57] ложа
і кажа з усмешкай: «Няхай сабе хвале, хто падкі
на цывілізацыю немцаў, маскоўскі парадкі;
няхай Велькапольшча [58] навуку бярэ і ад швабаў [59],
за ліса як трэ прававацца і клікаці драбаў [60],
сабаку узяць пад арэшт, што ўляцеў у чужыя
гаі; у Літве, дзякуй богу, звычаі старыя:

мы тут зверыны маем до для сябе і суседства,
й не будзем ніколі пра тое рабіці мы следства;
і збожжа мы маем даволі, што нас не згалодзяць
сабакі, калі ў ярыне ці па жыце паходзяць.
На полі мужыцкім зато бараню паляванння».

А з боку аконам сказаў: «Не дзівота, Маспане,
бо дарага плаціш, Панок, за таку зверыну.
Мужык то і рады, калі у яго ярыну
ускоча сабака; страсе каласкоў колькі жыта,
капу яму пан аддаеш, ды яшчэ і не квіта,
бо часта й таляра мужык даставаў у прыдатку.
Павер мне, Панок, што распусціш мужыцтва, й парадку
не будзе, калі...» [61] Далей аканомавых словаў
Суддзя не пачуў, бо паміж дзвюх вялікіх прамоваў
ужо узнялося з дзесятак, не менш, разгавораў,
расказаў, смяхотных быліцаў, а ўрэшце, і спораў.

Тадэвуш з Тальменай, забытыя ўсімі, ўзаемна
сабою займаліся. Пані Тальмене прыемна
было, што дасціпны расказ той Тадэвуша бавіў;
дзяцюк наўзаём кампліменты ей розныя правіў.
Штораз то вальней і цішэй гаварыла ўсё пані,
а ён рабіў від, што пачуць Талімену не ў стане
між толькіх гаворак, дык ціханька к ней набліжаўся,
аж тварам пачуў, як агонь ад яе адбіваўся;
запёртым дыханнем хапаў яе кожна ўздыхненне
і вокам лавіў з яе зроку усенька праменне.

Тут міжы іх вуснаў уперад муха міганула,
а следам за ею і Войскага пляцка махнула.

А мух у Літве то хапае. Між імі вядзецца
асобны важнецкі там сорт, што шляхоцкі завецца.
Па форме і колеру мухі як простыя мухі,
ды грудзі шырэйшыя маюць, вялікшыя брухі,
гудуць, летучы, і нязноснае робяць брынчанне,
а сільныя, што прабіваюць паўчынае тканне;
калі ж пападзецца якая, без бою не здасца.
Тры дні будзе бзыкаць і ходацца, а не падасца.
Усё гэта Войскі праведаў і ў тым праканаўся,
што з мухаў шляхецкіх прасцейшы народ нараджаўся:
для мух яны тое, казаў, што пчаліныя маткі,



што, выбіўшы іх, прападуць машары ўсёй астаткі.
Што праўда, ані ахмістрыня, ні пробаршч вясковы
не верылі ў гэтыя Войскага важныя словы
й трымаліся іншае думкі аб мушым народзе.
Быў Войскі аднак са старым абычаем у згодзе;
як толькі пабача такую, дык лупе, чым меўшы.
Якраз зазваніў яму шляхціц, над вухам ляцеўшы;
махнуў тады двойчы пан Войскі, здзівіўся, што хібіў;
махнуў трэці раз, ды без малу вакна што не выбіў.
Ад гэтага стуку і груку муха аж здурэла,
праз дзверы заступлены раптам прарвацца ўсхацела
й адчайна рванула між твараў Тадэя й паніцы;
за ей жа мігнула й лапатка старога ў правіцы.
Быў смаглы удар, што адскочылі дзвенькі галовы,
маланкаю бытта раздзёрты дзве дрэва паловы:
абедзве ударыліс моцна ў дзвярэй вушакі,
абедзвюм з таго засталіся пасля сінякі.

На шчасце, ніхто не заўважыў. Дагэтуль размова
ішла у парадку, нягледзь на грамчэйшае слова,
аж раптам выбухам шуму й галасу.
За лісам стральцы як запусцяцца ў лесную масу,
чувацца і трэсканне, й стрэлы, і голас сабачы,
аж во нечакана дзіка узагнаў даязджачы,
даў знак, і галас між стральцоў і сабак узарваўся
ды рэхам у пушчы ад кожнага дрэва аддаўся;
вось гэтак і з гутаркай: звольна сабе паступае,
пакуль на вялікшы прадмет, на дзіка, не трапляе.
Дзіком жа стралецкіх размоваў была, не іначай,
Асэсара з Рэентам слаўная спрэчка сабача.
Трывала нядоўга, ды шмат у хвіліну зрабілі,
бо словам і лаянкай столькі сабе насалілі,
што выбралі зразу звычайныя спору тры часці:
прытычкі, гнеў, вызаў — ішло да кулачнай напасці.

Таму ўсе да іх і рванулі з другога пакою,
ўкуліліся шпарка праз дзверы, як быстрай ваўною,
схапіўшы і парачку тых маладых ля парога,
падобну да Януса, Рыму двутварага бога.

Тадэй з Таліменай паправіць яшчэ не паспелі
сваіх валасоў, а ўжо грозныя крыкі нямелі.
Са смехам пaмешаны скопат ішоў па пакоі;

зрабілася, знаць, замірэнне: квастар супакоіў;
стары чалавек, але моцны і дужа плячысты.
Якраз жа тады, як Асэсар падбег да юрыста,
й абодва кідаліся з жэстамі так нерахмана,
ён, з тылу схапіўшы іх за каўняры нечакана
і двойчы ударыўшы іхны галовы нязгодны
адну аб другую, казаў бы, яйкі велікодны,
так раскрыжаваў свае рукі, як стоўп шляхаўсказы,
і ў розны пакою куты шпурануў іх адразу.
Хвіліну стаяў шчэ з паднятымі гэтак рукамі
і «Pax, pax, vobiscum! [62] — крычаў.— Няхай мір будзе з вамі!»

Здзвіліся тыя й смяяліся з іншымі самі.
Бо праз пашаноту, што трэ' для духоўнай асобы,
не лаялі мніха [63], к таму ж после гэтакай спробы
ніхто б і ахвоты не меў пачынаці з ім звадку.
Чарвяк жа, як толькі ўжо супакоіў грамадку,
відацца, трыумфу сабе не шукаў анічуткі,
бо калацьбітам не гразіў, не казаў нічагуткі,
а толькі каптур свой паправіў і, рукі заткнуўшы
за пояс, з ізбы ціха вышаў, назад не зірнуўшы.
Тады Падкаморы й Суддзя ужо пляц той займалі
паміж двух старон. Тут і Войскі, як з соннае далі
ці з думкі глыбокай збудзіўшыся, выступіў радам,
кругом на усіх азіраўся вагністым паглядам
й дзе толькі шорах пачуў, скуранойсваей пляцкай,
каб сціхлі, махаў, бытта ксёндз той крапільніцай хвацкай;
урэшце, ўверх лёску [64] падняўшы, з павагай такою
ускрыкнуў, як бы маршалоўскаю трос булавою:

«Паны, сціхамірцеся! — рэкнуў.— Крыху супакою!
Ў павеце найпершыя вы паляўнічыя людзі,
ці думалі, што з калатні непрыкладнае будзе?
Во нашая моладзь, Айчызны надзея адзіна,
што нашыя пушчы й яругі уславіць павінна,
якая і так незалішне ахвотна на ўловы,
да іх занядбання знайсці можа повад шчэ новы,
пабачыўшы вас, што заместа даваці прыклады
другім, вы з уловаў прыносіце сваркі і звады!
Ды майце увагу хоць для валасоў маіх сівых,
бо знаў жа вялікшых за вас я калісьці мыслівых,



аднак жа судзіў і не раз іх судом палюбоўным.
Бо хто не ў лясох у літоўскіх быў з Рэйтанам роўны?
Аблаву ж калі зацягнуць ці са зверам спаткацца?
Хто з Белапятровічам з Юрым бы здолеў зраўняцца?
Стралец як Жагота — ці сёння такі недзе майца [65],
што ў лёт патрапляў пісталетавай куляй у зайца?
Я знаў Тарасевіча [66], што на дзікі як збіраўся,
то пікаю толькі аднюсенькай уваружаўся!
Будрэвіча, што з вядзмядзём запускаўся у долькі.
А гэтакіх бачылі нашы лясы яшчэ колькі!
Спытаціся можаце, як яны спрэчкі гадзілі?
Суддзёў выбіралі і зараз заклады рабілі.
Агінскаму сто валок лесу праз воўка прапала,
барсук каштаваў Несялоўскаму сілаў ці мала!
І вы, дабрадзеі, ідзеце даўнейшым прыкладам
і вырашце вашую спрэчку хоць меншым закладам.
Бо слова — то вецер, і спор на славах не канчайца;
шкада сабе й губу сушыці у спрэчках за зайца.
Дык, знача, суддзёў палюбоўных найперш выбірайце
і, выбраўшы, после сумлення ва ўсім давярайце.
А я папрашу ужо пана Суддзю, каб пазволіў
бы гнаць даязджачаму нат па пшанічным па полі,
і думаю, ласку такую дастанем на гэна».
І, кажучы гэтак, усціснуў Суддзю за калена.

«Каня,— рэкнуў Рэент,— я стаўлю з прыборам, як нада,
да йшчэ апішуся на тое прад земскім урадам,
што гэта во персцень Суддзі у залог я застаўлю».
«Я,— кажа Асэсар,— аброжы із золата стаўлю,
скурой выкладаныя, яшчурам, кольцы са злота [67]
і смыч свой ядвабненькі тканы, якога работа
цудоўна не меней за камень, на смычы тым што свеце.
Хацеў, каб у спадку дасталі бы спрат [68] гэты дзеці,
калі б ажаніўся; а спрат гэты ўвесь дараваўшы
мне князь Дамінік [69], калі, разам з ім паляваўшы
і з князем Сангушкай [70] маршалкам і з Меенам [71] слаўным,
я вызваў усіх на харты. Не прыпадкам забаўным,
а проста ў гістор'і мысліўства нябачанай штукай,
шасцёра зайцоў затравіў я адзінаю сукай.
А то на Купішскай [72] тады балані [73] палявалі;
не мог Радзівіл на кані усядзець ужо далей,
саскочыў, абняў маю слаўную Каню, харціцу,

і тройчы, ў сам лоб тады пацалаваўшы ту псіцу,
ды пляснуўшы тройчы ўрачыста па міленькай пысе,
сказаў: Імяную княгіняй цябе на Купісе.
Бо так Напальён раздае важарам [74] сваім княствы
ад месцаў, дзе слаўны ўзялі перамогі-звыцяствы [75]».

Тальмену знудзілі гэтыя доўгія сварь,
хацела прайсціся на двор і шукала ўжо пары;
з калка ўзяла кошачык: «Бачу, ў пакоі, паночкі,
застацца збірайцеся [76], я ж іду ў лес па грыбочкі;
хто ласка, за мною». Сказала, чырвон-каралёвы [77]
свой шаль абвіваючы ля галавы, кашміровы;
рукою ўзяла Падкаморых маленьку паненку,
другой падхіліла сабе аж да костак сукенку,
Тадэвушка моўчкі за ей на грыбы паспяшаўся.

Замер [78] пагулянкі адразу Суддзі спадабаўся,
знашоўся бо спосаб разняцця крыклівага спору;
дык крыкнуў: «Паноўе, хадзем па грыбы ўсе да бору!
Хто з рыжыкам найхарашэйшым к застоллю прыбудзе,
пры найхарашэйшай паненцы сядзеці ён будзе,
і сам сабе выбера. А калі знойдзе грыб дама,
то найхарашэйшага возьме хлапчыну таксама».

# *Быліца трэцяя*



## ЗАЛЁТЫ

### ЗМЕСТ

Паход Графа на сад.— Таёмная німфа пасе гусі.— Падобнасць збірання грыбоў да пагулянкі елісейскіх ценяў.— Гатункі грыбоў.— Талімена ў Святыні Задумы.— Нарады аб лёсе Тадэя.— Граф-пейзажыст.— Увагі Тадэя над дрэвамі й небам.— Графіча думкі аб мастацтве.— Звон.— Білецік.— Вядзьмедзь, Васпане!

Уссеўшыся зноў на каня, да сябе Граф вяртаўся,
круціў галавою назад, у садок аглядаўся,
і раз яму нават здалося, што зноў у ваконцы
зігнула таёмна сукенка бліскушчая ў сонцы,
і лёгкае нешта зляцела ізноў жа звысока
ды, пераляцеўшы увесь агарод, у міг вока
свяцілася міжы зялёнымі там агуркамі,
як сонца касулька, прадзёршыся між балакамі [1],
калі на раллі упадзе на каменную скібу
ці ў лузе зялёным на дробную водную шыбу.

З каня Граф саскочыў і слугаў адправіў дадому,
а сам напраўляўся к садку, крадучысь пакрыёму.
Дабег да баркану як-та і, знайшоўшы атворы [2],
уціснуўся там паціхутку, як воўк да абори.
Няшчасцем крануўся кусточка агрэсту сухога,
гародніца бытта спужалася шэлесту тога:
кругом азірнулася й, хоць анічога не бача,
аднак на другу старану агароду ўжо скача.
А Граф міжы конскім вялікім шчаўём тады, бокам,
паміжы лістоў лапуховых, травою, падскокам,
як жаба, скікаў на руках, падпаўзаў да дзяўчыны,
во — высунуў нос і здзівіўся з цудоўнай карціны.

У гэтым канцы раслі вішанькі параскіданы,
між вішнямі рознае збожжа зумысля змяшана:

пшаніца, вусаты ячмень, кукуруза вялізна,
гарошак, боб, проса і краскі і розна кусцізна.
А ўсё гэта хатняму птаству такі ахмістрыня
гародчык надумала: слаўная та гаспадыня
Курыцкая прозвішчам, з дому Індыкевічанка,
а вынахад ейны — эпоха [3], асобна дзялянка
у хатнім усім гаспадарстве, цяпер ужо знаны
усюды, тады йшчэ за новасць ён быў падаваны
і толькі пад сэкратам добра знаёмым асобам,
пакуль каляндарчык не выдаў яго пад назовам:
«Як дроб [4] гадаваці па-новаму, спосаб адзіны
супроць каршуноў, канюхоў» — то гародчык птушыны.

І праўда, як толькі ўжо певень, што варту спраўляе,
стаіць і, задзёршы свой дзюб, нерухома трымае,
пахіле сваю галаву грабяністую бокам,
лягчэй каб у неба магчы цалавацісе вокам,
ды ўбача вісячага высака ястраба ў хмуры
і крыкне — дык зразу ў гародчык хаваюцца куры,
і гусі, і павы, а нат галубы ў перастраху
гвалтоўным, калі не паспеюць схавацца на даху.

Ды нейкага ворага ў небе цяпер не відно там,
адно толькі пра́жыла летняга сонца спякота,
і птушкі хаваліся ў гэным збажовым лясочку,
ляжалі ў мураўцы, купаліся дзе у пясочку.

Між птушак галоваў стырчэлі людскія галоўкі,
з валосейкам белым, як лён, а малы, як макоўкі;
да плечыкаў голыя шыйкі, дзяўчына між імі,
на голаў вышэйшая і з валасамі даўгімі.
За імі жа пава расставіла хвост абручасты,
кружкамі вясёлак іграючы, рознабарвясты;
на гэтакім цёмна-блакітным вясёлкавым полі
блішчэлі белы галоўкі, як бы ў аўраолі [5],
абведзены павіных пёраў, кругом прамяністым,
як зорак вяночкам, свяціліся ў збожжы празрыстым,
паміж стаўбуноў кукурузы таўстых залацістых,
ангельскай травы [6] паясатай кусточкаў срабрыстых,
шчыром каралёвым [7] і ўсцяж зелянеючым слязам [8],
і формы і колер каторых мяшаліся разам,
як золатам і серабром выплятаная крата,
павейная так, як заслона, што й лёгка й багата.



Над красачнай гушчаю тых сцібуроў, каласочкаў
вісела балдахінам ясная ймгла матылёчкаў,
што бабкамі звуцца, каторых чатыры крылечкі
так лёгенькі, як павучынне, празрысты, як шклечкі,
калі у паветры павіснуць, так ледзь-ледзь відома,
ды хоць і брынчаць, а здаецца, вісяць нерухома.

Дзяўчына паднятай рукой шэру кітку [9] сціскала,
падобну да страўсавых пёраў, і ёй абганяла,
здаецца, ад тых матылёў залацістага рою
дзіцячыя кволы галоўкі. Другой жа рукою
трымала рагатае нешта, на колер жаўтава,
магчыма, начынне, ў каторым дзяціная страва,
бо тыцкала ў губы дзяцём яна штукаю тэю,
падобнаю да залатога рага Амальтэі [10].

Вось гэтак занятая, ўсё ж галаву павяртала
на кусце агрэсту, дзе нешта прад тым зашастала,—
не ведала, што ад другога ўжо боку шалёны
напаснік падпоўз да яе, як той гад праз загоны,
аж выскачыў во з лапуха. Спазірнула — ён блізка
стаяў, так на градкі чатыры, і кланяўся нізка.
Ужо галаву адвярнула, ўжо рухнула бойка
плячмі, падарвалася, бытта спалохана сойка,
і лёгкай ступнёй па траве ўжо імкнулася ходу —
як дзеці, спужаўшыся і незнаёмца прыходу
і ўцечкай дзяўчыны, нагвалт вераснулі страшэнна.
Пачула і ўміг зразумела, што будзе так дрэнна
пакінуць маленьку дзятву напужану адною,
дык з мусу з ваганнем [11] вярталася, з мінай такою,
як дух неахвочы, на чары прызваны закляццем,
падбегла, каб бавіцца з найкрыклівейшым дзіцяцем,
прысела пры ім на зямлі, на улонне ўссадзіла,
другое пагладзіла й з ласкай да іх гаварыла —
тады і заціхлі, абняўшы ў малы ручаняты
яе за калены і тулячысь, як курчаняты
пад матчына крылле. Сказала: «Ці ж гэта прыгожа
так плакаць, крычаць? Гэты пан во спужацца вас можа.
Прышоў ён не страшыць тут вас, і не дзед [12] ён паганы,
пан добры і госць, толькі гляньце: прыгожы, рахманы».

Сама спаглянула, і Граф усміхнуўся ей міла:
відацца, за столькі пахвалаў удзячнасць здабы́ла.

Заўважыла, вочы спусціла, сказаць больш не смела,
казаў бы, той рожы пучочак, уся спаланела.

А праўда, прыгожы быў пан той: даволі высокі,
пацяглага твару, хоць бледны, ды свежыя шчокі.
Лагодныя, сінія вочы, а волас даўгі і бялявы;
лісцінaчкі зелля ў валоссі і розныя травы,
каторыя Граф абарваў, паўзучы праз загоны,
спляталіся на галаве у вяночак зялёны.

«О ты! — адазваўся,— якой мне ўсё роўна найменне:
ці нейкая німфа, багіня, ці дух, летуценне!
Кажы! ці сама на зямлі прабываеш ты рада,
ці, можа, чужая трымае цябе тут улада?
Ах! пэўне, няйначай, пага́рджаны нейкі мілоснік,
вяльможа які, апякун мо', нягодны зайздроснік
у парку замковым цябе сцеражэ, як закляту.
Дастойна, каб рыцары біліся за чэсць тваю святу,
дастойная быць гераіняй раманаў ты смутных!
Адкрый мне, прыгожая, тайну ўсю лёсаў акрутных [13],
а знойдзеш выбаўца. Адгэтуль сваім ты скіўненнем [14]
як сэрцам кіруеш маім, так кіруй і рашэннем» [15].
І выцягнуў рамя.

А ёй жа румянец дзявочы
хоць тварык абліў, ды смяяліся губкі і вочы.
Як тое дзіцятка, што любе карцінку яскраву
або у бліскучых лічылах знаходзе забаву,
пакуль не спазнае іх вартасць: так згучныя словы
й яе забаўлялі, не ўцяміўшы сэнсу прамовы.
Урэшце спытала: «А скуль Пан Дабродзей прыходзе?
Мо' нешта згубіўшы, шукаеш Панок у гародзе?»

Пан Граф толькі вочы расплюшчыў, змяшаны,
здзіўлёны,
маўчаў, а урэшце, зніжаючы гутаркі тоны,
адрок: «Выбачайце, Паненка! я, бачу, ўмяшаўся
ў забаву. Ох, перапрашаю, якраз я спяшаўся
на снеданне, бо пазнавата, у час каб папасці;
дарогаю трэба, вы ведайце, кругу накласці;
у двор, мне здаецца, праз сад найпрасцейша сцяжына».
«Тудою дарога, Ягомасць,— сказала дзяўчына,—
не псуць толькі градак. Вунь сцежка, дзе тая мура́ва».



— «Налева,— яшчэ ўсё распытываў Граф,— ці направа?»
Уверх падняла яна сіні свае вачаняты,
з цікаўствам глядзела, што пан той такі дзіўнаваты:
як на далані, шагоў тысяча, дом быў відацца,
а Графіч дарогі пытае. Ды трэба прызнацца,
што Граф гаварыць абы толькі вышуківаў раду
й пытаўся: «Ці тутка жывеце? ці блізка ад саду?
ці ў вёсцы? Чаму не спаткаў аж да гэтага року [16]
ў двары? ці даўно тут Паненка? а можа, здалёку?»
Дзяўчук матануў галавой. «Выбачайце, Паненка,
ці тамака Вашы пакойчык, дзе гэна вакенка?»

І так сабе думаў: хаця ж яна й не гераіня
раманаў, а шмат харaства, маладосці ў дзяўчыне.
Вялікая думка й душа, гэта часта бывае,
ў дзікой адзіноце, бы рожа ў лясох, расцвітае;
а вынесеш толькі на свет ды на сонца паставіш —
і тысячай фарб гледачоў задзівіш, зацікавіш.

Тым часам гародніца тая ў маўчанні устала,
адно дзіцянё, што павісшы ў руках, падымала,
другое ўзяла за руку і з маленькім народам
пайшла, як гусей заганяючы ўперад, гародам.

Да йшчэ адвярнулася й кажа: «Панок ці не можа
разбегшыхся птушак ізноў пазганяць мне ў збожжа?»
— «Я птушак ганяці?» — ускрыкнуў пан Граф
з задзіўленнем...
Яна ж тут і знікла, закрытая дрэваў суценнем.
Хвілінку са шпалеру [17] йшчэ праз зялёныя звоі
наскрозь там прасвечвала нешта, вачэй бытта двое.

І доўга самотны пан Граф шчэ стаяў у гародзе.
Душа яго, як бы зямелька па сонца заходзе,
памаленьку стыла і цёмныя барвы прымала;
задума нямілы лятункі яму навявала.
Прачнуўся, не ведаў жа сам, на каго і злаваўся;
а жаль, што так мала знайшоўшы, так шмат
спадзяваўся!
Калі да пастушкі бо тэй падпаўзаў ён загонам,
паліла яму ў галаве й біла сэрца шалёна;
у німфе таёмнай угледжываў гожасці столькі,
у столечкі цудаў убраў і адгадываў сколькі!

Усенька ж іначай знайшоў. Бо хоць тварык і ладны,
і стан яе сціблы, аднак жа які ён няскладны!
А гэтая пухласць абліччa й румяная жывасць
залішнюю й простую што малявала шчаслівасць!
То знак, што нячыннае сэрца і думкі дрымотны,
а тыя ж адказы вясковыя, лішне прастотны!
«Нашто ж і маліцца? Я згадую,— кажа,— па часе,
што німфа мая хіба пасціць гусей нанялася!»

А з німфы знікненнем прапаў весь чароўны малюнак
празрочны: увесь той із золата й срэбра рысунак
у краткі і стужкі, на жаль, гэта толькі салома.

З рукамі стаяў заламанымі Граф нерухома
й глядзеў на снапочак травою звязанай мятліцы,
прыняты за страўсавы пёры ў руках тэй дзявіцы.
А той Амальтэі ражок, залаціста начынне,
то простая морква, чым кормяць кароўкі і свінні!
То ж бачыў: дзіцё пажырала яе прагавіта:
дык кончаны чары, урокі і дзівы, і — квіта!

Вось так хлапчанё, як пабача дарожніку краскі,
што мягкасцю й пухласцю просяцца ў рукі і ласкі,
захоча кукобіць [18], дмухне, падышоўшы, й з падмухам
уся тая краска ў паветры разносіцца пухам:
ў руках тады бача даследчык залішне цікавы
сцібур толькі шэра-зялёны з усенькае справы.

На вочы націснуўшы капелюха, Граф вяртаўся,
пры гэтым дарогу сабе скараціць пастараўся,
ступаючы па гарадовіне, кветках, агрэсце,
аж во — пераскочыў баркан, адсапаўся урэшце!
Прыпомніў: аб снеданні баіў дзяўчыне ад рэчы,
дык ведаюць, можа, усе аб ягонай сустрэчы
у садзе і блізка ад дому? шукаць можа вышлюць?
пабачылі, як уцякаў? тады што і памысляць?
Дык трэба вярнуцца. Таму, нахіліўшысь ля плоту,
ля межаў і зелля, і сотню зрабіўшы зваротаў,
быў рады, як вышаў ужо наканец на гасцінец,
каторы прасцюсенька вёў аж на дворны дзядзінец.
Ля плоту ішоў, галаву адвярнуўшы ад саду,
як злодзей ад свірна, каб нат не падаць і здагаду,
што мае адведаць ці ўжо, можа, зведаў,



такі асцярожны быў Граф, хоць нічога не ведаў
ніхто, не сачыў. Ад гароду ўглядаўся направа.

Там гай быў, нягуста заросшы, засланы муравай;
па гэтым каберцы, між белай бярозы камлямі,
пад столлю зялёных галінаў, навісшых чубамі,
снавалі фігуры, каторых дзівосныя рухі,
бы танцы, дзіўныя уборы: ну, чыстыя духі
блудзілі па месяцы. Гэтыя ў чорных абцісклых,
а тыя у белых уборах, даўгіх і развіслых;
той пад капелюхом, як абруч, шырачэнным, цяністым,
той проставалосы, а іншыя ў воблак імглісты
абвеяны нібы, йдучы распускаюць адзеты
на голаў заслоны, казаў бы хвасты у каметы.
А кожны у іншай паставе: адзін як прыбіты
стаіць і свідруе зямлю вачыма прагавіта;
другі угледаецца проста уперад, шагае
як сонны па ліне [19], у бок не зірне, не шманае;
усе ж пастаянна схіляюцца ў розны староны
да самай зямлі і як бы адбіваюць паклоны.
Калі ж мімаволі адзін напаткае другога,
няма прывітанняў, не кажуць сабе анічога.
Затоплена ўвага ў глыбокім такім замышленні.
Здавалася Графу, што то елісейскія цені [20],
якіх не праймае ні боль, ні згрызотная бура,
ім суджана сноўдацца ціха, спакойна, панура.

А хто ж бы згадаў, што фігуры, так мала рухомы,
ўсе гэты маўклівыя людцы — то нашы знаёмы,
бо госці Суддзі! Пасля гучнага тога снядання
пайшлі на ўрачысты абрадак грыбоў сабірання.
Як людзі разумныя, ўмеюць яны меркаваці
і мову, і рухі свае, каб іх прыстасаваці
да кожнай як трэ акалічнасці месца і часу.
Таму за Суддзёю сабраліся ў лес без галасу,
прыняўшы прад гэтым і від, і уборы адменны,
сумесныя ўзяўшы к таму гапанчы [21] палаценны,
каб імі прыкрыці паверху багаты кантушы,
на голаў з саломы уздзелі сабе капялюшы
й выглядзяць белы таму, як чысцовыя душы [22].
І моладзь жа пераадзета, акроме Тальмены
ды колькі асобаў, хадзіўшых з французска.

Тэй сцэны
Граф не зразумеў, бо не ведаў ён вёскі звычаю,
дык, здзіўлены страшна, ляцеў ветрагонам да гаю.
Грыбоў было ў брод. Дзецюкі во бяруць красналіцы
праслаўлены столькі у песнях літоўскіх л і с і ц ы,
што лічацца знакам дзявоцтва, якіх не з'ядае
чарвяк і, што дзіўна, насечнік [23] на іх не сядае.
Дзяўчаты за стройным ганяюцца б а р а в і к о м,
што ў песні грыбоў называецца палкаўнікам [24].
На р ы ж ы к а сцігуюць [25] ўсе; ён хоць ростам
скрамнейшы,
не так ужо слаўны у песнях, зато найсмачнейшы,
ці свежы, ці солены, ўвосень, узімку — без спораў,
найлепшы то грыб. Але Войскі шукаў м у х а м о р а ў.

Прастацтва грыбоў астальное пагарджана ў браку
праз шкоднасць сваю або дзеля нядобрага смаку;
патрэбны аднак і яны: для звяроў служаць пашай
і гнёздамі для машары, для гаёў жа акрасай.
На траваў зялёным настольніку як бы радамі
сталова начынейка: з круглымі во берагамі
стырчаць с ы р а е ж к і: чырвоныя, жоўты, срабрысты,
казаў бы, налітыя розным вінoм барвяністым;
к а з л я к, перакулены як бы во донца ад міскі;
л я й к і [26], як шампанскага сціблы высокі кілішкі;
б я л я к [27] увесь беленькі, круглы, шырокі і плоскі,
наліты, маўляў малаком белы сподак саксонскі [28];
кулістая п о р х а ў к а, пылам чарнявым набіта,
як пушачка з перцам; а іншых грыбоў імяніта
не ведама, шмат іх, без ліку, расце усялякіх:
мянюшкі іх ведаюць за́йцы, ваўкі і сабакі.
Сабачых і зайчых ніхто дакрануцца не рача,
а хто нахіліўся, як толькі памылку пабача,
то ў злосці зламае грыба або брыкне нагою,
траву засмячаючы толькі манерай такою.

Тальмена ні гэтых, ні гэных грыбоў не збірае,
а знуджана ачамярэла наўкол спазірае,
задзёршы ўверх галаву. Дык пан Рэент у гневе
аб ей гаварыў, што грыбоў выглядала на дрэве;
Асэсар зласней, параўнаўшы яе да саміцы,
што месца шукае сабе на гняздо ў вакаліцы.



І праўда, шукала, здаецца, самотнасці, волі;
таму ад кумпаны усей адхадзіла паволі
і лесам ішла на узгорак пакаціста-ўзнёслы,
зацененны добра, бо дрэвам гусцейшым зарослы.
Ў сярэдзіне камень шарэў, з-пад якога крыніца
бруіла, шумела і зараз старалася скрыцца
у цень між высокага зелля буйной гушчынёю,
якое тут добра расло, бо паілась вадою;
і там ручаёк той, свавольнік, спавіты травою,
ліствой падасланы, без руху, без шуму, ў спакою,
не бачаны, ледзь-ледзь чувацца, так ціха шапоча,
дзіцё бы, ў калыску паложана: зразу шалпоча,
ды сціхне, як толькі маковага лісця матуля
пад голаў насыпе й фіранкі зялёныя стуле.
Прыгожае месца, й чуваць толькі мілыя шумы:
Тальмена назвала то месца С в я т ы н я й З а д у м ы.

Пры гэнай крынічаньцы скінула з плеч на зялёны
траўнік свой развесісты шаль, як крываўнік [29], чырвоны,
й падобна плывачцы, якая над зімнай вадою
схіляецца, перш, чым нырнуцца фігурай усёю,
каленкамі стала й паволі хілілася бокам:
урэшце, як схоплена шалю чырвоным патокам,
упала і ўся расцягнулася ўдоўжкі на шалі.
Ў траве яе локці, далоні галоўку трымалі,
пахілену кнізу, а вочы яе абымалі
французскае кніжкі бліскучы папер вэліновы [30];
паўзверх гэтай кніжкі балоначак [31] алебастровых [32]
звіваліся чорныя пу́кі і стужкі ружовы.

У зелені траваў буйных, на чырвоным на шалю,
у сукні даўжэйшай, як бы ў павалоцы з каралю [33],
якая з канца аднаго валасы адбівала,
і чорны, з другога канца, чаравік,— выглядала
здалёку, пры снежнай панчошцы, руках, белаліца,
з хусцінкай пры боку — падобнаю да гусяніцы,
успоўзшай на ліст на кляновы, Тальмена.

Ды жаль! хараство ўсё малюнкаў й прыцяглівасць гэна
на знайку чакалі дармо, бо ніхто не ўглядаўся:
так моцна там кожны грыбоў сабіраннем займаўся.
Зважаў толькі Тадзя і ў бок той пастрэліваў вокам;
не смеючы проста ісці, ён падсоўваўся бокам.

Падобна стральцу, што ў рухомай з галінача к будзе
на колах дваіх пад'язджае да дропаў [34], бы блудзе,
або на сяўцоў, ідучы пры кані, сябе крые
і стрэльбу кладзе на сядле ці пад конскую шыю,
казаў бы, што едзе мяжой, барану бы валоча,
а гэнам, дзе птушкі сядзяць, ён прыблізіцца хоча:
скрадаўся вось так і Тадэвуш.

Суддзя перашкодзіў,
адрэзаў дарогу і ўжо да крыніцы падходзіў.
А з ветрам гуляліся белыя полы яго балахона
й вялікая хустка, канцом за паяс падаткнёна;
ад руху, падвязаны хоць, капялюш саламяны
хістаўся на ветры, казаў бы той ліст лапушаны,
спадаўшы на плечы, то зноў жа наперад на ўзвочча;
ў руках аграмнястая палка — Суддзя гэтак кроча!
Схіліўшыся й рукі абмыўшы сабе у струмені,
ён сеў прад Тальменай на гэным вялізным камені
і, ўспёршыся важна аберуч на галку сланову [35]
даўгой трысціны, распачаў вось такую прамову:

«Так бачыце, Ваша, ад часу, Тадэй як у госці
прыехаў, што маю нямала я неспакайносці.
Я, ведайш, бяздзетны, стары; гэты добры хлапчына
мая гэта ўсенька на свеце пацеха адзіна,
наследнік маей жа фартункі [36]. З ласкавасці неба
пакіну кусок яму добры шляхецкага хлеба;
абдумаці час ужо лёс яму й пастанаўленне,
ды зваж толькі, Ваша, якое мне трэба цярпенне!
Як ведаеш, брат мой, Тадэвушкі бацька, пан Яцка,
дзіўны чалавек, усё робе знячэўку, знянацку,
не хоча вяртацца да краю, ўсё недзе скрываецца,
а дзе ён жыве, то і сыну нат не азнаямляецца,
аднак жа усё ім кіруе. Спярша ў легіёны [37]
хацеў пасылаці, страшэнна я быў засмучоны.
Пасля ён згадзіўся на то, каб застаўся сын дома
і тут ажаніўся. Ну, жонку дастаў бы, вядома!
Я парт'ю [38] нагледзеў: ніхто па мячу ці кудзелі
не мае такога імя і такой парантэлі [39],
як наш Падкаморы. Дачка яго старшая Ганна
ужо на выданні, пасажная й гожая панна.
Хацеў бы сасватаць...» На то Талімена збялела,
злажыла і кніжку, крыху паднялася й прысела.



«Як маму кахаю,— сказала,— ці то, Пане браце,
ё сэнс нейкі ў гэтым? ці бога у сэрцы вы майце?
Так думаеш, Ваша, Тадэвуша быць дабрадзеем,
як зробіш яшчэ маладога хлапца грэчкасеем [40]!
Павер мне, што некалі будзе ён вас праклінаці.
Талянт закапаць у лясох, яму свет завязаці!
Наколькі спазнала, панятліва гэта дзяціна,
дык варта, на большым каб свеце працёрся хлапчына.
І зробіш, брат, добра, як вышлеш яго да сталіцы,
ну, хоць да Варшавы. А мо' яшчэ лепей злажыцца,
калі ў Пецярбурак? Я, пэўне, во гэтай зімою
паеду па справах туды. Дык уложым з сабою
наконта Тадэя. Я маю уплывы й даверра
у свеце высокім: дык там распачнецца й кар'ера.
З маей дапамогай ў найлепшы дамы ён увойдзе,
як будзе ж знаёмы ўжо важным асобам, то пойдзе
не трудна і ранга і ордэр; а там, калі згожа,
то кіне служыць і вярнуцца дамоў сабе можа,
значэнне ўжо нейкае маючы й свету спазнаўшы».
— «Яно ж маладому няблага,— Суддзя адказаўшы,—
працёрціся між людзьмі, аглядзецца на свеце,
праветрыцца крышку, не толькі па нашым павеце.
І я ж то замоладу свету аб'ехаў нямала:
ў Дубне́, Петракове, то едучы за трыбуналам
туды палестрантам [41], то робячы собскія справы,
не раз пабываў там, нат ездзіў да самай Варшавы.
А шмат скарыстаў чалавек! Дык хацеў бы Тадэя
пасляць у вандроўку, няхай між людзьмі палюдзее,
чаляднікам бытта, што ў тэрміне срок адбывае,
вандруючы, свету знаёмасці больш набірае.
А не дзеля ордэраў, рангаў! Прашу прабачэння,
маскоўская ранга ці ордэр, якое ж значэнне?
Каторы ж з даўнейшых паноў, ці то нават дзісейшых [42],
між шляхтаю тут у павеце крыху замажнейшых
аб гэтакіх глупствах і дбае? А ўсё ж у пашане
ў людзей! Бо шануем мы род іх і добрае званне,
імя або ўрад,— толькі выбарны, земскі, прызнаны
панамі, не то што там з нечыей ласкі паданы».

Аж тут перабіла Тальмена: «Як, браце, так мысліш,
то й добра, калі ваяжорам [43] Тадэвуша вышліш».

«Ды бачыш, сястрыца,— патыліцу чухаў наш дзядзька,—
я дужа хацеў бы, аж новы мне клопат. Пан Яцка!

Пан Яцка з апекі не хоча ўсё выпусціць сына
і ласне прыслаў мне на шыю ксяндза барнадына;
Чарвяк жа прыбыўшы аж з гэнага боку, з-за Віслы;
ён прыяцель брата і ведае ўсе яго мыслі;
ўжо пастанавілі яны аб Тадэвуша лёсе:
што мае жаніцца, а жонкай была бы Зося,
сястры выхаванка. Вядома, дастануць абое
фартунку маю да йшчэ з Яцкавай ласкі на тое
пасаг капіталам; а фундушу [44] мае нямала,
і блізка што цэлая сумка [45] ў мяне праляжала,
дык распараджацісся можа. Падумай жа, Ваша,
з найменшым каб клопатам неяк зрабіць марыяша [46].
Іх трэ пазнаёміць. Што праўда, яшчэ маладыя,
а Зося й залішне, ды то перашкоды малыя.
Пара ужо Зоську нарэшце й на свет паказаці,
бо гэта ж хіба вырастае ўжо дзеўка з дзіцяці».

Тальмена здзіўлёна, са страхам навіны прымала,
усё падымалася, аж на каленкі прыўстала;
перш слухала ўважна, пасля далані сваей рухам
пярэчыла, жыва махала над вухам,
як гнюс адганяючы, так непрыемныя словы
у вусны прамоўцы назад.

«Вось дык справачкі новы!
Ці гэта Тадэвушу шкодзе ці, можа, не шкодзе,—
адрэзала ў гневе,— судзі сабе сам Пан Дабродзей.
Мне што да Тадэя, вы самі аб ім сабе райце,
зрабіце яго аканомам, карчму яму дайце,
няхай і шынкуе, ці хай зверыну сабе зносе;
што хочаце, то і рабіце, а толькі ўжо Зося!..
А вам што да Зосі? Сама я, і толькі кірую
дзяўчыны рукою! А то, што пан Яцка якую
там пенсійку рочную вызначыў, больш абяцаўся
даваць на яе ўзгадаванне, праз то не набраўся
правоў, не купіў. А урэшце, і самі скажэце,
што ведама добра яшчэ і дагэтуль на свеце,
ці вашая шчодрасць для нас без ніякай прычыны,
не вінны вы чым для Гарэшкава роду дзяўчыны?»
(Канец гэты слухаў Суддзя неахвотна, праняты
і жаласцю й дзіўна змяшаны, як бы вінаваты,
як бы баючыся йшчэ болей пачуць, нахіліўся,
рукою патаківаў, моцна чырвоны зрабіўся.)



Тальмена канчала: «То ж я гэта Зосі пястунка [47]
й радня, таму я і адзіная ей апякунка;
ніхто больш не мае і думаць аб Зосіным шчасці».
«А што, як захоча то шчасце з Тадэвушам скласці? —
казаў, падымаючы вочы,— калі Тадавушка
палюбе сама?» — «Ах, сама! на вярбе то ігрушка!
Палюбе ці не, а зусім жа мне гэта й не важна!
Хоць Зося не будзе, што праўда, дзяўчына пасажна,
але й не вясковая дзеўка, не проста шляхцянка,
бо з яснавяльможных ідзе яна, ваявадзянка,
з Гарэшчанкі родзіцца, мужа адразу дастане!
Нямала стараліся мы пра яе ўзгадаванне,
хіба ўжо здзічэла бы тут».— Суддзя слухаў уважна,
відаць, удабрухаўся [48], й вочы падняўшы адважна,
азваўся даволі вясёла: «Ну, што ж тут рабіці!
Па праўдзе, я шчыра хацеў інтарэсу дабіці;
ды толькі ж без гневу. Як Ваша не хочаш згадзіцца,
то маеш і права; хоць сумна — злаваць не гадзіцца [49].
Я раіў, бо брат наказаў; тут ніхто не змушае,
калі ад Вашэці Тадэю адмова такая,
адпісую Яцку, што шчыра ўдаваўся у сваты,
дастаўшы для хлопца адмову, не я вінаваты.
Цяперака сам памазгую. Хіба з Падкаморым
сасватаем лёгка і хутка усё абгаворым».

Тым часам Тальмена ўжо крышку астыгла з запалу:
«Ніякай адмовы, чакай жа, браточку, памалу!
То ж сам мне казаў, што йшчэ зарана, замаладыя —
разгледзьмася, хопе нам часу на справы такія.
Спярша маладых пазнаёмім і будзем зважаці;
бо нельга так шчасця другіх на прыпадак здаваці.
Ды загадзя папераджаю; хай брат не ўмаўляе
нічога Тадэвушу й Зосі, любіць не змушае,
бо сэрца не служка, не ведае, што за паны,
й не дасца сілком закаваці сябе ў кайданы».

Суддзя тады, ўстаўшы, адходзіў з задумай у воку.
Тадэвуш памалу зблiжаўся з супроцьнага боку,
нібыта грыбы сабіраці яго там карціла.
Цягнула і Графа туды тая самая сіла.

Пан Граф бо, у часе тых спрэчак Суддзі з Таліменай
стаяўшы за дрэвамі, моцна дзівіўся тэй сцэнай.

Дабыў з кішані алавік і паперу, два спраты,
з сабой што насіў заўсягды, й на камéнь на букаты [50]
распяўшы ту картку, давай маляваці малюнак,
к сабе прымаўляючы: «Група, як на абсталюнак [51];
яна на траве, ён на камені, ах — маляўнічаǃ
Галовы з характарам! З гэткім кантрастам абліччаǃ»

Падойдзе, ўстрымаецца, возьме лярнет, праціраe,
абвейвае хусткаю вочы і ўсё спазірае:
«Ці з гэтым во гледзішчам [52] будзе ізноў летуценне:
бліжэй падышоўшы, мо шчэзне, мо выгляд свой змене?
Ці траў аксаміты абвернуцца ў мак і бацвінне?
а гэтая німфа не німфа, анно ахмістрыня?»

Хоць Граф з Таліменай ужо і даўней спатыкаўся
у доме суддзёўскім, дзе часта прад тым абываўся,
ды мала зважаў на яе; задзівіўся адразу,
пазнаўшы у ей нечакана мадэль [53] да абразу.
Прыгожасць і месца, й паставы, і густ яе ўбрання
змянілі Тальмену, што трудна была да пазнання.
Свяціліся вочы яшчэ не пагашаным гневам,
а твар жа, ажыўлены свежага ветру павевам,
і спрэчкай з Суддзёю, ды тых кавалераў прыбыццем,
мацней, як звычайна, гарэў амалоджаным жыццем.

«О Пані! — Граф кажа.— Ты смеласці рач даравац,
прыходжу я дзякаваць, разам і перапрашаці:
мой дзякуй, што бачыў тваю я задуму глыбоку,
за то ж выбачай, што сачыў я тайма твайго кроку.
Абразіў, аднак не шкадую такога я чыну,
бо меў і натхненне і шчасце у гэту хвіліну!
Таму чалавека мо' Пані і зганe і злае,
шчаслівы ж мастак прабачэння ласкава чакае!
На шмат я адважыўся, але й на болей адважусь:
судзі!»— і падаў на каленках ей карткі пейзажу.

Тальмена судзіла малюнка паданыя спробы
прыветліва, тонам вучонай мастацка асобы,—
пахвалаў скупіла, ахвоты ж, аднак, паддавала:
«А, брава,— казала,— віншую, талянту нямала,
ды толькі балей працаваць; асабліва ж патрэба
прыгожай прыроды шукаць! О! шчаслівае неба
краёў італьянскіх! ружовыя цэзараў вы агароды!



клясычныя Тыбуру [54] гожа спадаючы воды
й страшнáя скалістая ты Паўзыліпу [55] пячора!
То край маляроў! А у нас, зжалься божачка, гора!
У Сапліцава музаў дзяціна, аддана на мамкі,
напэўне памрэ. Я во гэта апраўлю у рамкі
або памяшчу у альбом, да рысункаў да зборку,
з усюль што сабрала: даволі іх маю у бёрку».

І так гаманілі аб небе, аб моры шумлівым,
скалістых вярхáвінах гор, аб ветры пужлівым,
мяшаючы гэтым і гэным вандроўных звычаем
і шкелікі [56] й смехі над родным над бацькаўскім краем.

А гэта ж наўкола цягнуліся нашы лясы,
такія паважныя й поўныя рознай красы!—
Чаромхі, дзікім аплятаны вяночкам хмялёвым,
рабіны, са свежым румянцам пастушска-здаровым,
ляшчыны, як тыя менады [57] з зялёненькім бэрлам,
убраныя, бы вінаградам, гарэхавым пэрлам.
А ніжай дзятва там: шыпшына ў абоймах каліны,
ажына, што чорныя вуснаčкі туле ў маліны.
Кусты там і дрэвы, за рукі пабраўшысь ліствою,
як хлопцы й дзяўчаты, стаяць чарадою
наўкол маладых. Пасярэдзіне іх найвышэйша
там парка, за ўсеньку лясну грамаду харашэйша
і сціблaсцю гожага стану, і барвы павабам:
то бела бярозка, каханка, адружана [58] з грабам.
Далей, як старцы на дзяцей ці ўнукоў, спаглядаюць,
рассеўшыся моўчкі: тут важна букі размышляюць,
дзядзькі тапалі, а там дуб вун імхом барадаты,
вякоў хіба пяць узваліўшы на плечы гарбаты,
ўспіраецца, як на магільных слупох абляцелых,
на труп'ях дубовых тых продкаў сваіх скамянелых.

Тадэвуш круціўся, бо моцна яму надаела
гаворка, ў якую не мог умяшацца умела;
калі ж пачалі пра гаі чужаземныя правіць
і дрэваў гатункі чаргой пералічываць, славіць:
усе памаранцы, кіпрысы, аліўкі, мігдалы,
алёэсы, кактусы, розны магоні, сандалы,
цытрыны і блюшч і валоскі гарэхі, нат фігі [59],
хвалілі і форму і краскі — без шкоды фатыгі —
тады ўжо Тадэя страшэнная немарасць брала,

і, каб устрымацца ад гневу, дык сіл не хапала.
Прастак быў Тадэвуш, а чуў характво ён прыроды,
дык, гледзячы ў лес, адазваўся з натхнёнай нязгоды:
«Я бачыў у віленскім у батанічным гародзе [60]
нямала праслаўленых дрэў, што растуць на усходзе
або на палудні ў харошым краі італьянскім;
каторае ж можа зраўняціся з дзеравам наскім?
Алёэс мо' з палкамі, як грамадводнік, даўгімі?
Цытрына, карліца з пладамі сваймі залатымі,
з лісцём лакіраваным, дужа каротка й пухата,
як баба малая, брыдкая, хаця ж і багата?
А можа, даўгі той і тонкі кіпрыс захваляны,
што лепей бы дрэвам нуды, а не смутку названы?
Хоць, кажуць, на могілках сумнае ўражанне робе,
падобны ж да лёкая немца у дворскай жалобе,
падняць што не смее рукі, галавой не кранецца,
абы этыкеце ні ў чым не ухібіць, пражэцца.

Ці ж не харашэйшая наша бярозка, прасціна,
што, моў бы сялянка, якая аплакуе сына,
ці мужа ўдава, стаіць, рукі свае заламаўшы,
струістыя косы з плячэй да зямлі паспускаўшы?
Нямая ад жалю, паставай вымоўна рыдае!
Як праўда, што Граф гэтак моцна малярства кахае,
чаму дрэваў нашых, дзе сам ён сядзіць, не малюе?
Па праўдзе, так з Графа сусед не адзін зажартуе,
што Пан, жывучы на літоўскай багатай раўніне,
малюеш адно толькі нейкія скалы й пустыні».

«Мой дружа,— Граф кажа,— прырода харошая — гэта
аснова, матэр'я; душа — то натхненне паэта,
якое на крыллях фантаз'і высока лунае,
шліфуецца смакам, ад правіла не адступае.
Замала прыроды, замала таксама й запалу,
мастак узлятаці павінен у сферы йдэалу [61]!
Не ўсё, што прыгожа, то й згожа яму маляваці!
Ды гэта Пан можаш з кніжок сваячасна спазнаці.
Адносна ж малярства, дык во: да малюнку патрэба
і гледжання пункту і групы, ансамблю і неба,
італьянскага неба! Таму у малярстве пейзажным
Італья была, ёсць і будзе краём пераважным;
таму ж то акроме Брэйгеля [62], ды ж Ван дэр Хэлле [63],
але пейзажыста (бо ёсцека два і Брэйгелі),



й акроме Руйсадаля [64], на ўсенькай шырокай паўночы
дзе ж быў пейзажыста, каторы вялікае мочы?
Бо неба, бо неба патрэба!»—«Маляр наш Арлоўскі [65],—
яго перабіла Тальмена,— меў смак сапліцоўскі.
(А трэба ж вам ведаць такую Сапліцаў хваробу,
што толькі да роднага маюць яны упадобу.)
Арлоўскі, што ўсенька жыццё перабыў ў Пецярбурку,
і слаўны ж маляр (колькі шкіцаў [66] я маю у бюрку)
і жыў ён пры самым цары, пры дварэ, як у раі,
а Граф не павера, як вельмі тужыў ён па краі!
Любіў спамінаці сваей маладосці часы,
хваліў усё польскае: неба, зямлю і лясы...»

«І розум ён меў!— адклікнуўся Тадэвуш з запалам.—
Італьскае неба, якое для вас ідэалам,
блакітнае, чыстае, то ж зледзянелыя воды.
Ці ж не харашэйшыя буйны вятры, непагоды?
У нас падымі галаву толькі — колькі ж відокаў
і сцэн, абразоў ужо з самай гульні абалокаў!
Што хмара, то інша: напрыклад, асенняя хмура
лянівa паўзе, як той смоўж, і, як злыдзень, панура,
даўгія да самай зямлі кутасы папускала,
як косы распушчаны,— гэта дажджыста навала;
лядовая хмура балёнам [67] на ветры ўзлятае,
бы клуб цёмна-сіні, ў сярэдзіне жоўтым зігае,
наўкола страшэнна шуміць; а нат тыя штодзенны,
пабачце, вун белыя хмуркі, якія ж адменны!
Спачатку як стадка гусей, лабудзёў там плывае,
а вецер іх стылу ў адно, бы сакол, заганяе.
Растуць і таўсцеюць, сціскаюцца новыя дзівы!
Во шыі крывыя ўзнялі, распускаюцца грывы,
высоўваюць ногаў рады й па нябесным скляпенні
лятуць, як табун жарабцоў па сцяпным аддаленні;
з тых коней сярэбраных, бачыш, ізноў перамены:
з іх шыяў во шчоглы [68], а з грыў парусы шырачэнны,
табун той змяняецца ў лайбы й плыве, бы вадою,
паважна, ціхусенька роўнай нябёс сінявою!»

Пан Граф і Тальмена пры тым угару спаглядалі;
Тадэвуш аднэю рукою паказваў на далі,
другою лягенечка цісвуў за ручку Тальмены.
Ўжо колькі мінут праплыло гэтай ціхае сцэны;
паперу пан Граф разлажыў на сваім капялюшы,

дастаў алавік свой. Аж раптам урэзнуўся ў вушы
дваровы званок непрыемна, і зараз па лесе
і гоман, і крык разлягаліся, йшлі ў паднябессе.

Кіўнуў галавою і кажа паважным Граф тонам:
«Вось гэтак усенька на свеце канчаецца звонам!
Рахункі вялікае думкі, фантазіі планы,
забавы нявіннасці, радасці дружбы жаданы
і чуласці сэрца — здалёку метал толькі рыкне,
усё памяшаецца, рвецца, памуціцца, нікне!»
І тут, адвярнуўшы расчулены ўзрок да дзяўчыны:
«А што застаецца?..» Яна адказала: «Ўспаміны!..»
І, хочучы крышку злагодзіці Графавы смутак,
сарвала й дала яму краску адну незабудак.
Граф пацалаваў то, узяўшы, на грудзі прышпільваў;
а з боку другога Тадэвушка зелле расхільваў,
пабачыўшы, што да яго нешта ўецца, бялее
ў траве; Талімены то ручка была, як лілея.
Схапіў, цалаваў яе ласа й губамі пацішку
ўтапіўся, як тая пшчалінка ў лілеі кілішку.
Сцюдзёна у губы, зірнуў: ажно ключ і скрутулька
маленькая з белай паперы, была то пісулька.
Схапіў і схаваў у кішэнь; а што ключ гэты знача,
не ведае; тая пісулька усё растлумача.

Між дрэвамі ціхіх лясоў тады разам са звонам
лунаЛі, азваўшыся, крыкі бясконца гамонна.
Ішло між усімі спульнае ўжо заклíканне,
на знак, што закончана сёння грыбоў сабіранне.
Ды водгалас гэты зусім не хаўтурны, мінорны,
як Графу здалося, а голас абедны, бадзёрны.
І звон той з падстрэшша штодзённа у поўдзень гукае
часцей і ўсю чэлядзь палуднаваць так заклікае:
бо гэтак было па даўнейшых дварох у звычаю
ды так засталося і ў доме Суддзі. Вось жа з гаю
выходзіла ўся грамада, несучы панабраны
каробкі, кашы і хусцінкі, канцамі звязаны,
паўнютка грыбоў; а дзяўчаты аднэю рукою
няслі б а р а в і к, бытта зложаны веер, другою
звязаныя разам, казаў бы, што польныя кветкі,
а п е н к і і барваў усіх с ы р а е ж к і, суседкі.
У Войскага быў м у х а м о р. Мела рукі пустыя
адна Талімена, а з ей панічы маладыя.



Парадкам вайшлі; сталі колам; цішэй разгаворы;
вышэйшае месца заняў за сталом Падкаморы;
такі яму гонар і з веку і ўраду належа,
йдучы, усё кланяўся дамам, старым, маладзежы.
Пры ім жа квастар, а Суддзя пры ксяндзу барнадыне;
кароткія пацеры той злапатаў па лаціне;
давалі гарэлку чаргой; тады ўсе пасядалі
і жвава ды моўчкі смачны халадзец засцябалі.
Абедалі нейк цішэй, як звычайна бывае;
ніхто не гавора, дарма гаспадар запрашае.
Староны, што бралі удзел у сабачынай звадзе,
аб заўтрашнім думалі дні, барацьбе і закладзе;
вялікая думка бо вусны маўчаць прымушае.
Тальмена гаворкай Тадэвуша ўсё забаўляе,
аднак паспявае не раз і да Графа звярнуцца,
а нат на Асэсара кінуці вокам, ўсміхнуцца.
Так птушнік глядзіць у сіло, дзе сініцу ён вабіць,
а разам і на верабейкаў. Тадэвуш і Графіч
абодва здаволены дужа сабою, такія
шчаслівыя, поўны надзеі, дык не гаваркія.
На красачку Граф спаглядае і горда і чула,
Тадэвуша вочы усё у кішэню цягнула,
ці ключык не ўцёкшы? Рукою хапаў за скрутульку,
круціў: яшчэ бо не змог прачытаці пісульку.
Суддзя Падкамораму розных віноў падлівае,
уважна прыслугуе ды за каленкі сціскае,
а гутарыць з ім то не мае вялікай ахвоты;
відацца, што нейкія чуе таёмны клапоты.

І так праміналі ў маўчанні талеркі і стравы;
прарваў такі нудны прабег тэй абедзеннай справы
ляснік, уляцеўшы, як куля, зусім нечакана.
Не гледзячы ні на гасцей, ні бяседу у пана,
падбег да Суддзі, а відацца і з постаці й з міны,
што нёс у пасольстве ён важныя вельмі навіны.
К яму свае вочы звярнула усенька сабранне.
Крыху адсапнуўшыся, крыкнуў: «Вядзмедзька, Маспане!
І ўсе зразумелі, што, вышаўшы з нетры міхася [69],
і ўжо праз лясы у Занёманску пушчу [70] ён вале,
што сцігаваць трэба адразу, ўсе згодна прызналі,
ніякай нарады, ніякіх дазволаў на то не чакалі.
Супольная думка відалася з словаў адцятых,
з ажыўленых жэстаў, загадаў адданых, прынятых;

са столечкіх вуснаў ляцелі загады ўсе гэты,
аднак жа імкнуліся ўсе да адзінае мэты.

«На вёску,— усклікнуў Суддзя тут,— гэй, сотніка, конна!
Чуць золак — аблава, анно ж на ахвотніка, згодна;
каторы із пікаю выйсці там знойдзецца шпарка,
то скінуць з работы тры дні і чатыры шарваркі [71]».

«Наўскач,— Падкаморы крычэў,— акульбачыць [72] сівую,
ляцець у мой двор і узяць у мінуту мне сюю
дзве п'яўкі; то пара на ўсеньку ваколіцу слыне:
сабака, што Спраўнік завецца, і сучка Страпчыня [73];
замкнуці ім пысы, звязаць іх у меху
і конна прыставіць сюды, хутчэй, у паспеху!»
«Гэй, Ванька!— ускрыкнуў Асэсар на хлопца па-беларуску [74],—
шпарчэй сангушкоўскі [75] тасак [76] пацягні мне на брўску;
тасак гэны, ведайш, ад князя што мне дараваны;
ці ў поясе добра набоі ўсе панабіваны?!»
«А стрэльбы,— крычэлі усе,— каб былі бы гатовы!»
«Мне волава, волава! — ўторыў Асэсар два словы,—
а форму да куляў я маю у торбе».— «Клябана [77]
паведаміць,— кажа Суддзя,— каб ён заўтрачка рана
прыбыў у лясную капліцу: каротка афэрта [78],
што за паляўнічых, імша да святога Губэрта [79]».

Настала маўчанне па столькіх загадах.
Задумаўся кожны, відацца ж было па паглядах,
што ўсе там кагосьці шукалі; памалу пагляды
на Войскага твары лучыліся, як бы парады
шукалі; то значыла: павадыром выбіралі
ўсе згодна, яму булаву і каманду давалі.
Падняўся пан Войскі, пазнаўшы агульную волю,
стукнуці мацней па стале ён сабе нат дазволіў,
з-за пазухі выцяг [80] сваю залацісту чапулю [81],
а з ею вялізны гадзіннік, таўшчэразну дулю,
і кажа: «Назаўтра у пяць пад капліцай лясною
збяруцца стральцы і аблаўнікі ўсей грамадою».

Сказаў ды пайшоў ад стала, а за ім і гаёвы [82],
абдумаці маюць яны і наладзіць уловы.



Так правадыры, як назаўтра бітву загадаюць,—
жаўнеры ў абозе аружжа глядзяць, заядаюць
ці спяць на плашчох або сёдлах сабе бесклапотна,—
а правадыры ўсё мазгуюць ў шатры [83] бездрымотна.

Прарваўся [84] абед; дзень зышоў на падкоўванні коней,
кармленні сабакаў, збіранні і чышчанні броні;
пасля й да вячэры ледзь нехта прысеў да стала.
А нават Куртага партыя і Сакала
спынілі вялікі свой спор і ўзаемны дакукі:
Асэсар і Рэент, пабраўшыся разам пад рукі,
вышукуюць волава. Рэшта паноў спрацавана
йшла загадзя спаць, каб назаўтра прачухацца рана.

# *Быліца чацвертая*



## ПАЛІТЫКА І ЎЛОВЫ

### ЗМЕСТ

З'ява ў папілётах [1] будзіць Тадэвуша.— Запозная спасцярога памылкі.— Карчма.— Эмісар [2].— Спрытнае ўжыцце табакеркі заварочвае спрэчку на належны лад.— Матачнік [3].— Вядзмедзь.— Небяспека Тадэю і Графу.— Тры стрэлы.— Спор Сагалясоўкі з Сангушкоўкай [4] вырашаны на старану Гарэшкаўскай аднаруркі [5]. — Бігос [6]. — Повесць Войскага аб паядынку Давейкі з Дамейкай прарвана цкаваннем зайца.— Канец повесці аб Давейцы і Дамейцы.

Літоўскіх вялікіх князёў вы равеснікі, дрэвы
Панар, Белавежы і Свіцязі, і Кушалева [7]!
У вашым цяньку спачывалі каронны галовы
і грознага Вітана [8], й воя страшнога Міндовы [9],
й важа [10] Гедыміна [11], калі на Панарскай гары,
пры яркім лавецкім агні, на вядзмеджай скуры
ляжаў ён, заслуханы ў песнях вяшчальных Ліздэйкі [12],
а відам Вяллі і ўсыпляючым шумам Вілейкі [13]
угушканы, сніў аб ваўку аб жалезным прароча [14]
й, праснуўшыся, выканаў божы загады ахвоча:
паставіў тут Вільню, якая сядзіць між лясамі;
як воўк між зубрамі, дзікамі і між ведзмядзямі.
З тэй Вільні, як з рымскай ваўчыцы [15], бы з маткі,
пайшлі і Кяйстут, і Альгерд [16], і Альгерда нашчадкі,
вялікія роўна лаўцы, як і рыцары слаўны,
і сцігаваць ворага й звера аднолькава спраўны.
Лавецкі той сон адкрыў тайну нам прошлых часоў,
што трэба Літве заўсягды і жалеза й лясоў.

О пушчы! Апошні да вас прыязджаў на уловы
апошні кароль, што насіў шчэ каўпак Вітаўтовы [17],
апошні што быў з Ягелонаў ваяка шчаслівы,
апошні ў Літве і манарх і лавец прамыслівы [18].
Радзімыя дрэвы мае, мае другі старыя!
Як неба пазволе вярнуцца да вас, дарагія,



ці там вас знайду я яшчэ? Ці дагэтуль вы жывы,
ля вас што калісьці я поўзаў, маленькі, шчаслівы?
Ці жыў яшчэ Баўбліс [19] вялікі, ў якога агроме,
ў дупле спракавечным, бы ў нейкім парадачным доме,
дванаццаць людзей на вячэру садзілася колам?
Мендогавы гай ці красуе пад фарным касцёлам [20]?
Ці там на Ўкраіне яшчэ сваю зелень узносіць
ў двары Галавінскіх пры рэчцы харошай пры Росі [21]
ліпа, так разросшыся, што у суценні шырокім
сто пар дзецюкоў і дзяўчатаў ішло сабе ў скокі?

Вы нашыя памяткі! Колькі то вас пажырае
штогодна й купецкая і ўрадава сякера ліхая!
Прытулішча не пакідае ні лесным пяюшкам,
ані песнярам, якім цень ваш так мілы, як птушкам.
Так чула ліпа Чарналеская Янавы словы [22]
і толькі натхнення дала! А той дуб стогадовы
паэту казацкаму [23] вышумеў цудныя спевы!

А колькі жа вінен і я вам, радзімыя дрэвы!
Стралец няўдалы, ўнікаючы смеху калегаў
за хібленне, колькі між вашых зялёных пялехаў
я дум спаляваў, у зацішнай глушы заблудзіўшы,
прысеўшы на купіну й зараз пра ўловы забыўшы;
наўкола ж мяне серабрыўся тут мох барадаты,
памятай чарніцы крывёю абліт, сіваваты;
а там чырванеліся вунака верасу ўзгоркі,
на іх жа буйныя брушніцы, караляў пацеркі.
Кругом было цёмна, а зверху галіны густыя
звісалі, як хмары зялёныя, дужа нізкія;
віхор толькі дзесь над скляпеннем шумеў нерухомым
выццём сваім, шумамі, енкамі, ляскатам, громам:
дзіўны, ап'яняючы гоман! Аж сэрца шчымела,
моў, над галавою вісячае мора шумела.

У доле ж як местаў разваліны: выварат дуба
з зямлі вытыкаецца відам вялікага зруба:
на ім абапёршыся, як паламаны калоны,
камлі сукаватыя й згніўшыя напал калоды,
травой абгароджаны. Глянуць у звалішчы тыя
ў сярэдзіну страшна, бо гаспадары там лясныя:
дзікі, ведзмядзі і ваўкі; паабгрызваны косці
ляжаць пры варотах; ахвярай — няўважныя госці.

Падчас вымыкаюцца з гэтае траваў зялені,
як два вадапырскі фантана, рагі два алені,
й мігне між дрэвамі жоўтаю звер паласою,
як сонца, бліснуўшы у лес залацістай касою.

І ціха ізноў. Толькі дзяцел згары на яліне
пастукуе злёгку, далей адлятае і гіне;
схаваўся, а стукаці дзюбам усё не кідае,
як тое схавана дзіцё, што шукаць заклікае.
Вун села вавёрка, гарэхі у лапках лузгоча,
грызуха; кітою завесіла хвост на узвочча
і, як кірасір той пяром над шаломам, махае.
Хоць так засланіўшыся, але кругом спазірае;
пабача гасця й пераскакуе, лесу скакуха,
із дрэва на дрэва: мігне, як маланка-бліскуха,
ў канцы у нявідземым недзе дупле прападае,
бы ў роднае дрэва вярнуўшысь, дрыяда [24] якая.
Ізноў тады ціха.

Аж раптам страслася галіна
і між рассуненых ягад чырвоных рабінаў
красней за рабіну зардзеліся твар і спадніца:
збіральніца гэта гарэхаў і ягад, дзявіца.
У лубачцы з простай кары падае назбіраны
брушніцы так свежы, як ейныя губкі румяны:
а побач ідзе з ей хлапец ды ляшчыну схіляе,
дзяўчына гарэхі мігнуўшыя ў лёт падрывае.

Аж водгалас чуюць рагоў і сабачае гранне
і згадуюць, што набліжаецца к ім паляванне,
дык зразу у гушчы зялёнай, трывогай праняты,
прапалі з вачу, як лясныя якісь бажаняты.

Ў Сапліцаве рух быў вялікі. Аднак ні галасы
сабачы, ні коней іржанне, скрыпучы калясы,
ні водгалас труб, падаваючых кліч палявання,—
нішто не магло там Тадэвуша зрушыць з паслання;
зваліўшыся, ўбраны ляжаў, як байбак у нары.
Ніхто і не думаў шукаць яго у двары,
бо кожны, сабою заняты, спяшыў, дзе казалі;
аб сонным таварышу гэтак зусім і не дбалі.

А ён сабе храпаў. Ўжо сонца ў атвор акяніцы,
да сэрца падобны, папала й ліло да цямніцы



вагністым патокам прамення Тадэю на голаў.
Усё яшчэ спаць ён хацеў і круціўся наўкола,
ад сонца хаваўся, аж раптам во чуе стукненне,
збудзіўся. Вясёлае гэта было прабуджэнне.
Пачуўся так рэзвы, бы птушка, і дыхаў свабодна,
к сабе усміхаўся, і чуўся шчасліва, вальготна;
успомніў усё, што яму прылучылася ўчора,
ўздыхаў, чырванеўся, і сэрца забілася скора.

Зірнуў у вакно: што за дзіва! У ясным празрочы
праз гэнае сэрца блішчэліся ясныя вочы,
шырока раскрытыя, як то звычайна бывае,
калі са святла ды ў цёмнасць узрок пападае.
Пабачыў і ручку маленьку, як веярчык, збоку
падстаўлены к сонцу, відаць, для заслоны узроку;
а дробныя пальцы, падняты ў прасвет у ружовы,
наскрозь чырванеліся, бытта яны рубіновы,
Убачыў цікавыя, крышку расхілены, губкі;
як пэрлы паміжы караляў, свяціліся зубкі,
і твар, хоць ад сонца заслонен далонню ружовай,
ды сам паланеўся, бы рожа, чырвенню пуковай [25].

Тадэвушка спаў пад акном; сам укрыты ў суценне,
ляжаў на спіне і дзівіўся з такога з'яўлення,
што меў над сабою, амаль жа на самым што твары;
не ведаў, ці гэта наяве, ці бачыў у мары
адзін з гэтых тварыкаў мілых і ясных, дзяцінных,
што помнім, пабачыўшы ў сне сваіх летаў нявінных.
Схілілася лічка: угледзеў з дрыжэннем з баязні
і радасці, ўгледзеў, на жаль свой і гора, выразне,
прыпомніў, пазнаў залаты яе волас кароткі,
павіты у дробныя, белы як снег, папілёткі,
маўляў, серабрысты стручочкі, каторы ад сонца
свяціўся, бы тая карона святых на іконцы.

Сарваўся з пасцелі, й адразу та здань паляцела,
спалохана шумам; чакаў, паказацца не смела!
А после ж ізноў ён пачуў толькі стуканне тройчы
і словы: «Уставайце ўжо на паляванне, малойча,
заспаўся». Саскочыўшы з ложка, абеймі рукамі
піхнуў акяніцу, аж трэснула моцна крукамі
і, так расчыніўшыся, ўдарыла ў сцены абедзве;
ён скочыў з вакна і кругом аглядаўся, сам ледзьве

прытомны, не бачыў нікога і следу ні ў вока.
Баркан во ад саду, зусім ад вакна недалёка;
на ім жа хмялёвае лісце і кветкі вянкамі
хісталіся: лёгкімі можа скрануты рукамі
ці ветрам? І доўга Тадэвуш да іх прыглядаўся,
не смеючы йсці у садок; на баркан апіраўся,
падняў свае вочы і з пальцам, да губаў прыткнутым,
замоўкнуць казаў сабе сам, абы словам пачутым
раздум не спалохаць; пасля ж ён у лоб сябе стукаў,
як бы да старых успамінаў, затаеных гукаў;
ў канцы, грызучы, сабе пальцы падзёр, абкрывавіў
і крыкнуў: «Ну, добра мне гэтак! — ну добра!» —
прыбавіў.

У двары, дзе чувалася толькі што гэтулькі крыку,
цяпер, як на могілках, пуста і глуха, ні зыку:
усе ужо рухнуўшы ў поле. Тадэвуш надставіў
вушшу, прытым рукі да іх так, як трубкі, прыставіў
і слухаў, аж вецер прынёс яму, веяўшы з пушчы,
галас паляўнічых і водгалас трубаў грымушчы.

Тадэевы конь жа у стайні чакаў асядланы;
схапіў тады стрэльбу, ўсаскочыў і, як здаганяны,
пусціўся да корчмаў, што там пры капліцы стаялі,
аблаўнікам раніцай дзе пазбірацца казалі.

Хіліліся дзве там карчмы паабапал дарогі,
наставіўшы супраць рагі, як варожыя рогі.
Па праву да замку належа старая карчміца,
а нову там замку на злосць збудаваўшы Сапліца.
У тэй, бы ў сваім гаспадарстве, райводзе [26] Гярвазы,
ў другой найвышэйшае месца займае Пратазы.

Та нова карчма то зусім не цікава з пагляду.
Старая ж была па-старому пастаўлена ладу,
што выдуман тырскімі [27] цеслямі ў даўнішніх лецех,
а после жыдамі разнесен усюды па свеце,
род архітэктуры, нязнаны чужым будаўнічым;
яго ж ад жыдоў мы дасталі й за свой ужо лічым.

Карчма гэна спераду лайба, а стылу святыня:
та спераду лайба — сапраўдная Ноева скрыня [28],
папросту ж стадола; не мае харошайназовы,



затое ж багата жывёлы: валы і каровы,
і коні, і козы; а птушак, дык цэлыя хмары,
ды шмат аваднёў, машары, паўзуноў хоць па пары.
А тыльная часць, як святыня, ды дзіўна змышлёна
і напамінае з пагляду той храм Саламона,
што першыя, ўпраўлены у будавальным мастацтве,
Гірама [29] майстры на Сіёне [30] паставілі ў брацтве.
Жыды і дагэтуль наследʼюць яго ў сваіх школах,
а школаў рысунак відацца у корчмах, стадолах.
З драніцаў іх дах і з саломы, спічасты [31], задзёрты,
пагнут, як каўпак той жыдоўскі падзёрты.
Са шчыту выходзяць баляскі й стаўпцы ў балюстрадзе,
успёртыя на дзераўляных калоначак радзе.
Калоначкі, для архітэктаў вялізнае дзіва,
трывалыя, хоць падгнілыя і стаўлены крыва,
бы ў вежы пізанскай, зусім не паводле мадэляў
тых грэцкіх, бо ўсе без падставаў і без капітэляў.
Над тымі калонкамі йдуць палукруглыя лукі,
таксама ўсё з дрэва, падобнасць гатыцкае штукі,
аздобы не штучным начыннем якім выраблены,
а ўмела і зручна цясельскім склютом высяканы,
крывыя, маўляў шабасовых [32] падсвечнікаў плечы,
канчаюцца галкамі, нечым падобным да рэчы,
якую жыды пры малітве на лоб накладаюць,
каторы па-своему цыцэс [33] яны называюць.
Ну, словам, здалёку карчма, пахіліўшысь, крывая,
падобна да жыда, ў мальбе што сабою ківае:
дах — шапка, страха — барада то калмата,
брудныя і дымныя сцены — то чорная шата,
а спераду цыцэс — узор тэй разьбы мастакоўскай.

У самай карчме ёсць падзел, як у школе жыдоўскай:
часціна, што поўна пакойчыкаў цесных, прадоўжных,
ў другой ваграмнястая заля; сталы пастаўляны
ля кожнай сцяны там даўгія, вузкія, драўляны,
а лаўкі, ніжэйшыя хоць, да сталоў так падобны,
як дзеці да бацькі.

На ўслончыках тых неаздобных
сядзелі сяляне, сялянкі і шляхта, та дробна,
кругом у радочак; аконам сядзеў жа асобна.
Па ранняй імшы у капліцы, была то нядзеля,
прыйшлі пагуляці і выпіць усе да Янкеля.

Янкель

Прад кожным шумела сівухаю поўная чарка,
і з бутляй сваей над усімі лятала шынкарка.
Ў сярэдзіне Янкель рандар [34] у даўгім, аж па пяты,
такім балахоне, на засцежкі срэбны запятым;
заткнуў за пояс свой шаўковы руку сабе важна,
другою сіву бараду усё гладзіў паважна;
кідаючы вокам наўкола, даваў ён загады,
вітаў прыхадзіўшых гасцей, затрымацца быў рады
пры іншых, а спорыўшых зараз гадзіці стараўся,
анно ж не служыў анікому, а так прахаджаўся.
Стары ужо Янкель, агульнае меў паважанне;
даўно ўжо карчму рандаваў, аніколі ж сяляне
ці шляхта з жальбой на яго не хадзілі да пана.
Дый скаржыць [35] за што? Меў напіткаў на выбар
дабрана,
лічыў асцярожна, ды толькі і без ашуканства,
вясёласці не бараніў, не цярпеў зато п'янства,
вялікі ахвотнік забаў: у яго і вяселле
спраўлялі, і хрэсьбіны; толькі, бывала, нядзеля,
ён кажа прыходзіць іграці вясковай музыцы,
у ей жа была і басэтля, й дуда, і скрыпіцы.

На музыцы знаўся, праслыў музыкальным талéнтам;
з цымбаламі, слаўным народу свайго інструментам,
хадзіў па дварох ён калісьці, дзівіў сваім граннем
і песнямі (ўдалы і моцны бо быў і спяваннем).
Хоць жыд, а даволі меў чыстую польскую мову
і надта ён песню чамусьці любіў нарадову,
прывозіў іх многа із кожнай за Нёман выправы,
ад Галіча тых каламыек [36], мазурак з Варшавы;
ці праўда, не ведаю, слых жа па ўсей вакаліцы
насіўся, што Янкель найперш прывёз з заграніцы
й пашырыў тады па усенькім тамтэйшым павеце
ту песеньку, слаўну сягоння па цэлым жа свеце,
каторую упершыню на зямельцы аўзонаў [37]
італьянцам зайгралі там польскія трубы лег'ёнаў [38].
Талент да пяяння ў Літве як найлепей аплаце,
здабудзе пашану ў людзей і праславе й збагаце;
дык Янкель зрабіў капіталы; сыт зыску [39] і славы.
Завесіў свае на сцяне гучнаструнны цымбалы;
асеўшы з дзяцьмі у карчме, так шынкарствам займаўся,
прычым, у суседнім мястэчку падрабінам стаўся;
заўсёды і ўсюды быў мілым гасцём і дамовым



дарадчыкам, знаўся бо добра на гандлі збажовым,
віцінным: карысна на вёсцы знаёмасць такая.
Ён славу к таму паляка дужа добрага мае.

То ж Янкель згадзіў калатню, нават часта крываву,
паміжы дзвюх корчмаў: абедзве узяў у дзяржаву [40],
і роўна яго шанавалі ва ўсей вакаліцы
Гарэшкаў староннікі й слугі старога Сапліцы.
Умеў толькі ён утрымаці павагу над грозным
Гарэшкаўскім Ключнікам і калатліўніцкім Возным;
прад Янкелем бо тамавалі старыя уразы [41],
Гярвазы рукою страшны́, языком жа Пратазы.

Гярвазага тут не было, бо пайшоў на аблаву;
не мог дапусціць, каб так важну й цяжкую выправу
адбыў бы Граф сам, малады, не знаток, хоць вучоны;
пайшоў таму з ім дзеля рады і для абароны.

Сягоння Гярвазага месца, што п о к у ц ь завецца [42],
найдальш ад парогу, й гасцём найважнейшым даецца,
паміжы дзвюх лаваў, ксяндзом барнадынам занята;
там Янкель яго пасадзіў. Відаць, аж занадта
таго Чарвяка шанаваў, бо як толькі пабача
убытак у шклянцы ягонай, ані не майнача [43],
а кажа ліпцовага мёду яму падліваці.
Йшчэ з моладу зналіся міжы сабою, чуваці,
ў краёх чужаземных. Не раз жа Чарвяк прабіраўся
ўначы да карчмы і там з жыдам тайма́ нараджаўся
аб справах паважных; казалі і так, што тавары
ксёндз слаў кантрабандай, ды гэта брахня або мары.
Чарвяк упаўголас, успёршысь на стол, распраўляе,
а шляхта яго акружыла, вушшу настаўляе
і хіле наса да ксяндзоўскай усё табакеры;
з таго ж пачастунку ўсе чыхалі, моў бы мажджэра [44].

«Ах, reverendissime [45],— чыхнуўшы, кажа Скалуба,—
вось гэта табака, што йдзе табе проста да чуба!
Як нос свой цягаю (тут нос ён пагладзіў даўгі),
такой жа не нюхаў (тут чыхнуў яшчэ раз-другі),
відаць, барнадынка, із Коўні хіба яна родам,
са слаўнага места на свеце табакай і мёдам,
быў там я гадоў так...» — Чарвяк перабіў: «На здароўе,
усенькім Вашэцям, мае вы браточкі-паноўе.

6*

А што да табакі, то, праўду сказаўшы, паходзе
з далейшай старонкі, чым думаў Скалуба дабродзей,
паходзе аж з Яснай Гары. Там ксяндзы паўлінове
яе вырабляюць у месце святым Чанстахове,
дзе цудамі столькімі слаўны абраз той, не новы,
святой багамацеры, польскай кароны крулёвы[46],
завуць жа яе і дагэтуль княгіняй Літоўскай!
Дагэтуль каронай валодае йшчэ каралеўскай,
Літоўскае ж княства цяперака сызма[47] забрала!»
«Няўжо з Чанстаховы? — уставіў тут Вільбік бывала,—
гадоў таму трыццаць і я прад цудоўнай маліўся.
Ці праўда, што ў месце цяпер жа француз разгасціўся,
касцёл разваліцьме і скарбец аграбіць без меры,
бо гэта усенька стаіць у «Літоўскім Кур'еры»?[48]
«Няпраўда,— Чарвяк адказаў,— не! бо пан найяснейшы
Цасар Напальён каталік, нават найпрыкладнейшы.
Сам папа памазаў яго, дык жывуць яны ў згодзе
й людзей навяртаюць да веры ў французскім народзе,
каторы крыху папсаваўся. Хаця з Чанстаховы
пайшло серабра і нямала на скарб нарадовы
для нашай айчызны, для Польшчы; сам бог гэтак кажа:
алтар для айчызны ў патрэбе свой скарб перакажа.
То ж гэта у Княстве Варшаўскім сто тысячаў будзе
ўжо польскага войска, а хутка мо' й болей прыбудзе,
а хто ж гэта войска аплаце? ці вы, літвіночкі?
Вы сыпеце грошы свае у маскоўскія бочкі».
«Бяруць яны гвалтам!» — тут Вільбік ускрыкнуў
ганорна.
«Аей, дабрадзею! — мужык адклікнуўся пакорна,
ксяндзу пакланіўшыся і паскрабаўшы чупрыну,—
як шляхце, паном, то бяда яшчэ праз палавіну,
а нас як на лыка дзяруць»... «Хам! — Скалуба
ускрыкнуў,—
дурны ты, табе гэта лепей, мужык, ты прывыкнуў,
каб дзёрлі цябе, як вугра, а вось нам,
д а б р а р о д н ы м,
вяльможным і да залатых да свабодаў прыродным[49]!
Ах, братцы! Як шляхціц даўней у сваей загародзе...
(«Так, так,— падхапілі усе тут,— раўня ваяводзе!»)
Сягоння ж пярэчаць шляхоцтва, йшчэ трэ' выпрабляці
паперы, шляхоцтва паперамі зноў даказаці».
«Вашэці яшчэ то нічога,— усклікнуў Юрага,—
бо з прадзедаў шчэ мужыкоў вы ушляхчана шляхта;



а я жа з князёў! І пытацца мяне пра патэнты[50]!
Хіба толькі богу ў памінах мае дакументы.
У лесе няхай жа маскаль папытае дубіны,
хто даў ей патэнт вырастаць над усенькі кусціны!»
«Эх, князь,— кажа Жагель,— пускаеш у вочы чмут
хітра,
то ж знойдзецца тут не адна хіба мітра[51]».
«А крыжык у гербіку вашым — алюзія[52] скрыта,—
дацяў тут Падгайскі,— што ў родзе ў вас быў
неафіта[53].
«Няпраўда,— Бірбаш запярэчыў,— з татарскіх жа
грапаў
і сам я, а маю крыжы, што над гербам Карабаў».
«А Порай,— ускрыкнуў Міцкевіч,— то герб жа
князёўскі
на золаце з мітрай, не раз аб ім піша Стрыйкоўскі[54]».

Узняўся шум, гоман з такое да спораў манеры.
Дык ксёндз барнадын прыбягаў да сваей табакеры,
прамоўцаў частуючы ў кола; шум зараз прыціхнуў,
бо кожны праз ветласць зажыў[55], разоў некалькі
чыхнуў.

Чарвяк, скарыстаўшы з пярэрвы, разводзіўся далей:
«Вялікія людзі ад гэтай табакі чыхалі!
Не ўверыце, можа, што з гэтае во табакеры
зажыў генерал пан Дамброўскі разы са чатыры?»
«Дамброўскі?» — усклікнулі. «Так яно, ён, генерал;
ў абозе я быў, як ад немцаў ён Гданск адбіраў[56];
меў нешта пісаць; баючыся здрамацца, ускокнуў,
зажыў да і чыхнуў, тады па плячы мяне лопнуў
і кажа: «Вось так, даражэнькі ксяндзок, барнадыне,
пабачымся мы у Літве, можа й году не міне;
скажы літвінам, каб мяне з чанстахоўскай табакай
чакалі, бо я не ўжываю ніколі інакай».
Ксяндзоўска гаворка збудзіла такое здзіўленне
і радасць такую, што гучнае ўсё зграмаджэнне
маўчала хвіліну, пасля ж паўтараліся словы
прыцішаны: «З Польшчы табака? з самой Чанстаховы?
Дамброўскі? з Італьі да Польскі?..» Урэшце, ўжо разам
за думкаю думка, выра́з[57] сам зліваўся з выразам,
ўсе аднагалосна, казаў бы на вокліч баёвы:
«Дамброўскага!» — крыкнулі згодна без жаднае змовы
й давай абымацца: мужык да з татарскім тым грапам,

во Мітра з Крыжом, а там Порай з Грыфом і
Карабам [58];
забыліся гэтак усенька, а нат барнадына,
й крычэлі, сяваючы: «Мёду, гарэліцы, віна!»

І слухаў ксёндз доўга, хапаў гэтай песенькі гукі,
урэшце, хацеў перабіць, табакерку у рукі
узяўшы, мелодыю чыханнем зблутаць стараўся,
і, перш чым наладзілі, гэтак прамовіць спяшаўся:
«Табачку маю спадабалі, Паны Дабрадзеі,
пабачце ж якія ў самой табакерцы падзеі!»
І тут, выціраючы хусткай забруджана донца,
паказваў малёвану армію, як праз ваконца,
маленьку, як рой той мушыны; ў сяродку ваяка
вялікі, як жук, на кані, правадыр, забіяка;
прышпорыў каня, бы у неба яго уздымае,
на вожках [59] рука, а другую пры носе трымае.
«Прыгледзьцеся,— кажа Чарвяк,— гэтай грознай
паставе;
згадайце, чыя?» — Прыглядаліся ўсе і цікаве —
вялікі герой, імператар, ды не абыякі,
а толькі не рускі: цары не ўжываюць табакі...
«Вялікі герой,— кажа Цыдзік,— а то ж у капоце [60]?
Я думаў, што людзі вялікія ходзяць у злоце,
бо во ў маскалёў генерал у іх кожны, Маспане,
ад золата свеце, казаў бы шчупак у шафране».
«Га,— вырваўся Рымша,— замоладу й я калісь бачыў
Касцюшку, народу начальніка: хто ж бы майначыў:
вялікі герой, а хадзіў у кракоўскай сукмане [61],
ці то у чамарцы».— «Ў якой там чамарцы, Маспане? —
супорыўся Вільбік,— завецца яна тарататка [62]».
«Ды гэная з фрэнзлямі [63], гэта ж цалюсенька гладка»,—
Міцкевіч ускрыкнуў. Затым пачыналіся сваркі
аб выглядах розных тае тарататкі й чамаркі.

Чарвяк, баючыся, што рвуцца так гутаркі ніці,
давай к аднаму усё пункту зноў лоўка звадзіці,
к сваей табакерцы; усіх частаваў, дык чыха́лі,
жадалі здароўя ўзаемна, а ён казаў далей:
«Дык, бачце, калі Напальён у бітве зажывае
вось так раз за разам, то знак, што бітву выгрывае.
Прыкладам, пад Аўстэрліц: тут во французы стаялі
з гарматамі, цьмою ж на іх маскалі наляталі,



маўчаў і глядзеў імператар. Французы што стрэляць,
то полк маскалёў, як траву на пакосе, пасцеляць;
ляцелі так полк за палком і злятаті з кульбакі,
што зваліцца полк, Напальён зажывае табакі.
Ў канцы Аляксандра з сваім Канстантынам брацішкам
каханым да йшчэ з імперат'рам германскім Францішкам
у ногі ды з поля, бітву́ пакіда́ўшы, ўцякалі, як мальцы.
Зірнуў Напальён, усміхнуўся й абтрос сабе пальцы.
Дык вось, калі хто ў імператарскім войску з вас будзе,
няхай і пра мой немахлярскі расказ не забудзе».

«Ах,—крыкнуў Скалуба,—а мой жа ксянжуля квастару!
Калі ж тое будзе? То ж то колькі свят ў каляндару,
на кожнае свята варожаць француза чакаці;
глядзём, аж баляць ужо вочы далей выглядаці,
маскаль жа, як ціснуў, так ціснє з усенькай нас мочы,
пакуль тое сонца узойдзе, раса выесць вочы».

«Эх,— кажа квастар,— гэта бабская рэч, наракаці,
жыдоўская ж рэч — гэта рукі злажыўшы чакаці,
пакуль хто дзвярэй не адчыне, ў карчму не загляне.
Пабіць маскалёў з Напальёнам не штука, Маспане.
Ўжо швабам скуру тры разы аддубасіў ён скора,
брыдкое прусацтва стаптаў і ангельцаў за мора
вунь выкінуў, пэўне цяпер маскалём жа дагодзе;
ды што яно з гэтага будзе, ці знаеш, Дабродзей?
Літоўская шляхта на коней пасядзе і грозна
ухопе за шаблі тады, калі будзе ўжо позна.
Пабіўшы ўсіх сам, Напальён на прамовы даўгія
адкажа: без вас абыдуся, а вы хто такія?
Дык мала чакаць на гасця ды яго запрасіці,
йшчэ трэба і чэлядзь сабраць і сталы паўнасіці,
ачысціць трэ' дом прад бяседай і вымесці смецце,
ачысціць трэ' дом, паўтараю: ачысціць дом, дзеці!»

Замоўкла карчма, а затым недацямнасць чутнее:
«Ачысціць трэ' дом? Ну, а як гэта ксёндз разумее?
Мы, ведама, зробім усенька, на ўсё мы гатовы,
ды толькі казаў бы ясней, а то цёмныя словы...»

Квастар паглядзеў у вакно, гавару́ перарваўшы,
аж высунуў нат галаву, штосьцікава спазнаўшы,
падняўся і кажа: «Сягоння ўжо часу не маем,

пасля аб усім мы шырэй між сабой пагукаем;
назаўтра па справах я буду ў паветавым месце
й да вас гэтаксама з дарогі заеду па квэсце».

Тады аканом: «На начлег хай ксянжуля паспее
да нас, будзе рады Харунжы з ксяндза Дабрадзея;
не да́рма гавора ў Літве і старое прыслоўе:
шчаслівы такі чалавек, як квастар ў Нягрымове!»
«І к нам,— адазваўся Зубкоўскі,— заедзь, калі ласка;
а знойдзецца і палатна там, і масліца фаска [64],
баран ці кароўка; бо сказана й гэтае слова:
шчасліў чалавеча, папаўшы, як ксёндз да Зубкова».
«Й да нас»,— адазваўся Скалуба. «Да нас,— Тэраевіч,—
квастар аніколі галодны не выйшаў з Пуцэвіч».
Так просьбамі і абяцанымі шчодра дарамі
ксяндза правадзілі, а ён ужо быў за дзвярамі.

Ўжо перш праз вакно ён пабачыўшы быў Тадэвуша,
ляцеўшага трахтам наўза́вады [65] без капялюша:
схіліў галаву сваю, з тварам захмураным, бледным,
прышпорыўшы, пугаю сек па кані сваім бедным.
Пабачыўшы гэта, квастар аж трывожна змяшаўся [66]
і ўслед за Тадэвушам шпаркай хадой паспяшаўся
да пушчы вялізнай, катора, як кінуці вокам,
наўскрай гарызонту чарнелася дужа шырока.

Хто ж зведаў бяздонны краіны літоўскіх тых пушчаў [67],
да самай сярэдзіны, аж да ядра іхных гушчаў?
Рыбак ледзь пры беразе зведаць дно морскае можа;
лавец усё кружа ля пропасных пушчаў ля ложа,
паверху ледзь знае іх выгляд таёмны, іх ліцы,
чужыя ж яму іх унутраны сэрца тайніцы.
Весць толькі ці казка нам кажа пра іхныя чары.
Папробуй, прайдзі праз бары і падшыты гушчары,
глыбей пападзеш там на вал — з пнёў, калодаў,
карэнняў,
дрыгвою баронены, тысячай розных струменняў
і сеццю заросшага зелля, мурашкаў капцамі
ды гнёздамі восваў, шаршнёў і вужакаў клубкамі.
Як змог бы над людскай адвагай такія запоры,
спаткайш небяспеку вялікшу, чым далей, тым горай:
чакаюць цябе там, бы воўчы далы са сластамі,
вазерцы, напоўпазарослыя травамі, мхамі,



глыбокія так, што іх дна не дазналіся людзі
(а, праўдападобна, сам чорт там, засеўшыся, будзе).
Вада іх блішчыцца плямістай іржою крывавай,
усцяж ад нутра так дыміць благавонню плюгавай,
што дрэвы наўкола патрацілі лісце і коры;
курдуплыя [68], лысыя, ўсе з чарваточынай, хворы,
схіліўшы галіны, імхом сваім калтунаваты,
камлі свае горбячы, грыбам брыдкім барадаты,—
сядзяць наўкола вады, чараўніцаў бы купа,
што грэюцца каля катла, дзе заваруюць трупа.
За тымі азерцамі далей не толькі ўжо крокам,
а нават дармо запускацца ў разведку і вокам,
бо тамака ймглістым закрыта усё абалокам,
што вечна з дрыгучай апарыны ройста [69] усходзе.
За тэю ж імглою (такая гаворка ў народзе)
ўраджайная, дужа прыгожая йдзе вакаліца,
галоўнае княства звяроў і раслінаў сталіца [70].
Ў ей зложана дрэваў і зелля ўсялякага семя,
з якога на свет разрастаецца кожнае племя;
у ей, як у Ноевай скрыні, з усякага роду
хаваецца пара прынамсі адна для расплоду.
Чувацца, што маюць двары у сярэдзіне гушчаў
і тур стары й зубр і вядзмедзь — імператары пушчаў.
Ля іх жа, на дрэвах, там рысь загнязджаецца быстры
й абжырлівы там расамах [71], як чуйны́я міністры;
а да́лей, як бы падуладны васальны паняты,
жывуць там дзікі, і ваўкі, і ласі расахаты;
а над галавой сакалы і арлы там дзікія,
жывучыя з панскіх сталоў, як нахлебнікі тыя.
Галоўныя й патрыярхальныя гэтыя пары,
для свету нявідныя, скрытыя ў самым гушчары,
дзяцей сваіх шлюць на сяліну за лесу граніцы,
а самі ўжываюць свабоднага часу ў сталіцы;
не гінуць ніколі, аружжам ні сечным, ні пальным,
а толькі старыя ўміраюць канцом натуральным.
І могілкі маюць свае, дзе, ўжо блізкія смерці,
кладуць сваё перайка птушкі, звяры свае шэрсці.
Вядзмедзь, калі, зубы ўжо з'еўшы, не пражувае,
алень, як, згрыбеўшы, старэнькі, ледзь ногі сувае,
і заяц, калі яму кроў ужо ў жылах закрэпне,
крумкач, калі ўжо пасівее, сакол, як аслепне,
арол, як старую дзюбу́ яму ў лук гэтак скрыве,
што болей адкрыці не можа і горла не жыве [72],—

на могілкі йдуць; нават меншы той звер, калі з ранай
ці хворы, стараецца быць пры бацькох пахаваны.
Таму у даступных мясцох, там, дзе людзі йшчэ госці,
ніколі не знойдуцца мёртвы звярыныя косці [73].
Чувацца, што там, у сталіцы паміжы звярамі
звычаі нязгоршы, ўпраўляюць сабою бо самі;
і цывілізац'яй людскою йшчэ не папсаваны [74],
не знаюць праў собства, каторым наш век збусаваны [75],
ані паядынкаў, ніякай ваеннае штукі.
Бацькі як у раі жылі, так жывуць і унукі,
дзікія і свойскія разам у міласці, згодзе,
адзін не бадзе, не кусае другога, не шкодзе.
А нават калі б чалавек там папаў, хоць нязбройны,
то міжы звяроў пасярэдзіне ішоў бы спакойна;
яны ж на яго спаглядалі б узрокам здзіўлення,
якім у апошнім у шостым дні свету тварэння
бацькі іхны першыя, ў садзе калі знахадзіліс,
глядзеліся на Адама, пакуль з ім не сварыліс.
На шчасце, аднак, чалавек там не зблудзе сягоння,
бо Труд, і Трывога, і Смерць яму доступ бароне.

І толькі часамі ў пагоні сабакі дзе гойстры,
ўзляцеўшы нябачна на мхі, на яругі і ройсты,
іх відам унутранай жудасці страшна пранятыя,
із піскам лятуць, уцякаючы, як варыяты,
і доўга йшчэ, лашчаны после рукой свайго пана,
ад страху дрыжаць пры ягоных нагах нестрымана.
Сталічныя пушч тайнікі, што людзём і нязнаны,
у мове лаўцоў яны «М а т а ч н і к і» празываны.

Дурны ты, вядзмедзь, што у матачніку не застаўся,
пан Войскі ніколі б тады пра цябе не дазнаўся.
Ці то пшчальніку цябе звабіў прынадлівы запах,
ці смак да аўса, так што аж засвярбела у лапах:
ты вышаў на пушчы узбераг, дзе лес прарадзелы,
і выследзіў зараз цябе там ляснічы умелы,
і зараз знайшліся абсочнікі, хітрыя шпегі,
пазнаць, дзе папасуеш ты і дзе маеш начлегі.
Цяперака Войскі ад пушчы ужо расстаўляе
аблаву й табе адступленне назад замыкае.

Тадэвуш даведаўся, што ужо часу нямала
прайшло, як сабачая зграя у пушчы дапала.



Усё ціха.— Дармо і лаўцы настарожуюць вушы;
як найцікавейшае мовы, так слухае ў глушы
там кожны маўчання, стаіць, непарушна чакае:
да іх толькі музыка пушчы здалёку іграе.
Сабакі нурцуюць [76] па пушчы, нурцы бы пад морам;
стральцы ж адвярнулі да лесу двururкі, з упорам
на Войскага гледзячы: ён зямлю вухам пытае,
прынікшы; як з лекара твару ўзрок хатніх чытае
прысуд для жыцця або скону ім мілай асобы,
лаўцы так, уверaны ў Войскага штукі й спасобы,
тапілі у ім і пагляды надзеі й трывогі.
«Ё! ё!» — сказаў палусловам, сарваўся на ногі.
Ён чуў! а яны яшчэ слухалі — чуюць урэсце:
адзін, после два, после дваццаць сабакаў, бы дзвесце,
і разам усенька сабакаў рассыпана зграя,
успаўшы на след, верашчыць, заліваецца, грае,
йдучы уздагон. Гэта ўжо не павольнае гранне,
калі перад гончымі заяц ці ліс або ланя,
а зык адрываны, кароткі, заелы; а з далі
чуваць, не на след на далёкі сабакі напалі,
а гоняць на вока — і раптам замоўкла пагоня,
дапалі... Аж гвалт, скавытанне: сябе то бароне
вядзмедзь і калеча сабакаў; між яхання-грання
штораз то чутнейшы даносяцца енкі канання.

Стаялі стральцы і трымалі ўжо стрэльбы гатовы,
як лук кожны выпяты, ціснуцца ў лес іх галовы.
Даўжэй не ўчакаць! Са становішча ўжо уцякае
у пушчу адзін за другім, кожны першым жадае
спаткацца са зверам; дармо там пан Войскі сварыўся,
дармо па становішчах лоўных ён конна насіўся
й крычэў, што, ці хто мужыком, панічом, ён не гляне:
як рушыцца з месца, смычом у хрыбет жа дастане.
Ды рады на то не было!Паляўнічыя процi наказу
у лес паляцелі. Тры стрэльбы во гукнулі зразу
й пашла кананада усцяж, аж, грамчэйшы за стрэлы,
вядзмедзь так зароў, што напоўніўся рэхам лес цэлы.
Раво гэта болю і шалу, адчаю, загубы!
За ім жа сабакі, стральцы і нацкоўшчыкаў трубы
грымелі із пушчы. Стральцы — тыя ў лес паляцелі,
другія ўжо куркі адводзяць, а ўсе аж радзелі [77].
Адзін толькі Войскі крычыць аб пахібе з жальбою.
Стральцы і аблаўнікі йшлі так аднэй стараною,

звяру нацянькі, міжы борам ускрайным і пушчай,
вядзмедзь жа, людской і сабачай напуджаны гушчай,
звярнуўся назад у мясцы, што слабей пільнаваны,
да поля, адкуль пасхадзілі стральцы расстаўляны,
і дзе засталіся са многіх лаўцоў адно толькі
пан Войскі, Тадэвуш, пан Граф і аблаўнікаў колькі.

Тут лес быў радзейшы. Чуваць з глыбіні рык, трэск
лому.
Аж з гушчы, як з хмур, вылятае вядзьмедзь відам грому;
сабакі ўжо рвуць, абсядаюць; падняўся на ногі
на заднія і варагоў разганяе з дарогі,
раве, а пярэднімі лапамі дрэва карэнні,
то пні абасмалены, то паўрастаўшы каменні
і рве ўсё, і вале ў сабак, у людзей; аж во, дрэва
зламаўшы, махаў тым камлішчам направа, налева
і грымнуўся прост' на апошнюю старону аблавы,
на Графа й Тадэя. Абодва без страху, бо бравы,
на месцы стаяць, толькі выткнулі стрэльбаў тых руры
на звера, як два грамадводнікі ў цёмныя хмуры;
аж запар, абодва за раз, пацягнулі за куркі
(няўмекі!), і дзве загрымелі адразу двururкі:
і хібілі! Скочыў вядзмедзь; дык яны ухапілі
уткнёны рагач і адзін удваіх тармасілі
ў чатыры рукі. Аж у момант над імі ўжо ляпа
вялікая ззяе клыкамі, чырвоная, й лапа
ужо над лабамі у іх, з кіпцюрамі, бальшушча:
збялелі, адскочылі й там, дзе радзейшая пушча,
ўцякалі. А звер жа за імі ўздагонку рвануўся
чапіць кіпцюрамі, ды хібіў; шчэ раз замахнуўся
ён чорнаю лапай на Графа чупру палавую
і здзёр бы з мазгоў чарапы, як бы шапку якую,
як Рэент з Асэсарам з розных бакоў падляталі,
Гярвазы жа спераду, крокаў на сотню, не далей,
а з ім барнадын, хоць без стрэльбы,— і ўсе адным разам
тры стрэлы далі, бытта як за камандным наказам.
Вядзьмедзь угару скакануў, моў бы кот прад хартамі,
ды грымнуўся ўдол галавой і млынком верх нагамі
так перакуліўся, што цела крывавым цяжарам
паў Графу пад ногі й зваліў на зямлю яго тварам.
Йшчэ роў і падняцца хацеў, як адразу населі
раз'юшана Страпчыха й Спраўнік: прымелі бы, з'елі.



Схапіў тады Войскі к тасьме прывязаты
свой туравы рог, пакручасты, даўгі, рабаваты,
як боа-вужака; аберуч да губаў прыціснуў,
ўздуў шчокі, як бомбы, крывёй у вачох аж заблісну,
прыплюшчыў павекі, ўцягнуў у нутро так з паўбруха
і выслаў з яго тады к лёгкім запас увесь духа —
й заграў. Як віхор, яго рог, надзіманы бы мехам,
нясе тую музыку ў пушчу, падвойвае рэхам.
Замоўклі нацкоўшчыкі, сталі стральцы з дзівавання
ад сілы, дзіўной чысціні і гармоніі грання.
Стары ўсё мастацтва, каторым праслыў прад гадамі,
развіў яшчэ раз прад лавецкімі ў лесе вушамі.
Напоўніў і так ажывіў і бары, і дубровы,
бы псярню у іх запусціў, распачаўшы ловы.
Была ў тым іграннi лавецкай гістор'і мінутка:
адразу тон гучны, бадзёры, то знача: пабудка;
затым ужо енкі і яхат: сабачае гранне;
часамі цвярдзейшы дзе тон, як пярун: то стралянне.

Спыніўся, а рог шчэ трымае; усім выдавала,
што Войскі усё яшчэ грае, а рэха то грала.

Зноў дунуў. Казаў бы, той рог сваю форму змяняе
і ў Войскага вуснах таўшчэе, цянее, ўпадае
у голас звяроў: то не рог во, а воўчая шыя
працяглівa, доўга і так праразліва ўсё вые;
ізноў жа раўнуў, бы вядзмеджа расставіўшы горла,
а после бы зубрава рыканне вецер раздзёрла.

Спыніўся, а рог свой трымае; усім выдавала,
што Войскі усё яшчэ грае, а рэха то грала.
Заслухаўшы твор той цудоўны раговае штукі,
дубам паўтаралі дубы яго, букам жа букі.

Зноў дуе: казаў бы, у розе тым сотныя рогі,
чуваць там зыкі цкавання, і гневу, й трывогі
людзей і звяроў. Аж во Войскі ўгару падымае
свой рог і ўжо гімнам трыумфу у хмуры ўдарае.

Спыніўся, а рог свой трымае; усім выдавала,
што Войскі усё яшчэ грае, а рэха то грала.
І толькі рагоў, колькі дрэваў знайшлося у бору,
адныя другім неслі песню, як з хору да хору.

І музыка йшла ўсё штораз то шырэйша, далейша,
штораз дасканальша, штораз то чысцейша, цішэйша,
аж недзе занікла далёка, на небным парогу.

Тут Войскі злажыў свае рукі, адняўшы ад рогу;
а рог той апаў і, на поясе звісшы раменным,
хістаўся. Пан Войскі, із тварам набухшым, праменным,
з вачыма паднятымі, ўсё йшчэ стаяў, як натхнёны,
апошнія ловячы вухам знікаўшыя тоны.
Тым часам ураз загрымела там тысяча клікаў,
прыветаў і воплескаў, тысяча віватных крыкаў.

Памалу ўсе сціхлі і вочы звярнулі на свежы
йшчэ труп, на вялізны чарнеючы тулаў вядзмеджы.
Ляжаў ён, крывёю апырсканы, куляй прашыты,
грудзьмі у траву у густую ублутаны, ўбіты;
расставіўшы шырака накрыж пярэднія лапы,
йшчэ дыхаў, цурком выліваючы кроў цераз храпы,
хоць вочы адкрые, аднак галавою не рушыў.
Яго Падкаморага псы ўжо трымаюць пад вушы,
адлева Страпчыха, а справа Спраўнік завісшы
высмоктвалі чорную кроў, аж да горла дагрызшы.
Таму казаў Войскі жалезную палку ўлажыці
між зубы сабакам і гэтак ім ляпы раскрыці.
Прыкладамі перавярнулі звярынае цела
наўзнач, і зноў тройчы віват аж пад неба ляцела.

«А што! — гарачыцца Асэсар і стрэльбай махае,—
а што? мая стрэльбачка? Брава ей, кожны прызнае!
А што? мая стрэльбачка? Здэцца, маленька птушынка [78],
а як папісалася [79]! Гэта ж ёй не навінка,
не пусце на вецер набою ні разу намарна,
ад князя Сангушкі на памятку дана нядарма!»
І тутка паказываў стрэльбу харошай работы,
хоць, праўда, маленьку, й пачаў вылічаць яе «цноты».
«Я бег,— перабіў яму Рэент, абцёршы аблічча,—
услед за зярам, ажно чую, пан Войскі нас кліча:
на месцы стаі! — Ды куды там? Вядзмедзь ужо вале
у поле, як заяц, штораз усё далей і далей,
аж духу ўжо мне не хапала дагнаць, ні надзеі.
Аж глясь! во направа ён садзе, якраз, дзе радзее...
Дык я і узяў тут на вока, пастой жа, маруха!
падумаў,— і баста: ляжыць во на месцы без духа!



О, лоўкая стрэльба, праўдзівая Сагалясоўка,
і з надпісам: Сагаляс Лёндон а Балабаноўка [80]».
(Там слаўны жыў слёсар-паляк, што хоць польскія робіў
ён стрэльбы, аднак па-ангельску іх хараша здобіў.)

«Дык вось яно! — пырснуў Асэсар,— бадай жа
вядзмедзь це!
Забіў яго Пан? Але годзе, Паночку, не брэдзьце!»
«Чакайце,— адказуе Рэент,— не следчая справа,
Паночку; ўсе мне пасведчаць, бо гэта ж аблава».

І так калатня між усіх пачалася заўзята,
адны за Асэсара, іншы за Рэента надта.
Гярваза усе і запомнілі [81], бо як ляцелі
з бакоў, то на сцэну ад пераду ўвагі не мелі.
А Войскі азваўся: «Цяперака ёсць пасварыцца
за што ўжо, Паночкі, бо не шарак, не дурніца,
вядзмедзь; за такога не жаль пашукаць і адвэту [82]
ці то шарпантынай [83] сабе або нат з пісталету.
А трудна ваш спор пагадзіць, дык даўнейшым звычаем
мы на паядынак між вамі цяпер дазваляем.
Я помню, часоў за маіх то, жыло двух суседаў,
абодва пасцівыя людзі, шляхта з прапрадзедаў,
жылі па абодвух бакох над ракою Вілейкай [84],
адзін называўся Дамейкай, другі жа Давейкай [85].
Ну, раз да вядзмедзіцы стрэлілі разам, няўважна,
каторы забіў — не пазнаць; калаціліся страшна
й страляцца ужо прысягалі праз вядзмежую скуру:
ды так сапраўды па-шляхоцку, што рура у руру.
І шмат нарабіў тады той паядынак галасу,
аб ім нават песні пяяліся онага часу.
Я быў секундантам. Падзеі усе да канчатку
цяпер раскажу, распачаўшы гістор'ю з пачатку...»

Тым часам Гярвазы увесь гэны спор улагодзіў.
З увагаю ён ведзмядзя наўкола абходзіў;
дастаў свой тасак і разрэзаў ім ляпу надвое,
ў патыліцы звера ў мазгох, паразрэзаўшы слоі,
знайшоў у ім кулю і выняў, абчысціў палою,
да стрэльбы узяў прылажыў і прымерыў к набою;
кладзе затым на далоні, падымаючы, гляне
і кажа: «А куля ж не з Вашых то стрэльбаў, Маспане!
з Гарэшкаўскай вышла яна аднарукі каханай,

(падняў тут старую, з асадай, шнурком падвязанай),
не я ж, аднак, выстраліў. Трэба на гэткае дзела
й адвагі; успомніць аж страх, уваччу аж цямнела!
Абодва ка мне панічы уцякалі што сілы,
вядзмедзь жа туж-туж і ужо замахнуўшыся стылу
над Графам, апошнім з Гарэшкаў, хаця й па кудзелі.
А Езус-Марыя! я крыкнуў, і, знаць, захацелі
анёлы паслаць мне на помач ксяндза барнадына.
Ён сораму ўсім нам задаў; але ж дзельны[86] ксянжына!
Я к цынглю[87] баяўся даткнуцца, мне рукі дрыжэлі,
дык ён тады, вырваўшы стрэльбу, прыцэліўся, стрэліў.
Між дзвюх так галоў стралянуць! на сто крокаў! не хібіць!
ў сярэдзіну ляпы папасці! і зубы так выбіць!
Я доўга жыву, а спаткаў у жыцці сваім цэлым
ўсяго аднаго, што зраўняўся бы з гэтакім стрэлам.
Той, слаўны калісьці са столькіх сваіх паядынкаў[88],
што коркі жанчынам выстрэліваў метна з патынкаў[89],
латруга з латругаў той слаўны па ўсенечкім краю,
той Яцка, вусач — яго прозвішча не называю;
а толькі яму ўжо не час вядзмядзёў даязджаці,
бо трэба купацца ў смале і смалой папіваці.
Ну, слава ксяндзу! ўратаваў двом людзём іхна жыцце
— а можа, і тром; бо, Гярвазы не будзе хваліцца,
апошне патомства з Гарэшкаў[90] крыві каб прапала
у ляпе звяра, то й мяне ўжо на свеце б не стала,
вядзмедзь і мае ўжо старыя пагрыз бы там косці.
Дык вып'ем, паны, за здароўе ксяндза Ягамосці».

Дармо барнадына шукалі. А ведаюць толькі,
што, стрэліўшы, ён паказаўся на момантаў колькі,
падскочыў да Графа й Тадэя, зірнуў, што здаровы,
што цэлыя маюць абодва і рэбры й галовы,
да неба ўзняў вочы й, крыху памаліўшыся ціха,
даў ходу у поле, казаў бы, ад нейкага ліха.

Тым часам на лоўж[91] накідалі, па Войскага сказу,
і хворасту, й верасу, й сохлых галінаў; адразу
з вагню вырастае во шэрая хвоіна дыму
й, падняўшыся ўверх, расшыраецца ў від бальдахіму.
Над полымем пікі складаюцца складна ў казельцы,
на гротах[92] завешуюць спрытна брухасты кацельцы.



Падносяць з вазоў і капусту, й муку, і пячэнне[93],
і хлеб.

А Суддзя адмыкае ўжо скрынку з начыннем.
Радамі там пляшак стырчэліся белы галовы;
бярэ найвялікшую, куфаль такі крышталовы,
(што быў дараваны яму ад ксяндза Чарвяка).
То гданская водка, прамілая для паляка́:
«За Гданск! хай жыве! — пан Суддзя, падымаючы пляшку,
ускрыкнуў,— калісьці быў наш, дык ізноў будзе нашы!»
І ліў серабрысты ліквор[94] той чаргой, аж на концы
пайшло ўжо і золата капаць, блішчэцца на сонцы[95].

У кацельцах тушылі бігос. Але выказаць трудна
дзіўны яго колер і смак, і як пахне ён цудна;
бо слоў толькі гукі пачуе і рыфмаў змянянне,
а іхняга зместу мяшчанскі трыбух не уцяме.
Цаніць каб належна літоўскія песні і стравы,
здароўе трэ' мець, жыць на вёсцы й вяртацца з аблавы.

А й так, без прыправаў, бігос то важнецкая страва:
дабраць усё й добра згатовіць — нялёгкая справа.
Бярэцца да гэтага сечана кісла капуста,
сама, як той кажа, у рот яна лезе, як клуста;
закрыта ў катле, яна ў вогкім[96] нутры абымае
найлепшага мяса кускі, да сябе прытуляе;
а пражыцца так, каб агонь з яе выціснуў клёку
найболей, аж пырснецца варам з начыння ад соку
і ўкола паветра прасыце сваім араматам.
Бігос во гатовы. Стральцы ўсе з трыразным віватам,
азброены ў лыжкі, бягуць і бадуць у начынне.
Грыміць медзь, дым вале, бігос, як камфора, так гіне;
во знік і прапаў, толькі з горлішчаў чорных саганаў
шчэ пара дыміць, бы у кратары згаслых вулканаў.

Калі ж як ма' быць папілі і даволі паелі,
на воз ведзмядзя улажылі й на коней паселі,
ўсе радыя і гаваркія, Асэсара кроме
і Рэента; гэтыя злей, чым учора у доме
заспорылі; гэты за добрасць сваей Сангушкоўкі,
а той жа сваей балабанаўскай Сагалясоўкі.
Пан Граф із Тадэвушам тож невясёлыя былі,

7. Зак. 19

ім сорам, што хібілі і прад зверам адступілі.
Бо так на Літве, калі выпусціш звера з аблавы,
то доўга пасля папрацуй, каб пазбыцца няславы.

Даказываў Граф, што ён першы за піку схапіўся,
Тадэй перашкодзіў яму, што дармо учапіўся.
Тадэвуш даводзіў, што ён, як за Графа сільнейшы
і з пікай цяжкою да гэтакай справы зручнейшы,
хацеў яго вырушыць: едучы між чарадою,
у гомане так прымаўляліся міжы сабою.

У сярэдзіне ехаў сам Войскі. Старык ганаровы,
а, выпіўшы, быў гаваркі і вясёлы, бо ўловы
ўдаліся. Хацеў калатніцкіх [97] да згоды прывесці,
канчаў пра Дамейку й Давейку свае апавесці:
«Асэсар, калі я хацеў, каб вы кончылі звадкі
свае паядынкам, не думай, што я такі падкі
на кроў на людскую; крый божа! Хацеў вас забавіць,
хацеў вам камедыю, жарт, проста кажучы, справіць
ці узнавіць, бо выдумаў штуку ў часы я даўныя,
гадоў больш за сорак. Вы людзі яшчэ маладыя,
не помніце, ну, а калісьці ўся шляхта, бывала,
ад пушчы і аж да палескіх лясоў паўтарала.

Давейкі й Дамейкі усе тыя спрэчкі, няўзгоды
ішлі ад малой, на пагляд, ды дзіўной недагоды,
з падобных бо прозвішчаў. Скажам, у час сайміковы
бухтораць Давейкі прыяцелі шляхце галовы;
сказаў во да шляхціца нехта: дай крэску [98] Давейцы,
а той, не дачуўшы як трэба, даў крэску Дамейцы.
Вось раз прапіваў за здароўе маршалак Рупейка:
віват, пан Давейка! другія ж крычалі: Дамейка!
А хто пасярэдзіне сеў, той не трапіў да ладу,
тым болей у мове няяснай абедняга складу.

А раз было горай. Якісьці-то шляхціц п'ян-п'яны
пабіўся у Вільні на шаблі з Дамейкай; дзве раны
дастаўшы, вяртаўся пасля ужо з Вільні дадому,
і трэба ж! з Давейкаю з'ехаўся каля парому.
Плылі на адным і тым самым пароме Вілейкай;
пытае суседа: а хто ён? той кажа: Давейка —
хапае рапір, не чакаючы, той з-пад кірэйкі [99]:
чах, чах, за Дамейку адсек ужо вусы Давейкі.



Урэшце, як накідзь [100], з умыснага бытта старання,
а выпала раз ім падчас аднаго палявання,
што блізка стаялі абодва там аднафамільцы
і стрэлілі разам абодва к адной ведзмядзіцы.
І праўда, што после іх стрэлу упала без духу,
ды й перш ужо куляў з дзесятак насіла у бруху;
а стрэльбаў з калібрам адным там знайшлося нямала,
згадай жа, чыя гэта куля смяротна папала!

Тады яны й крыкнулі: «Годзе, так далей не быці!
Ці бог нас ці чорт так злучыў, але трэ разлучыці:
двух нас, як двух сонцаў, хіба ж то занадта на свеце»,
— дык за шарпантынкі і зразу тут сталі на мэце.
Абодва паважныя людзі; што шляхта іх годзе,
то больш запальчыва адзін на другога находзе.
Змянілі аружжа, ад шабляў ды на пісталеты;
во сталі; крычым, што занадта прыблізілі мэты;
яны, як на злосць, прысяглі праз вядзмеджую скуру
страляцца, ну — пэўная смерць, блізка рура у руру.
Абодва стралялі нахвал [101].— «Секундуй нам, Грачэха!»
«Ну, згода, кажу, няхай дол вам капае ўжо клеха [102],
не можа ж канчацца нічым такі спор ваяўнічы;
ды біцеся ладам шляхецкім, не нейкім разнічым [103]:
ўжо годзе збліжацца да мэты, я бачу, вы зухі;
страляцца вы хочаце, рукі упёршы у брухі?
А я не пазволю. Ну, згода ўжо, што на пісталеты,
ды толькі страляцца ні з дальшай, ні з блізшае мэты,
як так — праз вядзмеджу скуру. Я сваімі рукамі,
бо я ж секундант, ведзмядзя расцягну міжы вамі
і сам вас пастаўлю. Тут Ваша во з гэтага боку
на мордзе, другі ж на хвасце і бліжэй ані кроку».
Ну, згода! час? месца? — Назаўтра, карчма, кажу, Уша.
Раз'ехалісь. Я ж тады скоранька да Віргільюша» [104].

Тут Войскаму крыкам прарвалі: «Выжга!» Туж з-пад коней
шарак шмыгануў; во Куртач, во Сакол яго гоне.
Хартоў узялі, ў павароце бо часта здарайца,
што можна і лёгка на полі натрапіць на зайца;
сабакі йшлі вольна пры конях; як зайца ўглядзелі,
пярвей, чым стральцы пацкавалі, за ім паляцелі.
Асэсар і Рэент хацелі іх конна здагнаці;
аж Войскі ім крыкнуў: «Пастойце! глядзець і чакаці!

Нікому парушыцца з месца цяпер не дазволю:
адгэтуль відаць усім добра вун заяц на полі».
І праўда, ён, чуючы стылу лаўцоў, многа псярні,
у поле ірваўся, наставіўшы вушкі, бы рожкі два сарні,
шарэў над раллёю сам доўгі, расцягнуты; скочкі [105]
пад ім жа стырчэлі, як бытта чатыры пруточкі,
казаў бы, не рухае іх, толькі зверху чапае
зямлю, так, як ластаўка лёгка к вадзе прыпадае.
Курыць! А за пылам сабакі; здалёку від мела,
што заяц, і пыл, і харты то адно твораць цела:
бы сунула гэнам праз поле змяішча якая,
кот, як галава, стылу пыл, як бы шыя даўгая,
а псамі яна як падвойным хвастом вырабляе.

Асэсар і Рэент глядзяць, дых стрымалі, знямелі,
хоць губы адкрыты. Аж раптам абодва збялелі,
як хусткі, бо бачаць — на полі фатальная дзея:
змяішча чым далей, тым болей даўжэе й даўжэе,
ўжо рвецца на двое, ўжо знікла та шыя, што з пылу,
бліз лесу ужо галава, а хвасты, дзе — там! стылу!
Во нікне, мігнула йшчэ раз галава й, нібы бесам,
прапала у лесе, а хвост адарваўся пад лесам.

Дык бедныя псы, падурнеўшы, пад гаем ляталі,
бы радзілі што ці ўзаемна сябе аскарджалі [106];
урэшце вяртаюцца, скачуць паволь праз загоны,
апушчаны вушы, пад брухам хвасты, як шалёны;
прыбегшы, не смеюць падняць са стыда свае вочы,
й замест падыйсці да паноў, яны сталі на ўзбоччы.

Спусціў галаву сваю Рэент на грудзі пахмура,
Асэсар, хоць кідае вокам, ды вельмі панура,
а после абодва давай слухачам вывадзіці:
як іхны харты без смыча не прывыкшы хадзіці,
што заяц не быў пацкаваны: для гэтай турботы,
казалі, сабакам на поле ўздзяваць хіба боты,
бо поўна усюды камення і гострае галі [107].

Так мудра ўвесь дослед лавецкі яны выкладалі;
лаўцы з іхняй мовы багата маглі б скарыстаці,
не слухалі ж пільна. Адны пачыналі свістаці,
другія смяяцца, а тыя, вядзмедзем заняты,
аб ім гаварылі, йшчэ свежай аблавай праняты.



Пан Войскі, нядбала за зайцам раз вокам зірнуўшы,
глядзіць, што уцёк, дык ізноў, галаву адвярнуўшы,
канчаў перабіты расказ: «Дык на чым я стрымаўся?
Ага! то на тым, як з іх кожны мне словам звязаўся,
што будуць страляцца яны праз вядзмеджую скуру...
Тут шляхта у крык: «Гэта ж смерць, блізка рура у
руру!»

Я ў смех! бо успомніў старога Марона [108] навукі,
як з мерай звярынай скуры выраблять можна штукі.
То ж помніце, як каралева Дыдона вадою
прагнана да Лібаў была і з вялікай бядою
зямлі сабе тамака толькі кусок старгавала
такі, каб валова скура бы яго абымала [109];
на гэтай зямельцы ж уся збудавана Картага [110]!
Дык я усё гэта ўначы разбіраю з увагай.

Ледзь дзень, з аднаго ужо боку сваей тарадайкай [111]
пад'ехаў Давейка, а конна з другога Дамейка.
Глядзяць, аж праз рэчку пралажаны мост бы касматы,
паяс із вядзмеджай скуры, разразанай на шматы [112].
Тады пры хвасце тым звярыным я стаўлю Давейку,
а з боку другога пры мордзе вядзмеджай Дамейку.
Страляйце цяпер, ім кажу, хоць праз цэлае жыцце,
а згэтуль жа вас не пушчу, хіба згоду рабіце.
Яны тут у злосць, а ўся шляхта і грымнула смехам,
аж клалася покатам; я тады разам із клехам
давай ім з ванеліі [113], з статутаў [114] розных даводзіць;
дык самі смяяліся й мусілі справу лагодзіць.
А после іх спор у дасконную [115] дружбу змяніўся,
а нават Давейка з Дамейкі сястрой ажаніўся,
Дамейка ж узяў сястру швагры свайго, Давайкоўну.
Худобу усю між сабой падзялілі пароўну,
а ў месцы, дзе вышла такое дзіўное здарэнне,
карчму збудавалі й далі ей «Вядзмёдак» найменне.

# *Быліца пятая*



## КАЛАТНЯ

ЗМЕСТ

Лавецкія планы Тальмены.— Гародніца выбіраецца на вялікі свет і слухае навукаў апякункі.— Стральцы вяртаюцца.— Вялікае здзіўленне Тадэя.— Паўторнае спатканне ў Святыні Задумы і згода праз мурашкаў.— Пры стале пачынаецца гутарка аб уловах.— Повесць Войскага аб Райтане і князі Дынассаў перабіта.— Пачатак укладаў паміж старонкамі, таксама перабіты.— З'ява з ключом.— Калатня.— Граф з Гярвазым адбываюць ваенную нараду.

Так Войскі вяртаецца з бору, закончыўшы ўловы
удала. Тым часам Тальмена ў зацішшы альковы
цяпер пачала паляванне. І хоць нерухома
сядзіць, залажыўшыся рукі, аднак невідома
у думках звяроў двух вялікіх адразу ганяе
і, як іх абодвух сачыць і ўлавіць, прыдумляе:
і Графа й Тадэвуша. Граф, маладое панятка,
прыгожы такі, а вялікага ймя і дастатка,
крыху закаханы ужо, але можа змяніцца!
Ці шчыра кахае? ці после захоча жаніцца?
з жанчынаю колькі гадоў жа старэй, небагатай?
радня ці пазволе? а свет, пэўне, згане аж надта!

Тальмена во з гэтакай думкай з канапы паўстала,
на пальцах крыху паднялася, маўляў, падрастала;
крыху свае грудзі адкрыла, схілілася бокам,
сама сябе пільным, уважным агледзела вокам,
а после — пытае вялікае люстра аб радзе,
ды зараз апусце узрок, уздыхне і так сядзе.

Вяльможа пан Граф! перабірлівы ў густах вяльможы!
бляндын! а бляндыны не юрны... Дарма, што прыгожы!
Тадэй жа? О, гэта пасцівы, каханы хлапчына,
як дзетка, любіць першы раз пачынае, прасціна!
Нялёгка сарве, пільнаваны, ён першыя звязкі;
прытым для Тальмены ўжо мае цяпер абавязкі...
Мужчына, пакуль малады, хоць у думках і зменны,
у сэрцы сваім за дзядоў ён сталей, бо сумленны.
Дзявічае сэрца хлапца яшчэ доўга хавае
удзячнасць за чары, што ў першым каханні спазнае!
Раскошу вітае й прашчае вясёла, без хмары,
як тую бяседу, што з другам спраўляем у пары.
Стары толькі п'яніца, як трыбухі сабе спале,
то брыдзе піццём, у якім заліваецца стале.
Усё гэта Тальмена дакладна і ведала й знала,
бо розуму й доследу больш, як давалі, хапала.

А што скажуць людзі? Не трэба ім лезці на вочы,
падацца у іншы дзе бок і там жыць на узбоччы
ці выехаць лепей куды і зусім з вакаліцы,
прыкладам, зрабіць падарожу малу да сталіцы,
хлапца маладога у свет у вялікі увесці,
як трэба, даць раду й кірунак і помач прынесці;
мець блізкае сэрца, прыяцеля, брата за гэта;
урэшце — ужыць сабе света, пакуль служаць лета!

Раздумаўшы так, па алькове вясёла і смела
прайшла колькі раз. Галаву зноў спусціла і села.

Ды варта было бы падумаць аб Графавым лёсе —
а што, калі ўдасца, і Графу падсунецца Зося?
Хаця й небагата, затое па родзе з ім роўна,
бо з дому сенатараў ведамых, дыгнітароўна [1],
калі ж бы між імі дайшло да жанімскае справы,
то мела б Тальмена ў іх доме прытулак ласкавы
на будуч'ню; Зосі радня бо і Графава сваці,
была б яна для маладых усё роўна, як маці.

Па гэтай адбытай з сабою станоўчай нарадзе,
з вакна яна кліча на Зосю, што бавіцца ў садзе.

А Зося у ранішнім строі, з галоўкай адкрытай,
стаяла й трымала рукою паднятае сіта;
да ног яе птушкі ляцелі. Стуль куры шурпаты
клубком падкаціліся, пеўнічкі згэтуль чубаты,
чырвоны свае шышакі патрасаючы грозна
й вяслуючы крылямі цераз кусты і баразны,
шырока выцягуюць пяты свае вастражасты,

за імі ж павольны надуцька, індык задзірасты,
злуе на псаволю крыклівае жонкі з сябрамі;
там павы за ім, як плыты, вун даўгімі хвастамі
тарнуюць [2] па лузе, а часам, праворны і скоры,
спадае, як граначка снегу, галуб срэбнапёры.
Ў сярэдзіне кругу зялёнае свежай муравы
сціскаецца круг розных птушак крыклівы, рухавы,
шнуром галубоў апяразаны ў відзе істужкі
бялюткай, пярэсты, ў сярэдзіне ў зоркі і ў дужкі.
Во тут бурштынoвы дзюбы, там чубы із караляў
узносяцца з перра густога, як рыбы з-пад хваляў,
ўздымаюцца шыі павольны і ў рухах лагодных
хістаюцца мерна на від туліпанаў паводных;
і сотні вачэй там, як зорак, блішчыцца да Зосі.

Яна сваю постаць высока над птушкамі ўзносе,
сама уся белая, ў доўгу бялізну убрана,
і круціцца, мовіў бы, біўшая ў кветках фантана;
зачэрпае з сіта і сыпе на крылле й галовы,
як пэрлы [3], бялюткай рукою густы град парловы
ячменевых круп. То зярно нат для панскае стравы
гадзіцца, бо йдзе для літоўскіх расолаў заправы;
для птушак яго выкрадаючы шмат, ахмістрыні
вялікую Зосенька шкоду рабіла у скрыні.

Пачула, што кліча «Зося!» А голас то цёткі!
Дык сыпнула птушкам адразу апошні лакоткі [4],
сама ж, гэтак кружачы сіта ў руках, як танцуха
бубёнак, і такт адбіваючы шустра, дзявуха
свавольна праз паваў, курэй, галубоў паскікала:
змяшанае птаства успырхнула, ўверх падлятала;
а Зося падскокамі лёгкімі, як ветранымі,
здавалася, што найвышэй падлятала між імі.
Прад ей галубы, успалоханы лётам, у белі
крылатай, маўляў, прад багіняй раскошы [5] ляцелі.

А Зося ўжо з крыкам вакном да альковы ўляцела
і цётцы ураз на каленкі, засопшыся, села;
Тальмена цалуе і гладзе галоўку, як маці,
і з радасцю бача прыгожасць і жывасць дзіцяці
(праўдзіва, любіла сваю гадаванку дзяўчыну).
Аднак ужо зараз паважну настроіла міну,
устала і, ходзячы ўдоўжкі і ўшыркі альковы,
трымаючы палец пры вуснах, прамовіла словы:



«Каханая Зося, зусім ужо запамінаеш
на стан свой і век; то ж сягоння якраз пачынаеш
гадок чатырнаццаты. Час індыкі свае й куркі
кідаці, фэфэ! для цябе, дыгнітарскай дачуркі!
Даволі пялегвала [6] ўжо і дзятву умурзану
мужычую; мне так аж сэрца баліць, як пагляну:
аж страх! запалілася [7], чыстая тая цыганка,
хадою і рухамі проста, казаў бы, сялянка.
Ну, ўжо я цяперака гэтым манерам зараджу:
адразу твой выхад у свет, шчэ сягоння, наладжу,
у залю гасцінную,— шмат і гасцей прылучыла,
а толькі глядзі, каб мне сораму не нарабіла».

Ўзарвалася Зося, успляснула жыва ў далоні
і, скочыўшы, цётцы павісла аберуч на ўлонні;
смяялася, плакала з радасцю дзеткі нявіннай.
«Ах, цёця, даўно ж не была я у залі гасцінай!
Ад часу, як тутка жыву я з курмі, індыкамі,
галуб то дзікі — адзін госць, што бываў міжы намі.
Ужо мне крыху й нуднавата сядзець у алькове,
а кажа Суддзя, што нядобра то нат на здароўе».

«Суддзя! дакучаў пастаянна,— ей цётка прарвала,—
што трэба у свет,— пад носам мармытаў мне нямала,—
што ўжо ты дарослая; сам жа паняцця не мае
аб свеце шырокім, дык проста чаўпе, а не знае.
Я ведаю лепей, як доўга належа спасобіць
паненку, у свет каб з'явіўшыся, ўражанне зробіць.
Бо ведай, як хто на вачох у людзей узрастае,
хоць гожы, разумны, эфекту ані не ўзбуджае,
бо людзі прывыкнуць, як бачуць кагосьці з маленка.
Няхай жа уложана добра, даросла паненка,
зусім нечакана з'явіўшысь, блісне перад светам,
то кожнага цягне цікавасць, казаў бы, магнэтам,
усе яе рухі, пагляды вачэй уважаюць,
падслухаюць словы і зараз другім паўтараюць,
калі ж прыпадзе маладая асоба да моды,
то мусе хваліць яе кожны, без шчырай нат згоды.
Знайсціся патрапіш хіба, спадзяюся: ў сталіцы
ўзрастала. Жывеш хоць гады ужо два ў вакаліцы,
хіба ж не запомніла йшчэ ты зусім Пецярбурка.
Ну, Зоська, рабі туалету, дастань там вун з бюрка,
усё прыгатоўлена тамака знойдзеш для ўбрання,
спяшайся, бо зараз жа могуць прысці з палявання.

Паклікалі тут пакаёўку, другой жа дзяўчыне
казалі вады наліваці у срэбна начынне.
Ў пяску верабей бы, трапечацца Зося, ўмывае
аблічча і шыю, і рукі, слуга памагае.
Тальмена адкрыла свае пецярбургскія склады,
там пляшкі парфумаў і слоікі рознай памады,
наўкола акроплюе Зосю адборнай парфумай,
(ў пакоі запах!), валасы напамаджуе гумай;
а Зосенька белу панчошку ўздзяе, ажурову,
і белы варшаўскі на ей чаравік, атласовы.
Тады пакаёўка ўзяла зашнуроўвала станік,
накінула после паненцы на горс пударманік;
жалезкай прыпечаны дай сабіраць папілёты,
а пуклі, кароткія надта, ўвілі у два сплёты,
пакінуўшы спераду волас так, гладка часаны.
Затым васількі пакаёўка, што свежа сабраны,
ўвязаўшы ў харошу пляцёнку, Тальмене давала,
а тая да Зосінай да галавы прышпіляла
адправа [8] наўзлеў: васілёчкі на бледным валоссі
адбіліся хораша так, як на збожжа калоссі!
Знялі пударман, ужо ўсенька убранне гатова.
Дык Зося ускінула белу сукенку праз голаў,
рукою батыставу белу хусцінку звівае,
ўся белая так, як лілея, яна выглядае.

Паправіўшы ей яшчэ раз валасы і ўсе строі,
нака́зала ўдоўжкі і ўшы́ркі прайсцісь па пакоі.
Тальмена вялікая свецкіх манераў знайчыня:
муштруе, злуецца і ўся́к дырыгуе дзяўчыне,
аж крыкнула во на сястранкі [9] паклоны з адчаю:
«Ах, гора ж мне! Бачыш во, Зоська, перапрашаю,
з гульні, пастухамі што знача пажыць! Расшыраеш
так ногі, як хлопец! Вачмі на бакі так міргаеш,
ну, чыста разводка! Ў паклоне зусім праставата!»
«Ох, цёця,— адказуе Зося,— ці ж я вінавата!
Сама ж замыкала мяне, не было мне з кім танчыць [10]:
з нуды палюбіла я птушак, дзятву сваю няньчыць;
ды толькі цяпер пачакайце, няхай жа пабаўлюсь
крыху між людзьмі, дык пабачыце, як я папраўлюсь!»

«Ўжо ж яно,— цётка сказала,— ляпей хіба з птаствам,
як з тым, што у нас во дагэтуль гасціла, плюгаўствам.
Адно толькі ўспомні ты, хто гэта ў нас абываўся:



клябан марматаў свае пацеры, ў шашкі гуляўся,
палестра ўсё з люлькамі! Вось табе майш, кавалеры!
Ад іх ты магла бы набрацца харошай манеры...
Цяпер то, прынамсі, хоць ёсць жа каму паказацца:
пачэснае будзе таварыства ў доме збірацца.
Зважай толькі, Зоська, для Графа не ўхібі пашаны:
радня ваяводы, а сам малады, ўзгадаваны,
дык будзь яму ветлай».

Пачулася конскае ржанне
і гоман лавецкі пад брамай: «Яны! з палявання!»
Дык Зосю узяўшы пад рукі, пабегла да залі.
Лаўцы на пакоі адразу яшчэ не ўхаджалі,
да дам не хацелі ўвайсці, не змяніўшы адзежы
ў каморы. З'явілісь найпершы з усей маладзежы
Тадэвуш і Граф, найхутчэй пазмяняўшы убранні.

Тальмена спраўляе у доме павіннасці пані,
вітае уходзячых, садзе, гаворкай займае,
усім сестраніцу сваю па чарзе прадстаўляе.
Тадэвушу кажа найперш, што радня яму блізка;
дзяўчо яму дзыгнула, ён пакланіўся ей нізка,
хацеў штосьць прамовіць, ды рот адкрываў яшчэ толькі,
як, глянуўшы ў Зосіны вочы, стрывожыўся столькі,
што, стоячы нема прад ей, чырванеў, то бялеўся;
а што ў яго сэрцы было, то і сам не даўмеўся.
Пачуўся страшэнна няшчасным — пазнаў жа бо Зосю
па зросце, па голасе звонкім і светлым валоссю!
і стан, і галоўку то ж бачыў тады на баркане,
яе гэта голас будзіў яго й на паляванне.

Аж Войскі Тадэвуша вырваў з такога змяшання;
пабачыўшы, што паблядвеў і трымацца не ў стане,
параіў ісці у святліцу сваю для спачынку.
Тадэвуш стаяў у куце, прысланіўся к камінку,
маўчаў, а расшыраных зрэнак сваіх бліскавіцы
кідаў непрытомна на цётку, то йзноў к сестраніцы.
Што з першага Зося пагляду такое зрабіла
уражанне, то Тальмена адразу адкрыла,
а хоць усяго не згадала, аднак памяшана
займае гасцей, на Тадэя ж глядзіць пастаянна.
Урэшце, хвілінку ўлучыўшы, к яму падбягае:
чаму такі сумны? мо' хворы? сказаць налягае,

напомніла нават аб Зосі, пускалася ў жарты.
Тадэвуш без руху, на локці успёрты, упарты,
наморшчыўшы бровы, маўчаў і крывіўся на гэна:
тым болей змяшалася і здзівілась Тальмена.
Змяніла адразу і твар тады й тон сваей мовы,
устала, загневана, й дай яму вострыя словы,
прытычкі і закіды розныя сыпаці з жалем.
Сарваўся Тадэвуш і, моў бы уколаты жалам,
зірнуў з-пад лаба, і без слова, піхнуўшы нагою
у крэсла, усплюнуў і вышаў раптоўна з пакою,
затрэснуўшы дзверы. На шчасце, што гэтае сцэны
з гасцей не заўважыў ніхто, апрача Талімены.

Як выскачыў з брамы, панёсся ён проста у поле,
казаў бы, шчупак, як асцень яму грудзі праколе:
нурцуе, плюшчыць, спадзяецца, што так уцякае,
а шнур і жалеза усё за сабою цягае:
вось так і Тадэвуш цягаў за сабою згрызоты,
скакаў праз равы і платы ад шалёнай журботы,
без мэты й дарогі. Праблукаўшы часу нямала,
яго аж у саму сярэдзіну лесу загнала.
Там трапіў зумысля ці можа прыпадкам на ўзгорак,
што сведкам быў шчасця ягонага ўчора,
дастаў дзе задатак кахання, той цэтлік паганы,—
на ўзгорак, як помнім, Святыняй Задумы празваны.

Калі гэтак вокам наўкола кідае маркотна,
глядзіць: Талімена! затоплена ў думках самотна,
зусім ад ўчарашняе постаццю й строем адменна,
у белі, на камені, а і сама як каменна;
пахілены твар у адкрыта туліла далонне,
не чутна рыдання, а знаць, у слязах яна тоне.

Дармо баранілася сэрца мягкое Тадэя,
пачуў бо і літасць, і жаль, і стрымацца не ўмее.
Хоць доўга глядзеў яшчэ немы, укрыты за дрэвам,
урэшце ўздыхнуў і прамовіў к сабе гэтак з гневам:
«Дурны! ці ж яна вінавата, што я памыліўся?»
І ўжо да яе падысціся з-за дрэва хіліўся,
як раптам Тальмена зрываецца ходу з сяджэння,
кідаецца ўправа, улева, ляціць скрозь струменне,
а волас распушчаны, раскрыжавана, блядая,
падскакуе, гоніцца ў лес, да зямлі прыпадае,



упала, не можа падняцца і ўецца ад мукаў
страшных па дзярне; што за мукі, відацца із рухаў:
хапае за грудзі, за шыю, за ногі, калены.
Падскочыў Тадэвуш, бо думаў, што хвора страшэнна,
або сфіксавалася [11]. Але ад іншай прычыны
паходзілі рухі дзіўныя.

Ля блізкай яліны [12]
снаваўся наўкола травою, рухавы і чорны.
Не ведаць, чаму, ці з патрэбы, ці з іншай прычыны
любіў асабліва бываць ля Тальмены святыні:
дарог нарабіў ад узгорку мурашшай сталіцы
й вадзіў там шарэнгі свае аж да самай крыніцы.
Няшчасцем Тальмена прысела на іхны дарожкі;
мурашкі, прываблены бліскам бяленькай панчошкі,
узбеглі і густа давай казытаць і кусаці.
Тальмена прымушана іх атрасаць, уцякаці,
ў канцы на мураве сядае й напаснікаў ловіць.

Тадэвуш ей помачы гэтай не можа адмовіць.
Так чысцячы сукню, да самых аж ног пахіліўся,
губамі, прыпадкам, на шчокі Тальмены зблудзіўся —
ў такім палажэнні прыязным хоць не гаварылі,
па ранішніх спрэчках, аднак, замірэнне зрабілі,
й не ведаць, як доўга трывала б такая размова,
каб іх не збудзіўшы нягодны званок з Сапліцова.

Ах, кліч на вячэру! Пара ўжо вяртацца дадому,
тым болей, што недзе паводдаль чувацца трэск лому.
А можа, шукаюць? нязгожа так разам вяртацца,
давай жа Тальмена направа к гароду скрадацца,
Тадэй жа налева пабег да вялікай дарогі,
а мелі у тым адступленні абое трывогі.
Тальмене здалося, што раз праз кусты ялаўцовы
бліснуўся худы закаптураны твар Чарвяковы;
Тадэвушу раз і другі міганууся налева
цень белы, даўгі, паказаўся й схаваўся за дрэва;
а што гэта мела бы быць, то не ведаў; прачуцце
казала, што Граф у даўжэзным ангельскім сурдуце.

Вячэралі зноў у замчышчы. Упарты Пратазы,
нягледзь на Суддзі забарону выразну, адразу
у панску адсутнасць да замку ізноў штурмаваўся

і з крэдансам [13] там (як казаў) заінтрамітаваўся [14].
Ўжо госці ўвайшлі, сталі колам; цішэй разгаворы;
вышэйшае месца заняў за сталом Падкаморы;
такі яму гонар і з веку і ўраду належа;
йдучы, усё кланяўся дамам, старым, маладзежы.
Чарвяк быў адсутны, а месца ксяндза барнадына
папраўа ад мужа ўзяла пані Падкамарына;
Суддзя, калі гэтак гасцей у парадку паставіў,
то стаў, па лаціне жагнаўся і стол благаславіў.
Мужчынам гарэлку далі; тады ўсе пасядалі
і моўчкі смачны халадзец забяляны сцябалі.

Па тым халадцы ішлі ракі, курчаты, шпарагі [15]
ў таварыстве келіхаў венгрыну, добрай малагі.
І п'юць і ядуць у маўчанні. Нікому не ўпамку,
ад часу, як сталі муры Гарашкоўскага замку,
каторы гасціў у сябе столькі шляхты й так шчодра
і столечкі віватаў чуў, разгалошываў бодра,
нікому не ўпамку такое вячэры хаўтурнай:
у сені замковай вялізнай, пустой і пахмурнай
чуваць толькі бразгат талерак і поканне коркаў,
бы злыдні гасцём зашнуроўвалі рот ад гаворкаў.

Маўчаць было повадаў шмат. Хоць і праўда, мысліва
народ з палявання вярнуўся зусім не маўклівы,
аднак як запал іх астыг, заняліся аблавай
і бачаць, што вышла з яе не з вялікаю славай.
І трэба ж было, каб адзін каптурышча папоўскі
там выскачыў, бытта Пілiп з канапель [16], і такоўскі
стральцоў із павету ўсяго скасаваў бы? О стыдзе!
Што ж скажуць на гэта усё ў Ашмяне і у Лідзе,
якія ад веку спрачаліс з тутэйшым паветам
за славу стралецкую! Думалі, знача, над гэтым.

Асэсар і Рэент пахмурна, надута сядзелі:
хартоў сваіх свежую ганьбу у памяці мелі.
У вачох іхных заяц стаіць і нагамі махае,
куртатым хвастом на наругу з-пад гаю ківае
і гэтаю куртай, бы пугай, па сэрцы іх цвіча [17]...
Сядзелі яны, нахіліўшы да місаў аблічча.
Асэсар і новыя повады меў шчэ да жаляў,
калі на Тальмену глядзеў, а пры ей на рываляў [18].



Сядзела тады Талімена к Тадэвушу бокам,
ледзь смела ускінуць калі на яго хоць бы вокам;
хацела пахмурнага Графа хоць крышку забавіць,
ўцягнуць у даўжэйшую гутарку, гумар паправіць,
бо Граф дзіўна кіслы вярнуўся з сваей пагулянкі,
хутчэй жа, як думаў Тадэвуш, з сваей пагляданкі;
Тальмены не слухаў, падняўшы чало сваё горда,
наморшчыўшы бровы, зірнуў ён амаль не з пагардай,
затым як мага найбліжэй прысуваўся да Зосі,
у шклянку яе налівае, талеркі падносе,
ўсміхаецца, кланяйца, тысячу ветласцей бае,
то йзноў выварочуе вочы, глыбока ўздыхае.
Відацца аднак жа, нягледзь на такое чмучэнне,
што так улісляўся [19] ён толькі на злосць Талімене;
бо ўсё галавою адвернецца, нібы няўмысне,
й штораз да Тальмены вачмі, пагражаючы, бліснє.

Не можа Тальмена уцяміці, што гэта знача;
пацiснула плечы і думала: глупства, дзівача!
Урэшце, на Графіча новы залёты не строга,
звярнулася, ўважна ізноў да суседа другога.

Тадэвуш пахмурны сядзеў, ані еўшы, ні піўшы,
як бы прыслухоўваўся, вочы ў талерку ўляпіўшы;
яна аб здароўі пытае, віна падлівае,
а ён за начэпнасць злуецца або пазявае
і ліча благім (а не гэтакі быў яшчэ ўчора),
што лішне Тальмена да ходаў залётлівых скора;
ён згоршаны [20] тым, што ў сукенцы разрэз заглыбока,
няскромна — а после ж вышэй як падняў сваё вока!
Спалохаўся! Меў бо цяпер ён быстрэйшы зраніцы [21],
зірнуў толькі раз на Тальмены румяныя ліцы,
адкрыў там адразу страшную вяліку тайніцу!
а божачка, наружавана!

Ці сортам няўдалы
быў руж, або нeяк на твары працёрся памалу
й мясцамі радзейшы згрубеўшую цэру [22] наскрозь
адсланяе,

а можа, на ўзгорку (цяперака прыпамінае)
ён сам, гаварыўшы заблізка, адмухнуў з бялілаў
кармін, што лягчэйшы ад пылу матылевых крылаў.
Тальмена ад лесу занадта спяшала, ляцела,

паправіць таму сваіх колераў часу не мела:
найгорай ля губаў відацца пісогі і пегі [23].
Тадэвуша вочы ўсё роўна, як хітрыя шпегі [24],
адкрыўшы ўжо здраду адну, дык затым па чародзе
знаходзяць і іншыя фальшы у гэтым жа родзе:
няма двух зубоў; на лабе, над шчакою
маршчынкі, маршчынаў жа тысяча пад барадою!

Тадэвуш тады зразумеў толькі, як непатрэбна,
за сціскла [25] прыгожую рэч разбіраць, як ганебна
быць шпегам каханкі, і як непрыгожа
змяняць свае густы і сэрцы — ды сэрца хто ж зможа?
Каханне дармо заступіці ён хоча сумленнем
і холад душы разагрэць свайго зроку праменнем.
Ужо гэты зрок як бы месяц, хоць свеце, не грэе,
паверху душы заблішчыць, як душа ледзянее...
Такія ён сам сабе робе папрокі й дакоры,
схіліўшыся й моўчкі кусаючы губы у горы.

Тым часам злы дух яго новай пакусаю вабіць
падслухіваць, што гаварылі там Зося і Графіч.
Дзяўчына, прыветлай пярэймасцю [26] Графа узята,
ураз счырванела, спусціўшы свае вачанята;
затым пачалі ўжо смяяцца, ў канцы размаўлялі
аб неякім неспадзяваным у садзе спатканні,
аб неякім па лапухох і па градах ступанні.
Выцягіваў вушы Тадэвуш і чутка іх ставіў,
каўтаючы горкія слёзы, ў душы сваей травіў [27].
Нягодную меў ён бяседу. Як гáдзіна тая
раздвоеным жалам затрутую зель выпівае [28]
й, скруціўшыся после, скрутулкай на сцежцы дзе ляжа,
назе пагражаючы, што, ідучы, не заўважа;
вось так і Тадэвуш, апоен атрутай зайздросці,
здаецца — нічога, а покаўся проста са злосці.

У зборы нат найвесялейшым хай колькі злуецца,
то іхна панурасць адразу на ўсіх разальецца.
Стральцы ўжо маўчалі; другая старонка цішэе
і моўкне таксама, заражана жоўчай Тадэя.
І пан Падкаморы, хмурнейшы ад цёмнае ночкі,
маўчаў, калі бачыў, што гэтак ягоныя дочкі,
паненкі пасажныя, гожыя, ў веку расцвеце,
па думцы усіх, найпрвейшыя дзеўкі ў павеце,



сядзяць так маўкліва, бо моладзь аб іх і не дбае.
Суддзю за гасціннае сэрца таксама чапае,
а Войскі, на то паглядзеўшы, па практыцы лоўчай
назваў ту вячэру не польскай, а неякай воўчай.

Пан Войскі меў слух, на маўчанне залішне чутлівы,
вялізны быў сам гаварун, дык любіў гаварлівых.
Не дзіва! са шляхтаю стравіў жыццё у нарадах,
па сойміках, з'ездах, уловах, бяседах, нападах.
Прывык заўсягды, каб бубніла бы нешта ля вуха,
а нават тады, як маўчаў ці з лапаткай за мухай
скрадаўся, ці марыць сядаў, сабе сплюшчыўшы вочы;
удзень разгаворы, а мусілі нават і ўночы
казаць яму пацеры, розныя казкі й бытулькі,
таму гэта быў заўсягды непрыяцелем люлькі,
надуманай немцам на тое, каб нас счужаземчыць,
казаў ён, што Польшчу анеміць, то знача, што
знемчыць.
Прывыкшы да шуму, не мог спачываці, пачуўшы
ураз цішыню, і будзіўся. Так мельнік, заснуўшы
пры стукаце колаў, як толькі стрымаюцца восі,
ўзарвецца і крыкне з трывогай: «А слова сталося!» [29]

Даў знак Падкамораму Войскі паклонам паважна,
рукою ад роту махнуў да Суддзі ён уважна,
дазволу прасіўся. Абодва паны адкланіліся
на немы ягоны паклон, ну дык, знача, згадзіліся.
Пачаў тады Войскі:

«Асмелюсь да моладзі ўдацца
й прасіць, пры вячэры каб зноў, як даўней, забаўляцца,
не толькі жаваць. Бо няўжо мы айцы капуцыны [30]?
А хто між шляхтай маўчыць, гэтаксама ён чыне,
як той паляўнічы, што ржаве набоі у стрэльбе,
таму нашых продкаў гаворкасць выхвалюю вельмі.
Па ўловах ішлі да стала, ды не толькі, каб есці,
а разам душу узаемна сабе каб адвесці
у гутарках; прыпаміналі так дзень яны цэлы:
заганы, пахвалы стральцоў і аблаўнікаў, стрэлы
і гончых. Кацілася шумна гамонка й рухава,
так міла для вуха лаўца, як другая аблава.
Я ведаю, ведаю: чорная клопатаў хмура
ўзнялася над вамі, не йнакш, з Чарвякова каптура!

8. Зак. 19

Няўдачы вам сорам! Хай сорам, аднак, вас не пале:
не раз і найлепшыя нават стральцы не папалі;
стралецкі то лёс пападаць і хібляць, папраўляці.
Я сам, хоць са стрэльбай цягаўся ужо ад дзіцяці,
хібляў! а хібляў і стралец гэны слаўны Тулошчык,
часамі, бывала, не трапе Райтан сам нябожчык.
Аб ім раскажу вам пасля. Што датыча няўправы
цяпер з ведзмядзём, што ён вырваўся гэтак з аблавы,
што после дваім панічом аж прышло адступіці,
хоць мелі жа ж піку, то гэтага нельга хваліці
ні ганіць; бо ходу даваць, як набоі у стрэльбе,
то гэта ўжо трус над трусамі і ганіцца вельмі;
ці звера к сабе добра не падпусціўшы, на слепа
страляць, не узяўшы на мэту, як нейкі цялепа,
ганебна здаўна. Калі ж добра да мэты хто змера,
разважна падпусце прытым, як належыцца, звера,
а хібе, то можа тады адступіць без журботы
ці з пікай ісці, анно толькі з уласнай ахвоты,
не з мусу; рагач бо, ці піка, стральцу даручоны
не дзеля нападу, а дзеля сваей абароны.
Вось гэтак было па-старому, дык мне вы паверце
і вашай уцечкі ўжо так не бярыце да сэрца.
Каханы Тадэю і Ясне вяльможны Пан Графе!
Як толькі успомніце часам аб сённяшнім трафе,
то ўспомніце разам і Войскага перасцярогу:
ніколі адзін не заходзіць другому дарогу,
ніколі ўдваіх не страляць да адное звярыны...»

Пан Войскі якраз вымаўляў гэта слова: звярыны,
калі напаўголас Асэсар шапнуў тут: дзяўчыны.
А, брава! ускрыкнула моладзь, пачуліся смехі.
Чаргой паўтаралася перасцярога Грачэхі,
апошняе слова прамовы: адныя звярыны,
а іншыя з голасным смехам крычэлі: дзяўчыны;
а Рэент шапнуў тут: кабеты, Асэсар: какеты,
і вочы свае у Тальмену ўтапіў, як штылеты [31].

Не думаў жа Войскі зусім прымаўляць анікому
й на то не зважаў, што шапталіся там пакрыёму:
так рады, што можа і дамаў і моладзь рассмешыць,
звярнуўся і да паляўнічых, таксама пацешыць
і іх, а наліўшы у чару віна, прадаўжае:



«Дармо маё вока ксяндза барнадына шукае;
хацеў бы й яму расказаць я прыпадак цікавы,
падобны якраз да сягонняшняй нашай аблавы.
Як Ключнік казаў, што спаткаў у жыцці сваім цэлым
ўсяго аднаго, з Чарвяком што зраўняўся бы стрэлам,
то знаў я й другога. Ён мэтным бо стрэлам таксама
вяльможаў дваіх ратаваў; гэта бачыў жа сам я,
у пушчы калі Налібоцкай гайсаў і папасваў
пасол наш Райтан пан Тадэвуш із князем Дынассаў [32].
Ані не зайздросцілі шляхціца славе паноўе,
а першыя самі пілі за яго на здароўе
і прэзантаў розных без ліку яму надавалі.
І скуру дзіка, што забіў. Раскажу я вам далей
пра стрэл і скуру ту, як сведак навочны, падобна;
а здарылась гэна якраз як сягоння, падобна,
прытым найвялікшым за гэных часоў паляўнічым,
якімі ж Райтана і князя Дынассаў мы лічым».

Аж тут адазваўся Суддзя, даліваючы чашы:
«П'ю за Чарвяка, пане Войскі, у рукі у вашы!
Калі квастара і не можам збагаціць мы даткам [33],
аднак жа за порах заплацім іншым парадкам.
Ручаем, што звер, у бары што сягоння забіты,
у кляштарнай кухні гады будзе два не спажыты.
Скуры жа ксяндзу не дамо; ці сілком яе возмем,
ці сам яе ўступе з манаскай пакоры па просьбе,
ці нават, як трэба, куплю сабалёў хоць дзесяткам,
а з ей жа па-нашаму гэтакім зробім парадкам:
найперш вянец тут і славу бярэ слуга божы,
скуру жа наш Пан Падкаморы аддаці палажа
таму, хто усё ж заслужыў на другую награду».

Пагладзіў аж лоб Падкаморы на гэткую раду.
Стральцы зашумелі, і кожны з іх нешта цыганіў:
адзін, што ён звера знайшоў, а другі нібы раніў,
той кажа, што псярню пазваў, той за зверам пагнаўся.
Асэсар із Рэентам тутака зноў заспрачаўся,
адзін выхваляючы надта сваю Сангушкоўку,
другі балабанаўку слаўную Сагалясоўку.

«Суддзя, мой суседзе,— азваўся ў канцы Падкаморы,—
што перша награда ксяндзу, то нямашака спору;
другую ж нялёгка аддаць, бо скажу без наругі,

што ўсе, мне здаецца, тут роўныя маюць заслугі,
ўсім раўную зручнасць, удаласць, адвагу прызначыў
бо лёс, але двух небяспекай вялікшай адзначыў,
над імі была жа паднятая лапа вядзмеджа,
то Граф і Тадэвуш, дык ім і скура́ прыналежа.
А што Пан Тадэвуш уступе, я ў тым пракананы,
бо ён маладзей, спадароў жа пляменнік каханы,
дык Spolia opima [34] возьмеш сабе ужо, Графе,
хай луп [35] на аздобу ў пакой твой стралецкі патрафе,
хай памяткай будзе сягонняшняй нашай забавы
і знакам лавецкага шчасця і будучай славы».

Замоўкнуў, вясёлы, што радасць вялікую справіў
для Графа — не ведаў, як сэрца яму акрываві ў.
Бо Граф на пакою стралецкага тыя ўспаміны
падняў мімаволі свой зрок на лабы на ласіны,
на тыя развесісты рогі, як лес ляўрыновы [36],
засеян рукою бацькоў на вянкі для сыноў, і
на тыя партрэтаў рады, што харошаць філяры [37],
на герб, на скляпенні бліщчэўшы, Паўкозіч прастары
— усё яму голасам прошлых часоў гаварыла,
казала, дзе госце цяпер, з летуценняў будзіла.
Наследнік Гарэшкаў гасцём між парогаў забратых,
бяседнік Сапліцаў, тых ворагаў вечна заклятых!
А зайздрасць пры тым жа, якую к Тадэвушу чуе,
мацней яшчэ Графа супроці Сапліцаў бунтуе.
Прамовіў ён з горкай усмешкай: «Для скромнае хаты
маей, уважаю, што гэтакі дар забагаты:
мо' лепей, калі між ласёў тут вядзмедзь пачакае,
пакуль разам з замкам мне суд у канцы не прызнае».

Згадаў Падкаморы, к чаму тут снуецца аснова,
дык бразь! у сваю табакерку і просе так слова.

«То варта пахвалаў,— ён кажа,— мой Графе суседзе,
што гэтак аб справах, Пан, рупішся, нат пры абедзе,
не так, як сягоння паміж панічамі у модзе,
якія жывуць без рахунку. Манюся у згодзе
і згодай старонаў закончыць свой суд падкаморскі;
дагэтуль адзіная труднасць то грунт гэта дворскі.
А маю ўжо спосаб замены, за грунт знагародзіць
зямлёю манерам такім во...» І тутака ўзяўся выводзіць
парадачна (як заўсягды) гэны план зрыхтаваны;



і быў да сярэдзіны блізка, аж неспадзяваны
узняўся штось рух пры стале. Во адныя ўжо нешта
угледзелі, пальцам паказуюць, после і рэшта,—
і гэтак галовы усе, бы пры ветры зваротным
калоссе, звярнуліся разам у бок адваротны,
у кут.

У куце тым партрэт там вісеў і дагэтуль
апошняга пана з Гарэшкаў. З-пад тога партрэту
праз дзверцы малыя, укрытыя шчыльна ў філяры,
няўзнач паказалася постаць, падобна да мары.
Гярвазы!.. пазналі яго і па зросце й па твары,
па слаўных Паўкозічах, курце зжаўцелай дваровай.
Ступае так проста, як стоўп, ён, нямы і суровы,
не зняўшы ні шапкі, ні нат галавой не кіўнуўшы;
ў руках, як кінжал, гэтак ключ свой бліскучы трымае,
во шафу адкрыў і у ей штось круціць пачынае.

Стаялі ў сянёх абапёрты ў кутох на філяры
там два курантовы зачынены ў шафах загары [38],
старыя манюкі, із сонцам даўно ўжо ў нязгодзе,
палудзень паказвалі часта а самым заходзе.
Гярвазы ніяк не прыбраўся махіны направіць,
а, не накруціўшы, не мог гэтаксама аставіць,
драчыў [39] так штовечар загары ключом безупынна.
Цяпер жа на тое якраз прыпадала гадзіна.
Тады, калі справай займаў Падкаморы увагу
старон зацікаўленых, ён пацягнуў там за вагу:
шчарбатым зубом скрыгатнулі калёсікі ржавы,
дрыгнуў Падкаморы, ураз адарваўся ад справы
і кажа: «Пакінь на пасля сваю пільну работу!»
І далей выкладываць планы. А Ключнік на псоту [40]
мацней пацягнуў шчэ за гіру другога цяжару,
і птушка, якая сядзела на версе загару,
трапечучы крыллем, запела курантавы нуты.
Птах зроблены штучна, а толькі шкада, што папсуты,
скрыпеў і пішчэў, заікаўся, чым далей, тым горай.
Дык госці у смех; перарваў тады зноў Падкаморы.
«Гэй, Ваша Пан Ключнік, ці лепей жа пушчык,—
ускрыкнуў,—
як нос свой, шануеш, то годзе мне крыку і квіку!»

Гярвазы пагрозы аднак жа зусім не збаяўся,
паважна ён правай рукой на загар апіраўся,

а левай узяўся пад бок і стаяў такі горды.
«Эге, Падкаморанька! — крыкнуў,— то панскія жарты,
за пушчыка менш верабей, на сваім жа ён смецці
смялей, чымся пушчык, што ўлез у чужыя павеці.
А Ключнік — не пушчык; хто ноччу ў чужое паддашша
улезе, то гэтакі пушчык, а Ключнік пастраша».

«За дзверы яго!» — Падкаморы ўскрыкнуў, «Мапанку,
мой Графе,— тут Ключнік усклікнуў,— што дзеецца ў замку
Гарэшкаў?! Ці мала, што гонар свой панскі Граф пляміш,
з Сапліцамі сеўшы ў бяседу, з такімі шышамі!
А трэба яшчэ, каб мяне, урадоўца у замку
і ключніка дому, Гярваза Рубайлу, Мапанку,
к таму зневажаці!.. Не бачыш хіба́, Пан, разбою?»
Азваўся тут тройчы Пратазы: «Прашу супакою!
Ўступіце! Я, кажа, Пратазы Бальта́зар Брахальскі,
падвойнага ймя, я калісь генерал трыбунальскі,
па-простаму возны, раблю пратакол, апісанне
вазненскае, з гэтым жа разам і месца дазнання,
усіх дабрародных прысутных бяру на свядэцтва [41]
і пана Асэсара клічу урэшце на следства,
а з поваду гэта вяльможнага Пана Сапліцы:
у справе інкурсіі, знача, наезду граніцы,
гвалт замку, каторым Суддзя зусім праўна ўладае,
а довад выразны, што нават гасцей тут прымае».
«Брахач!— вераснуў яму Ключнік,— дастанеш, паганы!»
й з-за пояса пук ухапіўшы ключоў павязаных,
крутнуў іх кругом галавы і з усенькай натугі
жбурнуў. Пук жалеза ляцеў, як бы камень той з пугі,
і, пэўне, Пратазаму лоб расшчапіў бы на чвэрці;
ды Возны, на шчасце, схіліўся і ўцёк так ад смерці.

Ўзарваліся з месца усе; на хвіліну во глуха
і ціха, аж крыкнуў Суддзя: «У дыбы яго, зуха!
Сюды, дзецюкі!» — і ўся чэлядзь рванулася жвава
праходам вузкім, што праміжы сцяною і лавай.
Ды Граф пасярэдзіне крэслам заставіў дарогу
й на гэтакім слабенькім шанцы паставіўшы ногу:
«Не важчыся!— крыкнуў.— Суддзя! не дазволю нікому
пакрыўдзіць майго тут слугу, ў маім собскім жа дому.
Як скарга ў каго на старога, то мне хай гавора».



У Графавы вочы зірнуў ускаса Падкаморы:
«Без Вашае помачы сам я змагу пакараці
зухвальца шляхцюру, а Вам, Пане Графе, трэ знаці:
прад дэкратам замак сабе прысабечываць рана!
Не Ваша цяпер гаспадар, не пытаем Васпана!
дык ціха сядзі, як сядзееў; як сівыя галовы
нішто, то шануй жа хоць першы урад павятовы!»

А Граф адпаліў: «Надаелі мне вашы парады
й парадкі, ўсе гэтыя нудныя ўзгляды і ўрады!
Даволі ўжо глупства зрабіў, што заняўся з Васпанствам
у выпіўку, што заканчаецца ўжо грубіянствам.
Здасцё яшчэ справу мне з гонару гэткай абразы.
Пабачымся ў стане цвярозым! За мною, Гярвазы!»

Зусім не чакаў Падкаморы такога адказу.
У чару віна падліваў сабе ён, як адразу
уражаны Графа зухвальствам, бы неякім громам,
на чару апёршыся бутлем зусім нерухомым,
набок галаву сваю выцяг, вушэй настаўляе,
шырока ён вочы расплюшчыў, хоць рот адкрывае —
маўчыць; але чару ў руцэ так магутна націснуў,
што покнула шкло, зазвінела, аж вочы запырснуў;
казаў бы, агонь з тым віном у душу яму ўліўся,
так вочы успыхнулі й твар так крывёю абліўся.
Парваўся [42] казаць, ды малоў у губах невыразне
шчэ першае слова, аж плюнуў праз зубы: «Ты, блазне!
Графюк, такі важны! Тамаш, карабэлю! Ну я ту
навучу цябе розуму, блазне! давай яго кату!
На ўзгляды, урады выкрыўлюе міну ўжо кіслу!
А я цябе зараз па кольчыках гэтых як свісну!
Дык фора [43] за дзверы! Да шаблі! Тамаш, карабэлю!»

Прыяцелі тут к Падкамораму ўжо падляцелі,
Суддзя ухапіў за руку: «Гэта, Пане, рэч наша,
я вызваны тутака першы. Пратазы, палаша!
Пушчу яго ў скокі, маўляў ведзмядзя на кіёчку [44].
Тадэй жа Суддзю устрымаў: «Пачакай жа, Стрыёчку
і пан Падкаморы, паважным людзём ці ж гадзіцца
вязацца із жэўжыкам: моладзь на тое, каб біцца.
Пазвольце: я добрага часу патраплю задаці,
а Ваша храбёр, што умееш старых вызываці,
пабачым, ці гэтакі рыцар страшэнны ўжо дужа;

расправімся заўтра мы, выберам пляц і аружжа.
Сягоння ўцякай, пакуль цэлы».

Нязгоршая рада,
бо Ключнік із Графам папалі, што горай не нада.
З застолля вышэйшага рваліся толькі йшчэ крыкі,
а з востра канца ўжо ляцелі бутэлькі без ліку
кругом галавы пана Графа. З трывогі кабеты
у просьбы, у плач; Тальмена ўскрычэла: «Нестэты[45]!»
і, вочы падняўшы, устала і пала у млосці,
схіліўшыся шыяй на грудзі да Графавай Мосці
і лабуддзі грудзі паклаўшы на Графавым лоне.
Хоць Граф і злаваўся, аднак устрымаўся ў разгоне,
узяўся чуціць[46], абціраць.

На Гярваза тым часам
ляцелі бутэлькі і ўслончыкі ўсцяж, раз за разам;
ужо пахіснуўся; дварня, кулакі закасаўшы,
была бы ужо на Гярвазага гурмам напаўшы,
аж Зося, пабачыўшы гэта і літасцю ўзята,
яго засланіла, расставіўшы ўкрыж ручаняты.
Устрымаліся. Звольна Гярвазы тады уступаўся
і знікнуў з ваччу; ўжо шукалі, пад стол дзе схаваўся...
аж з боку другога, маўляў з-пад зямлі, паказаўся.
Рукамі магутнымі лаву схапіўшы, рухава
крутнуў, бы вятрак, і, з паўсеней ачысціўшы жвава,
ўзяў Графа, і гэтак абодва, заслонены лавай,
адходзілі к дзверцам. Ужо падышлі да парогу,
Гярвазы стрымаўся, на ворагаў глянуў; дарогу
свабодну ўжо мае, а толькі у думках зважае,
ці дальш адступаці, ці новага шчасця шукаці.
І выбраў другое. Як бы за таран, ухапіўшы
за лаву, з размахам падняў; галаву адхіліўшы,
і выпяўшы грудзі, занёсся ісці перамогай,
аж глянуў на Войскага... й сціснула сэрца трывогай.

А Войскі, сядзеўшы ціхутка з прыплюшчаным вокам,
здаваўся пагружаны ў думанні дужа глыбокім;
і толькі тады, калі Граф з Падкаморым пазлуўся
й Суддзі загразіў, то стары галавой павярнуўся
і, двойчы зажыўшы табакі, працёр сабе вока.
Хоць Войскі Суддзі прыхадзіўся раднёю далёкай,
у доме гасціным ягоным прабыўшы нямала,



к здароўю прыяцеля вельмі адносіўся дбала.
На бойку ўглядаўся цікавы, як бойкія мальцы.
Выцягваў памалу руку, даланю, затым пальцы
на стол; клаў нажа у далоні, чаранком аж да ногця
паказнага пальца, жалезкай адвернут да локця,
руку адхіліўшы у тыл, так ківаў, забаўляўся
як бы, а на Графа тым часам усё углядаўся.

Страшная калісьці ў бітве гэта штука кідання
нажоў, у Літве ўжо памалу прышла ў занядбанне,
знаёмая толькі старым. Прабаваў яе Ключнік
па корчмах не раз, але Войскі на гэта быў зручны.
Відацца з замаху рукі, што магутна удэра,
а лёгка згадаці з ваччу, што у Графіча мера,
(з Гарэшкаў апошняга пана, хаця па кудзелі).
Тых Войскага рухаў малодшыя не зразумелі;
Гярвазы збялеў, зараз Графа за лаваю крые,
к дзвяром адступае.— «Лаві!» — грамада уся вые.

Як воўк той, пры падле абскочаны псамі няждана,
кідаецца вослеп у злосці, што ежа прарвана,
ужо здаганяе, аж тут у сабачым вярэску
во трэснула ціха ад курка... воўк знае па трэску,
стрывожыўся, глянуў і бача стральца на мігненне
адно, як, схіліўшыся, ўспёршысь рукой на калене,
ён стрэльбаю водзе за ім і ўжо цынгель хапае;
воўк, вушы спусціўшы і хвост падтуліўшы, ўцякае...
Кідаецца псярня за ім з трыумфальным галасам,
за кудлы скубе, а як звер к ім адвернецца часам
і зяпаю ляпне ды белых клыкоў скрыгатаннем
ледзь-ледзь пагразіць ім, то псярня ўцячэ з
скавытаннем:
вось так і Гярваз адступаў тады з грознай паставай,
стрымоўваў напаснікаў грозным паглёдам і лавай,
аж разам із Графам папалі ўглыб цёмнай фрамугі[47].

«Лаві!» — загрымела ізноў там. Трыумф быў не доўгі,
бо над галавою натоўпу Гярваз нечакана
на хорах з'явіўся ізноў, пры старых там варганах
із трэскам давай вырываць алавяныя дуды;
зажарыўшы імі з гары, нарабіў бы ён шкоды,
ды госці ўцякалі, балей не чакаўшы знявагі,
і слугі ўжо біцца не мелі ахвоты й адвагі,

а ўслед за панамі, схапіўшы начынне, ўцякалі,
што нават накрыцце і розны там спрат пакідалі.

А хто ж там апошні, нягледзь ні на грозьбы, ні ўдары,
пляц бою пакінуў? — Пратазы Брахальскі удалы.
Ён, стаўшы за крэслам Суддзі непарушана, стойка,
абвестку цягнуў сваім возненскім голасам бойка,
аж, скончыўшы толькі, з пустога зышоў баявішча,
дзе кінуў ляжаўшых параненых, трупы, звалішча.

Хоць страты ў людзёх не было, ды усенечкі лавы
з нагамі былі пазвіханымі, стол жа кульгавы
таксама, абдзёрты з абруса, палёг на залітых
чырвоных талерках, як вой на шаломах пабітых,
паміжы курчат, індыкоў пакалечаных целаў,
між рэбраў каторых нямала йшчэ вілкаў стырчэла.

І хутка ў самотным старым Гарашкоўскім будынку
вярталася ўсё да звычайнага зноў супачынку.
Сцямнела. Астаткі багатае панскай яды там
ляжалі, як бы на начную пачостку Дзяды [48], са-
бірацца мелі мярцы [49] на заклятыя словы.
Ўжо тройчы ў падстрэшшы пракрыкнулі совы,
як бы гусляры, што вітаюць, як месяц усходзе,
і, паўшы на стол праз вакно, раздрыжэўшыся, бродзе,
душа бы чысцовая; здолу праз дзіры ў палацы
выскакуюць, моў бы праклятыя грэшнікі, пацы...
грызуць, запіваюць; часамі ў куце непрыбрана
на тост гэтым марам [50] успокне бутэлька шампана.

А там, на паверсе вышэйшым, у залі, празванай,
хоць люстраў даўно ўжо не мела, святліцай люстранай,
пан Графіч стаяў на балконе, павернутым к браме,
і так халадзіўся, сурдут свой надзеўшы на рамя
адно, рукаво жа ж другое й палу сфалдаваўшы
пад шыяй і грудзь сурдутом, бы плашчом, ўдрапаваўшы.
Гярвазы хадзіў шырачэпістым крокам па залі;
абое задуманы самі з сабой размаўлялі.
«Ага, пісталеты,— Граф кажа,— або і палашы».
«І замак, і вёска,— цяцерыўся Ключнік,— то нашы».
«І дзядзьку й пляменніка,— ўскліківаў Граф,— усё
племя



за раз вызывай!» А Гярвазы: «І замак, і землі,
й сяло забірай!» Так сказаўшы, звярнуўся да Графа:
«Як хочаш, Панок, супакою, то ўсё ім заграбай.
Нашто тут працэсы, то ж справа, як сонейка, чыста:
ў руках бо Гарэшкаўскіх замак гадоў больш за трыста;
часць грунту з двара адарвалі у час Таргавіцы [51]
і, ведайце самі, далі на ўладанне Сапліцы.
Не толькі ім гэтую часць, але ўсё адабраці
належа, каб кару за кошты працэсаў спагнаці.
Я пану казаў заўсягды: ўсе працэсы — дурнота;
я пану казаў заўсягды, што наезд — то работа!
Бо так па-старому: хто раз які грунт здабывае,
той пан, бо хто выграў у полі, ў судзе выгрывае.
А што да даўнейшых усякіх з Сапліцамі спорак,
то ёсцека лепшы на то за працэсы Цызорык;
калі ж бы на помач Мацей сваю «Розачку» даў бы,
Сапліцаў із ім я на сечку ўдваёх сшаткаваў бы».

«Ну, брава! — Граф крыкнуў,— а план твой
гатыцка-сармацкі [52]
мне лепей куды да спадобы, як спор адвакацкі.
Ах, важна! на цэлай Літве мы наробім галасу
паходам такім нечуваным з даўнога ўжо часу,
і самі забавімся. Два ўжо гады тут сяджу між лясамі,
якую ж дзе бачыў бітву? за мяжу з мужыкамі!
А наша выправа крыві праліванне варожа.
Адбыў раз такую у часе сваей падарожы.
Калі я гасціў у знаёмага князя ў Сіцылі,
разбойнікі ў горах ягонага зяця схапілі
й затым ад радні яго водкупу нагла жадалі.
Сабралі мы ўсіх, што былі там і слугі й васалі,
й напалі; тады сам я забіў двух разбойнікаў запар
і вызваліў вязня, найперш уляцеўшы у табар.
А мой жа Гярвазы! Які гэта быў трыумфальны,
харошы які паварот наш ваенна-фэўдальны!
Народу з вянкамі спаткалі нас цэлыя плоймы,
удзячная князя дачка аж мне пала ў абоймы.
Калі ж да Палермо прыбыў, то ўжо зналі з газеты
і пальцам мяне там паказвалі ўсенькі кабеты.
А нават аб гэтым такім рамантычным здарэнні
раман друкавалі, дзе я там стаю па найменні.
Раман называецца: «Граф, або йначай тайніцы
на замку на Бірбантэ-рокка». Ці ё тут цямніцы

пад замкам?» «А ёсць,— кажа Ключнік,— вялізны піўніцы [53],
пустыя! бо выпілі ўсенька віно з іх Сапліцы».
«І джокаяў,— Граф размышляе,— узброіці можа,
і з воласці клікнуць васаляў...» «Што, лёкаяў? Крый, пане, божа! —
Гярваз прарывае,— заезд не лічы, Пан, гультайствам!
Хто ж бачыў заезды рабіці з мужыцтвам, з лякайствам?
Мой Пане, відаць, на заездах зусім не бывалі!
Вуса́лі — то іншая рэч, прыдадуцца вусалі.
А толькі шукаць іх не ў воласці, а па засценках:
у Добрыне, Рэзькаве, Цятычах, Рубне, Рубенках.
Адвечная шляхта, і рыцарску кроў яна мае,
і шчыра Гарэшкаў фаміліі ўся спагада́е,
і ўсе ненавідзяць ад сэрца Сапліцаў праклятых.
Я стуль набяру ужо шляхціцаў з трыста вусатых,
мая гэта справа. А пан сабе йдзі да палацу
і выспіся, заўтра пайдом на вялікую працу.
Пан любіш паспаці, другія ўжо пеўні чувацца,
а я папільную тут замку; як будзе відацца,
то з сонейкам стану ў Дабрынскім засценку, Мапанку».

На гэтыя словы пан Граф адышоўся з кружганку;
аднак жа яшчэ паглядзеў праз атвор у стральніцы
і, бачучы многа святла у дамоўстве Сапліцы,
гразіў: «Люмінуйце [54], а заўтра а гэтай пары
раз'ясніцца ў замку, сцямнее у вашым двары!»

Гярвазы сядзеў на зямлі, да сцяны прысланіўшысь,
цяжкой галавой ад задумы на грудзі схіліўшысь.
Паў месячны светач на верх галавы яго лысы,
Гярвазы па ім жа выкрэсліваў пальцам нарысы,
відаць, рыхтаваў ён паходаў ваенныя планы.
Ўсё болей цяжэюць павекі яго непраспаны,
кіўнуўся ўжо шыяй і чуе, што сон забірае,
дык пацеры, водле звычаю, казаць пачынае.
Ды хутка паміж «айчанасам» і «здровась-марыяй» [55]
натоўпам нахлынулі розныя мары дзіўныя.
Прад Ключнікам роем Гарэшкі паны праляцелі:
нясуць буздыганы [56], другія нясуць карабэлі,
а кожны падкручуе вусы й страшно спазірае,
складаецца шабляю ці булавой патрасае;
затым адзін цень і ціхі, і пахмурны мігнуўся



з крываваю плямай ў грудзёх. Аж Гярвазы ўздрыгнуўся:
то Стольнік! зачаў наукола сябе ўсё жагнаці
і, гэтыя сны каб страшныя хутчэй адагнаці,
давай адгаварваць літанью аб душах чысцовых.
Ды звоне ў вушшу, і узрок яму склеіўся знову —
вось конная шляхта натоўпам, блішчаць карабэлі:
заезд! а наперадзе Рымша й Карэліч [57] ляцелі.
І бача самога сябе: на кані сіваватым,
з рапірам страшным сваім, над галавою паднятым,
ляціць: расхлістана па ветры шуміць тарататка,
а з левага вуха апала на тыл канфед'ратка [58];
ляціць; па дарозе і езных ён вале,
урэшце, дапаўшы, стадолу Сапліцы падпале —
цяжкая ад мар галава тут на грудзі спадае,
й апошні Гарэшкава Ключнік вось так засынае.

# *Быліца шостая*



## ЗАСЦЕНАК [1]

### ЗМЕСТ

Граф з'ехаў — 135

Першыя ваенныя рухі заезду.— Выправа Пратазага.— Чарвяк з панам Суддзёй радзяцца аб публічнай справе.— Далейшы працяг напраснай выправы Пратазага.— Каноплі.— Шляхоцкі засценак Добрын.— Апісанне сялібы і асобы Мацюка Дабрынскага.

Нязначна выкрадваўся світ без румян з сумароку
імглістага, дзень ведучы без прасвету у воку.
Даўно ужо дзень узышоўшы, а ледзь што відомы.
Вісела імгла над зямлёй, як страха із саломы
над беднаю хаткай літоўца; а з боку усходу
відацца з бялейшага крышку на небе абводу,
што сонца устала, зысці на зямлю ужо мае,
ды толькі нявесела йдзе, па дарозе драмае.

Спазнілася ўсё на зямлі за нябесным прыкладам.
Гаўяда [2] запозна на пашу кранулася стадам
і здыбала зайцаў пры снеданні позным па спанні.
Варочацца звыклі яны да гаёў пры світанні,
ды сёння ў імгле то макрыцу грызуць, то ў папары
выкопуюць ямкі ў раллі, сабіраюцца ў пары
й на вольным паветры забавіцца вольна маняцца;
аднак прад гаўядам прымушаны ў лес павяртацца.

Ў лясох цішыня. Як нямыя, птушыныя хоры,
і туліцца птушка да дрэў, атрасаючы пёры,
уцісне галоўку у плечыкі, вочы зажмура
і сонца чакае. На беразе лужы панура
клякоча буслішча; на копках размоклы вароны,
разяўлены, цягнуць гаворкі свае несканчоны;
абрыдлая гаспадарам варажба непагоды.
А гаспадары ўжо даўно як пайшлі да работы.



І жнеі ўжо песню сваю зацягнулі гаротну,
як слотны той дзень, аднастайную, сумну, маркотну,
сумнейшую тым, што без рэха плыла туманамі.
Хруснулі у збожжы сярпы. І касцы ўжо радамі
бражджаць у пракосах атавы паміжы лугамі,
насвістуюць песні, а з кончанай кожнай страфою
прыстануць, жалеза паменяць і йдуць чарадою.
Людзей, ні сярпоў, ані кос праз туман не відацца,
а толькі як водгук нявіднага грання чувацца.

Аконам, прысеўшы сабе на снапе, бы з маркоты,
пакручуе штось галавой, не пільнуе работы,
а ўсё на гасцінец глядзіць, на расстайны дарогі:
там дзеецца нешта, падобна да нейкай трывогі...

Дарогі й гасцінец сягоння чамусь спазаранку
ужо ажылі незвычайна. Мужыччу фурманку
са скрыпам хтось гоне, як почту, за ей вылятае
шляхоцкая брычка, турчыць, здаганяе, мінае;
з дарогі аднэй пасланец, як кур'ер які, гоне,
а з правай наўзáвады больш за дзесяцера коней.
Спяшаюцца ўсе і кіруюцца ў розны староны.
А што гэта знача? Устаў і аконам здзіўлёны,
хацеў распытацца; хоць доўга стаяў над дарогай,
ды клікаў дармо і не мог затрымаць анікога,
ані распытаць у імгле. Так мігаліся езныя, бытта
бы цені, чуваўся глухі толькі топат капытаў,
а што найдзіўнейшае, цокат аружнае сталі:
аконама разам і радасць, і страх абымалі.
Хоць час на Літве выдаваўся тады і ціхуткі,
глухія, аднак, аб вайне ужо лёталі чуткі,
і так: аб французах, Дамброўскім, аб Напалеоне.
Няўжо варажба на вайну ездакоў гэтых гоне?
Аконам пабег да Суддзі, каб усё расказаці,
а й сам ад яго спадзяваўся што-небудзь дазнаці.

Ў Сапліцаве госці і хатнія после тэй звады
ўчарашняй усталі маркотны, сабою не рады.
Дармо тады Война́нка дам к кабале [3] запрашае,
мужчынаў кампанія граць у мар'яша не мае
ахвоты: зашыліся ціханька ўсе па куточках,
мужчыны закуруюць люлькі, жанкі пры пруточках;
аж спяць нават мухі.

Пан Войскі пакінуў лапатку,
такой цішынёю зануджаны, йдзе у чалядку.
Ляпей ахмістрыні у кухні паслухаці крыкаў
і кухара грозьбаў і куксаў, падкухцікаў зыкаў.
Там Войскі стаяў у прыемным якімсь захапленні
пры русе ражноў, аднастайна вярцеўшых пячэні.

Суддзя, зачыніўшысь ад рання, пісаў у святліцы,
а Возны ад рання чакаў пад вакном на прызбіцы.
Закончыўшы позву, Суддзя Пратазá заклікае
і голасна жалабу тую на Графа чытае:
за скрыўджанне гонару, крыўдныя розны выразы,
Гярвазага скаржа за гвалты, напад і уразы;
абодвух жа іх за пярэхвалкі, кошты судовы
ён цягне у суд гарадскі у раестар тактовы [4].
Трэ позву [5] сягоння ўручыці да заходу сонца.
Прымаў гэта Возны з паважнаю мінай, бясконца,
й рукою і слухам: як толькі ён позву на вочы
пабачыў, стаяў хоць, а рады б, здаецца, падскочыў.
На самую думку працэсу ён адмаладжаўся;
успомніў, як, ходзячы з позвамі, часта набраўся,
бывала, гузоў, але часта і шчодрых заплатаў.
Вось так і жаўнер, што жыццё у вайне пракалáтаў [6],
а после ў шпіталі на старасць калекай гаруе,
няхай толькі трубку ці бубен далёкі пачуе,
хапаецца з ложка, праз сон крычачы: «Бі маскаля!»
і скача ужо на назе дзераўлянай з шпіталя,
так хутка, што трудна здагнаці яго й маладзежы.

Пратазы спяшаўся хутчэй да вазненскай адзежы.
Жупана, аднак, ні кантуша цяпер не ўздзявае,
бо іх для вялікшай судовай парады трымае,
бярэ ў падарожу строй іншы: шырокі райтузы
і куртку, каторае полы, падняты на гузы,
закашаш, як трэба, ці спусціш, як хочаш, на ногі;
выгодную шапку з вушамі узяў для дарогі,
што можна падняць на пагоду, спускаць прад слатою.
Вось так апрануўшыся, з палкай пайшоў пехатою,
бо возныя перад працэсам, як шпегі прад боем,
прымушаны крыцца пад рознаю постаццю й строем.

А добра Пратазы зрабіў, што ў дарогу так ходка
сабраўся, бо позвай сваей пацяшаўся б каротка.



Ужо ў Сапліцове змянілі кампаніі планы.
К Суддзі уляцеў задумёны Чарвяк нечаканы
і кажа: «Суддзя, і бяда ж нам з тэй паняю цёткай,
з тэй паняй Тальменай, такою какеткай, пустоткай!
Як Зося дзіцём засталася, у бедным жа стане,
то Яцка Тальмене аддаў яе на ўзгадаванне,
бо добрая, думаў, асоба і свет добра знае,
аж бачу, яна нам цяперака штось замучае,
інтрыгі заводзе і вабе Тадэя, здаецца;
сляджу я за ею — а можа, да Графа бярэцца,
а мо' да абодвух адразу. Абдумаем сродкі,
каб неяк пазбыцца яе, бо іначай то плёткі,
нядобры прыклáд і між малакасосамі звады,
каторыя могуць сапсуць твае праўныя ўклады».
«Уклады? — ускрыкнуў Суддзя з незвычайным запалам,—
ніякіх укладаў, з укладамі квіта, прапала».
«А як то? — Чарвяк перабіў,— а ці розум, Пан, маеш?
ці новая зноў авантура, ці што мне тут баеш?»
Суддзя кажа: «Выясне суд, што не я вінаваты;
да звады давёў надзіманы Графюк дурнаваты
й Гярвазы латруга, а пэўне, што суд мне дасць веру.
Шкада, што учора ксёндз сам не прыйшоў на вячэру,
пасведчыў бы, як мяне Граф непрыгожа абразіў».
«Чаго ж Пан,— ускрыкнуў Чарвяк,— да руінаў тых лазіў?
Ах, замак пракляты! Адгэтуль ніколі не стане
нага там мая. Қалатня гэта зноў! як скаранне!
Дык як там было, раскажы, трэба справу зацерці,
ужо надаелі мне гэтыя глупствы; паверце,
што маю важнейшыя справы, як згоду рабіці
між цяжбітаў. Раз шчэ магу пагадзіць вас».— «Гадзіці?
а што гэта знача? А йдзі з такой згодай да ліха! —
затупаў Суддзя, перабіўшы,— вось, бачыце мніха!
Што ветла прымаю, то хоча за нос шчэ вадзіці!
Дык ведай, Сапліцы не любяць на згоду хадзіці,
пазвалі — дык выграці мусяць; не раз ў іх імéнні
працэс выгрываўся у шостым якім пакаленні.
Даволі дурнот нарабіў я з парады Вашэці,
суды падкаморскія склікаўшы раз ужо трэці.
Ад сёння няма аніякае згоды між намі!
(і, ходзячы з крыкам, ён тупаў абеймі нагамі).
Акроме таго, за ўчарашні нявеτлы учынак

ён мусіў бы перапрасіць, бо інакш паядынак!»
«А што калі Яцка даведацца-ме аб дурніцы
такой? ён з адчаю памрэ! Ці ж дагэтуль Сапліцы
замала яшчэ нарабілі у замку благога?
Браток! не хачу ўспамінаць я здарэння страшнога...
Часць грунтаў замковых, і сам мусіш з гэтым згадзіцца,
забрала ад іх і Сапліцам дала Таргавіца.
А Яцка, за грэх свой шкадуючы, меў прысягнуці,
грахоў каб дастаць адпушчэнне, дабро прывярнуці.
Аб Зосі, Гарэшкаў наследніцы, меў ён старанне
і коштаў жа не шкадаваў на яе ўзгадаванне.
Хацеў са сваім Тадавушкам дзяўчыну сасватаць
і так два дамы пакалочаны зноў жа пабратаць,
вярнуць каб старое грабежства без сораму, смела».
«А што гэта? — крыкнуў Суддзя,— ну а мне што за дзела?
Не знаўся ніколі і нават не бачыўся з Яцкам —
а толькі што чуў аб ягоным жыцці гайдамацкам,
сядзеў тады рэтарам [7] я ў езуіцкай шчэ школе,
а после служыў дзецюком у вайводавым коле.
Далі мне маёнтак, узяў; як казалі аб Зосі —
прыняць, то прыняў, гадаваў яе, думаў аб лёсе
дзяўчыны: даелі мне гэты гісторыі бабскі!
Урэшце, чаго сюды сунецца нос гэты Графскі?
Адкуль яго права да замку? То ж ведама ўрэшце,
вада ён дзесятая на кісялі [8] і Гарэшцы!
Зняважыў мяне, дык не мне напрашацца на згоду!»
«На то,— кажа ксёндз,— ёсць прычыны паважнага роду.
Ці помніш, што ў войска брат выслаць хацеў свайго сына,
а после пакінуў ў Літве: а якая прычына? —
што дома для краю хлапец карыснейшы тут будзе.
А ведаеш пэўне, аб чым пагаваруюць людзі,
аб чым я і сам і не раз вам прыношываў чуткі;
пара ўжо сказаць, не адкладываць больш ні мінуткі!
А важныя рэчы, мой браце! вайна туж над намі!
Вайна ж то за Польшчу! дык будзем і мы палякáмі!
Вайна непахібна [9]! Калі із пасланствам таемным
я мчаўся сюды, ўжо фарпочты [10] стаялі над Нёмнам;
вялікую армію ўжо Напальён сабірае,
якой чалавек шчэ не бачыў, гістор'я не знае.
А разам з французамі цягнуцца й польскія войскі,
і нашыя белы арлы, Панятоўскі, Дамброўскі!



Ужо у дарозе і хутка на знак Напальёна
праз Нёман пяройдуць, і ўскрэсне Літва і Карона».

Суддзя тое слухаў і зводьна складаў акуляры,
ў ксяндза углядаўся, маўчаў, ды змяніўся на твары,
глыбока ўздыхнуў, ажно вочы ад слёз замуціла...
за шыю ксяндза ухапіў, колькі сілы хапіла:
«А мой жа Чарвяча,— усклікнуў,— няўжо гэта праўда?»
«А міленькі! — зноў паўтарае,— няўжо гэта праўда?
Бо колькі ж разоў нас звадзілі! Ці помніш? казалі:
ужо во ідзе Напальён! і ужо мы чакалі!
Казалі: ў Кароне ужо, прусакоў жа разбіўшы,
прыходзе да нас! Ну, а ён? замірэнне зрабіўшы
у Тыльжы [11]. Глядзі, ці сябе ты не зводзіш часамі?!»
«Ды праўда,— Чарвяк адказаў,— так як бог ёсць над намі!»
«Дык слава хай будзе таму, хто нам гэта прароча! —
ускрыкнуў Суддзя, падымаючы рукі і вочы.—
А не пашкадуеш пасланства свайго ты, Чарвяча,
бо дзвесце адборных гавечак Сапліца прызнача
на кляштар. Ксяндзок, да каштанчыка ўчора ты рваўся,
а после таксама гнядком ты маім захапляўся:
абоіх сягоння ў квастарскім вазе запрагаеш,
сягоння што хочаш прасі, што сабе спадабаеш.
А толькі мне дай супакой ты з усенечкай справай
і з Графам; ён скрыўдзіў, я вызваў, было б не цікава
й нягожа...»

Аж рукі залáмаў на гэткія рэчы
квастар, углядаўся ў Суддзю і, пацікнуўшы плечы,
прамовіў: «Калі Напальён нам нясе ўжо свабоду,
як свет весь дрыжыць, тады ты пачынаеш нязгоду,
працэсы; няўжо з маіх слоў ты не вывеў навукі:
пара ўжо рабіць, не сядзець, злажыўшы так рукі
спакойна!» — «Рабіць? але што?» — тут Суддзя запытаўся.
«Няўжо,— кажа ксёндз,— ты з вачэй шчэ з маіх не спазнаўся,
няўжо табе сэрца нічога не кажа? Ах, браце!
Калі Сапліцоўскай крыві вы хоць капельку майце,
дык зважце: французы ад пераду будуць лупіці...
а каб гэтак стылу паўстанне народу зрабіці?
Падумай! Няхай заіржыць тут Пагоня, на Жмудзі

вядзмедзь хай раўне [12]! Ах, каб гэтак сабраліся людзі,
хоць з тысяча, з пяць якіх сотняў, ды стылу напёрлі,
паўстанне наўкола затым, як пажар, распасцёрлі,
каб мы, ад Масквы адабраўшы гарматаў, знамёнаў,
ішлі бы выбаўцаў вітаць: землякоў, Напальёна...
Ідом! Напальён жа, пабачыўшы нашыя лянцы [13],
пытае: а што там за войска? мы кажам: паўстанцы,
Цазар Найяснейшы, Літва і двары й вакаліцы —
ахвотнікі! — Хто камандзір? — Пад камандай Сапліцы!
Ніхто б тады й піснуць не смеў бы ўжо аб Таргавіцы!
Як доўга Панарам стаяці і Нёману плыці,
так доўга Сапліцаў імя у Літве будзе слыці;
унукаў жа і праўнукаў будзе Ягелаў сталіца
паказываць пальцам, гаворачы: гэта Сапліца,
із гэных, што першыя з шляхты зрабілі паўстанне!»

На тое Суддзя: «Не так важна людское прызнанне,
ніколі не дбаў я аб свету пахвалы празнадта;
нявінен таксама, дальбо, за грахі свайго брата,
не надта таксама ў палітыку я удаваўся,
а толькі судзіў і зямелькай сваею займаўся.
Як шляхціц, то пляму ту з дому хацеў бы я змыці,
паляк, а таму і для краю гатоў штось зрабіці,
душу нат аддаць. Хоць на шаблі я спрыцен не дужа,
аднак жа магу пастаяць, калі шчасце паслужа;
то ж ведама, ў польскіх апошніх часох сайміковых
я вызваў і зраніў дваіх аж братоў Бузвіковых,
якія... ды гэта не важна... А Ваша як мысліш?
Ці трэба цяпер, каб мы зараз у поле ўжо выйшлі?
Стральцоў назбіраецца, пораху маю ў дастатак,
а ёсць у ксяндза у клябаніі колькі гарматак;
ды Янкель казаў, што ў сябе ён трымае і гроты
да пікаў, як трэба, то зараз прышле да работы;
ён гроты гатовыя ў паках прывёз з Каралеўца [14]
сакрэтна; дык возьмем і зараз адзенем на дрэўца;
а шляхта за шаблі й на коней пасесць не змарудзе,
і сам я з Тадэем напарадзе й — неяк жа будзе!»

«О польская кроў! — тут узрушаны ксёндз усклікае,
й, схапіўшы Суддзю у абоймы, што сілы сціскае,—
Сапліцаў дзіцё справядлівае! Бог прызначае
табе, каб ты з брата з бадзянага змыў усе віны!
Цябе заўсягды шанаваў, але з гэтай хвіліны
люблю, як найлепшага брата із роднай радзіны.
Усё прыгатовім, а выступіць шчэ зачакайце,
сам вызначу месца і час вам — тады ўжо валяйце.
Я ведаю, цар праз паслоў цяпер просіцца надта
міра́ ў Напальёна [15] і, праўда, вайна не пачата,
а толькі ж князь Юзаф дачуўся ад пана Біньёна [16],
француза, даверніка блізкага Напалеона,
што кончацца перагаворы нічым, без паследку,
што будзе вайна. Таму князь мяне выслаў ў разведку,
з загадам такім, каб Літва ўжо была бы гатова
давесць Напальёну на дзеле, не толькі на словах,
што хоча злучыцца з Каронай, сястрыцай сваею [17],
жадае, каб Польшчу вярнулі й злучылі бы з ею.
Тым часам, браточку, вы з Графам дайдзіце да згоды.
Дармо, што дзівак, фантазёр, абы толькі без шкоды,
аднак жа і чэсны, і молад; патрэбны такія,
бо то ў рэвалюцыях дужа патрэбны дзіўныя,
я з доследу ведаю, нат дуракі прыдадуцца,
калі пад каманду разумных і чэсных здадуцца.
Пан Граф жа у шляхты вялізнае мае прызнанне,
павет весь зварухнецца, толькі хай Граф наш паўстане;
ён слаўны з багацтва, а кожны то шляхціц варожа:
відацца, што пэўная справа, як з ею вяльможа.
Ляту да яго...» — «Але толькі, каб гэта ўдалося,—
Суддзя яму кажа,— хай першы мяне перапросе;
бо я жа ж і векам старэй і ўрадова асоба,
а што да працэсу, хай будзе з арбітрамі спроба...»
Тут бразнуў дзвярмі барнадын. «Ну, шчаслівa
дарога!» —
Суддзя пажадаў.

Барнадын ужо ў воз ля парога
ускочыў, на коней махнуў, смаргануў іх умела,
калмажка [18] успырхнула, пылам кругом закурэла,
і толькі часамі манаскі каптур гэны буры
ўзнасіўся яшчэ над туманам, як каршун той над хмуры.
А Возны ўжо вышаўшы перш быў да Графіча дому.
Як ліс той бывалец, прынаджаны салам з-пад лому,
бяжыць, а стралецкія розныя хітрыкі знае,
бяжыць ды прыстане, прысядзе, хваста падымае,
як веерам, вецер кітою да нюхаўкі туліць,
пытаецца ветру, ці сала стральцы не атрулі?
Пратазы, з дарогі зышоўшы, уздоўж лугавіны

кружыў каля дому й вымахіваў палкай, з прычыны,
казаў бы, такой, што жывёлу пабачыў у шкодзе,
і так лавіруючы спрытна, ўжо стаў пры гародзе;
схіліўся, бяжыць, дзеркача нібы гэтак ён соча,
аж раптам скікне цераз плот і ў каноплі ускоча.

У гэтай зялёнай, густой і пахучай расліне
ля дому ёсць пэўны прытулак людзём і звярыне.
Не раз то бывае, што заяц, спайманы ў капусце,
скікне у каноплі, бо там беспячней, як пад кусце,
у гушчы зялёнай ніколі і хорт не здагоне,
і гончы не выветра, надта густая бо воня [19];
дварак, ад кнута уцякаючы, схову там знойдзе
і ціха чакае, аж злосць ужо ў пана пяройдзе,
і некруты нават, заместа у лесе, у пушчы,
дзе ўрад іх шукае, сядзяць у каноплях у гушчы.
Таму ў час заезду, бітвы або перадавання [20]
абодва бакі не шкадуюць ніколі старання,
каб толькі як-небудзь пазіцыю ўзяць канапляну,
што спераду цягнецца аж да двара да баркану,
а стылу звычайна да хмелю яна прылягае,
атаку прад ворагам і адварот прыкрывае.
Пратаз, чалавек хоць і смелы, а чуў крыху страху:
прыпомніў сабе ад таго канаплянага паху
вазненскія розны даўнейшы прыпадкі нягладкі:
каноплі, як сведкі, прыводзілі ў думку нагадкі:
як раз запазваны шляхцюра із Тэльш [21], Дзіндалет,
загадваў, у грудзі упёршы яму пісталет,
падлезці пад стол і ўсю позву, як пёс, адбрахаці,
што Возны прымушаны быў у каноплі ўцякаці.
А после як пан Валадковіч, ганорны, зухвалы [22],
што соймікі нат разганяў, гвалтаваў трыбуналы,
прыняўшы ўрадовую позву, падзёр на кавалкі,
паставіў ў дзвярох гайдукоў, падаваўшы ім палкі,
і, ўзнёсшы над Возным спалоханым голу рапіру,
крычэў: або голаў зыму, або з'еш сам паперу!
Дык Возны давай нібы есці, чалавек мудраваны,
аж скраўся к вакну і скікнуў у гарод канапляны.

Што праўда, тады у Літве не было ўжо звычаем
ад позваў на суд адганяціся шабляй, нагаем,
а лаянка нават і то ужо рэдка здарэнне;
ды толькі Пратазы аб гэткай абычаяў змене



і ведаць не мог, бо даўно не насіў ужо позваў.
Гатоў заўсягды, нават сам напрашаўся, ды просьбаў
не слухаў Суддзя праз узгляд на ягоныя годы;
сягоння ж прыняў прапазыку [23] з прычыны прыгоды,
не ждаўшай адкладу.

Пратазы глядзіць, уважае —
ціхусенька ўсюды — ён руку ў каноплі ўсувае
і, гушчу сцяблоў расхіляючы, так ярыною
плыве, як рыбак, занырнуўшыся ўглыб пад вадою.
Падняў галаву — ўсюды ціха — на дом спаглядае,
ціхусенька ўсюды — праз вокны пакоі бадае [24],
пусцюсенька ўсюды — на ганак ідзе не без страху,
ўвайшоў — а там пуста, як бы ў зачарованым гмаху.
Тут позву дастаўшы, заяву чытае умела,
аж раптам — туркоча! аж сэрца яму задрыжэла,
хацеў уцякаць... калі ў дзверы заходзе асоба,
на шчасце, знаёмая! Ксёндз! здзіваваліся оба.

Відаць, што Граф із дваром сваім недзе сабраўся,
пакінуў расчынены дзверы, відаць, спяшаўся.
Відаць, што збройўся спешна: ляжалі двururкі
і штуцары скрозь на падлозе, і штэмплі, і куркі,
пры гэтым слясарска начынне, каторым рыштункі
спраўлялі, і порах, папера: рабілі ладункі [25].
Ці Граф із дваром сваім цэлым паехаў на ўловы?
Нашто ж бы ручное аружжа? Палаш безгаловы
ляжыць заржавелы, во шпага ляжыць без тамляку [26]:
відаць, выбіралі аружжа із гэтага браку,
парухалі нават і склады старога аружжа,
Чарвяк да рушніцаў і шпагаў прыглядваўся дужа
уважна, а после ў пякарню пайшоў распытацца
пра Графа ад'езд у людзей, каб чагосьці дазнацца.
Дзве бабы спаткаў усяго, і адна старавіна
сказала, што Граф і усенькая дворна дружына
грамадна й аружна паехалі ў пуць да Дабрына.

А шырака слаўны ў Літве той Дабрынскі засценак
баёвасцю шляхты і гожасцю мілых паненак.
Багаты і модны даўней; як кароль бо Ян Трэці
абвесціў калісь паспаліта рушэнне праз віці [27],
харунжы вайводства прывёў з аднаго-лі Дабрына
шэсцьсот яму збройнае шляхты. Сягоння радзіна

збяднела, паменшала. Перш па дварох між панамі,
у войску, па сойміках, зборках, заездах часамі
прывыклі Дабрынскія жыці на лёгкім хлебе,
цяперака ж самі працуюць у цяжкай патрэбе,
не лепш мужыкоў! Адно толькі не носяць сярмягі,
а белыя світкі-капоты у чорныя шляхі,
ды контушы святам. І строй, нат бяднейшых
шляхцянкаў,
таксама жа ж розніцца шмат ад сялянскіх каптанкаў:
бо ходзяць яны у куплёных усё паркалічках,
пасуць не у лапцях лазовых, анно ў чаравічках,
жнуць збожжа, а нават і пражу прадуць ў рукавічках.

Дабрынскія розніліcь шмат між літоўскай братвою
і відам, і ростам, гаворкай зусім не такою.
То чыстая ляшская кроў; усё чорны чупрыны
і вочы, высокі лабы і насішчы арліны;
з Дабрынскай зямлі спракавечны свой род вывадзілі;
гадоў хоць чатырыста ўжо на Літву як прыбрылі,
умелі мазурскую мову й звычай захаваці.
Калі пры хрысцінах імя надавалі дзіцяці,
то бралі звычайна патрона яму караняжа [28]:
або Баўтрамея святога, або Матыяша.
Мацвеева сына хрысцілі яны Баўтрамеем,
а зноў Баўтрамеева сына хрысцілі Мацеем.
Жанчыны усе прызываліся Кахны й Марыны.
А каб разабрацца сярод вось такой мешаніны,
давалі мянюшкі ад нейкай захвалы, заганы,
і гэтак усе ў іх мужчыны й жанчыны празваны.
Мужчынам і колькі мянюшкаў давалі часамі
на жарт ці на знак паважання паміж землякамі;
бывала, той самы ў Дабрыне іначай быў ведам,
а зноў жа пад накшай мянюшкай быў знаны суседам.
Услед за Дабрынскімі іншае шляхты нямала
таксама мянюшкаў [29] сабе усялякіх набрала.
Цяпер бліэка кожная іх ужывае радзіна,
а мала хто знае, што маюць пачатак з Дабрына
й былі там патрэбны, калі ў астальным усім краі
дурным вычвараннем вайшлі у шляхоцкі звычаі.

Дабрынскі Мацей, што стаяў на чале вакаліцы
усей, празываўся мянюшкай Пятух на званіцы [30].
З семсотым і дзевяцьдзесятым чацвертым жа рокам,



змяніўшы мянюшку сваю, празываўся Забокам;
а Крулікам (кролікам) звалі Дабрынскія самі,
літоўцы яго ймянавалі Мацюк над Мацькамі.
Як ён панаваў над Дабрынскімі, дом так ягоны
над вёскай: займаў між карчмой і касцёлам загоны.
Відацца, што рэдка там госці: жыла ў ім галота,
бо брама стырчыць без варот, а гароды без плота,
не сеяны, нават на градках раслі ўжо бярозкі:
а ўсё ж выглядала сядзіба сталіцаю вёскі,
бо хата і веліччу й формай магла б пахваліцца,
а справа была мураваная з цэглы святліца.
І скарбец, і свіран, гумно, і абора, і стайня,
у кучы усё, як бывала у шляхты звычайне;
усё прастарое, гнілое. А стрэхі над хатай
свяціліся, моў бы пакрытыя бляхай багатай,
ад моху й травы, што буялася, бы ў сенажаці.
Па стрэхах гуменных, казаў бы гароды вісячы
раслін разнаякіх: крапіва і крокус чырвоны [31],
ўсялякія краскі у жоўтыя, сінія тоны.
Пад дах галубы улятаюць у нейкай трывозе;
во ластаўка шмыг у гняздзечка; трусы пры парозе
ў мураўцы капаюцца й скачуць, бы беленькі дзеткі.
Ну, словам, падобны той двор да трусярні ці клеткі.

А быў абаронны калісь! І шукаці не нада
слядоў, бо, відаць, дазнаваў ён нямала нападаў.
Дагэтуль пад брамай ляжыць у траве каля хаты
на веліч з галоўку дзіцячую куля з гарматы
з часоў яшчэ шведскіх [32]; калісьці вароты адпёрты
трымаліcь, крылом на жалезную кулю успёрты.
Ў падворку паміж палыноў, бадылёў запусцелых
стырчыць больш за дзесяць крыжоў паламаных,
збуцвелых,
ў зямлі непасвячанай [33]; знача, што тут пахавана
пагібшых ад смерці, ад наглай і неспадзяванай.
А глянеш на сцены ці скарбца, ці свірна, ці хаты,
то бачыш, яны ад зямлі аж да шчыту рабаты,
як роем насечнікаў чорных; у кожнай там пляме
сядзіць усярэдзіне куля, як чмель той у яме.

Пры хатніх дзвярох усе клямкі, гвазды ўсе і гакі,
калі не адцяты, то носяць ад шабляў адзнакі:
відацца, што тутака проб'валі гарт зыгмунтовак [34],

каторымі лёгка з цвякоў паадрэзваць галовак
ці гак адсячы, не зрабіўшы ніякае шчэрбы.
Вышэй, над дзвярмі, там Дабрынскіх віднеліся гербы;
аднак арматуру [35] паліцы сыроў засланілі,
і ластаўкі густа гняздзечкамі іх заскляпілі.

У сярэдзіне дому самога, у стайні, ў вазоўні,
рыштунку багата, маўляў у старой дзе збраёўні.
Вялізны вісяць пад страхой шышакі там чатыры,
аздобы для марсавых [36] чол, а сягоння Венеры,
там птушкі, галубкі, буркуючы, кормяць піскляты;
пад жолабам ў стайні кальчугі вялізны распяты
і панцыр кальчасты служылі цяпер за драбіну,
ў катору хлапец закідаў жарабцам канюшыну.
Кухарка рапіраў ўжо некалькі адгартавала,
замест ражкоў да пячэні у кухні іх брала;
бунчук [37] жа, пад Венай здабыты, атропываў жорна.
Так выгнала Марса Цэрэра спадарна, праворна
й пануе у хэўры з Памонай, Вертумнам і Флорай
над Мацькі Дабрынскага домам, гумном і каморай.
Ды сёння прымушана зноў уступіці багіня:
вяртаецца Марс.

На світанні з'явіўся ў Дабрыне
вярхом пасланец; ён лятае ад хаты да хаты
і будзе, на паншчыну моў бы. Устаюць браты-шляхты
і вулкі засценку натоўпам усе запаўняюць,
чуць крык у карчме, у клябаніі свечкі зігаюць.
Бягуць, і пытае адзін у другога — што знача?
Старыя дай раіцца; моладзь жа коней кульбача;
натоўпілась баб; дзяцюкі ужо рвуцца да бою,
ды толькі не ведаюць: з кім, і за што, і кудою?
Стаяць таму змушаны, хоцькі-няхоцькі. У клябана
трывала даўгая нарада, страшэнна змяшана,
а ўсё аніяк не маглі яны трапіць да ладу,
дык гурмам рашылі ісці да Мацея на раду.

Мацею гадоў ужо семдзесят два, а рухавы;
з узросту малы, канфад'рат яшчэ барскае справы [38].
О, помняць і другі і ворагі шаблю страшную
яго, дамасцэнскую [39] ту карабэлю крывую,
і пікі й штыкі ад каторай ляцелі, як сечка,
хоць жартамі скромна празваў яе Розга — Р у з э ч к а.



А з канфедэрата староннікам стаў каралеўскім,
трымаўся тады з Тызенгаўзам, падскарбім літоўскім [40];
калі жа ж кароль падтрымаў таргавіцкую змову,
Мацей каралеўскую партыю кінуў ізнову.
Таму што праходзіў праз партыяў гэтак ён многа,
празвалі калісьці П я т у х н а з в а н і ц ы старога,
што знача, як певень па ветры хвастом павяртаўся.
Прычыны жа частых так зменаў ніхто б не дазнаўся:
ці можа вайну так любіў, што, з аднымі пабіты,
ішоў да другіх, заўсягды да бітвы прагавіты?
Ці можа ён, быстры палітык, дух часу тлумачыў
і з тымі ішоў, дзе дабро для Айчызны прадбачыў?
Няведама! Толькі ж яго не вялі ні дурнота,
ні зыск які подлы, ні славы пустая ахвота,
і з парт'яй маскоўскай ніколі Мацей не трымаўся,
на самы нат від маскаля ужо пеніўся, рваўся.
Як край жа забралі, каб іх не спаткаці, ён дома
сядзеў, як вядзмедзь, што сасе сваю лапу пад ломам.

Апошні йшчэ раз ваяваў ён, пайшоўшы з Агінскім [41]
да Вільні, дзе разам служылі яны пад Ясінскім,
і з Розачкай там ён даказываў цудаў адвагі.
Слыло, што адзін быў саскочыўшы з насыпаў Прагі
на помач Пацею [42], каторы ляжаў не забраны,
пакінут на пляцы, дастаўшы аж дваццаць тры раны.
І думалі доўга ў Літве, што з абоімі квіта,
аж раптам вярнуліся, кожны паколат, як сіта.
Пацей па вайне захацеў праз удзячнасць, нязгорда,
свайму абаронцу Дабрынскаму выдзеліць шчодра
хвальварак харошы з дымамі пяцьма ў дажывоцце
і вызначыў рочна йшчэ тысячу злотых у злоце.
Дабрынскі адмовіў: «Хай мае Пацей лепш Мацея,
ніжэлі Пацея Мацей, за свайго дабрадзея».
Не ўзяў ані грошай вяльможы, ані фаліварку,
з уласнае працы пражыў, не прыняўшы падарку:
гаўяда лячыў, рабіў розны пчаліны прыладкі,
ў сілкі налавіўшы, на торг пасылаў курапаткі,
звяроў паляваў.

А нямала такіх у Дабрыне
людзей растаропных старых, што яны й па-лаціне
умелі, ў палестры былі з маладога йшчэ году;
а шмат багацейшых было, ды з усенькага роду

Мацей, хоць і бедны прастак, найбалей паважаны,
не толькі таму, што рубака ён, Розачкай званы,
а як чалавека з разумнаю думкай любілі,
што ведаў гісторыю краю, падзеі фамілі,
што ведаў законы й парадак увесь гаспадарства,
таксама як сэкраты розны стральцоў і лякарства;
прытым прызнавалі яму (хоць клябан і пярэчыў)
знаймо незвычайных і надчалавечых нат рэчаў.
То пэўне, што змены надвор'я дакладна ён знае
і за каляндар гаспадарскі часцей іх згадае;
таму не дзівота, калі ці сяўбу пачынаці,
ці слаці віціны, ці збожжа калі зажынаці,
або прававаца судом ці рабіці уклады,
нічога ў Дабрыне не йшло без Мацеевай рады.
Стары не шукаў ані крышкі уплыву такога,
нат сам на кліентаў пабурківаў злосна і строга
і моўчкі выпіхіваў часта за дзверы із дому,
а рады даваў дужа рэдка і не абы-кому;
і толькі у самых паважнейшых спорах ці ўмовах
спытаны, казаў сваю думку ў кароткіх ён словах.
Хацелі яго залучыць да сягоннешняй справы
і думалі, стане ён сам на чале ўсей выправы;
бо змоладу дужа любіў ён да біткі нагоду
і ворагам быў жа вялізным маскоўскага роду.

Якраз во старэнькі хадзіў па самотным падворры
й наспевываў ціха сабе: «Калі раннія зоры» [43],
вясёл, што пагодзіцца. Ймгла не ўздымалась панура
уверх, як звычайна, калі сабіраецца хмура,
а ўсё ападала. Ужо вецер, развёўшы далоні,
сівую разгладжваў імглу, рассцілаў на балоні;
тым часам і сонца з-над неба мільёнам праменняў
ўсё тло пратыкае, сярэбра, залоце, чырвене.
Як пара у Слуцку майстроў літ-паяс [44] вырабляе,
дзяўчына ізнізу на кросенцы шоўк заснувае,
разгладжуе поле, а зверху ўжо ткач навучоны
скідае ей ніткі із золата, срэбра, чырвоны,
складаючы краскі; так вецер зямлю туманамі
наскрозь заснаваў, а ўжо сонца праткала касамі.

Мацей абагрэўся на сонцы, малітвы канчае,
да працы ў сваім гаспадарстве малым прыступае.
Узяў лісця, травіцы і, сеўшы прад хатаю, свіснуў:



на свіст яго трусікаў рой з-пад зямлі моў бы пырснуў,
і моў над травой расцвілі тут нарцысы даўгія,
так іхныя вушкі бялеюць; пад імі зыркія
блішчаць вачаняты, казаў бы крывавы рубіны,
ушытыя густа у зель аксамітнай дзярніны.
Трусы ўжо на лапках стаяць; прыглядаецца стадка
і слухае; ўрэшце уся белапуха грамадка,
прынаджана лісцем капусты, бяжыць да старэчы
і скача пад ногі яму, на калены, на плечы.
А сам жа ён белы, як трус той, іх любе грамадзіць
і цёплай рукою пушок іхны мягенькі гладзіць,
другою ж рукою ён проста із шапкі кідае:
то для вераб'ёў — і крыклівая банда злятае.

Калі так стары забаўляцца пачосткай быў рады,
раптоўна трусы — у зямлю, вераб'ёў жа грамады
на стрэхі ўцякалі прад новых гасцей надыходам,
што хутка ішлі ад пякарні паважным чародам.
Былі гэта тыя паслы, што шляхоцкай грамадай
з клябаны пасланы сюды да Мацея за радай.
Здалёку старому адважылі нізка паклоны
й прамовілі важна: «Хай будзе Хрыстос пахвалёны!»
«На векі вякоў жа і аман»,— стары адазваўся,
калі ж аб паважнасці іхна пасланства дазнаўся,
то просе да хаты. Увайшоўшы, сядаюць на лаву;
адзін пасярэдзіне стаў і выкладуе справу.

Тым часам і шляхты штораз то гусцей прыбывала:
Дабрынскія блізка што ўсе там, суседзяў нямала
з засценкаў усіх вакалічных і збройна, й бязбронна,
у брычках, калмажках, а многа — і пеша, і конна;
вазы свае ставяць, к бярэзінкам вяжуць пад'ездкаў
і кружаць ля хаты, з нарады цікавыя весткаў;
запоўнілі хату, збіраюцца ў сені хваёвы,
а іншыя слухаюць, ўціснуўшы ў вокны галовы.

# *Быліца сёмая*



## НАРАДА

### ЗМЕСТ

Добрыя рады Баўтрука, празыванага Прусак.— Жаўнерскі голас Мацюка Хрысціцеля.— Палітычны голас пана Бухмана.— Янкель радзе да згоды, якую Цызорык расцінае.— Рэч Гярвазага, з якой аказуюцца вялікія вынікі саймавой вымовы.— Пратэстацыя старога Мацюка.— Раптоўнае прыбыцце ваеннай помачы зрывае нараду.— Гайда на Сапліцу!

Чародна Баўтрук, або Бартак, там справу выводзіў,
каторы не раз ў Каралевец са стругамі ходзіў,
названы Прусак ён паміжы сваймі землякамі
на жарты, што страшна ўжо грэбаваў ён прусакамі,
хоць рад быў аб іх гаварыць. Учытаны ў газету,
ў сваіх падарожжах далёкіх пабачыўшы свету,
ужо пажылы чалавек, у палітыцы сведам,
ён высветліць многае мог у нарадах як следна,
дык вывады гэтак канчае:

«Вось, знача, Мацею,
мой браце і бацька сабраных усіх, дабрадзею,
то помач зусім не благая. Бо я б на француза
ў вайне гэтак здаўся бы, на чатырох як бы тузаў:
народ баявы! а ад часу хіба Тадавуша
Касцюшкі, то свет і не бачыў такога генькоша [1]
ваеннага, як імператар цяпер Банапарты.
Я помню, французы калі перайшлі цераз Варту [2],
я быў за граніцай тады, а у року то панскім
у тысяча восемсот шостым; як раз жа із Гданскам
тады гандляваў я, а маю радню у Пазнанскім.
Паехаў адведаць іх. Ну, гэта з панам Юзэфам
Грабоўскім [3], каторы тады рэгіменту [4] быў шэфам
і жыў у тым часе на вёсцы каля Аб'язерра [5],
пайшлі мы сабе паляваць на маленькага звера.



Тады ў Велькапольшчы быў мір, як цяпер у Літве,
аж раптам расходзіцца весць аб страшэннай бітве.
Да нас пасланец прыбягае ад пана Тадвена [6].
Грабоўскі ліста прачытаў і ускрыкнуў: «Іена!
Іена! [7] пабілі прусакаў наголаў, страшэнна!»
Адразу з каня я саскочыў, прыпаў на калена
падзякаваць богу.— Ну, едзем да места блізкога,
як бы з інтарэсам, не ведаем нібы нічога;
аж бачым адразу: усе камісары, ляндраты
і іншыя розныя ўсе там сабакі гафраты [8]
з паклонамі нізкімі; кожны дрыжыць не прыпадкам,
маўляў той прусацкі насечнік, паліты вараткам [9].
Мы, рукі тручы й смеючыся пры гэтакай змене,
пытаем іх ветла навінак, што чуць аб Іене?
Спужаліся, дзівяцца, што аб паражцы [10] таковай
мы ведаем; крыкнулі немцы: «А хары гот! о вэй!» [11]
Спусцілі насы ды да хаты, а з хаты у ногі —
і рвалі жа драла! Усе велькапольскі дарогі
ад бежанцаў поўны. Паўзе немчура, як мурашкі,
і цягне вагены, фарналькі, то бачыш калмажкі,
павозкі па іхнаму гэта; мужчыны й кабеты
із люлькамі, ймбрычкамі цягнуць свой статак і бэты [12],
ўцякаюць наўзавады. Мы ж тады моўчкі нараду
і зараз на коней, каб немцам змяшаць рэйтараду [13]!
І дай жа ляндратам па шыі, з гафратаў дзерць схабы [14],
а гэр-афіцэраў лавіць за даўгія гарцабы [15] —
а тут генерал наш Дамброўскі ўляцеў да Пазнаня
й прынёс напальёнаўскі разам загад: Да паўстання!
У тыдзень адзін наш народ так расчысціў прусацтва,
што немца тады не знайшоў бы, каб трэ, й на лякарства!
А што, каб і нам гэтак хвацка і спрытна ударыць,
Маскву ў Літве, як у лазні, таксама адпярыць?
Ну, як жа, Мацею? Масква калі так з Банапартам
задзёрла каты, то ўжо ён паваюе не жартам.
Герой найпярвейшы на свеце, а войска без меры!
Ну, што, ты наш Крулік [16] і Бацька, ці добры намеры?»

Так скончыў. Чакаюць усе ад Мацея адроку.
Мацей галавой не крануў, не падняў нат узроку,
а толькі рукой колькі раз ударыў па боку,
казаў бы, што шаблі шукаў (ад забору бо краю [17]
ён шаблі не носе, аднак са старога звычаю,
Маскву як успомняць, за бок сябе левы хапае —

што Розачкі ўжо там няма, то, відаць, забывае;
праз тое усе й празвалі Мацея Забокам).
Падняў галаву ён і слухаў ў маўчанні глыбокам.
Відацца, ў сваіх спадзяваннях змыліліся людзі.
Нахмурыўся дзед, галаву апусціў аж на грудзі.
Азваўся ў канцы, вымаўляючы словы чаргою,
павольна, з прыціскам, ківаючы ў такт галавою:

«А ціхаце! скуль навіна гэта ўсенька прыходзе?
ды як жа далёка французы? а хто імі водзе?
ці ўжо і за што пачалі ваяваці з Масквою?
кудою праходзіць збіраюцца, з сілай якою?
а колькі язды, пехаты? няхай кажа, хто знае!»

Тут моўчкі адзін на другога гарой спаглядае.
«Я радзіў бы,— кажа Прусак, — пачакаць барнадына,
ксяндза Чарвяка, ад яго бо паходзяць навіны;
тым часам каб шпегаў нам пэўных пасланць пад граніцу
й паціху-памалу узбройваць усю акаліцу.
А толькі старацца усё асцярожна наладзіць,
каб неяк чаго маскалём у намерах не здрадзіць».

«Чакаці? брахаці?» — Мацей тут другі прарывае,
Крапіцелем хрышчан, бы дужа вялізную мае
дубінку, Крапілам празвану. Дык стаўшы сягоння
за тою дубінай, на галцы зламжыўшы далоні
і ўспёршысь на іх барадою, крычэў: «Зачакаці!
Пасаймікаваць! Чым трым, брым, а пасля уцякаці!
Не быў я у Прусах, а розум жа той крулявецкі
то добры для Прусаў [18], а мне хопе розум шляхецкі
Мне ясна, хто біцца маніцца, крапіла хапае,
а хто паміраць, той ксяндза да сябе паклікае!
Мне жыць толькі й біць! Дык нашто барнадын паміж
намі?
Не мальцы мы. Самі паробімся лепш чарвякамі,
Маскву каб тачыць. Трым, брым, шпегі і розны праведы.
Дык ведайце, што гэта знача? — Што вы кураседы
і боўдзілы самі! Бо справа то выжла сачыці,
ксяндзоўская квэсту збіраць, а мая так крапіці,
крапіці, крапіці і квіта!» — й пагладзіў дубінку.
Падхоплюе шляхта: «Крапіці! крапіць!» — як на рынку.



Хрысціцеля бок падтрымаў Баўтручок, што «Брытэўка»
за шаблю празваны, й Мацей, што празваны
«Канэўка» [19]
за стрэльбачку, штуцар, у горле страшэнна шырокі,
што, мовіў бы з конаўкі, куляў ліліся патокі.
Абодва крычэлі: «Віват наш Хрысціцель з Крапілам!»
Прусак не здаваўся, ды словы яго заглушыла
ад смеху і крыку: «Далоў Прусакі ўсе труслівы,
ў манаскі каптур хай схаваецца, хто баязлівы!»

Аж тутка старэнькі Мацей галаву падымае
і гоман, і крыкі паволі крыху уцішае:
«Не смейцеся,— кажа,— празнадта вы з гэнага плеха;
за вас бо вялікшага згрыз Чарвячок той гарэха.
І жах жа! Я раз толькі бачыў: ледзь вокам зірнуўся,
пазнаў, што за птушка; ён бокам адразу звярнуўся,
баяўся, відацца, каб я не пачаў спавядаці,
ды што ж — не мая гэта справа, няма што й казаці!
Сюды ён не прыйдзе, і клікаць дармо барнадына.
Калі ад яго гэта вышла усенька навіна,
няведама, з мэтай якою, бо бес то ксянжына!
Калі, апроч тэй навіны, вы нічога не мелі,
чаго ж да мяне вы прышлі і чаго вы хацелі?»

«Вайны!» — закрычэлі. «Якой?» — запытаўся. Казалі:
«Вайны з маскалямі! Паўстання! Гайда на маскалей!»

Прусак жа крычэў галасней, аніяк не здаваўся
і послуху часцю паклонам сабе дабіваўся,
а часцю прамовай крыклівай і тонкай дабіўся.

«І я хачу біцца,— крычэў і у грудзі лупіўся,—
Хаця ж не нашу я Крапіла, друком ад віціны
раз справіў ажно чатыром прусакам я хрысціны:
хацелі мяне па-п'яному у Прэглі [20] ўтапіці».
«Дзякую! — яму кажа Хрысціцель,— то добра! крапіці!»
«Ах, Езу, салодкі ты мой! Але ж перш трэба знаці,
вайна гэта з кім і за што? Каб і свету сказаці,—
Прусак галасіў,— бо інакш, то народ не за намі!
Не пойдзе, калі, дзе ісці, мы не ведаем самі!
Паны дабрадзеі, няўжо вы купаны ў варатку?
Браточкі, тут трэба разважнасці, ладу, парадку!
Вайны калі хочаце: зробіма канфедэрац'ю,

10. Зак. 19

а дзе й пад чыей булаваю, абдумаем рац'ю.
Таксама і тамака: ўбачылі мы рэйтараду
нямецкую, што тады робім? уходзім у раду
у тайную, зброім і шляхту й сялянску грамáду;
гатовы й чакаем Дамброўскага толькі наказу,
урэшце, на коней, гайда! і паўсталі адразу!»

«І я прашу слова!» — казаў камісар тут із Клецку,
прыгожы і молад, адзеты крыху па-нямецку,
пан Бухман; аднак жа паляк і у Польшчы радзіўся;
няведама толькі, са шляхты ці не, вывадзіўся.
Аб тым не пыталі, усе шанавалі Бухмáна,
што меў ён вялікую службу ў вялікага пана,
што добры ён быў патрыёт і вялізнай навукі,
што выўчыўся з кніжак чужых гаспадарскае штукі
і адміністрац'яй маёнтку займаўся умела;
судзіў аб палітыцы болей разважна, як смела,
умеў і прыгожа пісаць і прамову сказаці.
Замоўклі усе, калі ён пачынаў распраўляці:
«І я прашу слова»,— паўтарыўшы, двойчы адхаркнуў
і звонкімі вуснамі гэтак во звякнуў:

«Прадмоўцы мае у прамовах сваіх у вымоўных
кранулíся пунктаў усіх найважнейшых, галоўных,
дыскусію так на вышэйша ўзнялі станавішча,
дык мне застаецца сабраць у адзіна вагнішча
раскіданы мэтныя думкі і разумаванні;
і так спадзяюся згадзіць супярэчныя зданні.
Дзве часткі заўважыў я тутака ў споры тым цэлым;
падзел ужо зроблены, йду за тым самым падзелам.
А перад усім жа: нашто падтрымаць нам паўстанне?
і ў духу якім? найважнейшае, перша пытанне;
другое пытанне — то рэвалюцыйная ўлада.
Падзел такі добры, анно адвярнуць яго нада,
найперш распачаць ад улады; а сцяміўшы ўладу,
з істотай і духам і мэтай паўстання дам раду.
Дык вось аб уладзе: калі вачымá прабягаю
падзеі ўсяго чалавецтва, то што заўважаю?
Вось род чалавечы дзікі, па лясох несканчоных
рассыпан, збіраецца, лучыцца для абароны,
рыхтуецца, раіцца — першая гэта нарада.
А после з часціны уласнай свабоды, што нада,
зракаецца кожны для огулу: гэта устава



найпершая, скуль, як з крыніцы, цячэ усё права.
Дык бачыма гэтак, што творацца ўрады умовай,
аж, як выдумуюць, божаю воляй якоўай.
Як выяснім так мы урад грамадзянскім кантрактам,
падзел тады ўлады канешным праявіцца актам...» [21]

«Ну, вось табе маеш кантракты! мо' кіеўскі, мінскі? —
Мацюк тут стары перабіў,— і урады бабінскі! [22]
Пан Бухман, не буду я з вамі аб тым калаціцца,
ці чорт, ці сам бог нам накінуў цара — то дурніца:
кажэце, як скінуць цара, давай спосаб пазбыцца!»

«Во штука,— ускрыкнуў Крапіцель,— каб мог я
падскочыць
да трону й цара каб Крапілам так пляснуць праз вочы,
тады б ён ужо не вярнуўся ні кіеўскім трактам,
ні менскім, ні пана Бухманавым нейкім кантрактам;
напэўне, не ўскрос бы ні з божае моцы, ні з поп'яй,
ані з Бальзабубавай [23]; той малайчына, хто кропе!
Хоць вашая, Пане Бухмáне, прамова вымоўна,
гаворка шум, друм, бо крапіць! гэта справа галоўна».

«Няўжо ж!» — запішчэў, паціраючы рукі, «Брытэўка»,
лятаўшы ад Мацькі к Хрысціцелю, мовіў бы цэўка,
кіданая справа налева у кроснах жанчынай:
«А толькі, ты, з Розачкай Мацька, ты, Мацька з дубінай,
згадзіцеся толькі, дальбо, маскалёў мы паб'ема
на друз; дык усе пад камандаю Розгі хадзема!»

«Каманда,— азваўся Хрысціцель,— то так, на парадзе;
у нас жа каманда такая ў кавенскай брыгадзе,
і коратка й ясна: пужай, але сам будзь без страху,
лупі, не давайся, валяй і махай без прамаху;
шах, мах!» — «Ну, вось гэта мне,— Брытва піснýў,—
рэгулямант! [24]
Нашто пісаніна, нашто марнаваці атрамант [25]?
А канфедэрацыі трэба? дык справай такою:
Мацей — наш маршалак, а Розга — яго булавою».
«Вівáт наш Пятух на званіцы!» — ускрыкнуў
Хрысціцель.
А шляхта яму адказала: «Вівáт наш Крапіцель!»

Аднак, хоць стрымáна, ў кутох зашамрэла грамада,
відаць, што на дзве стараны раздзяляецца рада.

Ка' Бухман: «А згоды ніколі я не пахваляю,
мая то сістэма!» Хтось крыкнуў жа: «Не пазваляю!»[26]
А іншыя ўтораць з кутоў. Тады голасна, груба
азваўся прыбыўшы нядаўна і шляхціц Скалуба:

«Панове Дабрынскія! гэта ж не гожая справа!
А мы няўжо выняты будзем чамусьці з-пад права?
Як нас жа із нашых засценкаў сюды запрашалі,
спрасіў нас Рубайла Мапанку, то гэтак казалі,
што дзеяцца маюць вялікія рэчы ў народзе,
не толькі аб вас, а аб цэлым павеце тут ходзе,
аб шляхце усей; і Чарвяк жа не раз заікаўся
аб гэтым, што праўда, ніколі ва ўсім не прызнаўся,
а заўжды нам цёмна тлумачыў. Канцы ж то канцамі,
мы з'ехалісь тут і суседаў сазвалі ганцамі.
Не самі, Панове Дабрынскія, тутака, ўрэшце,
збярэцца із розных засценкаў тут шляхты са дзвесце,
дык радзьмася разам. Калі ўжо патрэба маршалка,
то ўсе галасуем, і кожнаму роўная галка [27]!»
Жыве няхай роўнасць!

І два Тараевічы,
чатыры Стыпулкоўскія, разам тры Міцкевічы
«Няхай жыве роўнасць!» — крычаць, стаючы
за Скалубай.
А Бухман пакліківаў: «Згода то будзе загубай!»
Крапіцель крычэў: «І без вас мы абойдземся самі,
няхай жа жыве наш маршалак, Мацюк над Мацькамі!
Бяры булаву!» Тут Дабрынскія ў крык: «Запрашаем!»
А шляхта чужая у голас: «Мы не пазваляем!»
На дзве раздзяліўся грамадкі натоўп скалачоны,
галоўмі ківаючы ў дзве процілежны староны,
адны крычаць: «Не пазваляем!» — другія жа: «Просім!»

Мацейка стары пасяродку сядзеў ў разгалоссі
такім, з усіх толькі яго галава нерухома.
Супроціў яго стаў Хрысціцель, трымаўшы рукома
дубіну, ды ўспёртай на ей жа сваей галавою
круціў, як узбітай на жэрдзіну тыквай якою,
і напераменку, то ўзад, то ўперад ківаўся,
«крапіць і крапіць!» — пастаянна крычэў, не спыняўся.
Уздоўж па святліцы пашмыгіваў Брытва рухавы
усё ад Крапіцеля ды да Мацеевай лавы.



А Конаўка ўшыркі паважна ізбу размярае
ад шляхты к Дабрынскім і, як пагадзіць, размышляе.
Адзін паўтарае: «Галіць!» — а другі: «Заліваці!»
Мацей хоць маўчыць, ды, відно, пачынае злаваці.

Так доўга шумелі, аж, бач, над натоўп вераскучы
спаміжы галоваў бліснуў, бытта стоўп разбліскучы:
быў гэта рапір даўжынёю у сажань, шырокі
на цэлую пядзю, а сечны на 'бодва ён бокі.
Відацца, тэўтонскі то меч, з нарымбэрскае [28] сталі
каваны; дык моўчкі усе на той меч спаглядалі.
Таго, хто падняў, не відаць — дагадаліся ж скора:
Цызорык! дык крыкнулі гурмам: «Віват наш Цызорык!
Цызорык то Ключніка скарб найвялікшы у замку!
Віват наш Рубайла і Шчэрбец, Паўкозіч, Мапанку!»

Гярвазы (бо ён гэта быў) праз натоўп праціснуўся
ў сярэдзіну, бліснуў Цызорыкам, ўкруг азірнуўся,
затым, гастрыё пахіліўшы на знак прывітання
прад Мацькай: «Цызорык для Розгі — маё паважанне!
Браточкі Дабрынскія,— кажа,— не буду я радзіць
нічога, скажу адно толькі, на што вас зграмадзіць
стараўся, а далей усё станавіце вы самі.
Вам ведама, чуткі даўно ужо ходзяць між намі,
што дзеяцца вялікія рэчы на свеце,
Чарвяк гаварыў і гавораць усе у павеце?»
«Ну, ведама!» — крыкнулі.— «Добра. Разумнаму,—
кажа,—
даволі двух слоў, а усё зразумее і зважа,
не праўда?» — «Ну, праўда!» — «Калі ж імператар
французскі,—
Гярваз прадаўжае,— надходзе, а тутака рускі:
вайна! З імператарам цар, каралі з каралямі
пайдуць за чубы, як звычайна паміжы царамі,
а нам ці ж сядзець? Як вялікі вялікага глуша,
мы меншых падушым, свайго няхай кожны прыдуша.
Вялікім вялікая, меншым малая задача,
дык выразаць трэба шальмоўства усё, не іначай,
тады закрасуе і шчасце, і Рэч Паспаліта!»
«А праўда! — крычэлі,— як з кніжкі у цемя убіта!»
Хрысціцель падтрымываў: «Праўда, крапі іх і квіта!»
«Галіць заўсягды я гатовы!» — азваўся і Брытва.
«Ды толькі згадзіцеся,— Конаўка ўсё дамагаўся,—

Мацей і Хрысціцель, наконта начальства, улады».
А Бухман на тое: «На згоду дурны толькі рады,
не шкодзяць для справы ані дыскусійныя звады.
Паслухайма моўчкі, а справа на тым толькі зышча [29],
бо з новага Ключнік глядзіць на яе станавішча».

«А дзе там,— адказуе Ключнік,— ў мяне па-старому;
аб рэчах вялікіх і думаць магнату якому:
на то імператар, кароль, і сенат, і паслове,
а робяцца гэткія рэчы, Мапанку, ў Кракове
або у Варшаве, не ў нас, у засценку Дабрыне.
А канфедэрац'яў не пішуць ані на віціне,
ні ў коміне крэйдай, а толькі жа на пергаміне.
Не нам і пісаць гэты акты, на то пісары і
каронны й літоўскія: гэтак рабілі старыя.
Во рэзаць Цызорыкам — справа мая!» — «І Крапілам
крапіці!» — дабавіў Крапіцель.— «Выколываць
шылам»,—
ускрыкнуў тут Шыла Баўтрук, дабываючы шпагі.

А Ключнік: «Ніхто запярэчыць не мае адвагі,
Чарвяк што казаў: калі вы маніцёся ў павеце
прымаць Напальёна, то з дому трэ вымесці смецце.
І чулі то, пэўне, усе вы, а ці разумейце?
А смецце павету — то хто? Хто забіў гэтак здрадна
найлепшага тут з палякоў? і, аграбіўшы ладна,
цяпер ад наследніка вырваць астаткі маніцца?
Ці трэба казаць вам яшчэ?» — «Не іначай, Сапліца,—
адгадуе Конаўка,—злодзей!»—«О ёй! то гнабіцель [30]!»—
тут Брытва піснуў.— «Дык крапіць яго!» — кажа
Хрысціцель.
А Бухман прыбавіў: «Як здраднік, павесіць гадзіцца!»
«Гайда! — тады крыкнулі ўсе ўжо,— гайда на Сапліцу!»

Прусак яшчэ пробуе смела Суддзі абароны
і кажа, развёўшы рукамі ў абедзве староны:
«Панове браточкі! ай, ай! а на боскія раны!
І, Пане Гярвазы, няўжо вы ў варатку купаны?
Ці ж мова аб гэтым была там? Што нехта вар'ята,
баніта [31] меў брата, ці ж можна караці за брата?
Ну, вось хрысціяне! Я Графіча бачу каншахты
у гэтым.— Ну, скажам, Суддзя каб цяжкі быў для
шляхты,



дык не, далібо! Толькі вы называеце самі
яго, калі ён пагадзіцца стараецца з вамі,
свайго уступае, аплачуе грыўні і страты.
А што нам, што судзіцца Графіч? Абодва багаты;
дзяруцца паны, хай дзяруцца, чым мы вінаваты?
Суддзя то гнабіцель?! А ён бараніў, хіба блізка
што першы з паноў, мужыкам сваім кланяцца нізка,
к зямлі, бо то грэх. І не раз у яго то бывае,
я сам гэта бачыў, сялян да стала запрашае.
За воласць падаткі плаціў, а не так, як у Клецку,
хоць Ваша, Пан Бухман, там справу вядзеш па-нямецку.
Суддзя, кажуць, здраднік! Ад інфімы [32] разам ён з намі;
як быў, такі самы пасцівы, судзіце вы самі;
і Польшчу, і польскі звычаі ён любе, з народам
трымае і ходу не дасць абмаскаленым модам.
Як з Прусаў вяртаюся, хочучы змыцца з нямчызны,
ляту у Сапліцава, нібы у цэнтру пальшчызны:
а там, чалавек, надыхнешся, нап'ешся айчызны!
Дабрынскія, братам я вам, а не дам жа ніколі
пакрыўдзіць Суддзю, і не ўдасца супроць маей волі.
Не так, браты-шляхта, вун там Велькапольшча рабіла:
і згода якая і дух! аж успомніці міла.
Падобных дурніцаў то, пэўне, ніхто б там не слухаў!»
«Дурніцаў?! — ускрыкнуў Гярвазы,— павесіць
латругаў!»

Крык, шум узмагаўся. Тут Янкель прасіў паслухання,
на лаву ўсаскочыў, падняў над галовы сабрання,
як вехаць, сваю бараду, што па пояс сягае;
ён ліссі каўпак сабе правай рукою здымае,
а левай рукою скрануту ярмолку паправіў,
затым жа за пояс заткнуў яе й гэтак во правіў,
а ліссім сваім каўпаком усё кланяўся нізка:

«Ну, шляхта-панове, ну хай сабе буду «жыдзіска»;
Суддзя мне ні сват, ані брат; я шаную Сапліцаў,
паноў справядлівых і добрых, маіх жа дзядзічаў,
шаную Дабрынскіх я тож, Баўтрамеяў, Мацеяў,
як добрых суседаў сваіх жа, паноў дабрадзеяў;
і гэтак скажу: калі хочаце гвалт прычыніці
Суддзі, гэта дрэнна; ну, скажам, пабіці, забіці,
то лёгка, ну так — а асэсары, спраўнік, а турмы?
Бо ведайце, ў вёсцы Сапліцы жаўнераў жа цэлыя гурмы,

і егры[33] ўсе чыста! Асэсар у хаце; як свісне,
то прымашыруюць адразу, стаяць як умысне.
А што тады будзе? Калі ж вы чакайце француза,
французу дарога да нас шчэ вялікая дужа.
Я жыд і на войнах не знаюсь, а быў у Бяліцы[34]
і бачыў знаёмых жыдоў там ад самай граніцы;
чуваць, што французы стаяць над Ласоснай ракою[35],
вайна ж калі будзе, то толькі хіба ўжо вясною.
Ну, так вам скажу: пачакайце! а двор Сапліцова
не крамная будка складана якась кірмашова,
злажыў і уцёк: як стаяў, так і будзе стаяці;
Суддзя не рандатар жыдок, каб ён меў уцякаці,
таму і вясною знайсці яго будзе шчэ можна.
Цяпер разысціся! А толькі пра ўсё асцярожна,
а лепш не казаць анічога, паны ягамосці.
Як ласка, панове, чыя — запрашаю у госці,
бо Сара мая, ну, маленькага Янкельку мае,
усіх я частую сягоння, і музыка грае!
Заказаны скрыпкі, басэтля і дуды здаровы,
а, Пане Мацею, Пан любіш мядочак ліпцовы
стары, і каб новы мазуркі: а ёсць мазурочкі
навюсенькі; файна[36] наўчыў я пяяць бахурочкі».

Вымова й развага любімага ўсімі Янкéля
прыпала да сэрцаў, дык воплескі згоды й вяселля
сарваліся ў хаце й ляцелі праз вокны і дзверы.
Гярвазы на Янкеля тут жа Цызорыкам змерыў;
жыд скочыў у шляхту, а Ключнік жа: «Вон, жыдавіне,
не сунь свайго носа у справы чужыя, бадзіня!
А, Пане Прусак, ці таму за Суддзю агітуеш,
што парай ягоных мізэрных віцінаў гандлюеш?
Запомніў, што бацька Вашэціны быў не такоўскі
й да Прусаў сплаўляў больш за дваццаць віцін
Гарашкоўскіх?
Таму збагацеў так і сам і ягона радзіна,
а нават усе, колькі ёсцека вас із Дабрына.
Што Стольнік быў бацька для ўсіх, дабрадзей, то,
старыя,
вы помніце добра, а чулі хіба й маладыя.
Каго ж камісарамі слаў да маёнткаў да пінскіх?
Каго на рахмістраў[37] сваіх выбіраў ён? Дабрынскіх!
А крэдэнсу і маршалкоўства нікому, акроме
Дабрынскіх, не даў: а Дабрынскіх паўнюсенька ў доме!



То ж ён і ў судох падтрымовываў вашыя справы,
і у караля вырабляў жа ён хлеб вам ласкавы,
а вашых дзяцей дык капамі мясціў у канвікце[38]
піярскім, на коштах ягоных, адзежы і вікце[39];
узрослым пратэгу[40] рабіў — ну: не быў людаедам!
Скажэце: нашто яму гэта? — што быў вам суседам!
Сягоння не Стольнік, Сапліца сусед ваш блізюткі,
а добрага што вам зрабіў ён калі?»

«Нічагуткі!
Бо вырасшы,— Конаўка кажа,— з малога шляхеткі,
а нос задзірае уверх, надзіманішча гэткі!
Я, помніце, раз запрасіў на дачушкі вяселле;
паю, адмаўляецца, кажа: «Не п'ю я так веле,
як шляхта, бо вы наліваеце поўнае бруха!
Магнат! далікацік з мукі марымонскай[41], псялюха!
Не піў; налілі яму ў горла: крычыць і гвалтуе.
Чакай-жа, налье табе Конаўка! ох, не даруе!»
«Ой, жох! — закрычэў тут Крапіцель,— і я яго кропну,
аддам за сваё. Мой сынок быў хлапец растаропны,
цяпер жа здурнеў, што яго празываюць Саком,
а з прычыны Суддзі ён зрабіўся такім дураком.
Казаў я: «Чаго цябе ліха ў Сапліцава гоне?
чакай жа, як толькі злаўлю, няхай бог це бароне!»
А ён праз каноплі да Зосі ізноў падхадзіці;
злавіў яго, цапнуў за вушы і дай жа крапіці;
а ён тут у плач, як малое дзіця, завадзіці[42]:
«Забі мяне, бацька, а мушу ісці там»,— рыдае.
«Чаму гэта?» Кажа, што надта ён Зосю кахае!
Хацеў бы зірнуць на дзяўчыну! Ну, жаль мне дурнога,
кажу да Суддзі: «Пан, мне Зосю аддай за малога».
А ён жа: «Замолада,— кажа,— няхай пачакае,
сама як захоча». Тым часам, латруга, ўжо мае
кагосьці, чуваць. Ну, ўжо я на вяселле ўкручуся
і добра пасцель маладых пакраплю, адамшчуся!»

А Ключнік: «І гэтакі мае у нас панаваці,—
крычэў,— і даўнейшых найлепшых паноў руйнаваці?
А нашых Гарэшкаў — імя іх і памяць загіне?
Дык дзе ж тады ўдзячнасць на свеце? Няма у Дабрыне!
Браточкі! Вам хочацца з рускім царом нават біцца,
тым часам, я бачу, для вас застрашны і Сапліца!
Турмы баіцёся? Няўжо на разбой намаўляю?

А крый мяне, божа! я толькі за права трымаю.
То ж Граф гэта выграў, зыскаў і дакрэтаў нямала;
а выпаўніць толькі! Вось гэтак даўней жа бывала:
дакрэты пісаў трыбунал, а шляхта выпаўняла,
найболей Дабрынскія, згэтуль жа іхная й хвала
ўзрасла на Літве! Бо то ж гэта Дабрынскія самі
на Мышскім [43] заездзе змагаліся там з маскалямі,
каторых расейскі прывёў генарал Вайніловіч
і, злодзей, прыяцель ягоны пан Воўк з Лагамовіч.
Ці помніце, як мы забралі Ваўка да няволі
і як ужо вешаць хацелі на бэльцы ў стадолі,
што быў ён слугой маскалём, мужыкам жа тыранам;
сяляне ж, дурныя, ўзялі й злітавалісь над панам!
(А мушу ўпячы шчэ яго на сваім Цызарыку.)
Не ўспомню я іншых вялікіх заездаў без ліку,
з каторых выходзілі добра, як шляхце прыстала:
з агульным прызнаннем, і зыскам, і хвалай!
Ды што ўспамінаць вам! Сягоння ўжо многія леты
правуецца Граф, ваш сусед, вырабляе дакрэты,
а беднаму з вас аніхто не паможа сіроце!
Дармо вас Гарэшка жывіў, памагаў у бядоце,
наследнік ягоны не мае прыяцеляў скорых,
адно толькі Ключніка й гэты вось верны Цызорык!»

«Й Крапіла,— ускрыкнуў Хрысціцель,— таксама
з Гярвазам!
пакуль шчэ плюск-пляск у руцэ, то з табою я разам.
Што два, не адзін! Далібо, мой Гярвазы, ты меч,
я Крапіла сваё; далібо! я крапіць, а ты сеч,
і гэтак шах-мах, плюск і пляск! а яны хай лапочаць!»

А Брытва: «Пакінуць хіба ж і мяне не захочаць,
бо толькі намыліць — згалю й галаву з валасамі».
«І я,— кажа Конаўка,— рушыць гатовы із вамі,
як нельга усім пагадзіцца на выбар маршалка;
ды што галасы мне і галкі; бо во ў мяне галка:
(тут выняўшы куляў са жменю, пазвоньваў імі),
во галкі! — ускрыкнуў,— ў Суддзю давай галкамі
ўсімі!»
«Да вас прылучуся,— кажа Скалуба,— бясспрэчна!»
І крыкнула шляхта: «За вамі усе мы, канешна!
Няхай жа жывуць нам Гарэшкі! Далоў Таргавіцу!
Віват наш Гярвазы Рубайла! Гайда на Сапліцу!»



Усіх за сабой пацягнуў так вымоўны Гярвазы,
бо кожны з іх меў да Суддзі усё нейкія ўразы [44],
звычайна ў суседстве бывае: то скаргі за шкоду,
за порубку, часам яку межавую нязгоду.
Адных толькі злосць, а другіх падбурала і завісць
багацця Суддзі, а усіх пагадзіла нянавісць.
Да Ключніка цicнуцца, ўверх падымаючы хмурай
і шаблі, і палкі.

Мацей, нерухомы й пануры
дагэтуль, устаў з сваей лавы, ціхімі шагамі
ішоў сярод хаты і ў бокі падпёрся рукамі;
паважна і строга зірнуў на усіх прад сабою
і, слова узяўшы, ківаючы ў такт галавою,
казаў з перапынкам, з прыціскам: «Дурныя, дурныя!
Заплаціце дарага самі за справы чужыя!
Пакуль аб ускрэшанні Польшчы тачылася [45] рада,
дабры грамадзянскім, дурныя, у вас тады звада!
І нельга, дурныя, было ані разгаварыцца,
ні правадыра вам паставіць, ні ладу дабіцца,
дурныя! А толькі ж як крыўда якая ці шкода
зусім асабістая, зараз, дурныя, ў вас згода!
А вон жа адгэтуль! А ну вас да бесаў мільёнаў,
сто тысячаў фураў і бочак, вазоў і фургонаў
чартоў!!!»

Прызамоўклі усе, як паражаны громам;
аж крык там страшэнны падняўся раптоўна за домам:
«Віват наш пан Граф!» Ён ўяжджаў на фальварак
Мацееў,
сам збройны, за ім жа узброеных дзесяць джакееў.
Сядзеў сам на хвацкім кані і у чорным быў строю;
наверсе гарэхавы плашч італьянскага крою,
шырокі і без рукавоў, як апона [46] на рэчы,
на засцежку ўзяты пад шыяй, спадаў цераз плечы;
а брыль жа меў круглы з пяром, у руцэ трымаў шпагу.
Канём павярнуўся і шпагай вітае ватагу.

«Віват нашы Графіч,— крычэлі,— з ім жыць і ўміраці!»
І кінулась шляхта праз вокны на двор вызіраці,
за Ключнікам зараз із хаты к дзвяром напіраці.
З выходзіўшым Ключнікам натаўп шляхоцкі вось сунуў,
а, выгнаўшы рэшту, Мацей свае дзверы засунуў,
зірнуў праз вакно і яшчэ раз ім крыкнуў: «Дурныя!»

А шляхта тым часам ля Графа збіраецца, вые.
Ідуць у карчму. Тут Гярвазы успомніў мінуўшы
часы і казаў сабе даць паясы тры з кантушаў,
на іх жа са склепу тры бочкі выцягуе жыва:
мядову, другую гарэлкі, а трэцюю піва,
Як выцягнуў шпунты, тры пырснулі з шумам фантаны:
чырвона-крывавы, і жоўты, й адзін серабраны;
спадаючы звонка, сто кубкаў, сто чар наліваюць.
А шляхта кіпіць, бы ў катле. Падымаюць шкляніцы
за Графа здароўе і ўтораць: «Гайда да Сапліцы!»

А Янкель жа вымкнуўся моўчкі; Прусак гэтаксама,
не слуханы, хоць і даводзіў вымоўна, упрама,
даў цягу, ды шляхта ўздагонку крычэла, што здрадзіў.
Міцкевіч здалёку стаяў, не крычэў ані радзіў,
а з міны пазналі, што нешта благое мудруе,
дык зараз за шаблі й давай! Ён назад рэйтаруе,
усё адбіваецца, ранен, прыпёрты да плоту,
аж Зан і два Чэчаты скочыць прымелі ахвоту
на помач. Тут шляхту разнялі, ды ў гэтым разруху
двух ранілі ў рукі, нат нехта дастаў і па вуху,
а рэшта на коней сядала.

Пан Граф і Гярвазы
аружжа даюць, вызначаюць загады, наказы.
Урэшце усе праз даўгую засценку вуліцу
пусціліся наўскачкі з крыкам: «Гайда на Сапліцу!»

# *Быліца восьмая*



## ЗАЕЗД

### ЗМЕСТ

Астраномія Войскага.— Увага Падкаморага над каметамі.— Таёмная сцэна ў пакоі Суддзі.— Тадэвуш, хочачы спрытна выблытацца, пападае ў вялікія клопаты.— Новая Дыдона [1].— Заезд.— Апошняя возненская пратэстацыя.— Граф здабывае Сапліцава.— Штурм і разня.— Гярвазы — піўнічым.— Бяседа на заездзе.

Прад бурай бывае хвіліна ціхая й панура,
калі праляціць над людскімі галовамі хмура
і стане, а, грозячы тварам, дых ветру стрымае,
маўчыць і вачыма маланкаў зямлю абягае,
мясцы вызначаючы, жарнуць дзе громам па громе:
хвіліна такога зацішша ў Сапліцавым доме.
Казаў бы, прачуцце якіх надзвычайных здарэнняў
дых спёрла і дух узнасіла у край летуценняў.

Было па вячэры. Суддзя, а з ім дворныя госці
ішлі на падворра, каб вечару ўжыць прыямносці;
сядаюць на прызбах, засланых шаўковай муравай.
Усенька кумпання з маркотнай, ціхою паставай
ўзіраецца ў неба, якое, здаецца, зніжалась,
сціснялася й болей і болей к зямлі прыбліжалась,
аж разам абое, закрыўшысь заслонаю цёмнай,
як пара каханкаў, звяраліс [2] гамонкай таёмнай,
тлумачачы сэрца у кволых уздыхах стрыманых,
у шэптах, у шорахах, словах кароткіх, парваных,
з каторых складаецца музыка ночы дзіўна́я.

Сава пад страхой сваім енкам яе пачынае;
во, мяккім крылом кажаны лапатнулі і мецяць
пад хату, дзе твары людскія і шыбіны свецяць;
бліжэй кажановыя сёстры, матыліцы роем
віюцца там, белым жаноцкім прынаджаны строем.

Найгорай апрыкрылі Зосі, бо ў ясныя вочы
ей б'юцца, прыняўшы за свечкі ў надходзячай ночы.
Ваднёў на паветры збіраюцца круглыя хэўры
і круцяцца, граючы, бытта гармонікаў сферы [3];
між тысяч гамонак разрознюе вуха дзяўчыны
акорд машары і фальшывы паўтон камарыны.

А зараз і ў полі пачнуцца вячэрні канцэрты;
во, строіць канчаюць музыкі свае інструменты.
Ўжо тройчы зыкнуў там дзяркач, лугавы запявала,
за ім жа ад ройста уторыў хтось басам удала;
успырхнулі з гнёздаў сваіх бакасы ужо гонкі
ды круцяцца й бэкаюць, бытта бы б'юць у бубёнкі.

Фіналам на звон машары і птушыныя клікі
азваліся хорам падвойным ставы два вялікі,
казаў бы, у горах каўказскіх закляты вазёры,
што дзень весь маўчаць, толькі вечарам граюць, як хоры.
Адзін з тых ставоў, што сам ясны й меў бераг пясчысты,
з грудзей сваіх выдыхнуў енк і ціхі, і ўрачысты;
другі жа, із дном забалочаным, з горлішчам мутным,
ураз адказаў яму крыкам жалосна магутным,
ў абодвух пялялі там жабаў нязлічаны горды,
пагоджаны хоры абодва ў вялікі акорды.
Fortissimo [4] гэты грымеў, а той ціха спявае,
адзін нараканнем зычыць, а другі уздыхае;
вось так два ставы між сабой гаманілі праз поле,
як, граючы наперамснку, дзве гарфы Эоля [5].

Змярканне гусцела. І толькі ў гаі і ля рэчкі
у лозах блішчэліся воўчыя вочы, як свечкі,
а пры берагох гарызонту, пры сцісненых, вузкіх
мільгалі мясцамі вагні на начлегах пастушскіх.
Урэшце і месяц свой срэбны ліхтар выстаўляе
і, вышаўшы з бору, і неба й зямлю асвячае.
Цяперка яны, ў палавіну з цямноты адкрыты,
драмалі супольна, бы муж з сваей жонкай спавіты,
шчаслівыя: неба у чысты абоймы туліла
зямельную грудзь, што ад месяца срэбрам свяціла.

Ужо проці месяца зорка адна і другая
бліснула; ўжо тысячы, ўжо міліён іх міргае.



Кастор з сваім братам Палюксам найболей яснелі,
калісь у славян празываныя: Лелі й Палелі [6];
цяпер жа дзве братнія зоркі інакш ахрысцілі:
Каронай адну, а другую Літвою манілі [7].

А далей нябеснай Вагі заблішчэлі дзве шалі.
На іх гэта бог днём стварэння (старыя казалі)
разважваў чаргою зямлю і усенькі планеты,
аж кінуў у пропасць паветра цяжар увесь гэты,
а после вагу залацісту павесіў на небе,
каб людзі узор сабе бралі з яе у патрэбе.

На поўначы свеціцца круг таго зорнага Сіта [8],
што бог праз яго (гэтак кажуць) прасяваў жыта,
як з неба кідаў ён для нашага бацькі Адама,
калі праз грахі зачынілася райская брама.

А крышачку вышай свяціўся, к яздзе ўжо гатовы,
дышлом да Палярнае Зоркі, там Воз Давідовы [9].
Ды ведалі добра пра воз той старыя ліцвіны,
што звалі яго Давідовым без важнай прычыны,
бо воз то Анельскі. На ім прад часамі Люцыпер [10]
ляцеў проці бога на долькі [11], наўскоч калі выпер
і гнаўся па Млечным шляху у нябесны парогі,
Міхал, яго збіўшы з ваза, скінуў воз із дарогі;
цяпер паміж зорак бадзяецца воз папсаваны,
паправіць яго не дазволіў Міхал зазлаваны.

Старыя ліцвіны таксама і то разумелі
(а ведамасць тую, відацца, ад рабінаў мелі),
што Цмок задыякавы доўгі, таўсты, мігатлівы,
каторы на небе віе сваіх зор перавівы,
якога памыльна празвалі Змяём астраномы,—
не змей, але рыба, з імя Левіятан [12] то вядомы.
Калісьці ён жыў у марох, але после патопу
задохся, відацца, з прычыны вады недахопу;
анёлы ж, каб ту асаблівасць пакінуць напамкі,
на небе развесілі рыбы смяротны астанкі.
Так пробарышч мірскі у касцеле (звычай такі ўсюды)
развесіў адкопаны волатаў рэбры і дуды [13].

Такія гісторыі зорак, што з кніг раскумячыў
ці чуў з перадання, цяперака Войскі тлумачыў.

Хоць вечарам вочы слабыя былі ў старога
і праз акуляры не мог ён дагледзець нічога,
сузорраў назовы і форму ён ведаў нацямкі,
паказываў пальцам іх месца й дарогі напрамкі.

Сягоння не слухалі Войскага і не зважалі
зусім на то Сіта, на Цмока, на гэныя Шалі.
Сягоння і вочы, і думкі усіх прыцягае
госць новазаўважаны, што нечакана шыбае
па небе: камета найпершай вялікасці й мочы [14]
з'явілась на захадзе і проста ляцела к паўночы;
крывавым на воз той анельскі касюрылась вокам,
моў, месца Люцыпра заняці хацела знарокам;
касу яна доўгу адкінула й неба часць трэццю
захутала ею ды тысячы зорак, як сецццю,
цягнула з сабой, а сама галавою фанарнай
імкнулася проста на поўнач да Зоркі Палярнай.

Народ тады ўсенькі тутэйшы з прачуццем трывожным
глядзеў кожну ноч на той цуд на нябесны варожы.
Аб злой варажбе тады й іншыя знакі казалі:
залішне ўжо часта злавешчыя птушкі крычалі,
калі на палёх на пустых сабіраліся ў купы
і дзюбы вастрылі, моў, чакалі ўжо хутка на трупы.
Сабакі зачаста, бывала, зямлю неяк рылі
і голасам немым, як смерць яны зветрыўшы, вылі,
а то на вайну або голад; а стражнікі бору
на могліцах бачылі самі дзявіцу памору [15]:
ішла за вышэйшае дрэва вышэй галавою,
скрываўленай хусткай махаючы левай рукою.

Стуль розныя вывады робіў стаяўшы пры плоце
цівун, што прышоў справаздачу даваць аб рабоце,
і пісар дваровы у шэптах ціхіх з аканомам.

І пан Падкаморы сядзеў там на прызбе прад домам.
Гасцём перабіў ён гамонку звычайнай манерай:
бліснуўшы пры месяцы важнай сваей табакерай
(са шчырага золата ўсенька, з брылянтаў аправа,
за шклом у сяродку партрэт караля Станіслава),
узяў, пазваніў і, зажыўшы, прамовіў: «Э, пане
Тадэвуш, Вашэціна зорак для нас выяснянне,
то рэха таго, што пачуў там у школе на лаве,



а я б прастакоў запытаўся аб гэтакай справе
цудоўнай. І я астраноміі слухаў два лета
у Вільні; Пузыніха [16], мудра й багата кабета,
даход свой з сяла аддала, блізка дваста штось хатаў,
на закуп тых шклоў, тэлескопаў і розных прыладаў;
тады абсарватарам быў ксёндз Пачобут [17], муж слаўны,
астронам і рэктар усей Акадэміі [18] спраўны,
ў канцы ж тэлескоп свой пакінуў і катадру тую,
вярнуўся у кляштар, у цэлю [19] манаску ціхую
й памёр там прыкладна. Я знаюся тож із Снядэцкім [20],
і ён чалавек дужа мудры, хаця сабе й свецкі.
Дык вось жа паны астраномы планету, камету
не йнакш разважаюць, як нашы мяшчане карэту;
цікавяцца, аслі [21] яна ў каралеўску сталіцу
паехала, аслі з рагатак [22] куды за граніцу,
а хто у ей ехаў? чаго? з каралём ці што справіў?
кароль жа пасла ці з вайною ці з мірам адправіў?
таго не пытаюцца. Помню, з даўнейшага часу
Браніцкі карэтай сваею крануўся да Ясаў [23],
тады пацягнуўся за гэнай нягоднай карэтай
хвост таргавічанаў даўгі, як за гэтай каметай,
а просты народ не мяшаўся ў публічную раду,
згадаў жа адразу, што хвост той варожа на здраду.
Чувацца, празваўшы камету народ невучоны
мятлою [24], што вымеце, знача, яна міліёны».

А Войскі на гэта з паклонам: «А праўда то, Ясне
Вяльможны наш Пан Падкаморы, успомніў я ласне
аб тым, што казалі, як быў я малы йшчэ дзіцятка;
ну, помню, гадоў хоць не меў тады больш ад дзесятка,
як бачыў у бацькаўскім доме паручніка сцягу
гусарскага, князя Сапегу; вяліку адвагу
ён меў, ваяваў, быў надворны маршал каралеўскі,
урэшце, памёр як вялікі ўжо канцлер літоўскі,
пражыўшы сто дзесяць гадоў. За Сабескага Яна,
за Трэцяга, быў ён пад Венай у сцягу гатмана
Яблонскага [25]. Вось жа Сапега казаў не фацэц'і [26],
а праўду: як конна садзіўся кароль там Ян Трэці,
а нунцыюш папскі [27] жагнаў караля на дарогу,
пасол аўстрыяцкі граф Вільчык цупнуў яму ў ногу,
падаўшы страмёны (таго вымагала патрэба!),
кароль тады крыкнуў: «Дзівосы! зірніце на неба!»
Глядзяць яны, аж над галовамі суне камета [28]

11. Зак. 19

дарогай, якою цягнулі вайскі Магамета,
з усходу на захад. А после ж і ксёндз Бартахоўскі,
складаючы свой панегірык на трыумф кракоўскі,
што «Fulmen Orientis» [29] празваны, расказываў многа
аб гэтай камеце. Той самай каметы дарога
і выгляд апісаны ў творы «Яніна» [30], дзе дана
усенька гістор'я паходу Сабескага Яна,
адбіты у кнізе вялікі там сцяг Магамета
і гэна, падобна да гэтай, што бачым, камета».

«Ну, й аман,— прамовіў Суддзя,— варажбу я Вашэці
прымаю; каб з гэтаю зоркай з'явіўся Ян Трэці!
Герой жа вялікі на захадзе сёння, дык, можа —
якраз нам ягона прыбыцце камета варожа...»

А Войскі на то, галаву пахіліўшы, не рады:
«Камета не толькі вайны, а, бывае, знак звады!
Не добра, што гэтак з'явілася над Сапліцовам,
бо мо' пагражае нам нейкім няшчасцем дамовым.
Завады і спрэчак нямала ж мы мелі, на гора,
у час палявання і ў часе вячэры учора.
Асэсар із Рэентам зло калаціліся зрання,
а вечарам Графіча вызваў Тадэй на спатканне.
Відацца, што спор ад скуры ад вядзмеджай паходзіў:
і каб мне Дабродзей Суддзя тады не перашкодзіў,
праціўнікаў я пры стале бы, магчыма, ўлагодзіў,
хацеў расказаць бо прыпадак таксама цікавы,
падобны зусім да здарэння ўчарашняе справы,
што здарыўся першым стральцом за даўнейшага часу,
Райтану Тадэю паслу, а з ім князю Дынассу.
Здарэнне такое было:

Генарал ад Падольскіх
зямель [31] праязджаў із Валыні да менняў [32] да польскіх
ці, можа, калі не мылюся, на сойм да Варшавы.
Дарогай адведываў шляхту, ці то для забавы,
ці для папулярнасці; ну, і заехаў да пана
Тадэя, святой ужо памяці сёння, Райтана,
каторы ад нас жа пасля быў паслом навагрудскім
і ў доме каторага я гадаваўся па-людску.
Дык вось жа Райтан на прыезд тады князя йнарала
гасцей запрасіў. І сабралася шляхты нямала;
далі прадстаўленне (бо князь улюбёны ў тэатры);



зрабіў фаерверкі пан Кашыц, каторы у Ятры [33];
тож пан Тызенгаўз танцароў там прыслаў, а капэля
Агінскага й Солтана з Дзятлава [34], як на вяселле.
Ну, словам, на дзіва даваліся гучны забавы
у доме, а ў лесе рабілі вялізны аблавы.
А ведама добра, Панове Вашмосці, што тыя
усе, колькі памяць стрымае, князі з Чартарыі,
хаця з Ягелонскай крыві, да уловаў не чуюць
ахвоты вялікай, і то не таму, што лянуюць,
а з густаў чужынскіх; таму гэтаксама князь Адам
да кніжкаў быў звернуты тварам, да псярні жа задам,
часцей, як у лесе, ў жаноцкіх альковах папасваў.

У князеўскай свіце нямецкі быў князь там, Дынассаў [35];
аб ім гаварылі, што быў у краёх афрыканскіх
і, госцячы там, паляваў у князёў негрыцянскіх
ды тыгрыса пікай забіў у баі рукапашна,
а после з таго пахваляўся Дынассаў той страшна.
У нас на дзікоў палявалі на гэтую пору.
Райтан тады стрэлам забіў аграмнясту мацёру,
прытым з небяспекай вялікай, бо зблізку ён стрэліў,
дык мэтнасць стральца пахвалялі усе як прымелі.
А толькі той немец Дынассаў няўважліва слухаў
пахвалаў і, ходзячы, нават пад нос сабе дмухаў:
што мэтны той стрэл, даказаў толькі смелае вока,
што бела аружжа, то смеласць рукі,— і шырока
пачаў разводзіцца [36] аб Лібіі [37], ўловах і шпісе [38],
аб мурынскіх тых каралькох і аб гэным тыгрысе.
Маркотна Райтану на сэрцы ад гутаркі княжай,
а быў ён жывы, дык ударыў па шаблі і кажа:
«Э, князю! хто смела глядзіць, той і б'е не на жарты:
той шпіс карабэлі, а дзік жа мой тыгрыса варты!» —
і спор зачыналі тут з немцам занадта ўжо жвавы,
а толькі, на шчасце, пан князь перарваў ім расправы,
гадзіў [39] па-французску. А што прыгаварываў зблізку,
не ведаю, толькі ж іх згода — як попел на прыску.
Райтан бо заеўся й чакаў, каб на гэтаку штуку
пры добрай аказіі даць таму немцу навуку;
за тую ж навуку чуць сам не патраціў здароўе;
было ж то назаўтра, а як — раскажу вам, паноўе».

Тут Войскі, замоўкнуўшы, праву руку падымае,
з падзякаю ад Падкамора табаку прымае.

і доўга густуе [40]; прарванага ж гэтак расказу,
каб смак слухачоў загастрыць, не канчае адразу;
урэшце пачаў, але зноў жа яму перабілі
цікавую повесць такую, што ўсе аступілі!
Бо нехта прыслаў чалавека к Суддзі Ягамосці
сказаць, што чакае яго з інтарэсам там хтосьці.
Суддзя, ўсім дабранач аддаўшы, паклыпаў рупліва;
дык зараз усе да сябе расхадзіліся жыва.
Хто спаць шоў да хаты, а хто і на сена ў адрыну,
Суддзя з падарожным цікавай гаворкі не кінуў.

Ўжо іншыя спяць, а Тадэй па сянёх усё кружа,
моў, вартаўнікам пры дзвярох ён у дзядзькі там служа;
да дзядзькі ён мае паважную справу, без меры,
параіцца мусе йшчэ сёння. Пастукаць у дзверы
не смее, на ключ бо запёрты: Суддзя размаўляе
з кімсь тайна; Тадэвуш чакае, вушшу настаўляе.

Аж чуе рыданне з пакою. Памалу, як можна,
ля клямкі, зірнуў праз дзірý ад ключа асцярожна:
аж бача — дзівосы! Суддзя і Чарвяк на каленях
стаялі, абодва у слёзаў гарачых струменях.
Чарвяк абцаловываў рукі Суддзі (дзе прычына?),
за шыю Суддзя абымаў, цалаваў барнадына.
Урэшце, па доўгім такім перапынку размовы,
пацiху прамовіў манах той наступныя словы:

«Бог сведкам, браточку, што я датрымоўваў тайніцы,
якую, праз жаль, за грахі прысягнуў ў спавядніцы;
што, богу й Айчызне сябе усяго пасвяціўшы,
пыхý і шуканне дачасных пахвалаў забыўшы,
дагэтуль я жыў і памерці хацеў барнадынам,
не выдаўшы прозвішча, мала што толькі прад гмінам [41],
а нат прад табой і сваім нат раднюсенькім сынам!
Аднак жа мне ксёндз правінц'ял [42] ужо даў дазваленне:
in mortis articulo [43] можна зрабіць выяўленне.
Жывы ці вярнуся? хто ведае, што з таго стане:
ў Дабрыне вялікае, браце, пайшло замяшанне!
Француз шчэ далёка; дык, знача, зіма пакуль пройдзе,
то трэба чакаць, але шляхта цярплівасць ці знойдзе?
занадта, відаць, пра паўстанне я іх набухторыў,
і сцямілі блага, а Ключнік паблутаў найгорай!
І Граф, варыят жа! чувацца, пабег да Дабрына!



ды нельга было перашкодзіць, бо важна прычына:
пазнаў мяне Мацька стары, а калі ён адкрые,
прапала тады Чарвяка пад Цызорыкам шыя!
Гярваза ніхто не стрымае! Жыццё — гэта мала:
з такога адкрыцця аснова ўсей змовы прапала б.

Дык мушу сягоння быць там сярод тых падзеяў,
хоць меў бы прапасці; шляхта без мяне ашалее!
Дык будзь жа здароў, дарагенькі, спяшацца я мушу.
Калі ж прападу, уздыхні ты за грэшную душу;
ў прыпадку вайны табе ведама ўсенька тайніца;
канчай, што твой брат распачаў, не забудзь, што Сапліца!»

Ксёндз, вочы абцёршы, габіт [44] і каптур насувае,
пацiху, відаць, акяніцу у сад адчыняе
і так у гарод, праз вакно пераскэргнуўшы, скача.
Суддзя адзінокі астаўся на крэсле і плача.

Хвілінку Тадэй пачакаўшы, за клямку хапіўся
і бразнуў; адчынена — ён увайшоў, пакланіўся:
«Стрыёк дарагенькі,— гавора,— ўсяго я дзён колькі
прабавіўся тут, дні прайшлі, бы хвіліначка толькі;
і часу не меў я з табою даволі набыцца,
а мушу ўжо ехаць упрочкі і мушу спяшыцца —
во зараз, сягоння, мой дзядзечка, заўтра найдалей.
Хіба не запомніў, што Графа мы біцца пазвалі.
Я выклік паслаў, дык і біцца мая цяпер справа,
а як паядынкі ў Літве забаронены правам,
дык еду таму на граніцы Варшаўскага княства.
Хоць Граф фанфарон [45], але мае даволі віцяства [46]
й на месца назначана, думаю, пэўне, што стане,
расправімся; а калі божа спагадліва гляне,
скараю яго і затым за Ласосну дам цягу,
туды, дзе чакаюць шарэнгі з-пад братняга сцягу.
Я чуў, што ад бацькі загад мне тастамантам даны
у войску служыць, дык тастамант няўжо скасаваны?»

«Тадэвуш,— адбуркнуўся дзядзька,— ці Ваша купаны
ў гарачай вадзе, або круціш, як ліс той цкаваны,
што йначай бяжыць, а інач хвасцішчам махае?
Раз вызвалі, біцца належа, то праўда старая.
Ды ехаць сягоння, адкуль такі Ваша заўзяты?

А прад паядынкам звычай з давён даўных прыняты,
што сведкі спаткаюцца. Граф, можа, ўсё залагодзе
і нас перапросе; чакай, Ваша, гэта не шкодзе.
Хіба, можа, іншая муха адсюль выганяе,
кажы тады шчыра, нашто ўся таемнасць такая?
Стары я, а знаю юнацтва сардэчныя чары;
быў бацькам табе (тут пагладзіў Тадэя па твары);
шапнуў мне на вуха мой пальчык маленькі бывалы,
што з дамамі маеш тут нейкія, Ваша, кабалы.
І хуткая ж моладзь да дамаў цяперака, к ліху!
Кажы мне, Тадэвушка, шчырую праўду, паціху!»

«Ну, пэўне,— згадзіўся Тадэвуш,— што ёсць і прычыны
інакшыя; можа, у гэтым і сам сабе вінны!
Памылка! няшчасце! ды ўжо ж то паправіць затрудна!
Даўжэй не магу заставацца я тут баламутна!
Памылка юнацтва! а болей няма што й казаці:
я мушу з Сапліцава як найбарджэй выязджаці».

«Ого,— кажа дзядзька,— любоўныя спрэчкі ці згубы!
Я бачыў, што Ваша учора загрызшы быў губы
і нешта глядзеў з-пад лаба на адну тут дзяўчынку,
а мела таксама й яна кіславатую мінку.
Ну, ведаю,— глупствы, калі йшчэ дзяцінная пара
ўлюбляецца, гора бывае ў іх рознага хмара!
То рады, шчаслівы, то йзноў засумуюць, грызуцца,
то йзноў пакалоцяцца, здэцца, во-во падзяруцца,
то, стоячы моўчкі ў кутох, да сябе не гавораць,
а часам у поле ўцякаюць ад гэткага гора.
Як гэтакі шал нападае на вас, тады трэба
крыху пацярпеці, а знойдзецца рада, як з неба.
Бяру на сябе прывясці вас і хутка да згоды.
Патраплю, нябось! бо і я быў старым не заўсёды.
Скажы мне усенька, я, можа, таксама ўзаемна
адкрыюся з нечым цікавым, што будзе прыемна».

Тадэвуш гавора чырвоны, цалуючы рукі
у дзядзькі: «Ну, праўду скажу я цяпер без прынукі.
У Зосю, у дзядзькаву я выхаванку ўлюбіўся,
хоць колькіма толькі славамі з ей абмяніўся.
А кажуць, што дзядзька на жонку ўжо мне прызначае
прыгожу дачку Падкаморага і багачая.
Цяпер я не мог бы із паннаю Рожай жаніцца,



як Зоську люблю; немагчыма так сэрцам змяніцца!
Не чэсна з адною жаніцца, другую кахаці.
Час вылеча, можа, дык трэба хутчэй выязджаці».

«А мой жа Тадэю! то спосаб любіць невіданы,—
праўваў яму дзядзька,— ўцякаць ад асобаў каханых!
Ну, добра, што шчыра сказаў, бо іначай зрабіў бы
ты глупства з ад'ездам. А што, каб я сам пасуліў бы
ту Зоську Вашэці?.. Дык з радасці — што
не падскочыш?»

Тадэй жа на гэта: «Кажу я Вашэці у вочы,
што не спадзяваўся; ды ласка стрыя дабрадзея
нічога не зможа зрабіць. Ах! дармо і надзея!
бо Пані Тальмена не дасць мне ніколечкі Зосі!»
«Ну, будзем прасіць»,— кажа дзядзька.
«Ніхто не упросіць
яе,— перабіў тут Тадэвуш,— не, страціў я змогу
чакаць і прасіць, таму заўтра хутчэй у дарогу.
Ну, багаславі мяне, дзядзька, на труд, на віцяства,
усё ўжо гатова, і зараз паеду у Княства».

Крутнуў Суддзя вусы і з гневам зірнуў на Тадэя:
«То так Ваша шчырымі словамі заводзіць умее?
Спачатку казаў — паядынак, а после — каханне,
і гэты ад'езд — ой жа! ёсцека тут заблытанне.
Ужо мне казалі, і сам я глядзеў, што за штука!
Васпан шаламуцька ды крутагалоўка й манюка!
А дзе ж то, Дабродзей, увечары быў пазаўчора
й, як выжал, сачыў ля двара, штось згубіўшы заскора?
Глядзі мне, Тадэвушка! мо збаламуціўшы Зосю,
а сам уцякаеш цяперака, малакасосе,
ды так не удасца! Кажу табе: любіш, не любіш,
а Зосю — нідзе не падзенешся, мілы — пашлюбіш;
а не, то бізун! — станеш заўтра ў мяне на каберцы [47]!
І ён шчэ аб чуццях пляце, аб нязменлівым сэрцы!
Махлярствам займаешся! Фэ! Пачакай, Тадавушу,
зраблю яшчэ следства, тады надзяру табе вушы!
Сягоння мне клопату, аж галава забалела,
а тут разбірай шчэ ягона смаркатае дзела!
Ну, годзе! йдзі спаць!» — адчыніўшы тут насцеж
святліцу,
ён клікнуў на Вознага: той разбірае [48] Сапліцу.

Адходзіў Тадэй, галаву апусціўшы на грудзі:
і прыкрая гутарка! што цяпер з гэтага будзе?
Ніколі не быў гэтак злаяны вострa. З жальбою
прызнаў: справядліва, і сам чырванеў прад сабою.
А што, як праведае, скажа мне Зося на гэна?
Прасіці рукі? А што скажа тады Талімена?
Дык трэба ўцякаць, бо злажылася горай, як дрэнна.

Задуманы так, ледзь зрабіў ён шагоў якіх пару,
аж гляне і бача дарогу заходзячу мару,
у белі, з фігураю сціблаю, доўгай, худою.
Ішла на Тадэя з працягненай ўперад рукою,
асветленай месячным бліскам, дрыгучым, лагодным;
к яму прыступіўшыся, енкнула ціха: «Нягодны!
Шукаў майго ўзроку, цяпер жа яго унікаеш,
лавіў мае словы, а вушы цяпер затыкаеш,
казаў бы у словах маіх і ва ўзроку атрута!
Ну, добра мне так, што такога найшла шаламута!
Не знаўшы какецтва, не ўмела я мучыць, дурачыць
і шчасце дала; дык ты гэтак умеў адудзячыць!
Трыумф твой над сэрцам мягкім зацвярдзіў твaё сэрца,
што лёгка здабытае кінуў цяпер ў паняверцы.
Ну, добра мне гэтак! навучана спробай страшною
і гаджуся [49] больш за цябе я сама прад сабою!»

«Тальмена,— Тадэй прымаўляе,— дальбог жа, не цвёрда
то сэрца прычына ўнікання, ані там якая пагарда,
а толькі што людзі пабачаць, праследзяць, заўважаць;
дык нельга адкрыта, падумай сама ты, што скажуць?
І непрызваіта [50], ды трэба лічыцца і з грэхам!»
«А, з грэхам! — яму адказала са злосным прысмехам.—
Ягнятка нявіннае! Я не гляджу, што кабета,
з любві ані дбаю, што можа адкрыцца ўсё гэта,
і хоць бы мяне абняславілі... ты жа ж мужчына!
А што гэта шкодзе катораму з вас, каб навіна
аб тым, што раманаў завёў хоць капу, разышлася?
Кажы мне ўсю праўду: кідаеш?» — слязьмі залілася.
«Тальмена, а што гэта свет бы сказаў чалавеку,—
прамовіў Тадэвуш,— каторы цяпер, ў маім веку,
здаровы, на вёсцы, ўлюбляўся — як моладзі столькі,
а нават жанатых, дзіцятых, ідуць жа аднолька
пад нацыянальны сцягі ваяваць за граніцу.
Ды памятай, што прад сабою ты бачыш Сапліцу.



Служыці у польскім у войску мне бацька абвесціў
тастаментам; гэта ж пацвердзіў і дзядзька нарэшце.
Дык заўтра паеду канчальна, зрабіў пастанову,
дальбо, Талімена, канчальна, павер майму слову».
«Я,— кажа Тальмена,— не думаю загараджаці
дарогу да славы, ні шчасцю твайму прашкаджаці!
Мужчына, ты знойдзеш каханку сабе падхаднейшу
да сэрца і шмат багацейшую, мо, харашэйшу!
Адно для пацехі хай ведаю я прад расстаннем,
што склоннасць твая была шчырым, праўдзівым
каханнем,
што гэта не быў толькі жарт ці распуста дурная;
каб толькі мне знаць, што мяне мой Тадэвуш кахае!
Няхай гэта слова «кахаю» хоць раз шчэ пачую,
у сэрцы схаваю, у думках сваіх запішу я.
Лягчэй і прабачу, як кінеш мяне ты кахаці,
успомніўшы, як ты кахаў!» — і давай тут рыдаці.

Тадэвуш, пабачыўшы, як яна плача, ўпрашае
так чула і толькі драбніцы такой вымагае,
збянтэжыўся, шчыра праняў яго жаль нейкі й літасць,
і каб пераглядзеў бы сэрца свайго тады скрытасць,
то, можа, у гэнай хвіліне б і сам не дазнаўся,
любіў Талімену ці не. Таму жыва азваўся:
«Тальмена, бадай мяне ясны забіў бы пярун жа,
як тое няпраўда, што шчыра кахаў, ці то дужа
любіў. Ты кароткі хвіліны са мной правадзіла,
ды гэты хвіліны прайшлі нам так соладка, міла,
што доўга у думках нішто іх зацерці не зможа;
ніколі, Тальмена, цябе не забуду, дальбог жа».

Тальмена скікнула й на шыю Тадэвушу пала.
«Дык любіш! жыву я! Таго ад цябе і чакала!
Хацела ўжо сёння ад собскай рукі я загінуць;
цяпер, калі любіш мяне, то ці зможаш пакінуць?
Дала табе сэрца, даю ўсё майно без завету,
усюды пайду за табою, і кожны куточак мне свету
з табой будзе мілы! Каханне з найгоршай пустыні
сад роскашы зробе хлапцу маладому й жанчыне».

Тадэвуш сілком адкараскаўся з чэпкіх абоймаў
і кажа: «Ці страціла розум? куды гэта? тойма
са мною? чаго? То ж я проста жаўнер! Валачыцца

з якой маркітанкай [51]?» «Дык, можа, тады
пажаніцца»,—
казала Тальмена. Тадэй жа на гэта: «Ніколі!
Не думаю ўходзіць цяперака ў гэткія ролі!
Дармо напірацца, бо гэта усё небыліца!
я дужа удзячны, аднак немагчыма жаніцца.
Спакойна падумай сама, да чаго то падобна.
Қахаймася, добра ды так сабе — кожны асобна.
Хутчэй мушу ехаць, я тутака не застануся.
Дык будзь жа здарова, Тальмена, назаўтра крануся».

Сказаў, нацягнуў капялюх, завярнуўся ўжо бокам —
ісці, ды Тальмена стрымала яго сваім зрокам
і тварам, Медузы [52], маўляў, галавою. Застаўся
нявольна й з трывогай на постаць Тальмены ўглядаўся:
стаяла збялеўшы, без руху, без дыху, без жыцця,
аж зараз, руку працягнуўшы, як меч да прабіцця,
і з пальцам замераным [53] проста ў Тадэвуша вочы:
«Ах, так! — закрычэла,— язык твой, нягоднічa, цмочы
і яшчаркі сэрца! Ніштo, як табою занята,
адшыла Асэсара, Рэента, Графа празнадта;
што звёў ты мяне і цяпер пакідаеш сіроту:
нічога! я знаю мужчынскую вашу работу
і ведаю, кожны з вас мог бы так веру зламаці,
не ведала толькі, што подла умееш брахаці!
Я чула усё пад дзвярмі! Ну, дык вось яно: Зося
паночку прыпала да смаку? Мо' ўжо удалося
пазводзіць? Ледзь толькі няшчасну адну абмарочыў,
пад ейным акном шчэ да новай ахвяры падскочыў!
Ўцякаеш, праклён даляціць на другу аж планету;
застанешся, выдам нячэснасць тваю ўсяму свету.
Ўжо іншых вось так, як мяне, не звярнуць тваe штукі!
Вон! бачыць не хочу я подлага гада, манюкі!»

На гэту абразу, што шляхціц не можа гадзіцца,
каторай ніколі не чуў аніводзін Сапліца,
Тадэй задрыжэў весь, на твары збялеўшы, як трупны,
аж ціснуў праз зубы: «Дурная!» — й нагой яшчэ тупнуў.

Пайшоў, але ў сэрцы як рэхам той «гад» паўтарыўся.
Хлапец уздрыгнуўся, бо чуў, што на то заслужыўся;
так, чуў, што зрабіў ён вялікую крыўду Тальмене,
што праўду казала яна, гаварыла сумленне;



а толькі ж праз гэтыя жалі гарэй счамярэла.
Аб Зосі! ах! нават падумаць не важыўся смела.
То ж гэтая Зося так мілая, свежа, прыгожа!
І дзядзька нат сватаў, была бы і жонкаю, можа,
каб чорт на грахі шаламутны не скусіў з паспехам:
папхнуў на махлярства, а сам адышоўся са смехам!
Пагáрджаны ўсімі, аблаян, праз дзён гэтак пару
жыццё змарнаваўшы, пачуў заслужоную кару!

У буры пачуццяў, казаў бы катва [54] супачынку,
маланкаю бліснула думка аб тым паядынку:
«Забіці нягодніка Графа!» — крычэў ён у злосці.
А помста за што?..— Узлягло невыразнае штосьці...
Дык гнеў той страшны́, як заняўся у мíгненні вока,
так выветрыў. Зноў абняла яго жаласць глыбока.
І думаў: «Як слушна была пры стале спасцярога,
што ёсць паміж Графам і Зосяй да змовы дарога,
дык што з таго? Можа Граф Зосю кахае і дужа,
а можа й яна яго любе і возьме за мужа?
Якім тады правам хачу я замужства сарваці
і, сам жа, няшчасны, шчэ долю другім адбіваці?»

Упаў у адчай і ўжо страціў змагацися сілу.
Адно уцякаць — а куды? хіба толькі ў магілу!

Адчайна руку затапіўшы ў багатай чупрыне,
ляцеў да лугоў, дзе ставы два блішчэлі ў даліне,
і стаў над балоцістым. Там, у зялёным пратонні,
паглёд затапіўшы свой жадна, балоцісты воні
з раскошай у грудзі цягнуў і раскрыў свае вусны.
Бо і самагубства, як кожны пастyпак распусны,
вымыснае: ён у шальным галавы завароце
пачуў невымоўны пацяг затапіцца ў балоце.

Тальмена згадала з шалёнай Тадэя паставы
адчай, дык, пабачыўшы, што паляцеў ён да ставу,
хоць гневам страшным, справядлівым к яму шчэ гарэла,
спалохалась: сэрца ў сапраўднасці добрае мела.
Жалела, што іншу Тадэвушка смеў палюбіці,
хацела скараць, а не думала хлопца губіці.
Пусцілась за ім, як мага; падымаючы рукі,
крычэла: «Чакай, затрымайся, пакінь свае мукі,
рабі, што хаця!» Але ён сваей шпаркай бягою
далёка яе перагнаў і — стаяў над вадою!

Тым самым жа берагам, дзіўным здарэннем падзеяў,
пад'ехаў пан Граф із кумпаніяй раду джакеяў.
Захоплены ночы красою лагодна пагоднай
і цуднай гармоніяй дзіўнай аркестры падводнай,
тых хораў, якія гучэлі, як гарфы эольскі
(ніякія жабы не граюць так слаўна, як польскі),
каня затрымаў і запомніў зусім пра выправу,
сцікаўлены слухаў, звярнуўшыся вухам да ставу.
Вадзіў вачыма па палёх, па нябеснай па пляжы;
відаць, укладаў ён у думках начныя пейзажы.

І праўда! Ваколіцы від надзвычайі маляўнічы!
Два тыя ставы да сябе пахілілі абліччы,
як пара каханкаў; стаў правы, нялішне шырокі,
меў чыстыя гладкія воды, як дзеўчыны шчокі;
а левы крыху быў цямнейшы, як твар той юнацкі,
паросшы мужчынскім пушком, а смуглявы і хвацкі.
На правым — пясок залацісты блішчэў берагамі,
казаў бы, як светлых распушчаных кос валасамі;
а левы наежан лазою, вярбою чубаты,
абодва ставы паапрануты ў зелені шаты.

З іх дзве ручаінкі, як рукі, адна абымае
другую. Далей ручаіна у дол упадае;
ўпадае, а толькі ж не гіне, бо ў роў, у цямноту
нясе за сабою на хвалях луны пазалоту;
спадае пластамі вада і цуркамі, як нізкі;
блішчаць на іх, жменямі кінуты, месячны бліскі.
Святло у раве разбіваецца ў дробныя іскры,
іх жыва хапаюць і ўносяць струінкачкі быстры,
а зверху спадае зноў жменямі бліск той празрысты,
казаў бы, пры ставе сядзіць Свіцязянка [55], трымае
рукою бяздонны збанок і ваду налівае,
другою ж рукою з падоліка ў водны струмені
кідае заклятага золата поўныя жмені.

А далей, з рава таго ўцёкшы, ручай раўніною
віецца і ціхне, аднак жа плыве далінoю;
відаць, на дрыгучай яго павалоцы урочa
уздоўж расхвалёваны месячны свет, як мігоча,
бы вуж той жамойцкі харошы, гівойтасам званы,
хаця між верасу, здэцца, ляжыць задраманы,
паўзе ж, бо на змену то срэбрам, то золатам ззяе,



аж раптам з ваччу ці ў мох, ці у землі знікае;
так струй пакручасты, бруісты хаваўся ў альшынах,
што на гарызонту чарнелі далёкіх краінах,
ўздымаючысь лёгка узвыш, невыразна для вока,
як духі, што часцю відацца, а часцю ў балоках.

Укрыты ў раве сядзіць млын там паміжы ставамі,
казаў бы стары апякун, што падслухаў часамі
каханкаў прызнанне і шэпты, злуецца, шамоча,
трасе галавою, рукамі і грозьбы балбоча;
так млын той, весь мохам паросшы, касматы,
кулак свой пальчасты пусціўшы у ход віраваты,
ледзь клякнуў, крануў свае качкі [56] зубаты, дубовы,
ураз тых ставоў заглушыў ён любоўныя змовы,
збудзіўшы і Графа.

Убачыўшы Граф нечакана
Тадэя так блізка к пазыц'і, крычыць нестрымана:
«К аружжу, лавіце!» Падскочылі зараз джакеі
і перш чым Тадэвуш паспеў разглядзецца ў падзеі,
схапілі. Лятуць да двара, у падворра варожа.
Двор будзіцца, брэшуць сабакі, крычыць і старожа.
Суддзя вылятае, на плечы халат свой успяўшы,
падумаў: разбойнікі! але тут, Графа пазнаўшы,
пытаецца: «Што гэта знача?» Граф шпагаю мігнуў,
ды прад безаружным Суддзёю ў запале астыгнуў
і кажа: «Сапліца! адвечны мой вораг радзінны,
я скарджу цябе за старыя і свежыя віны,
сягоння мне справу здасі за фартуну забрану,
пярвей, чым памшчуся за гонар, за чэсць зневажану!»

Суддзя, пражагнаўшыся, крыкнуў: «А ў імя жа Ойца
і Сына! тфу! Графе, ці Ваша разбойнік, забойца?
Дальбог жа! Ці гэта згаджаецца з Графа ўраджэннем
і узгадаваннем, і Пана на свеце значэннем?
Не дамся пакрыўдзіцца!» Тутака слугі суддзіны
ляцелі, няслі адны стрэльбы, другія дубіны.
А Войскі здалёку стаіць і, цікаў, спаглядае
у Графавы вочы: нажа ў рукаве ён трымае.

Ўжо мелі бітву пачынаць, ды Суддзя перашкодзіў.
Дармо бараніціся, новы бо вораг надходзіў:
ў альшыне, заўважылі, бліснула: выстрал з рушніцы!

Ўжо конніцы тупат гучыць на масце да Сапліцы,
і тысяча горлаў варожых «Гайда» вераснула.
Здрыгнуўся Суддзя, яго вуха Гярваза пачула.
«Суддзя, паддавайся,— Граф кажа,— бо будзе вам
горай!
не чуеш? ужо пад'язджаюць саюзнікі скора».

Аж тут і Асэсар надбег, крычачы: «Арыштую
ў імя імператарскай мосці! Ну, штуку благую
задумаў, пан Граф! Шпагу дай, не рабі патарочы [57],
бо войска паклічу! А хто нападае уночы,
ды збройна, то, сказана тысяча двастым указам:
як злодзе...» Аж Граф яго хляснуў па твары тут плазам.
Асэсар, аглушаны, паў ў крапіву, як палена;
падумалі ўсе, што паранен, што будзе з ім дрэнна.

«Ох! — крыкнуў Суддзя,— дык разбойства ужо
пачалося!»
І ахнулі ўсе, а усіх заглушыла тут Зося:
крычэла яна, за Суддзю ухапіўшы рукамі,
казаў бы, на нейкім баданні [58] калота цвякамі.

Тым часам Тальмена дапала між шляхтавых коней
і выцягла к Графу свае заламаны далоні:
«На гонар твой, Граф! — праразліва яна галасіла,
загнуўшы у тыл галаву, валасы распусціла —
на ўсё на святое цябе на каленках мы молім,
мы дамы слабыя, дык нам не адмовіш ніколі!
Ах, жорсткі! пярвей мусіш нас ты, жанчын, забіваці!»
І пала, самлеўшы, Граф скочыў яе ратаваці,
задзіўлены й крышку змяшаны трагічнаю сцэнай:
«Ах, Панна Зафія,— прамовіў,— і Пані Тальмена!
Не, кроў безбаронных маей не запляміла шпагі.
Сапліцы, вы — вязні мае, дык ніякай знявагі.
Бо так і ў Італьі, калі пад скалою высокай,
якую завуць сіцылійцы там Бірбантэ-роккай [59],
паймаў я разбойнікаў: збройных казаў забіваці,
раззброеных, зараз забраўшы, казаў павязаці;
за коньмі ішлі і трыумф харашылі мой светны,
пасля іх павесілі там, ля падножжа, ля Этны».

Было для Сапліцаў вялікае шчасце — не жарты! —
што Граф тады, маючы коней шмат лепшых ад шляхты,
жадаючы першы спатычкі [60], іх пакінуў у тыле
і бег перад іхнай яздою, напэўне, з паўмілі
з джакействам сваім: а джакейства паслушна і карна,
было, гэтак кажучы, войска яго рэгулярна,
як шляхта, звычаем паўстанчым, была галаслівa,
страшэнна да вешання скора, бо дужа бурліва.

Меў час ужо Граф прыастыгнуці з гневу, з запалу,
дык думаў, каб бой без крыві як закончыць памалу;
Сапліцаў, як вязняў ваенных, замкнуці ён кажа
у доме; пры іхных дзвярох жа пастаўлена стража.

«Гайда на Сапліцу!» — і шляхта ўварвалася гурмам,
весь двор абступае наўкола, бярэ яго штурмам
і лёгка, важар бо узяты, ў рассыпцы залога [61];
жадаецца шляхце, папасці як ворага тога!
Дадому не ўпушчаны, гурмам бягуць к фальварку,
да кухні. А там: саганы і сляды ад прыварку,
агонь ледзь загасшы і страваў запа́х яшчэ свежы,
і хрустанне псоў, дагрызаўшых астаткі ад ежы,
хапае за сэрца усіх, адмяняе намеры,
гнеў студзе й смак гостра ваякам усім да вячэры.
Змарыўшыся маршам, зацяжлівым саймікаваннем,
«Ах, есці! каб есці!» — крычэлі адны з пракананнем,
другія ж: «Піць! піць!» Раскрычаныя шляхты дзве
хэўры
наконта наедку й напітку рабілі манеўры.
Аж к небу іх голас лунае; дзе толькі даходзе,
аскому у губе, а голад у брусе наводзе.
На кліч той, пададзены з кухні так неспадзяване,
расходзіцца армія ўсенька на фуражаванне.

З-пад дзвераў Суддзёўскіх адпёрты, Гярвазы упарты
прымушаны быў адступіць дзеля графаўскай варты.
Памсціцца не маючы змогі на воразе гэтым,
імкнецца да іншай, а важнай таксама шчэ мэты.
На праве ён знаецца добра, жадае урэшце
хутчэй асадзіць свайго пана на новым памесці
легальна й фармальна; дык Вознага рупна шукае,
ў канцы аж за печаю беднага спасцерагае.
Схапіўшы яго за каўнер, на падворра валоча
й Цызорыкам змерыўшы ў грудзі Пратазу, тароча:
«Пан Граф Пана Вознага смее ласкава прасіці,

каб рачыў прад шляхтай братвой абвясціці
уводзіны Графа у замак Гарэшкавы стары,
у вёску і ў двор, на засеяны грунты, папары,
ну, словам, cum boris, cum gais et graniciebus,
cum kmetonibusque, scultetis et omnibus rebus [62].
Без пропуску ўсё, як належа, брашы, як умееш!»
«Крыху зачакай, Пане Ключнік! ці не разумееш,—
прамовіў адважна, з рукамі за пояс, Пратазы,—
што хоць я і споўню усе тут загады, прыказы,
ды акту не будзе ніякай законнае мочы,
бо вымушан гвалтам аружным, абвешчаны ўночы».
«Няпраўда! — адказуе Ключнік,— няма тут напасці,
я ветла прашу; калі акт гэты цёмна ўжо скласці,
Цызорыкам зараз агню так скрашу, што Вашэці
ў ваччу, бы ў касцёлах сямі, гэтак светла засвеце».

«Гярвазанька,— Возны прамовіў,— чаго сярдаваці?
Я возны, дык рэч не мая, каб дзялы разглядаці;
то ж ведама: вознага то старана запрашае,
што хоча дыктуе, а возны усё абвяшчае.
Бо возны закону пасол, а паслоў не караюць;
раз так, то за што мяне тут і пад стражай трымаюць.
Ну, акт напішу, анно толькі фанар прынясіце,
во ўжо абвяшчаю вам: «Ціхаце, не гаманіце!»

І, каб данасней [63] гаварыці, на кучу калодаў
ўсаскочыў (ляжалі пры плоце яны ля гароду).
Узлез і адразу, моў вецер яго згэтуль здмухнуў,
так счэзнуў з ваччу. Толькі чулі, ў каноплі як бухнуў,
і бачылі, як праз каноплі праз цёмныя бела
яго канфед'ратка, бы белы галуб, праляцела.
Хоць Конаўка стрэліў у шапку, ды хіблена сцэліў.
Аж, бач, затрашчэлі во тыкі: Пратазы у хмелі,
крычыць: «Пратэстую!» Цяперака пэўны уцечкі,
бо меў за сабою лазу ўжо і багнішчы рэчкі.

Пасля пратэстацыі гэтай, якая азвалась,
як стрэл той апошні з гарматы на здадзеных валах,
ў двары Сапліцоўскім было ўжо па ўсякім апоры.
Галодная шляхта пляндруе [64] у кухні, каморы.
Крапіцель, заняўшы пазіцыю зразу ў аборы,
вала аднаго да йшчэ двух целюкоў закрапляе,
а Брытва ім вострую шаблю у горлы ўтапляе.



Таксама і Шыла тут спраўна ўжываў сваей шпадкі,
кабанчыкаў і парасяткаў калоў пад лапаткі.
Пагроза і птушкам. Чулліва гусінае стада,
што некалі збавіла Рым перад гальскаю здрадай,
аб помачы кліча напрасна. Замест Манліуша [65]
ў катух урываецца Конва. Гусей адных душа,
другіх ён жыўцом паляваў на паяс ад кантуша.
Дармо гусі хрыпаюць, шыямі грозна махаюць,
дармо гусакі за напасніка з шыпам шчыпаюць:
ляціць ён, абсыпан іскрыстым развеяным пухам,
несены крылляў гушчэразных рухам,
назваў бы яго ты акрыленым нейкім злым духам.

Разня ж найстрашнейшая між курамі, хоць крыку
найменей. Там Сак малады без ніякага зыку,
зрабіўшы лоўка пятліцу з даўжэннае пугі,
свяціў фанаром на курэй, а далей без натугі
з драбінкі пятлёю лавіў і цягнуў без аглядкі
з-над седала пеўні і розны шурпаткі, чубаткі.
Адну за другою ён душа й складае у купы;
прыгожыя птушкі, а елі ж парловыя крупы!
Ах, Сача нябачны! які ж цябе шал так уносе!
За гэта ніколі табе не даруе ўжо Зося.

Гярвазы таксама старыя часы ўспамінае:
ён, бач, паясы кантушовы ад шляхты збірае
і імі з Сапліцава склепу выцягуе жыва
і бочкі старое сівухі, і мёду, і піва.
Адныя адбілі, другія ў вялікай ахвоце
там шляхта, густа́, як мурашкі, хапае і коце
да замку; начлежа уся там шляхоцкая хэўра,
заложана там бо галоўная Графа кватэра.

Пякуць яны, вараць і скварацьь на вогнішчах скора,
аж гнуцца пад мясам сталы, разліўное ў іх мора!
Ўсю ноч хоча шляхта праесці, прапіць, прапяяці.
Паволі ж, аднак, пачыналі зяваць і драмаці;
зліпаюцца вочы, ківаюцца ўсей грамадою,
аж зваліцца зморанаы кожны на месцы чаргою:
той з місай, той з мяса куском, той ля піўнае лужы.
Так змог пераможнікаў сон, што, як смерць, такі дужы.

# *Быліца дзевятая*



## БІТВА

ЗМЕСТ

Якія небяспекі вынікаюць з непарадачнага папасу.—Неспадзяваная водсеч [1]. — Сумнае палажэнне шляхты.— Квастарскія адведзіны — варажба ратунку.— Маёр Плут лішнімі залётамі сцягуе на сябе буру.— Стрэл з пісталетаў, сігнал на бой.— Дзялы Крапіцеля, дзялы і небяспекі Мацея.— Конаўка засадай ратуе Сапліцава.— Езная [2] помач, атака на пяхоту.— Дзялы Тадэя.— Паядынак важароў, перарваны здрадай.— Войскі хітрым манеўрам перахіляе вагу бітвы.— Крывавыя дзялы Гярвазага.— Падкаморы — велікадушны пераможнік.

Так моцна храпелі, што іх не будзіла
міганне агнёў ні ўвайшоўшых вялікая сіла,
якая успала на шляхту, што спала без рухаў,
казаў, павукі-к а с а р ы ды на сонных дзе мухаў;
ледзь бзыкне каторая, ўжо павучыныя ногі
яе абымаюць, і душа так мушак кат строгі.
Сон шляхты цвярдзейшы за сон тэй мушынай пароды:
ніводзін не бзыкне, ляжаць без душы, як калоды,
нягледзь што іх тамака дужыя рухі хапалі,
круцілі, моў бы снапы ў перавяслы, вязалі.

Адзін яшчэ Конаўка толькі, якому ў павеце
не знойдзем раўні мацнінёй галавы на банкеце,
што выпіці можа ліпцова мядку дзве барылкі,
язык не сцвярдзее ж, а ногі не зробяцца хілкі,
дык ён жа, хоць выпіўшы многа й заснуўшы глыбока,
даваў яшчэ знакі жыцця. Прыадкрыў адно вока
і бача! ці мары ці сон! два страшэнныя твары
якраз над сабой, а пры кожным зусішчаў па пары;
над ім яны дыхаюць, тыцкаюць ў губы вусамі
і чэцверам рукаў махаюць кругом, як крыламі.
Спалохаўся, хоп — і жагнацца, рукою сярдзіта
тармосе, ды права рука як да боку прыбіта;



ён левай — дармо! Чуе, духі у моцныя столкі
так цесна яго спавілі, як дзіцятка у полкі.
Спалохаўся страшна і вока уміг закрывае,
ляжыць і не дыхае, стыгне, ледзь-ледзь не ўмірае.

Крапіцель рвануў бараніцца, а толькі па часе,
бо, звязан сваім паясом, ён ляжаў, бы ў атласе.
Аднак гэтак пружна падскочыў і гэтак скруціўся,
што, паўшы на грудзі другіх, па галовах каціўся
і кідаўся, моў бы шчупак па пяску ці па лузе,
а роў, як вядзмедзь, бо меў сілу у лёгкіх і ў пузе.
Зароў тады: «Здрада!» І збуджана ўсенька грамада
адклікнула хорам: «Ратуйце! тут здрада! тут здрада!»

А рэхам той крык далятае к люстранае залі,
дзе Граф, і Гярваз, і джакеі ўсе спалі.
Прачхнуўся Гярвазы, дармо вырываецца шчыра,
бо звязаны ў кій і да ўласнага ж нават рапіра;
зірнуў праз вакно ён, аж тамака людзі з аружжам,
у чорненькіх шапках, зялёных мундзерах і — дужа!
Адзін, папяразаны шарфам, трымаючы шпагу,
яе гастрыём жа кіруючы ўсеньку ватагу,
шаптаў там: «Вяжы іх!» Наўкола ляжаць, як цяляты,
джакеі у путах; і Граф у палон во забраты,
сядзіць без аружжа, не звязан; пры ім два бандыты
стаяць са штыкамі.— Пазнаў іх, не ў цемя бо біты
Гярваз: Маскалі!!!

А калісьці Рубайла быў лоўкі:
не раз на руках і нагах хоць бывалі вяроўкі,
аднак жа звальняўся, бо ведаў аб нейкім манеры
павязы зрываці, быў дужы й сабе к таму верыў.
Задумуе моўчкі шукаць да ратунку дарогі:
моў, спіць, а выцягуе рукі і ногі,
а бруха і грудзі сціскае, як можа, так дужа,
і зразу ўсё цела прыкорча, надзьме і напружа,
як вуж, галаву калі й хвост свой хавае ў скрутулку,
Гярваз такі з доўгага тоўсты, кароткі, як булка.
Крыху расцягнуліся, нават аж скрыпнулі звязы,
а лопнуць не лопнулі. Ключнік, ад злосці й абразы
тут ніцма к зямлі павярнуўшы свой твар зазлаваны,
заплюшчыўшы вочы, ляжаў, моў бы стоўп спілаваны.

Бубняць барабаны. Спачатку разважлівым стукам,
а после гусцейшым, шторaз праразлівейшым грукам.
Затым загадаў афіцэр гэнай сілы варожай
джакеяў і Графа на залі замкнуць пад старожай,
а шляхту у двор, дзе другая шчэ рота стаяла.
Дармо вырываўся Крапіцель, злаваўся нямала.

Штаб стаў у двары. І ужо туды збройна зляцелі
Грачэхі, Падгайскія, Бірбашы й розны Бергелі —
Сапліцы радня або верны яго прыяцелі.
На водсеч прышлі, як пачулі ўначы аб нападзе,
к таму і з Дабрынскімі ўжо ад даўна былі ў звадзе.

А хто батальён маскалёў туды з вёсак справадзіў?
а хто там суседства так хутка з засценкаў зграмадзіў?
Асэсар ці Янкель? Хоць розныя розна казалі,
а толькі ж ніколі напэўне аб тым не празналі.

Ўжо сонца усходзе, абліта крывавай чырвенню;
тупы беражок, як абдзёрты з касулькаў-праменняў,
у чэрні нагруджаных хмар паламаных хавае,
якраз у кавальскіх вуглёх так падкова палае.
А вецер, узмогшыся, гоне балокі з усходу,
густыя, пакрышаны, мовіў бы, крышыны лёду;
з ім кожны сцюдзёным дажджом пералётным цяруша
а вецер ганяецца стылу і дождж гэты суша,
за ветрам ізноў жа балок надлятае вільготны,—
і так увесь дзень пераменна сцюдзёны і слотны.

Тым часам Маёр загадаўшы калоды цягаці,
што сохлі ля плоту, у кожнай паўкруг высякаці
сякерай; у тыя паўкругі калод утыкае
ён ногі палонных, а после другой замыкае.
Так разам калоды, скалочаны моцна гваздамі,
сціскаюць за ногі не горш, як сабакі зубамі;
вяроўкамі после мацней шнураваліся рукі
на шляхты плячох. Шчэ Маёр для вялікшай іх мукі
казаў пазрываці з галоваў усе канфед'раткі,
а з плечаў плашчы, і кантушы, і нат тарататкі,
а нат жупаны. Вось так шляхта сядзела радамі,
скавана ў калоду, і толькі званіла зубамі
на сцюжы й дажджы. Непагода ўсё горш забірала.
Дармо тут Крапіцель няўрымставаў, злуўся нямала.



Дармо і Суддзя тут за шляхту ўступаецца, просе,
са слёзамі просяць таксама Тальмена і Зося,
нявольнікаў каб не трымаці так строга, сярдзіта.
І праўда, начальнік іх ротны, той Рыкаў Мікіта,
быў добры маскаль і даваўся крыху удабрухаць [3],
ды што ж, калі сам ён Маёра Плута мусіў слухаць!

Маёр той быў родам паляк, із мястэчка Дзяровіч,
калісь называўся па-польску (так кажуць) Плутовіч,
ды перакуліўся; латруга, як часта бывае,
паляк, калі ў службе у царскай скуру адмяняе.
Плут з люлькай прад фронтам стаяў, падпіраўся у бокі,
як хто пакланіўся, ён нос задзіраў у балокі,
заместа ж адказу, на знак свайго злога гумору,
клуб дыму пускаў і адходзіўся без разгавору.

Суддзя гэтым часам жа Рыкава неяк лагодзе,
таксама набок і Асэсара нешта адводзе;
каб як без суда абысціся, выдумуюць раду,
а што найважнейшае, без умяшання ураду.
І кажа тут Рыкаў тады да Плута да Маёра:

«Паслухайце, я б адпусціў тых палоненых скора.
Пад суд аддамо іх? Ну, шляхце бяда то вяліка,
а вам жа за то не дадуць аніякага ліха.
Здаецца мне, лепей, Маёр, без суда залагодзіць,
Суддзя толькі мусе Маёравы труд знагародзіць.
Ну, скажам: сюды мы прыходзілі дзеля візіты,
так цэлымі будуць і козы, і воўк будзе сыты.
Бо прыказка кажа: ўсё можна, анно асцярожна,
пячэню пячы і на царскім ражне сабе можна,
а лепшы то мір, хоць благі, за найлепшу нязгоду,
заблутаўшы добра вузлы, запусці канцы ў воду.
Без рапарту будзе, нічога ніхто не заўважа.
А рукі на тое, каб браць, гэтак прыказка кажа».

Ўсарваўся Маёр тут, аж пырскае, бач, абурэннем:
«Ці ты ашалеў гэта, Рыкаў, з такім прадлажэннем?
А царская служба не дружба, ты, Рыкаў, дурача!
Я маю пусціці мяцежнікаў, што гэта знача?
У часе ваенным такім! Ну, паны вы, палякі,
я вас навучу бунтавацца! Га, шляхта, лайдакі,
Дабрынскія, знаю вас добра! няхай сабе мокнуць!»

(І тут рагатаў праз вакно, што гатовы быў покнуць.)
«То ж гэта той самы Дабрынскі сядзіць у сурдуце,—
гэй, здзерці сурдут! — два гады што са мной на рэдуце [4]
павадзіўся. Хто распачаў? ды ён сам, не паверыш!
Танцую, а ён і раздзёрся: «Зладзюгу за дзверы!»
А, бачыш, чаму: за растрату палковае касы
пад следствам я быў і вялізныя меў амбарасы.
Няхай, а яму то чаго? Я танцую мазура,
аж стылу: «Зладзюга!» І шляхта прыкрыкнула: «ў-ра!»
Зняважыў мяне, а цяпер во папаўся, шляхцюра.
Казаў я: Дабрынскі! эй, прыйдзе каза да ваза!
Ну, бачыш, Дабрынскі: цяперака будзе лаза!»

Ды хутка шаптаў ён, к Суддзі пахіліўшыся, ў вуха:
«Суддзя, калі хочаш, каб гэта сайшло бы на суха,
дык тысячу рублікаў за галаву і — гатова;
за кожнага тысячу! гэта апошняе слова».

Суддзя шчэ хацеў таргавацца; Маёр і не слухаў,
зноў лётаў па хаце і дымам густым толькі бухаў,
падобны да нейкага шэрмалю ці да ракеты [5].
А з просьбамі, з плачам за ім жа хадзілі кабеты.
«Маёр,— адазваўся Суддзя,— як дайшло бы да права,
што выграеш? Тут не тачылася бойка крывава,
і ран не было. Што паелі паўгускі і куры,
заплацяць па статуту штраф грашыма ці ў натуры.
А я проці Графа зусім не звярнуся да права,
бо гэта усенечка толькі суседская справа».

Плут кажа: «Суддзя хіба з «Жоўтаю кнігай» [6]
не знаўся?»
«А што то за жоўтая кніга?» — Суддзя запытаўся.
«О,— кажа Маёр,— гэта кніжка ямчэй за статуты,
бо ў ей што ні слова — пятля ці Сібір, або кнýты;
па ей будзе ўсё у Літве па ваеннаму праву,
а вашыя ўсе трыбуналы ўжо хутка пад лаву.
Дык згодна з ваенным законам за гэтаку псоту,
напэўне, не меней, сашлюць у сібірну работу».
«А я,— Суддзя кажа,— паскарджуся да губарнатра».
«Ну, скаржся,— адказуе Плут,— хоць і да імператра!
Бо то ж імператар, калі зацвярджае указы,
бывае, што кару ён з ласкі звяліча ў два разы.
Паскаржся, а можа знайду калі, позна ці рана,



маспане судзейскі, кручочак які і на Пана.
То ж Янкель шпіён, за каторым сачыла улада,
а твой жа рандар, ты прымаеш яго за камрада [7].
Магу пад арэшт вас забраць усіх чыста адразу».
«Мяне,— ка' Суддзя — пад арэшт? Не пасмей без
наказу!»
І спор разгараўся ўсё болей гарачы й чапорны,
аж новы тут госць заязджае ў дзядзінец у дворны.

Дзівосны уезд. Бо наперадзе бег, як бы важны
ганец, такі чорны рагаты баран, а паважны.
Рагоў жа чатыры: з каторых два моў бы дугáмі
стаяць над вушмі і абодва убраны званкамі;
два іншы тырчаць убакі ад лабаціны вонкі,
на іх патрасаюцца медныя кулечкі звонкі.
А за бараном шлі валы і авечкі рахманы,
за быдлам шлі цяжка чатыры вазы пакаваны.

Згадалí усе, што ксяндзоўскі то ўезд, квастаровы.
Суддзя, каб не ўхібіць павіннасці гаспадаровай,
стаяў на парозе. Ксёндз ехаў на першай там брычцы,
каптур нацягнуўшы, стараўся, відаць, засланіцца —
ды зразу спазналі; мінуў толькі вязняў, звярнуўся
да іх тады тварам і пальцам да губ дакрануўся.
Фурман і другога ваза гэтаксама пазнаны:
стары гэта Розачка, за мужыка перабраны.
Як толькі пабачыла шляхта, усе закрычалі;
сказаўшы: «Дурныя!» — рукою даў знак, каб маўчалі.
На трэцяй падводзе Прусак быў у світцы падцёртай,
а Зан із Міцкевічам ехалі аж на чацвёртай.

Тым часам Падгайскія, Вільбікі ды Ісаейчы,
і Бергелі, Бірбашы, Котвічы ды Тэраейчы,
пабачыўшы шляхту Дабрынскую ў цяжкай няволі,
із гневаў старых астыгаць пачынаюць паволі,
бо польская шляхта, хоць страшна яна калатліва
й парывіста біцца, аднак жа зусім не імсціва.
Дык зараз бягуць да старога Мацея па раду.
А ён ля вазоў расстаўляе усеньку грамаду
і кажа чакаць.

Барнадын жа пашоў да пакою.
Яго ледзь пазналі там, хоць не змяніўшы быў строю,

ды выгляд зусім меў адменны. Звычайна суровы,
маўклівы, цяперака нос задзіраў над галовы
і з мінай вясёлай, квастар моў прасціна-рубаха,
адразу, ўвайшоўшы, смяяўся:

«Ха-ха, ха-ха-ха, ха!
Паклоны, чалом! Ха-ха-ха! Даскальная справа!
Паны афіцэры! дзе днём удаецца аблава,
а ў вас уначы! Ловы добрыя, бачыў звярыну;
скубаць трэ, скубаць трэба шляхту, лупіць з іх лупіну!
Вазьмеце вы іх на мунштук, бо то шляхта здзічэла.
Віншую Маёра із Графічам! Слаўнае дзела!
Вось гэта пячэня! Багаты паніч, а з магнатаў,
дык не выпускай яго з клеткі без трыста дукатаў.
Узяўшы, на кляштар дай мне, хіба́ ж не мылюся,
грашоў якіх тры: за тваю бо душу я малюся.
Як я барнадын, так малюся за вашыя душы!
Бо смерць то і штабс-афіцэраў хапае за вушы!
Пісаў жа ксёндз Бака [8], што смерць не шкадуе, катуе
й магната, й пралата, й па сукні нялітасна стукне,
утне і па палатне, па капту́ры й па фрызуры [9],
нічога бліскучы мундзеры і гладкі манеры.
Та смерць,— кажа Бака,— матуля, яна, як цыбуля,
шчыпае, слязу выціскае, а роўна прытуле
й дзіця, што люляе, й хлапца-малайца, што гуляе!
То так гэта: сёння жывём, а назаўтра гніём!
дык нашага толечкі, што паядзём і пап'ём!
Паночку Суддзя, ці не час ужо быў бы паснедаць?
Сядаю й другіх запрашаю застолле наведаць.
Каб зразаў, Маёр, хіба любіш? А Пане Паручнік,
каб гэтак у вазе харошай гарачанькі пунчык?»

«Яно то не шкодзе,— азваліся два афіцэры,—
і з'есці й булькну́ць за Суддзю: няўжо мы стараверы!»

Здзівіліся хатнія, гледзячы на барнадына:
адкуль узялася ў яго і вясёласць ды й міна.
Суддзя тады кухару ўжо паўтарае прыказы:
унесена ваза і цукар, бутэлькі і зразы.
Тут Рыкаў і Плут завіхаліся чынна і бойка,
к ядзе налягалі, а з тым запівалі так стойка,
што праз паўгадзіны змялі яны дваццаць тры зразы
і выпілі пунчу палову вялізнае вазы.



Сыт, весел Маёр, разваліўся у крэсле плюшовым
і, ўзяўшы, запаліваў люльку білетам банковым [10],
а губы абцёршы з яды беражочкам сарвэты,
звярнуў свае вочы, усё смеючысь, на кабеты
і кажа: «Люблю вас, прыгожыя Пані, як вэты [11]!
Паснедаў калі чалавек, то клянусь на 'палеты,
што закусь найлепша па зразіках, то размаўлянне
з харошымі дамамі, гэтак як Вы, мае Пані!
А дайце — у карты! у гальба-цывальба [12] ці ў віста?
Або патанцуем? Няхай кадукоў мяне трыста!
То ж я найпярвейшы ў стралецкім палку мазурыста!»
Затым ён да дамаў бліжэй нахіляўся, схіляўся,
пускаючы дым, кампліменты ім правіць стараўся.

«Скакаць! — кажа ксёндз,— калі высушу добрую пляшку,
хоць ксёндз, падкашу я сутану манаскую нашу
й пайду мазурочка! А ведаеш толькі, Маёрку,
мы п'ём, але егры там мерзнуць на панскім падворку.
Гуляць, то гуляць! Ты, Суддзя, дай ім бочку сівухі,
Маёр як пазволе, хай п'юць сабе егры, бо зухі!»
«Прасіў бы,— адкажа Маёр,— ды няма ў тым прымусу».
«Суддзя,— падшапнуў тады ксёндз,— дай ім бочку спіртусу».

І так, калі весела штаб у дварэ забаўляўся,
за домам у войску прып'яністы баль пачынаўся.

Той Рыкаў Мікіта ўсё моўчкі да чар прыкладаўся.
Маёр жа і піў, але разам да дам прыхіляўся.
Ахвоту звычайна да танцаў ён меў, як падпіўшы.
Вось кінуў і люльку; руку Талімены схапіўшы,
хацеў танцаваць, ды ўцякла; ажно бача, тут Зося!
І кланяйца й сланяйца і да мазу́рачка просе:
«Гэй, Рыкаў, пакінь жа трубіць на сваей ты на люльцы,
вон люльку, ты граеш нязгорша і на балабульцы [13],
там, бачыш, гітара, пайдзі і вазьмі, брат, гітару —
й мазурку! Хутчэй! Я, Маёр, іду ў першую пару...»
Гітару узяў капітан і настройвае ладна,
а Плут к Талімене са скокамі чэпіцца звадна.

«Маёрскае слова, не буду тады дваранíнам,
калі змахляваў, а хацеў бы я быць сукінсынам,
калі набрашу; запытайся, а ўсе афіцэры

пасведчаць, і згодзяцца з гэтым усе кавалеры,
што тут, у другой нашай арміі, ў корпусе дзьвятым,
ў пяхотнай дывіз'і другой, у палку пяцьдзесятым,
у егерскім, Плут найпярвейшы за ўсіх мазурысты.
Хадзі жа, Паненка! Не будзь жа, як конь наравісты!
Бо я укараю паненачку па-афіцэрску...»

Тут скочыў, хапіў за руку Талімену па-зверску
і шырака цупнуў у белыя плечы, аж пляснуў.
Тадэй жа, ад боку прыпаўшы, у твар яму хляснуў.
Прыцуп той Плута й памардасіна ляснулі разам
адно за другім, як у гутарцы сказ да за сказам.

Маёр як здурнеў, ажно вочы працёр, пабялелы
ад гневу, зароў: «Бунтаўшчык!» — і ляцеў ашалелы
са шпагай. Аж ксёндз з рукава дастае пісталета:
«Палі, мой Тадэйка,— крычыць,— у цымбалішча гэта!»
Тадэвуш, хапіўшы, намерыўся, выпаліў скора,
ды хібіў, анно абсмаліў, аглушыўшы, Маёра.
З гітарай зрываецца Рыкаў: «Бунт! бунт!» — галасуе,
ляціць да Тадэя: ўжо Войскі з застолля мяркуе
й махнуў во рукою наводле: ў паветры нож свіснуў
паміжы галовамі й перш ударае, як бліснуў.
Папаўшы у дно у гітару, наскрозь яе верце,
ды Рыкаў скланіўся набок і ўхіліўся ад смерці.
Стрывожаны крыкнуў: «Тут бунт! Эй жа егры!—
ей богу!» —
за шпагу хапіў бараніцца, зближаўся к парогу.

З другога канца урываецца шляхты ўжо многа
праз вокны, наперадзе Розга Мацея старога.
Плут, Рыкаў у сені і клічуць на помач жаўнераў;
ужо падлятае к ім трое чырвоных каўнераў,
прад імі праз дзверы штыкі, як маланкі, бліскучы,
на іх жа тры схілены шапкі так чорны, як тучы.
Мацей пры дзвярох стаіць, Розгу падняўшы, пільнуе,
прыліпшы к сцяне, як той кот, што на мышы палюе,
аж цяў во страшэнна: мо' тры галавы палажыў бы
стары, каб прыгледзеўся лепей, ці менш гарачыў бы.
Пакуль яшчэ сунулі шыі, ён здзёр ім фуражкі,
і так па штыкох толькі бразнуў удар яго важкі.
Яны адступаюць, а Розачка іх выганяе
на двор аж.



Шчэ большае там замяшанне гуляе.
Сапліцы староннікі ўжо не глядзяць на нязгоды,
Дабрынскім наўзáвады ўсе разрываюць калоды.
То бачучы, некалькі еграў як-та падбягае.
Шаржант, даляцеўшы, Падгайскага ўраз прабівае,
двух іншых параніў, страляе у трэцяга вязня.
А гэта было пры калодзе Хрысціцеля ласне.
Ён меў ужо вольныя рукі, дык біцца гатовы
ўсарваўся, падняў свой кулак, моў бы молат дубовы,
і зверху так дзёрнуў расейцу ніжэй патылíцы,
што ўбіў у замок карабіна і твар, і сківіцы.
Хоць кляпнула, порах, заліты крывёй, не спаліўся,
шаржант ля Хрысціцеля ног на аружжа зваліўся.
Хрысціцель схіліўся, хапае аружжа за дула
й крутнуў, як крапілам, аж ветрам усіх скалыхнула.
Ад тога млынка радавых зразу двое упала,
а трэцім ударыў Хрысціцель у галаў капрала.
Тады ад калоды і іншыя ходу са страхам:
так шляхту Крапіцель накрыў тэй круцёлкай, як дахам.

Парэзаны хутка вяроўкі, разбіты калоды.
Ўжо вольная шляхта напала на тыя падводы,
а з іх дабывае мячы, палашы, тасакі
і стрэльбы, і косы, а Конаўка два штурмакі
й мех куляў; насыпаўшы да штурмака да сваёга,
набіты другі аддае для Сака маладога.

Пайшла мітульга, бо стральцоў ужо моц наляцела.
Ні шляхта не можа сячы ужо накрыжкі смела,
ні егры страляць; ужо зблізу урýкапаш б'юцца —
кусаецца шабля за шаблю, аж іскры нясуцца,
ламаецца шабля аб штык або аб рукаятку,
ўжо б'юць кулакамі, мяшаецца ўсё у сумятку.

Дык Рыкаў ляціць, дзе стадола з прыплоткамі тыча,
і, стаўшы аж тамака, на маскалёў сваіх кліча,
каб кінулі гэну бітву без ніякага ладу,
дзе, зброі не ўжыўшы, падуць ад кулачна нападу.
Дык злы, што у гэткім натоўпе агню даць не можа,
бо нельга разрозніць ніяк, дзе сваё, дзе варожа,
камандуе: «Стройся!» — сабраць каб жаўнераў да шыку,
а толькі ж каманды ані не чуваць дзеля крыку.

Стары жа Мацейка, на долькі ручныя няздольны,
узад адступаючы, пляц прад сабой рабіў вольны
направа й налева. Тут кончыкам Розгі умела
штык з дула сатрэ, моў са свечкі той кнот закапцелы,
а там вун, наводле махнуўшы, зразае ці коле.
І так асцярожны Мацей уступае у поле.

З найбольшым, аднак, на яго насядае упорствам
гіфрайтар стары, што займаўся ў палку інструкторствам;
ён майстра, аж страх, са штыком на усякія штукі.
Стуліўся і скорчыўся, моцна хапіўшы у рукі
ружжо; замок правай, а левай за дула трымае,
падскакуе, круціцца, часам ураз прысядае,
то леву апусце, а правай наперад аружжа
так суне, моў гадзіна джыгалам вострым варуша,
то зноў яго ўзад хапане, на калене ўспірае
і, скачучы так, на старога усё насядае.

Праціўніка зручнасць укеміў жа Розачка ста́ры,
дык левай рукою уздзеўшы на нос акуляры,
ён праваю шабелькі грыф пры грудзёх аж трымае,
гіфрайтара рухі сачыць вачыма, адступае,
сланяецца сам на нагах, бы п'янчужка лядача [14].
Гіфрайтар барджэй падбягае і, пэўны удачы,
каб зараз хутчэй са старым да пакончыці справу,
яшчэ прыпадняўся і выцяг руку сваю праву,
ружжо папіхаючы; так жа ж пры гэтым сіліўся
штуршком і аружжа вагою, што аж пахіліўся:
Мацюк рукаятку ад шаблі — смікалісты дужа! —
пад штык падстаўляе і так падбівае аружжа
ды, шаблю спускаючы, тне маскаля па правіцы
і зараз наводле па твары сячэ, па сківіцы.
Так паў той гіфрайтар, найлепшы фяхтоўшчык з маскаляў,
траіх бо храстоў кавалер, чатырох жа медаляў.

Тым часам то левае шляхты крыло ля калодаў
ўжо блізка было перамогі. Крапіла там ходаў,
здалёку відны, там і Брытва заўзяты махае,
той вале ў галовы, другі папалам разразае.
Бы тая машына, каторую дужа штукарне
надумалі немцы, якую празвалі яны малатарня,



а разам сячкарня з нажамі, з цапамі, што можа
як трэба парэзаць салому і выпайсаць [15] збожжа:
так разам сякуць і малоцяць Крапіла і Брытва,
і ворага труць гэты знізу, той зверху, як жыта.

Пакінуў Крапіцель тут пэўную ўжо перамогу,
ляціць аж на права крыло Мацюку ў дапамогу.
Там прапаршчык, смерць адамсціць каб гіфрайтара тога,
з даўжэнным шпантонам ідзе на Мацея старога,
(шпантон гэта разам сякера і піка, не ў ходзе
цяперака на сухапуці, а толькі у флоце
яшчэ ужываецца, быў жа ж тады і ў пяхоце).
Той прапар хлапец малады, а смікалісты дужа,
як толькі Мацей яму ўбок адбівае аружжа,
ўсё ўзад адступае; стары жа ж не можа угнацца:
не ранячы ворага, змушан адно адбівацца.
Ўжо раз да крыві яму прапаршчык пікай упіўся,
ужо рэзнуць бердышам [16] зверху старога злажыўся:
Крапіла не змог даляцець, дык ураз з паўдарогі,
крутнуўшы аружжам, пусціў афіцэру пад ногі.
Косць скрышана; прапаршчык бердыш із рук выпускае
і слоніцца; шляхта й Хрысціцель ужо надлятае,
за шляхтай ад лева крыла і маскоўская сіла
змяшана ляціць. Пачынаецца бой ля Крапіла.

Хрысціцель, аружжа патраціўшы ў Мацькі зашчыце,
за гэту прыслугу без мала не страціў што жыцце,
бо стылу дваіх маскалёў да з усенькае сілы
чатыры рукі учапілі ў чупрыну Крапілы;
упёршы нагамі, а дужыя! — цягнуць, як ліны
пружкія, што ўвязаны моцна да шчоглаў віціны.
Дармо іх Крапіцель лупцуе у тыл беспрастанку,
хістаецца; глянуў — аж блізка Цызорык-Мапанку
рубае, дык крыкнуў: «А Езус-Марыя! Гярвазы!»

Трывогу Хрысціцеля Ключнік пазнаўшы адразу
па крыку, звярнуўся й пусціў брэд [17] гартоўнае сталі
паміжы Крапілы патыліцу й рукі маскаллі.
Рванулі назад і нямымі раўлі галасамі;
рука жа ж адна, што сплялася мацней з валасамі,
вісець засталася; крывёю бурліць і балтайца.
Так ворлік, кіпцюр свой адзін як загоне у зайца,
другі ж, зверыну каб стрымаці, за дрэва зашчэпе,

а заяц як торгне й арла на дзве часткі расшчэпе:
пры дрэве у лесе той правы кіпцюр застаецца,
а звер з акрываўленым левым па полі нясецца

Хрысціцель свабодны, наўкола глядзіць ваяўніча,
выцягуе рукі, аружжа шукае і кліча;
тым часам таўчэ кулакамі, расставіўшы кроку,
й стараецца блізка трымацца Гярвазага боку,
аж бача Сака, свайго сына, у тэй паталоцы:
у правай штурмак, а у левай з усенькае моцы
у сажань даўжэнна дуб'ё валачэ за сабою,
суката, набітае крэменем, рознай жарствою [18]
(здружыціся можа з Хрысціцеля толькі рукою).
Хрысціцель, як толькі угледзеў магутна Крапіла,
хапіў, цалаваў, аж падскочыў ад радасці мілай,
крутнуў, і ужо па галовах яно малаціла.

А после што ён вырабляў і глушыў як без меры,
дармо то й пяяць, бо і Музе ніхто б не паверыў.
Не верылі ў Вільні ж убогай тэй бабе, не даме,
якая стаяла на самым шчыце ў Вострай Браме
і бачыла, як гэта Дзееў, вайвода маскоўскі,
ўжо браму адбіўшы, вёў полк казакоў нетакоўскіх,
і як там тутэйшы адзін мешчанін, Чарнабацкі,
забіў таго Дзеева й збіў увесь полк той казацкі [19].

Даволі, што сталася так, як прадбачыўшы Рыкаў;
стральцы ў мітульзе панеслі паражэнне вяліка.
Бо дваццаць і тры на зямлі з іх ляжала забітых,
а трыццаць і некалькі енчыла раненых, збітых,
а шмат пайшло ў сад, у хмялі, на раку науцекі,
нат некалькі ў доме ў жанчынаў прасіла апекі.

Вясёлая шляхта ўжо радасна лётае й кліча,
адны ўжо да бочак, другім ужо пахне здабыча,
і толькі ў ксяндза была міна яшчэ ваяўніча.
Не біўся дагэтуль ён сам (бо бароняць каноны
ксяндзу ваяваць), але як чалаавек быў свядомы,
то добрыя рады даваў і пляц бою абходзіў,
узрокам, рукою сваіх заахвочваў, прыводзіў;
цяперака кліча усіх да яго далучыцца,
на Рыкава ўдарыць, канца перамогі дабіцца.
Тым часам да Рыкава шле пасланца, каб сказаці,



што можа, аружжа злажыўшы, жыццё захаваці,
калі ж ён адцягіваць будзе са здачай аружжа,
акружаны будзе й адно на разню так заслужа.

А Рыкаў, аднак, і не думаў прасіць іх пардону;
сабраўшы наўкола сябе тады з паўбатальёну,
крычыць: «Да аружжа!» Шарэнга за ружжы хапае,
аж хрумснулі (ружжы даўно ўжо набітыя мае);
крык: «Цэлься!» — і ружжы радочкам даўгім заблішчэлі;
«Чаргою агня!» — і адно за другім загрымелі.
Той стрэле, а гэны наб'е, той хапае у рукі,
чуць посвісты куль, хруст замкоў, шампаловыя гукі.
Шарэнга уся выдаецца рухомістым гадам
бліскучым, што ёрзае тысячай ног адным радам.

Хоць егеры п'яны, здурнеўшы з таго замяшання,
хібляюць да мэты, хоць рэдка каторы і ране,
радзей жа яшчэ забівае, а ўсё ж двух Мацеяў
паранілі і затаўклі аднаго з Баўтрамеяў.
З нямногіх рушніцаў адстрэлюе шляхта здалёку
і з шаблямі хоча на ворага ўдарыць з наскоку,
ды старшыя здзержуюць; кулі разгоніста свішчаць,
сякуць, і зганяюць, і хутка дзядзінец ачысцяць,
ужо пачынаюць па шыбінах дому званіці.

Тадэвуш, застаўшыся ў доме жанчын бараніці
з наказу ад дзядзькі, пачуўшы, што горай і горай
бітва разгараецца, выбег; за ім Падкаморы,
якому Тамаш карабэлю прынёс ужо з хаты,
спяшыць і становіцца зараз наперадзе шляхты.
Бяжыць ён, а шляхта уся за ягоным загадам;
стральцы падпусцілі і сыпнулі куляў, як градам.
Ляглі Ісаевіч і Вільбік, дзве раны у Брытвы.
Устрымуюць шляхту ад тэй небяспечнай ганітвы [20]
Чарвяк і Мацей. Астыгае і шляхта ў запале
й назад адступае. Маскаль тое бача і вале.
Ўжо думае Рыкаў апошні удар ім задаці,
з дзядзінца сагнаць усю шляхту й дваром заўладаці.

Ужо «Стройся ў атаку! — крычыць ён жаўнерам,— на штыкі!
Уперад!» — Шарэнга ўся, выткнуўшы дулы, як тыкі,
схіляе галовы, ідзе, прыспяшаючы шагу.

Дармо па іх шляхта страляе, не траце адвагу,
шарэнга прайшла паўдзядзінца ужо без адпора;
паказуе шпагай на дзверы тут Рыкаў і скора
крычыць: «Паддавайся, Суддзя, бо пажарам застрашу!»
«Палі,— кажа той,— то цябе ў тым агні я усмажу!»

Ах, двор Сапліцоўскі! калі і дагэтуль шчэ цэлы
твае усё свецяцца сцены там белы,
як шляхты суседска грамада дагэтуль часамі
сядае з Суддзёй за гасціннымі шчыра сталамі,
то п'юць хіба часта за Конаўкі там за здароўе:
без Конаўкі, пэўне, было б ужо па Сапліцове!

Дагэтуль не шмат зрабіў Конаўка ворагу шкоды.
Хоць першы са шляхты ён звольнены быў із калоды,
хоць зараз знашоў у вазе свой штурмак знамяніты,
ту Конаўку мілу і куляў мяшэчак набіты,
а біцца не біўся; казаў ён, што нашча не верыў
сабе, пакуль мерачкі спірту як трэ не адмерыў:
да бочкі пашоўшы, хіліў сабе жменяй, як чаркай,
так падмацаваўся ды добра сагрэўся і шпарка;
паправіўшы шапку, бярэ сваю Конаўку ў рукі
з каленаў, наладжуе ў стрэльбіне розныя штукі
й пляц бою кругом азірае. Глядзіць, аж бліскуча-
я хваля штыкоў шляхту б'е і паб'е немінуча,
плыве проці гэтае хвалі, к зямлі пахіліўшысь,
сярэдзінай пляцу нурцуе, у травы зашыўшысь
густыя: аж там, дзе паросшы крапіва-кусака,
засеўся і згэтуль падмігуе жэстамі Сака.

Сак дом бараніў і стаяў з штурмаком ля парогу,
да мілае Зосенькі загарадзіўшы дарогу.
Ад Зоські ў залётах пага́рджаны Сак засмучоны,
гатоў жа быў згінуці дзеля яе абароны.

Шарэнга стральцоў ужо маршам к крапіве прыпёрла,
аж Конаўка цынгелем цісну́ў, і з конаўкі горла
пускае на ворага тузінам куль рассяканых;
Сак тузін другі, і стральцы аканчальна змяшаны.
Шарэнга са страху віецца у клуб, адступае,
кідаючы збітых; Хрысціцель жа іх дабівае.

Далёка стадола ужо. Баючыся адходу
задоўгага, Рыкаў ляціць пад баркан ля гароду;



збірае у кучу разбітае роты там жменькі
і строе па новаму шых: з аднэй доўгай шарэнгі
ён робе трыкутнік: наперадзе ставе клін востры,
а стылу ўпірае ў баркан два бакі яго просты.
І добра зрабіў, бо ад замку язда ужо вале.

Граф, быўшы запёрты у замку пад вартай маскаляй,
як варта ўцякла, пасадзіў тых джакеяў на коней
і, чуючы стрэлы, язду у вагонь сваю гоне,
наперадзе сам із жалезам, высока паднятым.
Аж Рыкаў як крыкне: «Агню батальёнам, рабяты!»
І шмыгнула ўздоўж па замкох, моў бы нітка вагніста,
і з выткнутых дулішчаў свіснула куляў са трыста.
Трох конных параніла, трупам адзін залягае.
Паў графавы конь, паў сам Граф; крычачы, падбягае
Гярваз на ратунак, бо бача, што егры ўжо мелі
на мэце з Гарэшкаў апошняга, хоць па кудзелі.
Бліжэй быў Чарвяк, Графа целам сваім закрывае
й, дастаўшы пастрэл за яго, з-пад каня дабывае,
адводзе, а шляхце паказуе, каб расступіцца,
хавацца за студню, платы, за якою сцяною,
а Графу на лепшы мамент зачакаці з яздою.

Цудоўна уцяміў і споўніў ягоныя планы
Тадэвуш. Стаяў, за драўляную студню схаваны,
а як быў цвярозы і добра страляў з дубальтоўкі,
(трапляў да падкінутай высака ўверх залатоўкі),
Маскву цвіча страшна. Старэйшых усё выбірае;
фяльфебля ад першага стрэлу, глядзі, забівае,
затым із двух дул па дваіх ён зажарыў шаржантах,
ў сяродак трыкутніка лупе, дзе штаб, і па кантах.
Тады ўжо і Рыкаў злуецца, махае рукамі,
кусае нат шпагу і тупае грозна нагамі:
«Маёр,—закрычэў,—ці ты бачыш? стралок вун пракляты
паложа каманду, прапалі тады і салдаты!»

Дык Плут да Тадэя ускрыкнуў, узбураны гневам:
«Гэй, пане паляк, ці не сорам хавацца за дрэвам!
Не будзь жа трусом, выхадзі, як таго вымагае
жаўнерская чэсць». А Тадэвуш яму адказа́е:
«Маёр! калі лічышся гэтакім смелым жаўнерам,
чаго ж ты хаваешся там у стральцоў за каўнерам?
Цябе не баюся, дык спробуй жа выйсці з-за плоту;
раз даў табе ў морду і біцца не страціў ахвоту.

13. Зак. 19

Нашто праліванне крыві. Міжы намі знявага,
няхай жа канчальна рашыць пісталет або шпага.
Аружжа на выбар бяры ад гарматы да шыла;
а не, пастраляю усіх, як варон, вас, аж міла».
І кажучы гэта, прымерыўшы добра, зажарыў:
стаяўшага з Рыкавым побач паручніка ўдарыў.

«Маёр,— кажа Рыкаў,— ну, на паядынак з ім смела
ідзі, адамсціць за яго папярэдняе дзела.
Каб гэтага шляхціца нехта ды іншы забіў бы,
то, бачыш, Маёр, сваей ганьбы ніяк ты не змыў бы.
Дык гэтага шляхціца трэба у поле звадзіці,
як нельга з ружжа, тады шпагаю можна ўлажыці.
Бо куля, то дура, а штык малайчына, бо коле,
Сувораў стары гаварыў; выхадзі, брат, у поле,
бо перастраляе усіх нас: прыцэлісты дужа».
На гэта Маёр жа адказуе: «Рыкаў, мой дружа!
Мо' сам ты пашоў бы, на шпагі у нас ты пярвейшы,
ці, можа, з паручнікаў нашых які маладзейшы.
Бо мне ж, як Маёру, тут быць із салдатамі нада,
ка мне усяго батальёну належа каманда».
То чуючы, Рыкаў выходзе са шпагаю смела,
агонь загадаў перастаць, махнуў хусткаю белай;
пытае Тадэя, аружжа ён хоча якое?
Згадзіліся коратка й згодна на шпагі абое.
Тадэвуш аружжа не меў; як шукалі дзе шпагі,
то выскачыў Граф і умовы сарваў без развагі.

«Ах, Пане Сапліца,—крычыць,—з перапрошаннем Пана,
Пан вызваў Маёра! Тым часам я на Капітана
пакрыўджаны: ён бо да замку майго сёння ўночы»
(«Да нашага замку»,— ўстаўляе Пратаз неахвоча)
«ўварваўся,— заканчуе Граф,— з цэлай бандай зладзеяў,
то ён гэта, Рыкаў, пазвязваў маіх там джакеяў.
Скараю й яго, як разбойнікаў тых пад высокай
скалою, што звецца ў Сіцыліі Бірбантэ-роккай».

Тут разам замоўклі усе, супынілі стралянне,
цікавае войска слядзіць камандзіраў спатканне.
Ідуць сабе Рыкаў і Граф, прыадвернуты бокам,
ўзаемна так грозячы правай рукою і вокам;
рукамі жа ж левымі ўраз адкрываюць галовы
із ветлым паклонам (звычай бо такі ганаровы,
што ворага трэ' прад забойствам як след прывітаці).



Спаткаліся шпагі ужо і пашлі скрыгатаці.
Уздымаючы ногі, з прыпадам на права калена,
ваякі падскакуюць ўперад і ўтыл пераменна.

А Плут на Тадэя так гледзячы ўсё перад фронтам,
нараду вёў скрытую ціха з гіфрайтарам Гонтам,
якога у роце мастацтва стралецкае знана.
«Ці бачыш,— Плут кажа,— таго вун мяцежніка пана?
Калі яму ўсадзіш ты кулю пад пятым рабром,
дастанеш чатыры рублі ад мяне серабром».
Гонт стрэльбу адводзе, к замкý пахіліўся, адылі [21]
таварышы верныя Гонту шынелямі ўкрылі;
ды мера не ў рэбры ён, а ў галаву Тадавуша.
Пацісну́ў і блізенька трапіў, у верх капялюша.
Тадэй адвярнуўся, аж тут налятае Крапіла
на Рыкава — «Здрада!»— ўся шляхта завыла,
Тадэвуш яго засланяе: ледзь што з галавою
стуль Рыкаў паспеў уцячы да расейскага строю.

Дабрынскія зноў жа наўзавады лупяць з Літвою;
нягледзь на даўнейшыя споры паміжы сабою,
па-брацку паможа адзін аднаму, намудруе.
Дабрынскія бачаць, як лоўка Падгайскі картуе
шарэнгу стральцоў і бліскучай касою рубае,
дык радасна клічуць: «Няхай жа жывуць нам Падгаі!
Ура, ліцвіны! Ну, гарачы іх бой і малітва!»
Скалубы ж, пабачыўшы, як маладзецкі там Брытва,
хоць ранен, ляціць, сваю шаблю падняўшы пад хмуры,
ускрыкнулі: «Ўра, Мацюкі! хай жывуць і мазуры!»
Паддаўшы так духу сабе, на маскоўцаў ляцелі;
Чарвяк із Мацеем старым іх стрымаць не паспелі.

Як спераду ўдарылі гэтак на егерску роту,
пляц бою пакінуўшы, Войскі ідзе да гароду.
Пры боку ягоным ступаў асцярожна Пратазы,
яму аддаваў паціхутку пан Войскі прыказы.

Стаяла ў гародзе і блізка пад самым барканам,
ў каторы упёршыся Рыкаў сваім траягранам,
старая, вялікая сырніца, хоць неаздобна,
з бярвенняў, павязаных накрыж, да клеткі падобна.
Там многія копы сыроў у ей смачных бялелі;
наўкола ж іх, сохнучы, густа снапамі віселі
шалей, і benedicta carda [22], і розныя травы,

ўсё Войшчанкі зелле аптэчнае, лекі, прыправы.
Ушыркі так сажні чатыры та сырніца мела
уверсе, а ўся на стаўбе на вялізным тырчэла,
як бусла гняздо. А той стоўб быў стары, хоць дубовы,
ужо пахіліўшыся, выгніўшы аж да паловы,
гразіў паваліцца. Не раз то Суддзі гаварылі
раскінуць будоўлю збуцвелу ад веку, адылі
Суддзя адмаўляўся, казаў, што яму папраўляці
куды ахватней, як разбурываць, перастаўляці,
усё адкладаў будаваць і рабіў адгаворы,
тым часам пад стоўб той казаў уваткнуць дзве падпоры.
Будоўля, падкрэплена гэтак, аднак не трывала,
насом за баркан над трыкутнік салдат вызірала.

К тэй сырніцы Войскі із Возным ідуць асцярожна,
магутнаю жэрдзяй, як пікай, узброены кожны;
за імі плыве праз густыя канаплі 'хмістрыня
і кухцік, малы, але дужы і спраўны хлапчына.
Прышоўшы, упёрлі друкі ў верх стаўба, весь падгнілы,
а самі, ў канцох вісячы, пхнуць з цалюсенькай сілы,
як плытнікі тыя увязшу на рапах [23] віціну
даўгімі друкамі ад берагу пхнуць на глыбіну.

Аж стоўб затрашчэў: захісталася сырніца, гнецца,
з бярэмам сыроў на трыкутнік маскоўскі той прэцца,
гнецца й забівае; ўжо там, дзе стаялі салдаты,—
палены, і трупы, й сыроў беласнежныя латы,
крывёй і мазгамі заліты. Трыкутнік парваўся,
Крапіла лупіў там, і Брытва ужо завіхаўся,
і Розачка сек; ад двара гушча шляхты ўлятае,
а Граф на рассыпаных конніцу з брамы пускае.

Яшчэ бараніцца стральцоў толькі восем прымела
з шаржантам. Гярваз налятае, стаяць яны смела,
дул дзевяць намерыўшы ў Ключніка з мэтным
прыгледам;
ляціць ён на стрэл і ўсё круце Цызорыка брэдам.
Угледзеўшы гэта, Чарвяк залятае дарогу,
сам валіцца і падбівае Гярвазаму ногу;
зваліліс, як жарнулі тыя агню усім зводам.
Ледзь свіснула толькі, сарваўся Гярвазы і ходам
ускочыў у дым, двум стральцам адсякае галовы.
Уцякаюць, а ён удагонку сячэ на паловы;



яны ў панадворак, Гярвазы за імі няспынна,
яны ў бок гумна, дзе расчынена насцеж адрына,
Гярваз на іх шыях праз дзверы туды уязджае
і знік у пацёмках, аднак жа бітвы не кідае,
чувацца праз дзверы бо енкі, і крыкі, і ўдары.
Ды хутка заціхла; выходзе Гярвазы стуль стáры
з мячом акрываўленым.

Шляхта, здзяржаўшы так поле,
разбітых стральцоў даганяе, рубае і коле.
А Рыкаў крычыць, хоць адзін, што не здасца так скора,
і б'ецца насмерць, аж падходзе к яму Падкаморы
і, шаблю падняўшы, прамове паважным так тонам:
«Паслухай мяне, сваей чэсці не спляміш пардонам.
Ваяка няўдачны, аднак даказаў ты адвагу
вялікую, здайся й спакойна аддай сваю шпагу,
бо, бачыш, нас сіла, дык зможам, як шаблямі бразнем.
Жыццё захаваеш і гонар, маім будзеш вязнем!»

Дык Рыкаў, зважаючы на Падкамора павагу,
скланіўся, узяў і аддаў яму голую шпагу,
усю закрываўлену, й кажа :«Ляхі, паны-браты!
бяда мне, бяда, што не меў аніводнай гарматы.
Казаў мне Сувораў: «Ну, помні жа, Рыкаў, таварыш,
не йдзі без гарматаў на ляхаў, бо кашы наварыш!»
Ну, што ж! калі егры п'яныя, Маёр піць пазволіў!
Ах, Плут! ён праз меру сягоння ужо пасваволіў!
Камандаваў ён, таму сам прад царом і адкажа,
а я, Падкаморы, й цяперака прыяцель ваш жа.
Бо гэтак і прыказка кажа, што хто каго любе,
то той таго, Пан Падкаморы, і здорава чубе.
Я знаю: вы слаўны напіцца, ахвотны пабіцца,
а толькі ж пакіньце, паны, над стральцамі глуміцца».

Тады Падкамор карабэлю уверх падымае
й праз Вознага зараз агульны пардон [24] абвяшчае;
агледзіці раненых кажа і трупаў браць з поля,
а рэшту стральцоў абяззброеных весці ў няволю.
Шукаюць Плута; ў крапіву ён глыбока зашыўся
і, лежачы гэнам без руху, мярцом прычыніўся;
а вышаў, пабачыўшы ўрэшце, што ўжо па бітвé.

Такі меў канец той апошні заезд у Літве [25].

## *Быліца дзесятая*



### ЭМІГРАЦЫЯ. ЯЦКА

#### ЗМЕСТ

Нарада аб забяспечанні лёсу пераможнікаў.— Умова з Рыкавым.— Развітанне.— Важнае адкрыцце.— Надзея.

А гэныя раннія, зразу рассеяны тучкі
вышэй узляталі на неба, як чорныя птушкі,
й збіраліся ў кучу. Ледзь сонца з палудня схадзіла,
як іхнае стада паўнеба зусюль аблажыла
вагромністай хмарай, каторая з ветрам ляцела
шпарчэй і шпарчэй, абніжалася, болей гусцела,
аж бокам адным напалову ад неба аддзёрта
і выпята ім да зямлі, ў шырыню распрасцёрта,
як парус вялізны, вятры ўсе ў абоймы хапала,
з палудня на захад па небе разгоніста гнала.

Мамент цішыні. Анямелі паднебны разлогі.
Глухое паветра замоўкла, казаў бы з трывогі.
І збожжа, што перш да зямлі прылягала сціблами
ды зноў угару залатымі трасло каласамі,
кіпела, як хвалі,— паставу цяпер нерухому
прымае, ўзіраецца ў неба й чапура салому.
І тож пры дарозе зялёныя вербы й таполі,
што перш, бытта плачкі-жанкі пры хаўтурным пры доле,
хіляліся часам, круцілі даўгімі рукамі,
махалі па ветры пасрэбранымі валасамі,
цяпер, як памёршыя, з выразам немым жалобы,
стаяць, моў бы статуі тыя сыпільскай Ніобы [1].
Асіна дрыгуча адна толькі лісцем шамоча.

Тавар [2], што дахаты звычайна ідзе неахвоча,
цяпер жа натоўпам бяжыць, пастыроў не чакае,
пакінуўшы пасьбу, дахаты хутчэй уцякае.



Бугай капытамі й рагамі капае і рые,
пужаючы стада, раве гэтак дзіка, як вые;
карова да неба ўздымае вялікае вока,
губу адкрывае здзіўлёна, ўздыхае глыбока;
няўрымстуе кнур, замарудзіўшы ў тыле, скрыгоча,
крадзе снапы збожжа й сабе на запас іх валоча.

Схаваліся птушкі пад стрэхі, ў лясы, між кустамі;
і толькі вароны, ставы абступіўшы стадамі,
сабе праходжваюцца вагам, спакойна ідучы,
кіруючы чорныя вочы на чорныя тучы,
з сухога шырокага горла язык выстаўляюць,
тапурачы крылле, дажджовай купелі чакаюць.
Да й тыя, збаяўшыся лішне вялікае буры,
у лес пацягнулі, падобна ўзлятаючай хмуры.
Апошняя з птушак, зухвала сваей быстрынёю,
то ластаўка, чорную тучу прашыўшы стралою,
урэшце спадае, як куля.

Якраз у тым часе
бітва між Масквою і шляхтай к канцу давялася.
Хаваюцца гурмам пад стрэхі і гэтыя й тыя,
кідаюць пляц бою, дзе хутка страшныя стыхіі
ўжо схопяцца біцца.

На захад зямля яшчэ сонцам была залачона
й панура свяцілася, неяк жаўтава-чырвона;
ўжо хмура суценне, падобна да сеці, кідае
і лове астаткі святла, а за сонцам спяшае,
казаў бы, хацела яго захапіць прад заходам.
Ўжо колькі віхроў раз за разам прасвіснула сподам;
адзін за другім летучы, сыпяць каплі дажджысты,
буйныя, і круглыя, й ясны, як град, так зярністы.

Віхры во самкнуліся накрыжкі моцна і шчыльна,
змагаюцца ў дольках і круцяцца, як матавільна [3],
са свістам, да дна у ставох скаламучуюць воды.
Успалі на лозы, на луг, патаптаўшы гароды.
Ламаюцца лозаў галіны, пракосаў завівы
на вецер лятуць, моў бы рваныя жменямі грывы,
змяшаныя з кудрамі сноп'яў. Вятры усё выюць,
зваліўшыся ў дол на раллю, там качаюцца, рыюць
і рвуць: віхру трэцяму робяць праход, а страшному,

каторы рвануўся з раллі, моў бы, стоўб чарназёму,
лабом сваім круце зямлю і паветра мароча,
нагамі ж пяском засыпае аж зоркам у вочы,
таўсцее, шырэйшым канцом падпіраючы хмуру,
й агромнай сваею трубою атрублюе буру.
З тым цэлым хаосам вады, курапылу, былінаў,
саломы, лістоў і травы, наламаных галінаў
віхры удараюць у лес і па нетрах у пушчы
равуць ведзмядзямі.

Тым часам з дажджыстае гушчы
плюшчаць ужо каплі, як з сіта. Грымнуў срэбнарунны
пярун раз за разам. Зліваюцца каплі у струны
і звязуюць неба з зямлёю даўгімі касамі
ды ўраз, як з вядра, яны бухаюць шумна пластамі.
Ужо і зусім так закрыліся неба з зямлёю,
іх бура і ноч ачапілі заслонай густою.
Аж трэсне часамі на неякай неба старонцы,
і буры арханел, як бы аграмнястае сонца,
рассвеціцца тварам ды йзноў за нябесным разломам
схаваецца, хмурныя дзверы затрэснуўшы громам.
Ізноў узмагаецца бура, шалее навальна,
а цёмнасць таўсцее, гусцее, маўляў, датыкальна.
Зноў шум і грымоты прыціхнуць хвілінкай малою,
то йзноў загрыміць, зашуміць, як бы хлюсне вадою.
Заціхла ў канцы. Толькі чуцен шум ліп каля дому
і шэмранне лісця, і рэха далёкага грому.

Патрэбны быў час найбурнейшы са справай такою;
бо так навальніца, у цёмнасць укрыўшы пляц бою,
масты на рацэ пазрывала, дарогі размыла,
з фальварку зусім недаступную крэпасць зрабіла.
Таму аб падзеях крывавых у стане Сапліцы
шчэ весць не магла разысціся па ўсёй акаліцы,
а лёс пераможнікаў, шляхты, завіс ад тайніцы.

Ў пакоі Суддзі дужа важная рада. Там бедны
Чарвяк ужо ў ложку ляжыць: акрываўлены, бледны,
замучаны, але на розуме поўна здаровы,
загадуе; брат выпаўняе ягоныя словы.
Казаў Падкамора і Ключніка после прасіці
і Рыкава ўвесці, ды дзверы затым зачыніці.
Трывалі праз цэлу гадзіну таёмныя рады,



аж Рыкаў праўраў іх славамі такімі, без звады,
ды важка, на стол адкідаючы мех з дукатамі:
«Эх вы, паны ляхі, такая ўжо гадка [4] між вамі:
што рускі — то злодзей! Скажэце ж цяпер вы, паны-та,
што зналі і вы аднаго маскаля — то Мікіта
Мікатавіч Рыкаў, каторы быў ротны, меў восем
медаляў і тры жа храсты — то запамятаць просім:
медаль за Ачакаў, а гэты во за Ізмаілаў,
за бітву пад Нові [5], а гэты во за Прэйсіш-Ілаў [6],
той за адступленне з Карсакавым [7] і за адвагу —
з-пад Цюрыха; маю таксама за храбрасць і шпагу;
к таму ад Суворава маю чатыры падзякі,
а нат ад цара дзве пахвалы, чатыры адзнакі,
усё на пісьме...»

«Капітане,— цяжкімі славамі
Чарвяк перабіў,— ну, а што тады станецца з намі,
калі не захочаш згадзіцца? То ж даў нам ты слова
ўсю справу замяць».

«Праўда, слова даю вам нанова,—
адказуе Рыкаў,— бо што мне па вашай тут згубе.
Мікіта, ён чэсны салдат, ну — і вас крыху любе,
што людзі вясёлыя вы і ахвочы к папойцы,
прытым жа адважныя людзі ды спраўныя ў бойцы.
А кажа і прыказка: хто на вазе паязджае,
не раз пад вазом пабывае; хто сёння уперад,
то заўтра узад ці у нерат; б'еш ты па каўнеры
сягоння, а заўтра цябе; так жывуць і жаўнеры.
Хіба ж чалавека ўжо злосць, як іржа, бы заела,
злавацца за пройгрыш! Ну, ачакоўскае дзела
было раскрывава, пад Цюрыхам збілі пяхоту,
таксама пад Аўстэрліц цэлую страціў я роту;
а перш ваш Касцюшка калісь-то пад Рацлавіцамі [8] —
шаржантам я быў шчэ — пасек увесь звод мой касамі.
Ну, што із таго? Я за тое ля Мацеявіцаў [9]
уласным штыком закалоў двух важнецкіх шляхціцаў.
Адзін Макраноўскі ішоў перад фронтам з касою
й адсек кананьеру запал із трымаўшай рукою.
Ой! Ляхі вы, ляхі! Айчызна! ўсё гэта я чую,
я, Рыкаў; цар кажа, а я вас, ей богу, шкадую.
Ды што нам да ляхаў? Масква для маскоўцаў уроча,
а Польшча для ляхаў; ды што ж? калі цар патароча!»

Суддзя яму кажа: «Паслухай мяне, Капітане!
Што ты чалавек найчаснейшы, няма сумлявання!
Цябе ж наукола усе і расхвалююць дужа.
За гэты наш дар не загневайся, добры наш дружа,
пакрыўдзіць цябе не хацелі; а гэты дукаты
пасмелі злажыці, бо ты ж чалавек не багаты».

«Ах, егры! — злаваў капітан,— уся рота скалота
дармо! А усё то Плутова нягоднасць, дурнота!
Ну, ён камандзір, прад царом і адкажа за гэта.
А грошы сабе забірайце, нашто мне манета?
То ж маю я свой капітанскі аклад абыякі,
а хопіць жа мне і на пунчык [10] і люльку табакі.
А вас жа люблю я, бо з вамі пап'ю, пагуляю,
паем сабе й пагаманю і так час праваджаю.
Ну, вас таму й абараню, і, як будзе дазнанне,
дык чэснае слова, што дам я за вас паказанне.
Ну, скажам, што мы прыхадзілі з візытаю, елі,
пілі і скакалі, і крышку сабе ахмялелі.
Плут неяк прыпадкам агню закамандаваў даці,
бітва! і прышлося увесь батальён змарнаваці.
А вы толькі следства падмазуйце звонкай манетай,
то будзе круціцца. Цяпер жа скажу і аб гэтай
бядзе (ўжо казаў таму пану, што доўгую мае
рапіру): Маёр тутка першую скрыпку іграе;
застаўся жывы, а то хітрая штучка, дык можа
загнуць вам такога кручка, што ніхто не паможа;
бумажкаў таму не шкадуйце вы з гэткім задзірай.
Ну, што, пане шляхціц, ты з гэтай даўжэзнай рапірай,
ці быў у Плута, ці усё з ім, як трэба, наладзіў?»

Гярваз азірнуўся і лысіну звольна пагладзіў,
рукою нядбала кіўнуў, бы даваў гэтым знаці,
што скончана ўсё.— Але Рыкаў пачаў налягаці:
«Ну што, ці Плут будзе маўчаць, а ці словам заруча?»
Злы Ключнік, што Рыкаў яго так пытаннямі муча,
паважна свой палец вялікі к зямлі нагінае,
махае рукой, бы пытанняў тых ніць рассякае,
і кажа: «Клятву на Цызорык магу вам злажыці,
не выдасць нас Плут, бо не будзе ні з кім гаварыці!»
Далоні спусціў тут і пальцамі хрумснуў траскуча,
казаў бы, так тайну із рук сваіх вытрас рашуча.



А цёмны той жэст слухачы, зразумеўшы, стаялі
ў здзіўленні й адзін на другога адно спаглядалі;
панура трывала так колькі мінут застаноўка.
Аж Рыкаў сказаў: «Насіў воўк, панеслі жа і воўка!»
«Ну, што ж? requiescat in pace» [11],— дадаў Падкаморы.
«І аман! — закончыў Суддзя,— не памогуць дакоры!
Аб тым я не ведаў, не вінен крыві тэй пралітай».

Чарвяк усарваўся з падушак, сядзеў, як прыбіты,
упёр свае вочы ў Гярваза, як вострыя пікі,
і кажа: «Забіці палоннага грэх то вялікі!
Хрыстос нат і ворагу мсціць забаронюе строга!
Ай, Ключнік! дастанеш ты цяжка за гэта ад бога.
Адзін толькі вынятак ёсць із святога закона:
не собская помста, а толькі pro publico bono» [12].
Гярваз галавой і паднятай рукою ківае,
вачмі толькі лыпае і сказ той усё паўтарае:
«Pro publico bono».

Затым супынілі гаворку зусім аб Маёры.
Назаўтра шукалі яго па гумне, па аборы,
усюды, дармо вызначалі за труп нагароду,
бясследна так згінуў Маёр, бы ўваліўся у воду.
А што запраўды прылучылася, розна казалі,
ды толькі ж ніколі наверна аб тым не празналі.
Дармо раздражнялі пытаннямі Ключніка болькі:
тры словы: «pro publico bono» адказваў толькі.
Хоць Войскі і ведаў ту тайну, за слова узяты,
маўчаў ганарова стары, што, казаў бы, закляты.

Як Рыкаў выходзіў з пакою, зрабіўшы умову,
Чарвяк загадаў тады клікнуць і шляхту баёву,
а к ей Падкамор прамаўляе уважліва дужа:
«Браточкі! Шчаслівае сёння вось наша аружжа,
ды мушу Вацпанству сказаць без утайкі напраснай,
што вынікі будуць благія з бітвы несвойчаснай.
Памылка! й ніхто з нас не можа сказаць, што не вінны:
Чарвяк, што рухліва занадта пашырыў навіны,
а Ключнік і шляхта не так зразумелі, прызнацца.
З Расеяй вайна йшчэ не будзе так хутка, відацца,
тым часам, хто біўся найболей тут бойка і збройна,
ніяк у Літве заставацца не можа спакойна;
дык гэтакі кожны хіба ўжо у Княства папхнецца,

і так, імяніта: Мацей, што Хрысціцель завецца,
і Брытва, і Конва, й Тадэй хай уносяць галовы
за Нёман, дзе ўсіх іх чакае мундзір лег'яновы.
Мы звалім віну тады ўсеньку на вас, на адсутных,
а з тым на Маёра і так уратуем прысутных.
Хіба не надоўга паедзеце, ёсць бо надзея,
што разам з вясной нам свабоды зара заяснее;
Літва ўцекачамі цяперака вас выпраўляе,
ды, можа, як збаўцаў сваіх пераможных спаткае.
Суддзя прыгатове усенька для вас на дарогу,
а я грашыма, колькі здолею, дам дапамогу».

Уцяміла шляхта, што мудра казаў Падкаморы,
бо ведама: з рускім царом хто хоць раз быў у споры,
то ўжо аніколі із ім не пагодзіцца шчыра
і змушаны будзе ці біцца, ці гніць у Сібіры.
Дык моўчкі яны па сабе толькі сумна зірнулі,
ўздыхнулі й галовамі вольна на згоду кіўнулі.

Паляк, хоць паміжы народамі з гэтага слаўны,
што любіць барджэй ад жыцця ён свой край
старадаўны,
гатоў заўсягды яго кінуць, пусціцца край света
і жыць у галечы, ў загоне даўжэнныя лета,
змагацца з людзьмі і з нядоляй, пакуль сярод буры
світае надзея, што краю будуе падмуры.

Зрабілі заяву, што ехаць хоць зараз гатовы;
анно не згаджаецца Бухман, наморшчуе бровы.
Ну, ён, чалавек растаропны, ў бітву не мяшаўся,
ды чуе, што радзяцца: галасаваць паспяшаўся.
Праект гэты добрым знашоў, ды хацеў перайначыць,
развіць яго падрабней і ясней растлумачыць,
перш-наперш на тое легальна камісію назначыць,
яка б эміграцыі мэты разважыла строга,
і спосабы, й сродкі, і іншых абставінаў многа.
На жаль! тады часу на гэта зусім не хапала,
і Бухмана ўчоная рада дармо так прапала.
Збіраецца шляхта ў дарогу, пакуль разаднее.

Суддзя затрымаў у пакоі аднак жа Тадэя.
«Пара ўжо сказаць і Табе,— да ксяндза ён гавора,—
аб чым я і сам жа даведаўся толькі учора,



што нашы Тадэй закаханы і шчыра у Зосі.
Няхай жа цяпер прад ад'ездам рукі яе просіць.
Я сам гаварыў з Таліменай: няма перашкоды;
а й Зося ўжо апекуном не адмовіла згоды.
Як пары мы шлюбам не можам сягоння вянчыці,
то хоць бы і так, пане браце, цяпер заручыці
ўжо перад ад'ездам. Дзяцюк малады падарожны,
сам ведаеш добра, спаткае спакусы там розны;
а ўсё ж, калі вокам зірне на заручны пярсцёнік,
юнак тады ўспомне сабе, што ўжо ён заручоннік,
і зараз гарачка спакусаў у ім астыгае.
Павер мне, пярсцёнік, вялікую сілу ён мае.

Я сам жа, гадкоў таму трыццаць, меў сэрца да Марты,
яна узаемна: любіліся мы не на жарты!
Былі заручыўшыся. Бог, мо за нейку правіну,
не даў пажаніцца: пакінуў мяне сіраціну,
узяўшы да вечнай хвалы маю мілу Вайшчанку,
а добрага друга харошу дачку, Грачашанку.
А мне засталося адно толькі памятка гэта,
пярсцёнічак во залаты, што на пальцы адзеты.
Як толькі у вочы ад персня блісне залатога,
яна прад вачмі, як жывая, і так з ласкі бога
сваей нарачонай застаўся я верны дасюль жа,
цяперака стары ўдавец, хоць не быўшы і мужам,
хоць Войскі другую дачку меў, харошу даволі
й падобную: Марты забыцца не мог я ніколі!»

Гаворачы, чула на персцень Суддзя спазірае,
рукою адвернутай слёзы з ваччу абціраае:
«Дык, браце,— закончыў,— што мысліш? зрабіць
заручыны?
Ён любе, а маю ўжо слова і цёткі й дзяўчыны».

Тадэвуш, падбегшы, душу раскрывае прастачу:
«А чым жа я, міленькі дзядзька, табе адудзячу
за тое, што дбаеш аб шчасці маім пастаянна.
Я быў бы з людзей найшчаслівейшы, так нечакана,
каб Зося сягоння была заручона са мною,
каб ведаў, што ў будучым будзе і жонкай маёю.
А толькі скажу вам адкрыта: цяпер заручыны
адбыцца не могуць, бо ёсцека розны прычыны...
Балей не пытайся... Як Зося ласкава чакаці,

мо' хутка я лепшым пры ей апынуся у хаці,
мо' сталасцю і на яе узаемнасць зараблю,
мо' крышачку славай імя я сваё прыаздоблю,
мо' вернемся хутка ў радзімую мілу старонку,
тады, мілы дзядзька, успомню пра будучу жонку,
тады на каленках і Зосю сваю прывітаю,
калі ж будзе вольная, то і рукі запытаю.
Цяпер жа я мушу надоўга з Літвою расстацца,
мо' Зосі тым часам патрапе другі спадабацца:
вязаць яе волі не буду; прасіць узаемнасць
зусім незаслужана, гэта была бы нікчэмнасць».

Калі з пачуццём гаварыў так юнак счамярэлы,
бліснулі ў яго, моў бы дзве велічэзныя пэрлы,
на зрэнках блакітных дзве слёзы гаручы, буйныя
й скаціліся шыбка праз шчокі румяна-жывыя.

А Зося, цікавая вельмі, з глыбокай альковы
лавіла праз шчэліну тайнае гутаркі словы;
Тадэй як каханне сваё там папросту і смела
расказваў, чула, і сэрца ў яе задрыжэла,
і бачыла ў зрэнках ягоныя слёзы буйныя.
Не ўсе ж разумела тэй гутаркі словы дзіўныя:
чаму так яе палюбіў? а чаму пакідае?
дзе едзе? ад'езд нечаканы яе засмучае.
Вялікую навасць пачула із вусн маладзёна
ў жыцці першы раз, што любіла, й сама — улюбёна.
Пабегла туды, дзе маленькі быў хатні алтарык,
і выняла стуль абразочак і рэліквіярык [13]:
на гэтай малой маляванцы свята Генавэфа,
а ў тэй жа рэліквіі сукня святога Юзэфа,
заручанай моладзі добрага бацькі, патрона.
З такімі дарамі ўваходзе ў пакой засмучона.

«Так хутка, панок, ад'язджаеце. Я на дарогу
дам Пану малы абразочак, а з тым перасцярогу:
хай Пан заўсягды із сабою рэліквіі носіць
і гэты абразік і хай не запомне аб Зосі.
Сам бог у здароўі і шчасцейку Пана хай водзе
і як найхутчэй ды шчаслівa да нас тут прыводзе».
Замоўкла й спусціла галоўку. Ледзь вочы блакітны
стуліла, пасыпаліся слёзы, як росы ракітны.
І Зося маўчала, раняючы слёзаў брылянты
на шчок сваіх свежыя розы і губ амаранты.



Тадэвуш, узяўшы астаткі з іконкай маленькай,
гавора: «Ах, Пані! Пара развітацца з Паненкай;
Здаровая будзь! аба мне не запомні! часамі
і пацеры... Зося!..» Сказаць больш не можа славамі.

Тут Граф з Таліменаю, вышаўшы неспадзявана,
на сэрцаў тых двух маладых уважаў развітанне,
узрушыўся й кажа, звярнуўшы паглёд к Талімене:
«Ах, колькі то ёсць хараства, хоць бы ў простай во
сцэне,
калі так пастырку прыгожу з ваякам панурым
разлучае лёс, як ту лодку із лайбай у буры.
Нішто гэтак палка у сэрцы чуцця не распале,
як то, калі нештачка сэрца ад сэрца аддале.
Бо час — гэта вецер: маленькую свечачку здмухне,
вялікі ж пажар, ён ад ветру мацней яшчэ бухне.
І сэрца маё, наймацней яно любе здалёку.
Ну, Пане Тадэй! За спаборніка меў вас на воку.
Адна то з прычынаў і сумнай завады, знявагі.
Памылка! бо ты прыкукобіўся, бачу, к пастырцы,
а я тэй харошай вун Німфе аддаў сваё сэрца.
Няхай у варожай крыві расплывецца та звада,
а нам жа забойчым жалезам пароцца не нада;
няхай жа іначай развяжацца спор наш залётны:
пабачым, каторы ў каханні з нас болей ахвотны.
Пакінуўшы сэрцаў сваіх дарагія прадметы,
абодва хадзема на пікі, мячы і штылеты;
спаборымся сталасцю міжы сабой і тугою,
а ворагаў нашых дасцігуйма мужнай рукою».
Сказаў і глядзіць на Тальмену, а пані Тальмена
на гэта ні слова, яна бо здзіўлёна страшэнна.

«Мой Графе,— Суддзя перабіў,— а чаго так канечне
табе выязджаць? Э, сядзі у маёнтках бяспечне.
Ну, бедную шляхту то могуць хвастаць і абдзерці,
а Граф — застанецца цалюсенькі, смела паверце.
Пан Граф жа багаты, дык справа такога тут роду,
адкупішся з турмаў, і лёгка, паловай даходу».

«Нязгодна,— адказуе Граф, — то з маею натурай!
Не змог быць каханкам, дык буду геройскай фігурай;
ў любоўных згрызотах на ўцеху я славу паклічу,
як сэрцам убогі, праслаўлю руку ваяўнічу».

Тальмена пытала: «Якая ж то шкодзе прычына
любіць, быць шчаслівым?!» — «Такая мая ўжо
судзьбіна,—
Граф кажа,— прачуцце бо цёмнае рухам патайным
ірве у старонкі чужыя, к дзялам надзвычайным.
Прызнаюся, сёння я славіць хацеў Талімену
і дзеля яе запаліці агні ўжо Гімену [14],
ды гэты ж юнак даў прыклад так харошы й пахвальны,
вянец дабравольна зрываючы свой заручальны,
йдучы прабаваць свайго сэрца у розных прашкодах
адменнага лёсу, ў крывавых ваенных прыгодах.
Сягоння і мне адкрываецца нова эпоха!
Грымела ў аружжы маім бо та Бірбантэ-рокка:
каб гэтае рэха шырока па Польшчы лунала!»
Закончыў і ўдарыў па ручцы ад шпагі удала.

«Ну, што ж,— барнадын адказаў,— трудна ганіць
ахвоту;
як едзеш, вазьмі толькі грошай, а выставіш роту;
Уладзімер Патоцкі [15] здзівіў і французаў шчадротай,
аддаўшы на скарб міліён; тож сваею ахвотай
і князь Дамінік Радзівіл два палкі там паставіў
адборнае конніцы, хоць і маёнткі заставіў.
Дык едзь з грашыма, бо у Княстве то рук да палаша
хапае, ды грошай замала; бывай ужо, Ваша!»

Тальмена на Графа тут сумны паглёды кідае
і кажа: «На жаль, анічога цябе не стрымае!
О, віцязю мой! Калі ўступіш у рыцарскі шранкі [16],
звярні тады чулы паглёд і на колер каханкі!
(Тут, стужку ад сукні сабе адарваўшы, зрабіла
какарду і Графу на грудзі яе прышпіліла.)
Няхай гэты колер вядзе на гарматы вагністы,
на пікі бліскучыя і на дажджы на сярчысты [17],
калі ж прад Табою палягуць усе мінатаўры,
калі прыхарошаць ужо несмяротныя ляўры
шышак твой крывавы й шалом перамогаю гарды:
й тады яшчэ вока звярні ты да гэтай какарды,
успомні руку, прышпіліўшую колер ваенны!»
Руку падала тут.— Пан Графіч прыпаў на калены,
цалуе; тут хустку Тальмена прыткнула да вока,
а вокам другім спаглядае на Графа звысока,
што быў дужа моцна праняты такімі славамі.
Яна уздыхала і ціскала толькі плячамі.



Аж кажа Суддзя: «Пане Графе, спяшайся, бо позна».
Чарвяк жа: «Ну, гэтага годзе! — загадуе грозна,—
спяшайся ўжо, Ваша». Загад тую сцэнку спыняе,
раздзелюе чулую пару, з ізбы выганяе.

Тым часам Тадэй абымаў да са слёзамі стрыя
і пацалаваў барнадыну у рукі старыя.
Чарвяк, да грудзей сваіх хлопца прыціснуўшы скроні
і на галаву яму накрыж злажыўшы далоні,
да неба зірнуў і прамовіў: «Сыночку, ну — з богам!»
Заплакаў... Тадэвуш тым часам ужо за парогам.
«А як то? — пытае Суддзя,— ну, няўжо, брат, не
скажаш
цяпер, прад ад'ездам? І тайны чаму не развяжаш
між намі траймі хоць?»— Ксёндз кажа: «А нават між
намі,
(і, плачучы доўга, свой твар закрываў ён рукамі).
Нашто бо ён, бедны, і ведаці меў бы аб гэтым,
што бацька, як злодзей, разбойнік, схаваўся прад
светам?
Хацеў бы! ды богу ахвяру я з гэтай пацехі
зраблю за старыя грахі і за сына паспехі».

«Ну,— кажа Суддзя,— час падумаць а ўласнай асобе.
Разваж, чалавек жа у веку тваім, у хваробе
із іншымі разам не здолеў бы эміґравацца;
казаў ты, што маеш дамочак, дзе перахавацца;
кажы тады, дзе? Паспяшайма, ўжо коні гатовы.
А можа, найлепей у пушчы, у дом лесніковы?»

Чарвяк, галавою ківаючы, кажа: «Шчэ рана,
да заўтра йшчэ час. А тым часам пашлі па клябана,
каб як найхутчэй тут прыбыў бы з святымі дарамі;
няхай усе выйдуць; застаньцеся з Ключнікам самі.
А дзверы запрыце!»

Суддзя выпаўняе прыказы
ксяндза і сядае на ложку пры ім; а Гярвазы
стаіць, на мяча галаўні адзін локаць трымае;
чало прыпахілена на далані апірае.

Ксёндз, перш чым пачаць гаварыць, у Гярвазавы вочы
упёр свой паглёд, бытта быў гаварыць неахвочы.

І як той хірург дакранаецца перш мягкай рукою
да хворага цела, чым возьмецца рэзаць чаргою,
Чарвяк так вачэй сваіх быстрых паглёд алагодзіў
і доўга па твары Гярвазага імі йшчэ водзіў,
а ўрэшце, бы хочачы трапіць наслепа ударам,
скрыў вочы рукою і вымавіў голасна, з жарам:

«Я — Яцка Сапліца...»

Гярвазы на гэтака слова
збялеў, пахіліўся наперад і цела паловай
нагнуты, звісаў на аднэй такназе, бы злапаны [18],
як камень, з гары летучы, на пуці затрыманы.
І вытрашчыў вочы, і губы шырока расшырыў,
і грозна зубамі бліснуў, і вусы натапырыў;
рапіру упушчану з рук пры зямлі ён трымае
каленамі, правай рукой галаўню абымае
і цісне; даўгое хвасцішча рапіры тырчэла
ад тылу й хісталася ў розны бакі адзічэла.
Сам Ключнік падобны да ранена рыся, што скочыць
маніцца во з дрэва аблаўніку проста у вочы,
бурчыць і клубком выдымаецца, зрэнкі крывава
іскрыць, вус чапура і трэпе хвасцішчам рухава.

«А, Пане Рубайла,— ксёндз кажа,— мяне не трывожа
людскі цяпер гнеў, бо ужо пад рукою я божай.
Цябе ж заклінаю я ў імя таго, што свет збавіў,
каторы забойцам сваім на крыжы благаславіў
і выслухаў просьбу разбойніка, каб ты цярпліва
паслухаў таго, што хачу расказаць справядліва.
Я сам жа прызнаўся; хачу для палёгкі сумлення
дастаць ад цябе, а прынамсі прасіць прабачэння.
Паслухай жа споведзі; после, што хочаш, са мною
то й зробіш». І тутка зложыў ён руку із рукою,
да пацераў моў бы. Гярваз адступіў, кулакамі
у лоб ударыў сабе толькі і ціскаў плячамі.

А ксёндз распачаў гаварыць пра сваё сябраванне
старое з Гарэшкай, з ягонай дачкою каханне
і з гэтага поваду з Стольнікам злую нязгоду.
Казаў жа няскладна, падмешываў рознага роду
жальбы, наракканні, а часта зусім прыпыняўся,
бы скончыўшы, после ізноў жа прадоўжыць стараўся.



А Ключнік, што ведаў гістор'ю Гарэшкаў дакладна,
усю тую повесць, хоць зблутану гэтак бязладна,
дапоўніць умеў, выклікаючы ўсенка на памяць.
Суддзя толькі многа з тых рэчаў не мог сабе ўцяміць.
Ды слухалі ўважна абодва, схіліўшы галовы;
што раз, то вальнейшы рабіліся Яцкавы словы
і часта зрываліся.

*
* *

«Успомні, Гярвазы, як часта я быў запрашаны
к бяседам да Стольніка й тамака віватаваны;
крычаў ён не раз, падымаючы кверху шкляніцу,
што лепшага друга не мае за Яцку Сапліцу;
а як абымаў мяне! Кожны, хто чуў яго словы,
казаў бы, што Стольнік са мной падзяліцца гатовы
душою. Прыяцель?! Ох, ведаў ён, ведаў і добра,
што ў думках маіх, у душы...

*
* *

Тым часам аб гэтым шаптала ужо вакаліца,
не гэты, то гэны казаў мне: «Эй, Пане Сапліца!
Дармо там стараешся, браце! вяльможны парогі
залішне высокі на Яцка падчашыца ногі».
А я прычыняўся вясёлым, смяяўся з магнатаў
і з іхных дачок, што не дбаю пра арыстакратаў;
калі ж і бываю, адно праз сяброўства прычыну,
за жонку ж вазьму толькі роўну з сабою дзяўчыну.
Аднак да жыўца мне ўсе гэтыя жарты калолі:
быў молад, адважны, мне свет быў адкрыты да волі
у краі, дзе ведама добра, што шляхціц раджоны
раўня із вяльможамі, ёсць кандыдат да кароны!
Калісьці ж Танчынскі жадаў з каралеўскага дому
дачкі, і кароль не адмовіў жаданню такому [19].
Сапліцаў хвала ад Танчынскіх не менш знаменіта
крывёю, гярбом, вернай службай для Рэчпаспалітай!

*
* *

Ах, шчасце другім сапсаваці уміг чалавеку
так лёгка, паправіць — не хопе і цэлага веку!

Адно толькі Стольніка слова, і гэтак былі б мы
шчаслівы! Хто ведае, мо' і дагэтуль жылі б мы;
бо, можа, і ён пры сваім пры любімым дзіцяці,
пры Эве прыгожай сваей, пры ўдзячным пры зяці
спакойна старэў бы і быў бы ўнукоў калыхаўшы
малых! А цяперака што? Ах, каб гэта ён знаўшы!
Згубіў нас абое... І сам... і забойства... й наступкі
забойства усе, і усе мае беды й праступкі.
Ну я, як забойца, і жаліцца права не маю;
хоць шчыра з усенькага сэрца яму прабачаю,
аднак жа ж і ён...

*
*   *

Няхай бы ў канцы мне адкрыта ўжо раз адказаў бы,
бо нашыя знаў пачуцці; а няхай не прымаў бы
адведзін маіх; то хто ведае? мо' б, зазлаваны
і гнеўны ад'ехаў бы, і час загаіў бы мне раны.
Ды ён жа з гардэчы па-новаму дай ухітрыцца:
казаў бы, яму ў галаву не магло нат прыбіцца,
каб я мог старацца з ягонай дачкой ажаніцца!
А быў я патрэбны яму йшчэ, бо меў павper
у шляхты, любілі мяне вакалічны дваране.
Дык ён, у каханні маім бы й зусім не спазнаўся,
прымаў па-старому мяне, нават сам дамагаўся,
каб я прыязджаў бы часцей; а як толькі мы самі
былі, тады бачачы вочы заплыўшы слязамі,
прапоўнены грудзі ўжо выбухнуць зараз гатовы,
ён, хітры стары, закідаў сабетацкія словы [20]
аб сойміках, мовах, працэсах...

*
*   *

Не раз пры кілішках, калі ў пачуццёх расплываўся,
мяне абымаў і у дружбе ка мне завяраўся,
каб крэску ці шаблю маю пры сабе захаваці,
а я узаемна прымушаны быў абымаці
яго, тады злосць да такая мяне забірала,
што зразу рука ўжо за шаблю пры боку хапала,
і брала ахвота пляваць на тэй дружбы абрыду.
Ды Эва, са ўзроку майго і усенькага віду,
дагадвалась, што у мяне да за ліха сядзела,
ўзіралася з просьбай, усенька на твары бляднела.



А гэтак галубка прыгожа яна і лагодна!
узрокам такая прыхільна, такая пагодна!
анельская! што ўжо не меў я ніякай адвагі
яе затрывожыць і гэтак маўчаў на знявагі.
І я, на Літве усей ведам, шалавіла заўзяты,
прад кім і вялікшыя нават дрыжэлі магнаты,
што дня не пражыў без бітвы, што не даўся бы ў гневе
не толькі што Стольніку скрыўдзіць, а нат каралеві [21],
якога у шал увадзіла найменшая спрэчка,
то я тады, злы і п'яны, а маўчаў, як авечка!
Казаў бы, Sanctissimum [22] бачыў!

*
*   *

І колькі ж разоў я хацеў яму сэрца адкрыці,
а нават гатоў быў пакорнаю просьбай маліці.
У вачох яго бачачы толькі ж паглёд так халодны,
як лёд, я саромеўся сам за жаданні бясплодны!
Спяшаўся ізноў як мага найзімней распраўляці
аб справах, аб сойміках, нават із ім жартаваці!
Усё гэта, праўда, із пыхі, ўсё, каб не зневажацца
прад панам-вяльможай, з Сапліцаў імём не ўніжацца
напраснаю просьбаю, каб не дастаці адмовы.
Якія ж былі б тады міжы шляхтай размовы,
каб ведалі тое, што Яцка Сапліца...

*
*   *

Гарэшкі Сапліцы ў дзяўчыне сваей адказалі,
што Яцку яны чорнай поліўкай пачаставалі!
У канцы ўжо і сам я не ведаў, а як сабе радзіць;
надумаў са шляхты малы сабе полк нат зграмадзіць,
пакінуці назаўсягды сваю родну старонку,
ісці у Масковію ці на татар уздагонку,
вайну распачаць. З развітаннем да Стольніка еду
ў надзеі, што быў яму верным сябром не без следу,
(пра шчырасць маю і адданасць ён добра жа ведаў!)
Як, думаю, ўбача таго, з кім праз доўгія лета
ён піў, ваяваў, выязджаючы недзе край света,
цяперака — можа й старога душа ўскалыхнецца
й пакажа аднак жа хоць крышку людскога мне сэрца,
як рожкі той смоўжык!

О, хто хоць іскру пачуцця для прыяцеля мае
на дне свайго сэрца, то, лёс калі іх разлучае,
дабудзецца гэтая іскрачка пры развітанні,
казаў бы, апошні агоньчык жыцця пры скананні!
І раз той апошні крануўшыся друга далонняў,
слязу найзімнейшае вока, бывае, уроне!

*
* *

Пачуўшы пра мой жа ад'езд, пабялеўшы стаяла
яна без прытомнасці, мала што трупам не пала,
ні слова прамовіць, ні слёзаў стрымаць сваіх сілы
не мела — пазнаў тады, як для яе я быў мілы!

*
* *

Ах, помню, ў жыцці першы раз я слязамі заліўся,
ад радасці й гора-адчаю, шалеў, пазабыўся,
хацеў ужо пасці прад бацькам яе на калены,
ўючыся, бы вуж той, прасіці: не муч так страшэнна,
за сына вазьмі ці забі! Аж тут ён, як ніколі
пануры, хоць ветлы, як бы стоўп які солі,
гаворку пачаў, і аб чым? аб вяселлі ўжо Эвы?
у гэткай хвіліне! Ах, Ключнік! то ж сэрца не з дрэва
ты маеш! паймі!

...кажа Стольнік: «А, Пане Сапліца,
парай, з кашталяніча сватам мне як абхадзіцца:
якраз во прыехаў. Ты ж друг мой, прыяцель, дык, можа,
што скажаш на гэта. Ну, Эва багата, прыгожа:
а віцебскі то ж кашталян! То не жарт! у сенаце
займае ён крэсла! Ну што мне параіш ты, браце?
Хіба што нічога яму не сказаў я на здзекі
такія — скікнуў на каня і пашоў наўцекі!»

*
* *

«Ой, Яцка! — Гярвазы гавора,— ты мудры прычыны
знаходзіш; аднак не змяншаюць тваей яны віны!
А ведама гэта, не раз бо на свеце бывала,



каму каралеўска дзіця ці вяльможы прыпала
да сэрца, той гвалтам стараўся здабыць, выкрадаці,
адкрыта імсціць — але хітра вось так забіваці
паляка у Польшчы, з маскоўцамі ў змове, знянацка!»

«Не быў я у змове! — із жалем адказуе Яцка,—
А гвалтам схапіць? хіба змог бы; з-за крат і з-за клямак
яе адабраў бы, разбіў бы у пух яго замак!
То ж меў за сабою Дабрын і чатыры засценкі.
Ах, каб жа яна да была бы, як нашы паненкі,
здаровая, сільная! каб не збаялася дужа
уцечкі, здагонкі і лязгату ў боі аружжа!
Ды бедная! Так жа яе то бацькі распясцілі,
страхлівая, слабая! быў чарвячок то матыллі
вясенні, так кволы! І гэтаку гвалтам схапіці,
аружнай рукой дакрануцца — раўно што забіці.
Не мог я, ніколі!

Адкрыта ж імсціць, разнясці яго двор, як пярыну —
то сорам! Сказалі б, што Яцка імсціў за дзяўчыну!
Гярваз, тваё простае сэрца паняць не умее,
ў абражанай гордасці пекла якое шалее!

Чорт гордасці лепшыя планы пачаў тады раіць:
памсціцца крывава, прычыну ж тэй помсты затаіць,
у замку балей не бываць, а кахання пазбыцца,
нат вырваць аб Эве ўспаміны, з другой ажаніцца,
а после, ўжо после знайсці там якую зачэпку,
памсціцца.

І зразу здавалася мне, што ўжо сэрцам змяніўся,
і рады быў выдумцы тэй, а тады — ажаніўся
я з першай спатканай дзяўчынай, шляхцянкай убогай.
Ды, блага зрабіўшы, быў пакараны — як строга!
А беднае маці Тадэя, прызнаюся гэта,
зусім не любіў, хоць пасцівая вельмі кабета,
ды ў сецях старога кахання і ў злосці я рваўся
і быў, як шалёны; дармо сябе змусіць стараўся
заняцца сваей гаспадаркай або інтарэсам;
напрасна усенечка! Помсты апутаны бесам,
агрызлівы, злы, я на свеце пацехі ніводнай

не мог адшукаць, пападаў у грахі так чародна.
Пачаў тады піць.

І так незадоўга і жонка ад жалю памёрла,
дзіця засталося, а гора мяне усё жорла!

*
*    *

А моцна ж я мусіў кахаць ту любіму кабету...
Гадоў колькі! і дзе я не быў! а дагэтуль
запомніць не мог: яе мілая постаць ціхая
ўстае прада мной і цяперака, як бы жывая!
Хоць піў, але памяць заліць жа не мог на хвіліну,
пазбыцца не мог, хоць прабег не адну я краіну!
Й цяпер у манаскім габіце і з божае волі
слабы, у крыві — а аб ей гавару я найболей!
У гэткай хвіліне пра гэта?.. Хай бог выбачае!
Ды мусіце бачыць, у жалі якім і адчаі
зрабіў то...

*
*    *

Якраз гэта хутка было па яе заручынах.
Усе гаманілі адно аб яе заручынах;
казалі, што Эва, як брала пярсцёнік-абручку
із рук ваяводы, самлела, упала ў гаручку,
што мае пачаткі сухотаў, няўпынна рыдае;
і згадвалі: пэўне, што некага тайна кахае.
А Стольнік жа, як заўсягды, быў вясёлы, спакойны,
з сябрамі у замку бяседы устроіваў гойны [23].
Мяне ж не прасіў — бо нашто ж яму то і патрэбна?
Бязладдзе у хаце, бяда і прывычка ганебна
мяне падалі на пагарду і смех перад светам!
Мяне, што калісьці усенечкім трос я паветам,
каго Радзівіл [24] называў: мой каханку, Яцэнку!
мяне, што калі выязджаў із свайго я засценку,
вялікша за княжу дружына са мною ляцела,
як шаблю дастаў, колькі тысячаў шабляў блішчэла,
наводзячы страх і на панскія замкі ў павеце!
А после смяялісь з мяне нат сялянскія дзеці:
ў вачох бо людскіх я зрабіўся так раптам нікчэмны!
Я, Яцка Сапліца!— Хто голас пыхі патаемны...»



І тут барнадын, аслабеўшы, зваліўся на ложа;
а Ключнік усклікнуў: «Вялікі суды твае, божа!
І праўда то! праўда! Так ты гэта, ты гэта Яцка
Сапліца? і пад каптуром? і ты жыў так жабрацка!
А помню цябе, калі шляхціц чырвоны, прыгожы,
здаровы, калі дагаджалі табе нат вяльможы,
калі за табою шалелі кабеты... Вусалю!
Не так то й даўно, а ты так пастарэўшы ад жалю!
І як жа цябе не пазнаў я па гэным то стрэле?
То ж іншы ніхто ў ведзмядзя гэтак мэтна не ўцэле!
Стральца над цябе бо не мела Літва уся наша;
а першым ты тож па Мацеі старым да палаша!
Пяялі калісь аб табе ж то шляхцянкі-паненкі:
«Ўжо Яцка пакручуе вусы, трасуцца засценкі,
каму ж на вусе на сваім ён вузельчык завяжа,
то той задрыжыць, хоць бы сам Радзівіл гэта
княжа».
Ах так! завязаў ты вузельчык і Стольніку пану,
няшчасны! І ты гэта? ты — і да гэтага стану?
Каб Яцка Вусаль квастаром?! О, суды, твае, божа!
Ад кары ж цябе ўратаваць нават гэта не зможа,
бо я прысягнуў, што Гарэшкі крыві не дарую...»

Ксёндз, сеўшы на ложку, прадоўжыў ано весць
страшную:
«Кружыў я ля замку, ад болю зусім, як шалёны.
А бесаў у сэрцы і ў думках рады незлічоны.
То ж Стольнік дачку забівае! мяне ўжо аграбіў
із шчасця! — Пад'ехаў я к браме: ну, чорт туды звабіў!
Пабач, вун штодзённа у замку піятыка, гулі,
святло, ну, а музыкі гэткай даўно і не чулі!
І на галаву яго лысу не зваліцца замак?
Падумай аб помсце, то чорт табе зразу напрамак
пакажа і спосаб: той момант маскоўцы напалі
на замак. Ты ведаеш, як маскалі штурмавалі.

*
*    *

Брахня бо, што я з маскалямі меў змову, рахункі.

*
*    *

Глядзеў. У галаве ж маей розны круціліся думкі.
Спачатку глядзеў, як дурное дзіця на парады,

пажары — з усмешкай; пасля ж, як разбойнік, быў
рады,
чакаючы, хутка пачне ўсё гарэць і валіцца;
часамі прыходзіла думка: а што, як Сапліца
ўратуе дзяўчыну, нат бацьку.

*
*    *

І вы бараніліся — ведаеш — спраўна, хоць самі,
і трупамі слалі маскоўцаў наўкола пры браме.
Нягоднікі, блага стралялі. Тут мною варожа
зноў злосць страсанула.— А, Стольнік ізноў
перамажа!
І гэтак усенька на свеце яму удаецца,
і з гэтай страшэннай напасці адно пасмяецца?!
І я ад'язджаў.— А было ужо раніцай гэта.
Аж бачу, пазнаў. Ён выходзе на ганак адзеты,
брылянтавай шпількай мігучай на сонцы матае,
пакручуе вусы і гордым паглёдам кідае;
й здавалася мне, што найгорай з мяне наругаўся,
пазнаўшы, й паднятай рукою ка мне адгражаўся.
У момант рука карабін маскалю адбірае,
ледзь толькі злажыўся, здаецца, не мерыў — страляе!
Ну, ведаеш!

Пракляты аружны агонь! Хто мячом забівае,
той мусе складацца, затым адбівае, махае,
і ворага можа раззброіць і сам устрымацца;
аружжа вагністае ж, тут... за замок толькі ўзяцца,
хвілінка, адна толькі іскрачка...

*
*    *

А ці ж уцякаў я, калі у мяне ты злажыўся?
Вачмі я у дулы тваей дубальтоўкі упіўся,
адчаем і жалем к зямлі як прыбіты, знямелы!
Чаму тады, Ключнік, ты хібіў мяне сваім стрэлам?
А ласку зрабіў бы! Відаць, на пакуту, скаранне
за грэх трэ' было...»
Тут ізноў не хапіла дыхання.



«На жаль,— кажа Ключнік,— хоць шчыра стараўся з
прыцэлам.
Бо колькі ж праліў ты крыві тым адным сваім
стрэлам,
з таго ж і на нас і на вас розных бедаў навала,
а ўсё праз тваю то віну столькі злыдняў напала!
Аднак, калі сёння стральцы пана Графа ўжо мелі
на мэце, з Гарэшкаў апошняга, хоць па кудзелі,
то ты засланіў, а маскаль і мяне палажыўшы
ўжо быў бы таксама, каб ног ты маіх не падбіўшы.
Як праўда, што ты у духоўным цяперака стане,
то пэўне манаха Цызорык ужо не дастане.
Бывайце! больш вашага не праступлю ўжо парогу.
Так з намі ўсё квіта — судзіць жа пакіньма ўжо богу».

Тут Яцка руку працягнуў — адхіліўся Гярвазы,
гаворачы: «Не, не магу без шляхецтва абразы
рукі дакрануцца, што гэткім забойствам сплямёна
з прыватнае помсты адно, не «pro publico bono»!»

А Яцка з падушкаў на ложа апаў аслабелы,
звярнуўся к Суддзі, станавіўся ўсё болей збялелы,
пытаў неспакойна ужо пра ксяндза пра клябана
і Ключніка клікаў: «Прашу, заклікаю Васпана,
застанься; ўжо зараз я скончу, ледзь хопе мне мочы
закончыць — паслухай — Гярвазы — памру ужо
ўночы!»

«Што, браце? — ускрыкнуў Суддзя, — невялікая ж
рана,
я бачыў. Ну, што ты гаворыш? Няўжо па клябана?
А мо перавязана блага — па доктара, рац'я!
ў аптэчцы...» А той перабіў: «Не, пара ужо, браце!
І меў я даўнейшы пастрэл, атрыманы пад Іенай,
нядобра загоены, зноў тут задзёрла — гангрэна,
на ранах я знаюся: кроў во так чорна, як сажа.
І што тут мне доктар? Ды гэта ж і мала ўжо важа!
Бо раз паміраем: сягоння ці заўтра аддаці
душу... А даруеш мне, Ключнік, я мушу канчаці!

*
* *

Лічыў я заслугай і то: бараніць сваей чэсці,
хоць цэлы народ цябе здраднікам крыўдна абвесце!
Тым болей, хто гордасць, як я, так вялікую мае.

*
* *

Йімя здрадніка гэтак прыліпла, чума бы якая.
Усе абываталі твар ад мяне адвярталі,
старыя прыяцелі ўсе ад мяне уцякалі;
а хто быў палохліў, здалёку вітаў, стараніўся,
а нават мужык, нават жыд, то хаця й пакланіўся,
ды з боку мяне прабіваў наругаюча ўсмехам.
То «здраднік» гучэла ў вушох, адбівалася рэхам
у хаце, у полі. То слова ад рання да змроку
вілось прада мною, як пляма у хворага воку.
Не быў жа я здраднікам.

Масква за староніка гвалтам мяне уважала,
Сапліцаў маёнткамі Стольніка нат надзяляла,
хацела й мяне абдарыць Таргавіца пасадам [25].
О, каб захацеў я тады йсці з маскоўскім урадам!
А чорт так і раіў — ўжо быў бы мажны і багаты;
зрабіўся бы маскалём — найпярвейшы магнаты
шукалі бы ласкі, а нават і шляхта, пан-браты,
усенькая шэрань, што лёгка сваіх зневажае,
а тым, што удачліва служаць Маскве, прабачае!
А нашыя рэспубліканцы галоў не уніжаць,
калі прад сваім, а чужому і боты абліжаць.
Я бачыў усенька, аднак жа не мог...

*
* *

Уцёк нават з краю!
І дзе не бываў! і чаго не цярпеў!

*
* *

Аж бог аб'явіў мне лякарства адзінае, з неба:
то найперш самому зусім мне паправіцца трэба
й што можна паправіць...



*
* *

А Эва, павезена недзе ў Сібір з сваім мужам,
вайводай, далёка, памерла там молада дужа;
пакінула тутака ў краі дачку, гэту Зосю,
маленькай. Казаў гадаваць.

*
* *

Барджэй, як з кахання, то, можа, з шалёнае пыхі
забіў я: пакора таму, і пашоў таму ў мніхі.
І я, што калісьці быў горды, што быў юнаком,
спусціў галаву, ўжо квастар, сябе зваў Чарвяком,
што роўна із тым чарвяком у зямлі...

Нядобры прыклад для Айчызны: прынаду да здрады
стараўся затым адкупіці праз добры прыклады,
крывёю і самапасвячаннем...

Дзе біўся за край? замаўчу. Не для земскай заплаты
хадзіў я і сколькі разоў на мячы, на гарматы.
Мілей спамінаю ж сабе не ваенныя бітвы,
а справы з пажыткам, ціхія, моў тыя малітвы,
таксама страданні, якіх аніхто...

Не раз удавалася мне аж у край прабірацца,
загады важоў прынасіць і вясцей назбірацца,
умовы рабіць.— Добра ведаюць і галічане
каптур мой манаскі — не горай жа й велькапаляне!
А год працаваў я у крэпасці прускай пры тачках;
ад палкаў маскоўскіх спіна — тры разы у балячках,
вялі ужо раз на Сібір; аўстрыякі таксама
ў Шпільбергу [26] мяне закапалі да працы у ямах,
у катаргу — але вось бог захацеў ратаваці
адтуль і дазволіў мне так між сваймі паміраці,
вось тут з сакрамэнтамі [27].

А можа, і тым саграшыў (няхай будзе прызнанне),
што не па загаду важоў я прыспешыў паўстанне!
Та думка, што дом наш Сапліцаў, на бой найскарэйшы,
паўстанчу Пагоню заткне у Літве найпярвейшы!..
Та думка... здавалася, чыстая...

Ты помсты жадаў? То і маеш! як богам насланы
на кару, сваім ты мячом разрубаў мае планы.
Так доўга снаваная змова так марна прапала!
Вялікую мэту, што ўсенька жыццё мне займала,
апошню зямную прывязанасць, што у сакрэце
кукобіў, як бы наймілейшу дзяціну на свеце,
забіў ты на бацькі вачох, але я ўжо прабачыў!
Ты!..»

«Каб бог табе толькі таксама прабачыці
рачыў! —
Гярваз перабіў,— калі маеш прыняці віятык [28],
ксёндз Яцка, то я ж ані Лютар, ні нейкі сызматык!
Бо хто так слабога прад смерцю засмуце, то грэша.
А нешта скажу, што цябе і напэўне усцеша:
як пан мой нябожчык ад стрэлу ўжо з ранай зваліўся,
а я, на каленкі прыпаўшы, над ім пахіліўся
і кляўся памсціцца, мачаючы меч свой у ране,
то пан галавой страсануў і руку сваю к браме,
ў твой бок, працягнуўшы, крыжа у паветры назначыў:
не мог гаварыць, а даў знак, што прабачыў.
І я зразумеў, але так ашалелы ад болю
і гневу, аб гэтым крыжы не успомніў ніколі».

Гаворку прарвалі тут хворага мукі, страданне,
а з тым наступіла даўгая гадзіна маўчання.
Чакаюць клябана.— Аж во загрымелі падковы,
засопшыся, ў дзверы застукаў рандар Сапліцовы:
з лістом дужа важным, адно толькі Яцку пакажа.
А Яцка даў брату, чытаць тое голасна кажа.
Пісьмо то ад Фішара [29], што у тым часе быў шэфам
пры штабе у арміі польскай пад князем Юзэфам.
Даносе, што ў імператарскім у патайным кабінеце
прынята вайна; Напальён па усенечкім свеце
яе абвяшчае; сойм вальны ў Варшаве сазваны
й канфедэраваныя там мазавецкія станы [30]
ўрачыста абвесцяць затым прылучэнне ўсей Літвы.

А Яцка, то слухаўшы, ціха адмовіў малітвы,
прыціснуў мацней да грудзей пасвячону грамніцу,
на неба падняў прызатлеўшу надзеяй зраніцу
і, слёзамі шчасця зрасіўшы смяротнае ложа,
прамовіў: «Пусці ўжо спакойна слугу твайго, божа!»



Прыпалі усе на калені; і тут за парогам
азваўся званок: то прыехаў клябан з панам богам.

Схадзіла ўжо ноч. Чырванела на ўсходняй старонцы.
Лятуць ужо першыя з неба касулечкі сонца;
ўляцелі праз шыбіны, як брылянтовыя стрэлы,
адбіліся ад галавы Чарвяка скамянелай
і золатам прыхарашылі аблічча і скроні
яму, што блішчэў, як святы у вагністай кароне.

# *Быліца адзінаццатая*



## 1812 ГОД

ЗМЕСТ

Вясеннія варожбы [1]. — Уваход войска.— Набажэнства.— Урадовая рэабілітацыя Яцка Сапліцы.— З гутарак Гярваза і Пратаза відаць блізка канец працэсу.— Улан падлабуньваецца к дзяўчыне.— Канец спрэчкі за Курту й Сакола.— Затым госці збіраюцца грамадой к бяседзе.— Прадстаўленне важом нарачоных параў.

О годзе дванаццаты! хто цябе бачыў у краю!  
Слывеш ты ў народзе й дагэтуль за год ураджаю [2]  
й вайны; пра цябе спамінаюць старыя дагэтуль,  
жаўнеры пяюць, напяваеш ты песні й паэту.  
Цудоўна азнаймлен здаўна тэй каметы усходам [3],  
ты быў папярэджаны весткай глухой між народам;  
душу ліцвіноў ахапіла із сонцам вясеннім  
дзіўное прачуцце, казаў бы прад свету скончэннем,  
чаканне тужлівае, моў бы на шчасця гадзіну.

Калі першы раз на вясну выганялі скаціну,  
заўважылі й то: хоць галодна яна і схудзела,  
не бегла ж на рунь [4], што на полі ужо зелянела,  
а клалася ўсё на раллю і, схіліўшы галовы,  
раўла ці жавала стары свой наедак зімовы.

Плугі свае цягнучы на ярыну, і сяляне  
не цешацца неяк з даўжэннай зімы мінавання,  
і песняў ад іх не чутно, і працуюць ляніва,  
казаў бы, запомнілі нат пра сяўбу і пра жніва.  
Валоў і пад'ездкаў ў баронах што шаг, то стрымаюць,  
з трывогай к заходняй старонцы усё спаглядаюць,  
моў, з гэнага боку аб'явіцца нейкае дзіва;  
ча птушак вяртаўшыхся тож уважаюць пужліва.  
Ўжо з выраю бусел вярнуўся на роднае кола,



вясенні сцяг белага крылля распяўшы вясёла;  
за ім жа палкамі цягнулі і ластаўкі жыва,  
ў грамадкі збіраліся над водамі з крыкам, рухліва,  
замёрзлу зямлю сабіралі на хаткі-ляпёнкі.  
Пад вечар чутно ў хмызняку шопат цягнучай слонкі,  
і гусі дзікія із шумам лятуць над лясамі,  
змарыўшыся, там на папас ападаюць стадамі,  
а ключ жураўоў ў вышыні недасяжнай галосе.  
То чуючы, начна старожа пытае ў трывозе,  
чаму то крылатае княства ўсё так замяшана,  
якая то бура іх выгнала гэтак зарана.

Аж вось, як бы новыя стаі пярэстых крылатых,  
гурты ясных кітак, флажкоў і убораў багатых  
бліснулі на ўзгорках, спадаюць ужо на балоні.  
То конніца! Зброя дзіўная, харошыя коні!  
Так полк за палкам. А між імі, як снег той вясною,  
дарогай плывуць там жалезны шарэнгі ракою;  
блішчаць між лясамі штыкі і чарнеюць фуражкі,  
варушыцца масай пяхота, казаў, бы мурашкі.

На поўнач усе! Ну, як бытта на час той з в ы р а ю [5]  
з птушнёй і народ варухнуўся да нашага краю,  
пагнаны сюдэма інстынктам якімсь непанятным.

І днём і ўначы плывуць коні, арлы і гарматы;  
адбліскі пажараў палаюць на небе мясцамі,  
зямля аж дрыжыць, і чуваць перуны старанамі.

Вайна! Не было на Літве ні куточка, ні пушчы,  
дзе гук бы яе не дайшоў. Міжы цёмных тых гушчаў  
мужык, што ягоны дзяды і бацькі паўміралі,  
за лесу ж граніцы ніколі і не вызіралі,  
што іншых на небе зусім не уцямліваў крыкаў,  
акроме віхроў, на зямлі ж кром звярынага рыку,  
што іншых гасцей, як суседзяў лясных, і не бачыў,  
цяперака бача на небе: пажар замаячыў,  
і ляснула ў пушчы — то куля з гарматы папала,  
відацца, зблудзіўшы, дарогі у лесе шукала,  
галіны, камлі секучы. Стары зубр барадаты  
ў імху задрыжэў, натапурыўшы грыву калмату,  
прыўстаў, абапёрся мацней на пярэднія ногі,  
патрос барадою й глядзіць, настаўляючы рогі,

здзіўлёна: да што за дзіўное бліскучае йгрышча? —
гранат, заблудзіўшыся, круціцца з шумам ды свішча,
аж стрэліў маланкаю. Зубр першы раз ва ўсім жыцці
спалохаўся, ўцёк, каб схавацца ў глыбейшым укрыцці.

Бітва! Дзе? у якой старане? дзецюкі ўсе пытаюць.
К аружжу! Жанчыны да неба ўжо рукі ўздымаюць;
так пэўныя ўсе ў перамозе, крычаць са слязамі:
«Сам бог з Напальёнам, а сам Напальён жа із намі!»

Вясна ты, вясна! Хто це бачыў тады ў нашым краю,
вясна незапомная ты і вайны і ўраджаю!
Вясна! хто це бачыў тады, як была ты цвітуча
травою, і збожжам, і зеллем, людзьмі так бліскуча,
багата здарэннямі, светлай надзеяй так поўна!
Я бачу цябе і дасюль, летуценне чароўна!
Ў няволі радзіўшысь, скаваны ужо пры спавіцці,
адну толькі меў я такую вясну ў сваім жыцці.

Сапліцава блізка пры шляху вялізным ляжала,
кудой з боку Нёману двух важароў прыбывала:
Язэп Панятоўскі й Вестфальскі караль Гіеронім.
Ўзялі часць Літвы ўжо ад Горадні да аж па Слонім;
тут дадзены войску загад, каб зрабіць адпачынак,
ды польскі жаўнер неахвотна рабіў той прыпынак;
паход, што кароль перарваў, палякі наракалі:
хутчэй маскаля каб здагнаць, былі б рады, казалі.

У месце паблізкім стаў штаб Панятоўскага князя;
абоз сарактысячна войска ў Сапліцава ўлазе;
са штабамі тож там стаяць генарал пан Дамброўскі,
Князевіч, затым Малахоўскі, Гедройць і Грабоўскі [6].

Ўжо позна было, як вайшлі; таму кожны, дзе можа,
заняці кватэру ў дварэ ці у замку варожа.
Як толькі загады далі, пастаўлялі дазоры,
то ўсе расхадзіліся спаць у забраты каморы.
А з ноччу ўсё сціхла ў дварэ, у абозе і ў полі;
відацца адно, як бы цені, так блудзяць патролі,
і рэдкія бліскі ў абозе распаленых вогнішч,
чувацца чаргою паролі ваенных становішч.

Жаўнеры, важы й гаспадар — то усенька ўжо спала;
вачэй толькі Войскага сном тым салодкім не брала,



бо Войскі назаўтра бяседу рыхтуецца справіць,
такую, каб ей дом Сапліцаў навекі праславіць:
сабраліся ж польскаму сэрцу так мілыя госці,
а кром таго, заўтра вялікія дзве ўрачыстосці,
касцельнае свята й сямейнае свята таксама.
Трох параў заручыны маюць адбыцца няждана,
а з вечара ўсім заявіў генарал пан Дамброўскі,
што хоча, абед каб быў польскі.

Хоць позна, а Войскі
пяць кухараў хутка з суседства склікае і шпара
хутчэй завіхацца ля працы, а сам гаспадара.
У хвартусе белым, мастак на кухарскія штукі,
шляфміцу [7] надзеў, аж па локці закасуе рукі,
трымае мушыну лапатку і ей адганяе
той гнюс, што к прысмакам так жадна ляціць, налязае,
другою рукою, працёршы, уздзеў акуляры,
з-за пазухі кніжку дастаў: там кухарскія чары.

А звалася гэтая кніга: «Кухар дасканалы» [8].
І спісана там акуратна усе спецыялы [9]
на польскіх сталох; з ею згодна і граф на Танчыне [10]
бяседы свае выпраўляў у італьскай краіне,
што папа Урбан [11] з іх дзівіўся тады беспрастанку,
з ей згодна пасля князь Кароль Радзівіл, той Каханку,
калі у Нясвіжы прымаў караля Станіслава,
наладзіў такую бяседу [12], што ейная слава
дасюль на Літве у народных расказах трывае.
Як Войскі з тэй кнігі што ўцяме, тады абвяшчае,
а кухары ўсенька то зараз жа робяць умела.
У руху нажоў пяцьдзесят, і работа кіпела;
а кухцікі круцяцца, бытта бы чэрці, так чорны.
Нясе адзін дровы, другі саганы ужо поўны
з віном, малаком; скавароды, катлыналіваюць,
дым бухае, кухцікаў двое мяхі раздуваюць,
а Войскі, агонь каб у печы ямчэй распаліці,
загадуе топлена масла на дровы наліці
(то, ведама, збытак вялікі багатага дому).
Падсыпуюць кухцікі ў печ там пукі сухалому,
другія бяруць на ражныаграмнясты пячэні
валовыя, сарнія, схабы дзікоў і аленні;
а птушак скубаюць, аж пуху зрываюцца хмуры,
глушцы там і цецерукі так галеюць, як куры.

Ды мала курэй і было, бо ад гэнай выправы,
што ў часе заезду зрабіў Сак Дабрынскі крывавы
на слаўны куратнік, як Зоськіна то гаспадарства
зніштожыў, не кінуўшы штукі хаця б для лякарства,
то птушкамі шчэ не магло зацвіцеці нанова
калісьці так слаўнае гэтым кругом Сапліцова.
А мяса ўсялякага быў там вялікі дастатак,
ўсё, што сабраць удалося і з дому, і з ятак [13],
з суседства, здалёку і зблізку, і з лесу ці мала!
Ну, словам, птушына адно малака не хапала.
Дзве рэчы, каторых пан шчодры к бяседзе шукае,
дастатак і штука — абедзве Сапліцава мае.

Ўсходзіў ўрачысты ўжо дзень Найсвяцейшае Пані
Красотнай [14]. Пагода цудоўная, час самы ранні,
а неба так чыста наўкола зямлю аблягала,
як вогнута мора ціхое над ей спачывала;
шчэ некалькі зор зіхацiць, як бы пэрлы праз хвалі;
адзіная белая хмурынка з сіняе далі
бліжэй падляціць, і крыло у блакіце нырае,
як перра анёла-старожы [15], калі ўцякае
на неба: начною малітвай людской прытрыманы,
спяшае папасці да ўсходу ў нябесныя брамы.

Апошняя зорачка-пэрла на небе тускнее
і гасне, а неба сярэдзінай лобу бляднее,
злажыўшыся правай шчакою на захадні цені,
адтуль смуглавата, а справа ужо у чырвені;
далей рассуваецца круг, як павека шырока,
й відацца адгэтуль бялок велізарнага вока,
відацца абводка і зрэнка — прамень ужо пырснуў
па зводзе закругленым неба ён выгнуты бліснуў
і ў хмурынцы белай, бы з золата піка, павіснуў.
На гэты жа стрэл, як на дзенны сыгнал, вылятае
вагнёў і ракет мільёны, па свеце шыбае.
А сонечна вока ўзышло. Яшчэ крышку заспана,
дрыжаць залатыя расніцы, раскрыты так рана;
ў сем фарб блішчыць сонейка запар: сафірнае разам,
крывавіцца разам рубінам і жоўкне тапазам,
аж зазігаціць найчысцейшым крышталам празрыста,
затым, як брылянт, гэтак ясна, урэсце вагніста,
як месяц, вяліка, як зоркі, мігуча бясконца:
так небам нязмерным ідзе адзінокае сонца.



Сягонняка просты народ із усей вакаліцы
сабраўся яшчэ да усходу наўкола капліцы,
казаў бы на новага цуду чакаў аб'яўленне.
Ну раз, што народ — ён набожнае меў ухіленне,
другое — з цікавасці: сённяка у Сапліцове
збяруцца ў касцеле усе генаралы-паноўе,
герої ўсё слаўныя, павадыры легіёнаў,
якіх ужо ведаў народ, шанаваў, як патронаў,
каторых усенькі тулячкі, паходы і бітвы
былі, як ванэлія нацыянальная Літвы.

Прышло ужо пара 'хвіцэраў і многа жаўнера;
народ акружыў іх, глядзіць, ледзь вачом сваім вера,
што бача сваіх землякоў у мундзерах народных,
гаворачых польскаю мовою, збройных, свабодных.

Імша пачалася. Не стоўпе касцёлічак гэны
сабраных, народ станавіўся ў траве на калены,
адкрыўшы галовы, ўглядаўся на ганак каменны.
А волас народу, найбольш палавы або белы,
увесь залаціўся, як збожжа палетак даспелы;
мясцамі галоўкі дзяўчатаў прыгожа цвіцелі,
убраныя ў свежыя краскі, у павіны вочы [16],
ў расплецены стужкі, прыкрасу касуляў дзявочых,
паміжы мужчынскіх галоў — васількі або макі.
Ўсё поле пакрыўшы пярэсты натоўп разнаякі,
на голас званка, бы ад ветру павею, схіліўся,
галовамі нізка, што спелая ніва, скланіўся.

Сягоння сялянкі нясуць на алтар багамаці
дар першы вясны, пукі зелля з палёў, сенажаці;
убрана ў вянкі і букеты усё наукола:
алтар, абразы, нат званіца і ганкі касцёла.
Падчас толькі ранішні ветрык усходні свавольны
зрывае вянкі і кідае людзём на галовы
і пахам абдасць, як з кадзіла той дым багамольны.

Калі ж у касцеле было па імшы, па казанні,
то вышаў, старшэйшы павагай у гэтым сабранні,
стары Падкаморы, маршалкам павету абраны,
а выбар зрабілі сканфедэраваныя станы [17].
Ён меў ваяводскі мундзер: жупан, золатам шыты,
кантуш градытуравы [18] з фрэнзляй, паяс на ім літы,

пры ім карабэля вісіць з галаўнёй яшчуровай;
а шыя вялікаю шпількай блішчыць брылянтовай,
і канфедэратка на ім жа бялюсенька-бела,
і белая чапліна кітка на шапцы тырчэла
(то толькі на фэст надзяецца та кітка багата
із чапліх чубоў: кожна перайка варта дуката).
Вось гэтак убраны, на ўзгорра ўзышоў прад касцёлам;
сяляне, сялянкі, жаўнеры стаўпіліся колам.
Ён кажа:

«Браточкі! казаў ужо ксёндз на амбоне,
што Напалеон, прывярнуўшы свабоду Кароне,
цяпер усей Польшчы й Літоўскаму княству вяртае;
вы чулі, што пастанаўляе урад наш ухвалы [19],
ўжо універсалы на вальны на сойм [20] рассылае.
Я маю сказаць пару слоў усяго да народу
аб тым, што к сямейству Сапліцаў тут мае нагоду,
к тутэйшым паном.

Хіба помне уся вакаліца,
што тут нарабіў той памершы — пан Яцка Сапліца;
аднак калі знаюць ягоны грахі ўсе ў павеце,
то час і заслугі таксама абвесціць па свеце.
А нашага войска прысутныя тут генаралы
усё расказалі, які быў нябожчык удалы.
Не быў (як казалі) пан Яцка памёршы у Рыме,
жыццё адмяніў сваё толькі, і стан свой, і імя,
за віны ж старыя, што процi Айчызны і бога,
сплаціў ён дзяламі геройскімі, жыў дужа строга.

Калі пад Гунліндын [21] Рышпанс, генарал знамяніты,
збіраўся ў адход, баючыся, што будзе пабіты
(не ведаў таго, што Князевіч к яму паспяшае),
то Яцка, Чарвяк, на мячы, на штыкі не зважае,
праз войскі з пісьмом ад Князевіча йдзе да Рышпанса,
каб стойка стаяў, бо змянілась на лепшае шанса.
Ў Гішпаны пасля, калі тамака нашыя ўланы
бравурна ўзялі Сама-сьерры [22] хрыбет шанцаваны,
ён побач з самым Казятульскім быў ранен два разы.
Затым разнасіў даручэнні і тайны наказы,
і бегаў па розных староньках настрой спазнаваці,
таварыствы й змовы патайна вязаць, закладаці;
урэшце, ў Сапліцаве, ў родным кутку, затрымаўся,



гатовіў паўстанне, ў заездзе пагіб, не даждаўся.
Якраз да Варшавы аб смерці ягонай вядомасць
прышла ў ту хвіліну, калі імператар ягомасць
яго наградзіў за старыя дзялы, за вайсковы:
дык знак кавалераўскі Лег'і яму Ганаровай.
Дык вось жа, прымаючы гэта усё пад увагу,
трымаючы дадзену мне ваяводскую ўладу,
усім абвяшчаю сваей канфад'рацкаю «ляскай» [23]:
што Яцка і службай сваей й імператарскай ласкай
змыў пляму інфаміі [24], вернен да чэсці,
між правых [25] ізноў патрыётаў знаходзіцца ўрэшце.
А хто бы пасмеў на Сапліцаў на гонар радзінны
ўзвадзіці старыя, цяпер ужо змытыя, віны,
пад кару такі пападзе за няпраўны дакоры,
па статуту будзе запісан у суд, без разбору:
ці рыцар, ці ўшляхчаны хто: gravis maculae notae [26],
няславу кідаць на другіх каб пазбыўся ахвоты;
а дзеля таго, што цяперака роўнасць прызнана,
дык сцігуе трэці артыкул мяшчан і сялянаў.
Прысуд маршалкоўскі адразу пан пісар умесце
у актах сваей генеральнасці [27], возны абвесце.

А што да крыжа Ганаровае Лег'і, справа
такая: хоць крыж не паспеў, ды не зменшала слава.
Каб Яцку яго даручыць, мне было б дужа міла;
на жаль! красаваца крыжом можа толькі магіла,
павешу яго на тры дні, а затым можна зняці
й павесіць ужо у капліцу у дар багамаці».

Так скончыўшы, ордан дастаў Падкамор з пакрывала
й павесіў на скромным крыжы тэй магілы памалу
ў какарду увязану стужачку ярка-чырвону
й крыж белы звяздзісты, што меў залатую карону.
Ад сонца касулькі звязды заяснелі мігава:
як водбліск астатні зямной пана Яцкавай славы.
Тым часам народ «Анёл-Панскі» [28] гавора на лямант,
каб грэшніку быў супакой на век вечны і аман!
Гасцей і сялян грамаду пан Суддзя абхаджае,
усіх да Сапліцава ён на бяседу спрашае.

На прызбе ля дому тым часам заселі два старцы,
а мелі яны пры каленях мядку два паўгарцы.
У сад углядаюцца, дзе міжы макам цвітучым

улан, як падсоўнік, стаяў ў каўпаку у бліскучым,
з залочанай бляхай і з пеўня пяром, пры паненцы.
А тая паненка ў зялёнай, як рута, сукенцы
свае вачаняты, як браткі, блакітныя гэткі,
к хлапцу падымае; дзяўчаты, збіраючы кветкі
ў гародзе далей, адвярталі зумысля галовы
ад пары ўлюблёнай, каб ім не мяшаці размовы.

А старцы мядок папіваюць, з кары табакерай
частуюцца ўсё і гавораць так згоднай манерай:

«Ну, так то, Пратазанька мой»,—кажа Ключнік
Гярвазы.
«А так то, Гярвазанька мой»,— кажа Возны Пратазы.
«Так, так!» — паўтаралі і ў такт галавою ківалі.
Аж Возны прарваў то ківанне і кажа дарэчы:
«Што скончыцца дзіўна працэс наш, таго не пярэчу.
Бывалі на гэта й прыклады; я помню працэсы,
дзе горшыя, як міжы намі, бывалі эксцэсы,
аднак інтэрцыза [29] усенькі пакончыла клопат:
вось так пагадзіўшыся з Борзабагатымі Лопат,
а род Крапштулеў із Купсцямі, Путрамант з Піктурнай
і так з Адынцамі Мацкевіч, з Квілецкімі Турна [30].
Ды што гаварыць! Гэта ж мела і Польшча замешкі
з Літвою, гарэйшыя, як із Сапліцам Гарэшкі,
аднак як пайшла ў галаву да па розум Ядвіга [31],
то так без судоў абышлася усенька інтрыга.
То добра, як ёсць у старонак дзяўчаты ці ўдовы
на выхадзе: зараз табе кампраміс і гатовы.
Звычайна трывае працэс найдаўжэй з духавенствам,
калі каталіцкае, ці з найбліжэйшым радзімствам,
таму што тады нельга справы пакончыць жанімствам.
Так Ляхі із Русамі ў спорах бясконцых, бясплодных,
бо з Леха і з Руса паходзяць, з братоў дваіх родных;
з ксяндзамі крыжакамі многа працэсаў жа мела
Літва, аж пакуль у канцы іх не выграў Ягела [32].
Урэшце, цягнуўся так доўга й працэс гэны знаны,
ў каторым цягаліся з Рымшамі дамінікaны,
аж выграў яго паўнамоцнік кляшторны, ксёндз Дымша,
адкуль пагаворка: вялікшы пан бог, як пан Рымша;
а я шчэ дадам: лепшы мёд за Цызорык бывае».
Тут к Ключніку палугарцоўкай сваей прапівае.



«А праўда то, праўда! — адкажа Гярвазы ўзрушоны,—
і дзіўныя лёсы і гэтае нашай Кароны,
і нашай Літвы! Гэта ж так, як муж з жонкаю — пара!
Бог луча усё, але дзеле чартоўская мара!
Ах, браце Пратазы! што вочы убачылі нашы!
То ж гэта да нас прыбылі во ізноў караняшы!
Калісьці служыў з імі й я, як былі канфед'раты;
а помню я добра: то хлопцы усё зухаваты!
Ах, каб гэта Стольнік дажыўшы вось так да сягоння ж!
О, Яцка!.. Ды годзе — мінулага ўжо не здагоніш!..
Сягоння Літва із Каронай злучаецца згодна,
то значыцца, згладжана, згоджана ўсё ўсенародна».

«А дзіўна і тое,— прамовіў Пратазы,— аб Зосі,
каторай рукі пан Тадэвуш цяперака просе,
прад годам была варажба, як бы знак які з неба!»
Гярваз перабіў: «Паннай Зофіяй зваць яе трэба,
ужо не малая, не трэба вадзіці за ручку,
к таму з дыгнітарскай крыві, то ж то Стольніка ўнучка».
«Дык вось жа,— канчае Пратазы,— то знак быў прарочы
аб лёсе яе, а я бачыў на собскія вочы;
прад годам у свята тут нашая чэлядзь сядзела
з мядком, ажно бачыма: бац! — і з падстрэшша зляцела
дваіх вераб'ёў, знаць самцоў, дзеручыся, як зверы;
адзін, што крыху маладзейшы, пад горлам быў шэры,
а чорны другі — і давай па падворку у пыле
скубацца, куляцца, што проста зямлю нат парылі.
Глядзём, ажно слугі з сабою пашэптуюць нешта
і кажуць: хай шэры — Сапліца, а чорны — Гарэшка;
і так, колькі раз той шарак на вярху быў шчаслiва,
крычэлі: Сапліца ура! а Гарэшкі труслівы!
як чорны жа ходаў, крычэлі: Папраўся, Сапліца!
паддацца магнату для шляхціца, брат, не гадзіцца!
І так смеючыся, чакаем бітвы тэй развязкі;
аж Зосенька, літасцю знята ці з ласкі,
падбегла й рукою ваякаў накрыла; задзёры
ў руцэ яшчэ біліся так, што ляцелі з іх пёры,
заўзятасць такая была у маленечкім ліху.
На Зосю тут гледзячы, бабы казалі паціху,
што, пэўне, дзяўчыны такое ужо прызначэнне:
пакончыць старое між двух семяйстваў скалачэнне.
А бачу сягоння, што праўдачку бабы казалі.

Хоць праўда, што Графа у гутарках тых намячалі,
а не Тадавуша...»

А Ключнік таму не пярэча:
«Ці мала дзіўнога, ўсяго не спазнайш, чалавеча!
І я раскажу адну рэч, хоць не гэтаку чудну,
як та варажба, але ўсё ж да уцямлення трудну.
Даўней быў бы рады я ўсеньку Сапліцаў сямейку
у лыжцы вады утапіць, адно толькі Тадэйку
чамусь палюбіў; сам не ведаў, чаму — спадабаўся!
Бывала, ўважаю, як з мальцамі ён задзіраўся,
скартуе усіх; колькі раз прылятаў ён да замку,
я ўсё падбухторываў мальца ў баёвым напрамку.
На ўсё быў дасціпны: ці то галубоў выдзіраці
на вежы, ці то емялу на дубе абарваці,
злупіці варонне гняздо з найвышэйшае хвоі;
я думаў: радзіўся хлапец пад шчаслівай звяздой, і
адно мне бывала шкада, што ён з роду Сапліца!
Не думаў, што можа з маею панёнкай жаніцца
і быць маім панам на замку. А ўжо заручоны...»

Спынілася тутака гутарка, п'юць задумлёны,
чуваць толькі часам кароткія іхныя сказы:
«Так, так, пан Гярвазы».— «Так, так, пан Пратазы».

Та прызба ля кухні, каторае вокны стаялі
расчынены насцеж і дым, як з пажару, шыбалі,
аж тутака з дымных клубоў, як галубачка бела,
кухмістара шапка-шляфміца ураз забялела,
і Войскі праз кухні вакно, па-над старцаў галовы
во выткнуў сваю галаву, моўчкі слухаў іх мовы,
урэшце падаў ім біксвітаў на сподку фільжанкі
і кажа: «Цяпер закусіце мядок свой, мапанкі.
І я раскажу вам таксама гістор'ю цікаву-
ю спору, што мог бы ён меці развязку крываву,
калі у лясох налібоцкіх гайсаў і папасваў
Райтан і там выдумаў штуку на князя Дынассаў.
За гэную штуку без мала не страціў здароў'я,
а як я паноў пагадзіў, раскажу вам, паноўе» —
ды Войскага повесці кухары тут перарвалі:
каму ён сервіз загадае стаўляці, пыталі.

Так Войскі пашоў, а старыя, зачэрпнуўшы мёду,
задуманы вочы звярнулі у глыб агароду,



дзе бравы улан гаварыў з нарачонай сваёю.
Далонь яе ўзяўшы улан сваей левай рукою
(а правая на тэмляку [33], бо быў ранен, відацца),
такімі славамі пачаў у дзяўчыны пытацца:

«Зофія, ты мусіш канешне мне гэта сказаці,
пакуль не заменіш пярсцёнкаў, я мушу то знаці.
То мала, што прошлай зімою была ты гатова
ўжо даці мне слова! Тады не прыняў твайго слова,
не бачыў вагі у такім у прымушаным слове!
Тады прабываў дужа коратка я ў Сапліцове,
не быў так пусты, каб звадзіці сябе прakананнем,
адным што паглёдам збудзіў у табе я каханне.
Я не фанфарон і хацеў бы заслугай уласнай
зыскаць тваё сэрца — хоць доўга, абы не напрасна.
Цяпер ты ласкавая слова сваё паўтарыці;
ды чым жа на ласку такую я ўмеў заслужыці?
А мо' не сардэчная склоннасць цябе прыцягае,
а толькі што цётка і дзядзька цябе намаўляе?
Замуства — то, Зосенька, справа вялікае вагі!
Свайго толькі сэрца пытайся, ніякай павагі
у гэтым не слухай, ні грозьбаў якіх, ні намоваў.
Калі да мяне ты не чуеш нічога такога,
то можам заручыны нашы яшчэ адкладаці,
вязаць тваей волі не буду, магу пачакаці.
Паспеху няма, да таго ж загадана мне ўчора
застацца інструктарам тут, у Літве, пакуль хвора
рука не паправіцца, не зажыве мая рана.
І што ж ты адкажаш на гэта мне, Зоська кахана?»

Адказуе Зося, ўздымаючы вочы нясмела:
«Не помню ўжо добра таго, што даўней праляцела;
а ведаю, ўсе так казалі, што замуж мне трэба
ісці за Васпана. Згаджаюся з воляю неба
й старэйшых я заўжды». Спусціўшы затым свае вочы,
прыбавіла: «Перад ад'ездам (як Пан шчэ ахвочы
успомніць), калі ксёндз Чарвяк паміраў у начную
ту буру, то моцна нас Пан шкадаваў, не адну і
слязу праранiў. Тыя слёзы стаяць пастаянна
мне ў памяці, й шчыра скажу: з таго веру я ў Пана,
што любіш мяне. Калі пацеры ўвечар ці зрана
за вас гаварыла, то так прад маімі вачамі
Тадэвуш стаяў із вялікімі тымі слязамі.

К зіме Падкаморына ехала неяк да Вільні,
з сабою й мяне узяла, я тужыла так пільне
усё да Сапліцава, ў гэты маленькі пакойчык,
пры століку дзе мы спаткаліся з Панам аднойчы
й рассталіся после. Не ведаю, скуль і ўзялося:
та думка аб вас, як расада, засеяна ўвосень,
праз цэлую зімку у сэрцы маім каранела,
што так, як казала, няспынна я ўсё летуцела
аб гэтым пакойчыку, нешта мне сэрца шаптала,
што Па́на спаткаю ізноў тут, і праўда — спаткала.
Вось, маючы ў думках, бывала, пра то заплялася
і ў гутарцы часта — было то у запусным часе;
дзяўчаты смяялісь, казалі, што я закахана;
да ўжо ж: як каго і люблю, то хіба толькі Пана».

З такога прызнання ў каханні Тадэвуш быў рады,
сціснуў, пад руку яе ўзяўшы, і вышлі із саду
у дамскі пакой; гэта быў жа пакойчык той самы,
ў каторым Тадэвушка прад дзесяцьмі жыў гадамі.

Цяпер там заняты быў Рэент, цудоўна убраны,
ухаджаваў каля сваей нарачонае дамы,
улёт падаваў ей там розны сыгнеты [34], ланцужкі,
бутэлечкі, слоікі, і парашочкі, і мушкі;
вясёл, на сваю маладую глядзіць трыумфальна,
а то ж маладая канчае рабіць гатавальню [35]:
прад люстрам пыталася рады у грац'яў-багіняў;
круцілася многа пры ёй пакаёвых 'хмістрыняў:
жалезкай адны завіваюць ей косы ў пярсцёнкі,
другія стаяць на каленках, майструюць фальбонкі.

Калі гэтак Рэент із дамай сваей забаўляйца,
стукнуў раптам кухта ў вакно, што угледзелі зайца!
Як выскачыў заяц, шмыгнуў сенажацяй, лазою
і, ўскочыўшы ў сад, між гароднінай там маладою
сядзіць; яго выстрашыць лёгка з расадніку можна
й цкаваць, як паставіць хартоў на пярэсмык наромжны.
Асэсар бяжыць і за шыю Саколку ўжо смыча,
і Рэент за ім паспяшае, Куртатага кліча.
А Войскі абодвух з хартамі паставіў пры плоце,
а сам ідзе ў сад: і лапаткай мушынай калоце,
і свішча, і пляскае, звера страшэнна трывожа;
нацкоўшчыкі кожны трымае харта на аброжы,



паказуюць пальцам, адкуль мае заяц той рушыць,
і цмокаюць сціха; сабакі наставілі вушы
і выткнулі морды на вецер, дрыжаць нецярпліве,
як бы дзве стралы на адзінай цяціве.
«Пыф!» — Войскі ускрыкнуў, і заяц шмыгнуў із-пад
плоту
на луг, а харты уздагонку, і без абароту
Сакол і Куртаты няшчаснага ўжо ачапілі
адразу з абодвух бакоў, як два птушыны крыллі,
і зубы, як кіпці, яму у хрыбет утапілі.
І енкнуў зайчына, бы та навародна дзяціна,
жалосна! Нацкоўшчыкі бегам, ляжыць ён без духа,
харты ж яму белую поўсць вырываюць з-пад бруха.

Нацкоўшчыкі гладзяць сабакаў, а Войскі дзялецкі,
дабыўшы тым часам з-за пояса ножык стралецкі
і ножкі абрэзаўшы, кажа: «Вось роўну адправу
дастануць сабачкі, здабылі бо й роўную славу,
сягоння іх роўная хіжасць і роўная праца;
дык варты палац пана Паца, а Пац варт палаца [36].
Нацкоўшчыкі варты хартоў, а харты паноў варты.
І гэтак во скончыўся спор ваш даўгі, не на жарты;
вы ў споры й закладзе мяне за Суддзю абабралі,
прысуд выдаю свой: абодва паны не праігралі.
Заклады назад я уласнікам іхнім вяртаю,
а вы падпішэце і згоду, як трэ' па звычаю».
Дык тыя звярнулі к сабе распагоджаны ліцы
і, доўга раздзелены спорам, злучылі правіцы.

Аж Рэент азваўся: «Стаўляў я каня з панарадам
да йшчэ апісаўшыся быў перад земскім урадам,
што гэты во персцень Суддзі пакідаю ў залог жа;
а рэч, што пайшла у заклад, то вярнуцца не можа.
Дык персцень няхай жа Пан Войскі на памятку пры́ме
і кажа на ім сабе выбіць альбо сваё імя,
альбо, як захоча, Грачэхаў гярбоўны аздобы;
крываўнік шчэ гладкі, а золата добрае пробы.
Цяпер жа уланы каня у язду хоць забралі,
ды збруя пры мне засталася, яе кожны пахваліць,
што дужа выгодна й трывала, хароша, як цацка:
кульбачка вузкая, па модзе турэцка-казацкай
наперадзе куля, а ў ей дарагое каменне,
з рубронту [37] падушачка, што высцілае сяджэнне.

На лук калі ўскочыш, не то што на нейкую дошку:
між куляў сядзіш на пушку так выгодна, бы ў ложку;
галёпам калі як прыпусціш (тут Рэент Балесты,
каторы любіў, як то ведама, розныя жэсты,
расставіўшы ногі, як бы на каня уссядае,
і нібы галёпам ляціць, усім целам ківае).
Галёпам калі як прыпусціш, блішчыць ад папонкі,
як золатам, б'е ад каня на абедзве старонкі,
бо фрэнзелькі золатам гусценька так накрапляны,
шырокі страмёны сярэбраны ды пазлачаны;
а на рамянёх мунштука й аброці для прыкрасы
паблiскуюць гузікі гожа з перловае масы,
ў нагрудніку месяц вісіць там у форме Лялівы [38],
то ёсь маладзік. А ўсенечкі спрат асаблівы,
здабыты (як вестка нясе) у баі падгаецкім [39]
на неякім шляхціцы турку і дужа важнецкім,—
прымі, Пан Асэсар, хай сведча маю пашаноту».

Адкажа Асэсар, вясёл з усяго абароту:
«І я ж то калісьці ад князя Сангушкі мне даны
паставіў закладам нашыйнікі два, выкладаны
харошым яшчурам і з колцамі з шчырага злота,
і смыч той, із шоўку весь тканы, якога работа
так дарага, як і камень, на смычы тым што свеце.
Хацеў, каб у спадку па мне то дасталі бы дзеці:
напэўне, дзяцей буду мець, бо сягоння жанюся;
аднак жа, Пан Рэент, я нізка табе пакланюся
й прашу, каб прыняў ты мой спрат за багатую збрую
сваю у замену, на памятку спрэчкі, якую
ганорна канчаем цяпер, хоць даўгімі гадамі
вялі між сабой. Няхай згода цвіце паміж намі!»

Утраех тады жыва вярталіся разам да хаты
абвесціць, што скончыўся спор Сакала із Куртатым.

Казалі, што гэнага зайца пан Войскі ля дому
тайком гадаваў і пусціў у садок пакрыёму,
згадзіці каб спаршчыкаў лёгкай дабычай прыемнай.
Зрабіў гэту ўсенькую штуку стары так таемна,
што лёгка зусім ашукаў ён усё Сапліцова.
Хоць кухцік праз колькі гадоў і шапнуў пару словаў,
Асэсара з Рэентам каб скалаціці нанова,



дык толькі ж дармо так на хортавы гонар замерыў,
стары запярэчыў, а кухце ніхто не паверыў.

Бяседы чакаючы, госці, сабраўшыся ў залі
вялікай у замку, наўкола стала размаўлялі,
калі пан Суддзя у мундзеры вайводскім уходзе
ды пана Тадэвуша й Зосю з сабою выводзе.
Тадэй сваю леву руку к галаве падымае,
начальства сваё так ваенным паклонам вітае;
а Зоська, спусціўшы паглёд на зямлю, чырванела,
аднак жа гасцём пакланілася дзыгам умела.
(Тальменаю хараша дзыгаць была навучона.)
Хоць на галаве яна мела вянок парачонай,
убор астальны быў той самы, ў якім у капліцы
складала свой сноп веснавы багамаці дзявіцы.
Ізноў для гасцей яна зелля сноп новы нажала;
аднэй рукой краскі і травы з яго раздзяляла,
другой на галоўцы бліскучы свой серп папраўляла.
Важы бралі краскі, цалуючы ручку удала;
і дзыгала Зося ізноў ды ізноў паланела.

Аж раптам Князевіч за плечы узяў яе смела,
па-бацькоўску пацалаваўшы у лобік дзяўчынку,
паставіў на стол, так падняўшы уверх, як пярынку.
І пляснулі ўсе у далоні і ўскрыкнулі: «Брава!»,
захоплены Зосі прыгожасцю, ўсенькай паставай,
найболей жа ўборам яе тым літоўскім, прастацкім:
бо для важоў, што ў жыцці тым сваім у туляцкім
так доўга блудзілі па розных краёх на чужыне,
прыцяг меў вялікі народны убор на дзяўчыне,
бо прыпамінаў ім і іхны гады маладыя,
й каханне; без мала што не са слязамі старыя
ваякі з цікавасцю стол грамадой абступілі,
каб вочы й галоўку вышэй падняла бы, прасілі
адныя; крыху павярнуцца наўкола — другія.
Дзяўчына саромліва той абарот выпаўняе,
а вочы аднак жа рукамі усё засланяе.
Тадэвуш глядзіць, паціраючы рукі, так рады.

А вышла ў тэй сукні яна ці то з нечай парады,
ці ведала гэта інстынктам (дзяўчына згадае
чуццём заўсягды, што да твару яе прыпадае),
даволі, што злаяна сёння была ад Тальмены,

у першы то раз у жыцці, за упор свой нязменны,
не хочучы модных убораў, і вымагла плачам,
што так і пакінулі дзеўку у строі прастачым.

Спаднічка даўгая і бела; сукенка каротка
з камлёту зялёнага з гожай ружовай абводкай.
Гарсэцік зялёны, ружовыя стужкі даўгія
шнуруюць яго у пружочкі ад нізу да шыі,
і туляцца грудцы пад ім, як пад лісцем пучочкі,
бялеюць ад плеч рукавы беласнежнай сарочкі,
як крыллі матыллі уздутыя, к лёту узняты,
пакорпаны [40] ля далані, гожа стужкай апяты.
Абціснена шыя таксама сарочкай вузкою,
каўнерык завязаны жычкаю (стужкай такою).
Завушніцы з костачак вішні адроблены штучна,
вырэзываў іх Сак Дабрынскі мастацка і зручна
(два сэрцы гаручыя, й два прабівалі іх гроты,
а даны, як Сак удаваўся да Зосі ў залёты);
вісяць на яе каўняры два шнурочкі бурштыну,
а на галаве зелянее вянок размарыну.
І стужкі ад косаў на плечы яна папусціла,
а жнейкаў звычаем сабе на чало узлажыла
сярпочак крывы, свежым жаццем травы шліфаваны,
бліскучы, як той маладзік над чалом у Дыяны [41].

Ўсе хваляць і пляскаюць. Толькі адзін з афіцэраў
дабыў з кішані свой партфель із пластамі папераў,
расклаў, алавік завастрыў, у губах пакумячыў,
на Зосю глядзіць і рысуе. Суддзя, ледзь убачыў
прылады к рысункам, пазнаў рысавальца самога:
палкоўніцкі, праўда, мундзер адмяніў яго многа,
багаты палеты, сапраўдна уласная міна,
пачэрнены вусік, гішпанка — харошы мужчына!
Падскочыў і кажа: «Як маешся, Ясьневяльможны
Пан Граф! хоць ваяка — малярскі прылад падарожны!»
А быў гэта Графіч папраўдзе. Жаўнерам нядаўна,
ды маючы дужа вялікі даходы, ён спраўна
і коштам сваім цэлы полк кавалерскі паставіў
і зараз у першай бітве сваё імя праславіў,
палкоўнікам сёння яго Напальён імянуе;
Суддзя, прывітаўшыся з Графічам, з рангай, віншуе,
ды Граф і не слухае: гэтак заўзята малюе.
Тым часам выходзе і пара друга нарачона:



Асэсар, нядаўна цара, а цяпер Напальёна
ўжо верны слуга; меў жандармаў аддзел у камандзе
й, хоць дваццаць гадзін усяго быў на ўрадзе,
надзеў ужо сіні мундзер, што меў польскі аблогі,
ды шаблю крывую цягнуў і званіў у астрогі.
А побач паважна ступала ягона каханка,
убраная стройна: то Тэкля была, Грачашанка;
Асэсар даўно ўжо пакінуў к Тальмене залёты
і, каб шчэ мацней пакараці какеткі пустоты,
да Войшчанкі хутка звярнуў свайго сэрца журботы.
Не надта была маладая, ўжо блізка паўвеку,
ды добрая і гаспадыня, і друг чалавеку,
й пасажная, бо кроме спадчыннай вёскі нядрэннай
шчэ сумкай із дару Суддзі павялічыла вена [42].

А трэцяе пары дармо дужа доўга чакалі.
Суддзя нецярплівіцца, шле ужо слуг, каб шукалі.
Вяртаюцца й кажуць, што той малады нарачонік,
пан Рэент, палюючы зайца, згубіў свой пярсцёнік,
шукае па лузе цяпер, а яго маладая
яшчэ прыбіраецца; хоць і сама паспяшае,
і хоць памагаюць жа ей пакаёвы кабеты,
ніяк не магла шчэ закончыць сваей туалеты;
ледзь будзе гатова яна на гадзіну чацвёрту.

16. Зак. 19

# *Быліца дванаццатая*



## КАХАЙМАСЯ

ЗМЕСТ

Апошняя старапольская бяседа.— Архісервіз [1].— Аб'ясненне яго фігур.— Ягоныя рухі.— Дамброўскі абдараваны.— Першы ўрадовы акт Тадэвуша пры абняцці маёнтку.— Канцэрт над канцэртамі.— Паланез.— Кахаймася.

Ў канцы дзверы залі во насцеж із трэскам адпёрты.
Пан Войскі у шапцы ўвайшоў з галавою задзёртай;
ні з кім не вітаецца й сесць пры стале не сядае,
бо Войскі у новым характары тут выступае,
маршалкам двара. З булавою, адзнакай ураду,
і тэй булавою чародна, як майстра абраду,
паказуе ветла мясцы і гасцей усіх садзе.
На сам-перш галоўнай ўсяго ваяводства уладзе
пачэснае крэсла Маршалку дае, Падкамору:
з сланёвай касцёй, аксамітнае — дзеля ганору;
а з правага боку пры ім генарал, пан Дамброўскі,
налева заселі Князевіч, пан Пац, Малахоўскі,
між іх Падкаморына, далей жа іншыя пані,
паны, афіцэры і розная шляхта й зямляне.
Мужчыны й жанчыны па пары на змену у радзе
займаюць парадкам мясцы, дзе іх Войскі пасадзе.

Суддзя, пакланіўшыся, хутка гасцей пакідае,
сялян грамаду частаваць на падворку бо мае.
Сабраўшы іх там за сталом, на дзве стаі даўжэнным,
сеў сам ён на гэтым канцы, а клябан аж на гэным.
Тадэй жа і Зося зусім да стала не прыселі,
заняты пачосткай сялян, яны ходзячы елі.
І так маладыя (звычай спракавечнага роду)
на першай бяседзе прыслужуюць самі народу.

А госці тым часам, патраваў [2] чакаючы ў залі,
усе са здзіўленнем вялізны сервіз аглядалі,



каторага быў дарагі і мэталь і работа.
Легенда казала, што князь Радзівіл, той Сірота [3],
яго заказаў у Венецыі адумыслова,
аздобы ж паводле тутэйшае думкі, краёвай.
Сервіз быў забраны пасля ў часе войнаў тых шведскіх
і неяк затым перайшоў аж у дом у шляхецкі,
сягоння сяродак стала ён займае вясёла
вагромністым кругам у відзе карэтнага кола.

БЫЛІЦА ДВАНАЦЦАТАЯ.

КАХАЙМАСЯ!

ЗЬМЕСТ.

Апошняя старапольская бяседа.- Архі-сэрвіс.- Аб'ясьненьне яго фігур.- Ягоныя рухі.- Дамброўскі абдараваны.- Першы урадовы акт Тадэуша пры абняцьці маёнтку.- Канцэрт над канцэртамі.- Паланэз.- Кахаймася

Ў канцы дзверы залі во насьцеж із трэскам адпёрты.
Пан Войскі у шапцы ўвайшоў з галавою задзёртай;
ні з кім не вітаецца й сесьць пры стале не сядае,
бо Войскі у новым характары тут выступае,
маршалкам двара. З булавою, адзнакай ураду,
і тэй булавою чародна, як майстра абраду,
паказуе ветла мясцы і гасцей усіх садзе.
На сам-перш галоўнай ўсяго ваяводзтва уладзе
пачэснае крэсла Маршалку дае, Падкамору:

Сервіз ада дна і аж да берагоў быў наліты
і белымі пенкамі, й цукрам, бы снегам спавіты:
то значыцца, так прадстаўляў выгляд краю зімовы.
Ў сярэдзіне самай чарнеецца бор вараннёвы [4],
пры ім па баках стаяць хаты і вёскі й засценкі,
а стрэхі пакрыты шаронам з цукровае пенкі.
А на берагох жа начыння стаяць для аздобы
малыя надутыя із парцэляны [5] асобы
у польскіх уборах; бы тыя артысты на сцэне,
яны выглядаюць, казаў бы, даюць прадстаўленне;
жэст дужа выдатны, а іхныя барвы [6] дзіўныя,
ну, голасу толькі няма, ў астальным як жывыя.

«А што прадстаўляюць?» — пыталіся госці цікаве.
Тут Войскі падняў булаву сваю й гэтак во праве
(тым часам гарэлку даюць прад ядой наукола):
«А з дужа Масцівых Паноў Дабрадзеяў дазволам,
што тутака бачыце многа фігур, як аздобы,
то польскага сойміку гэта гісторʼя й асобы:
нарады і галасаванне, трыумфы і звады;
так сцэну адгадую й вам абʼясніць дужа рады.

Направа мы бачым во шляхты вялізную гранку [7],
відацца, спрасілі прад соймікам іх на гулянку.
Во столік накрыты, гасцей аніхто ж і не садзе,
стаяць так у кучках, і кожная кучка штось радзе.
А глянь, сярод кожнай стаіць па адным чалавеку,
з каторага вуснаў адкрытых, паднятых павекаў
і рук неспакойных відацца — аратар, тлумача,
і пальцам выводзе, і на далані нешта знача.
Прамоўцы, відаць, захваляюць сваіх кандыдатаў,
пазнаеце з мін слухачоў, хто з якім рэзультатам.

У групе другой шляхта слухае пільне, зважае,
той, рукі за пояс заткнуўшы, вушшу настаўляе,
а той з даланёй пры вушох моўчкі круце ўсё вусы,
відацца, што цягне прамова яго на спакусы.
І рады аратар, бо іх за наверненых мае,
і гладзе кішэнь, бо у ёй ужо крэскі трымае.
Затое у трэцяй вун групе інакшая справа:
за полы хапае аратар налева, направа.
Паглянь! вырываюцца, йдуць на бакі науцекі,
а тут во ад злосці слухач ледзь не покнецца нейкі!
грaзіць кулакамі й прамоўцы губу затыкае:



аратар праціўніка, знаць, пахваліў — не стрымае!
Другі вун, як бык той, свой лоб пахіліўшы, трымае,
казаў бы, аратара возьме ўжо зараз на рогі;
вун тыя схапілі за шаблі, а тыя — у ногі!

Адзін між кучкамі шляхціц стаіць, маракуе,
відаць, чалавек бесстаронны, баіцца, мяркуе.
Даць крэску каму? ён не ведае і сумнявайца,
пытаецца лёсу, наставіў вялікія пальцы
і, вочы зажмурыўшы, ногцем у ногаць во мера,
відацца, што крэску сваю кабале ён павера.
Як пальцы спаткаюцца, дасць тады афірматыву [8],
калі ж размінуцца, то кіне тады негатыву [9].

Налева тут іншая сцэна: то заля кляштору,
тым часам абвернена ў залю шляхецкага збору [10].
Старэйшыя радам на лавах, а хто маладзейшы,
стаяць; заглянуць у сяродак яны цікавейшы:
стаіць там маршалак, вазон [11] у руках ён трымае,
падлічуе галкі, што шляхта вачмі пажырае.
Во вытрас апошнюю; возныя рукі ўздымаюць,
імя абабранага ўрадніка так абвяшчаюць.

Адзін толькі шляхціц на згоду агульную дмухне.
Акном галаву сваю выткнуў з кляшторнае кухні,
і гляньце, як вылупіў вочы, ўзіраецца смела,
разявіўся — зʼесць, моў бы, хоча сабранне то цэла.
Ну, лёгка згадаці, што шляхціц той выкрыкнуў: «Veto!»[12]
Пабачце, як да калатні паслужыла ім гэта:
ўжо ціснуцца ў дзверы натоўпам, відацца, да кухні,
схапілі за шаблі, крывавая бойка там бухне.
А вунака на калідоры, панове, ўважайце
старэнькага дужа ксяндза, што ідзе у арнаце,—
то прыар [13] кляшторны; сакрамант з касцёла выносе,
хлапец жа у комжы [14] ўсё звоне, ўступіціся просе.
Жагнаюцца, шаблі хаваюць, стаяць на каленях,
а ксёндз туды йдзе, дзе аружжа скрыгоча у сенях,
і ўсіх там уціша і згодзе, як толькі прыбудзе.

Панове не помніце, бо маладыя вы людзі!
Як між самаўладнае шляхты, бурлівай і збройнай,
не трэба паліцыі было ані пешай, ні коннай.

Як вера цвіцела, тады шанавалася й права,
свабода з парадкам была [15], а з дастаткам і слава!
Па іншых, чувацца, старонках — паліцыя, кары,
настаўлены там ад ураду канстэблі [16], жандары;
як толькі бяспеку пільнуюць на гэтку манеру,
мячом, то, каб тамака воля была — не паверу».
Тут бразнуў ў сваю табакеру й сказаў Падкаморы:
«Ну так, Пане Войскі, ды кіньма усе разгаворы
на после. Прызнаюся, соймік хоць дужа цікавы,
ды госці галодны, скажы падаваці патравы».

А Войскі на тое, к зямлі пахіляючы «ляску»:
«Мой Ясневяльможны Паночку, зрабіце мне ласку,
скажу вам апошнія толькі на сойміку штукі:
староннікі нова маршалка бяруць во на рукі
і з залі выносяць. Пабачце, як тут паны-браты
падкідуюць шапкі і губы адкрылі — віваты!
А з боку другога няўдачны панок засмучоны,
аднюсенькі, шапку націснуў на лоб задумёны,
а жонка прад домам: згадала, якая падзея,
і, бедная, ўжо на руках пакаёўкі во млее.
Ах, бедная! Ясне Вяльможнаю мела ўжо звацца,
а толькі Вяльможнаю [17] зноў тры гады прабівацца!»

Тут Войскі канчаў апісанне, даў знак булавою.
І парамі ўходзяць ужо лякаі чарадою,
разносячы стравы: і боршч, каралеўскім што званы,
й расол старапольскі; а штучна расол гатаваны,
пан Войскі бо ведае розныя дзівы й сакрэты:
укінуў туды колькі пэрлаў і штуку манеты
(расол такі крэпе здароў'е і кроў ачышчае).
А стравы усе каб спісаць, то і сіл не хапае!
Бо хто ж зразумее нязнаныя ў час ужо нашы
паўміскі кантузаў, аркасаў і розныя бляманшы [18],
з дамешкамі рознымі помухлі і фігатэлі [19],
зайчыны, сарніны, драганты, пінэлі, прунелі [20];
а гэныя ж рыбы: ласось і сухі й дунаецкі,
пры ім асятрына, кавёр [21] і венецкі й турэцкі,
а штукі вялізны, на локаць, таўшчэразны каркі,
і флёндры [22], і карпы-цвікі, і шляхотныя карпы.
Урэшце кухарскі сакрэт: гэта рыба такая,
не рэзана, смажана ад галавы, а таўстая
сярэдзіна печана, хвост жа у сосе мачае.



Ды госці зусім не пыталі названня тых страваў,
не застанаўляў іх кухарскі сакрэт так цікавы,
з жаўнерскім яны апетытам усё паядалі
і венгрыну поўны кілішкі сабе падлівалі.

Тым часам сервіз сваё снежна пакрыцце змяняе [23],
абдзёрты са снегу, зялёную барву прымае,
бо лёгкая, летнім цяплом разагрэта ступенна,
памалу растаяла лёду цукровага пена
й дагэтуль нявіднае дно прыадкрыла зысподу;
цяпер прадстаўляе абраз пару новага году,
бліснуўшы зялёнаю рознабарвістай вясною.
Во рознае збожжа выходзе належнай чаргою:
пшаніцы шафранавай колас буйны, залацісты,
во жыта палетак відаць маляваны, срабрысты
і штучна во зроблена грэчка уся з шакаладу,
цвіцяць тут і яблыні й грушы вялізнага саду.

Ледзь часу хапае гасцём дароў лета спазнаці,
дармо яны Войскага просяць, каб іх затрымаці,
сервіз, як планета, стрымаць абароту не можа,
змяняе пару: маляванае золатам збожжа,
набраўшы у хаце цяпла, памалюсеньку тае,
ўжо травы пажоўклі, лісцё чырванее, злятае,
казаў бы чувацца васенняга ветру павевы;
ў канцы ўсе, хвілінку да гэтага стройныя, дрэвы,
цяпер як абдзёрты яны ад віхру і шарону,
так гола стаяць: то адно жагаркі [24] цынамону
або прадстаўляўшыя хвою галінкі ляўрыну,
што нібы у шпількі адзеты ў зёранцы кміну.
А госці, віно папіваючы, дай жа галіны
і пні, і карэнне на закусь зрываць, як маліны.
Пан Войскі абходзе сервіз, дужа рады, ахвочы,
звяртае свае да гасцей, трыумфуючы, вочы.

Дамброўскі тады прычыніўся, што надта ў здзіўленні,
і кажа: «Пан Войскі, ці гэта кітайскія цені? [25]
ці гэта на службе у Пана Пінэтава [26] бісы? [27]
Дагэтуль у вас на Літве ўсё такія сервізы,
дагэтуль кіруеце ўсе вы старым абычаем?
Скажы мне, бо я ўсё жыццё прамайначыў за краем».

З паклонам адказуе Войскі: «Не, Ясне Вяльможны
Паночку мой, гэта не вымысел нейкі бязбожны!
То памятка толькі ад гэных бяседаў ад слаўных,
якія давалі калісьці ў паноў старадаўных,
калі яшчэ Польшча магутнасці й шчасця ўжывала.
А я што зрабіў, то у гэтай во кнізе пісала.
Пытаеш, ці ўсюды ў Літве так бяседы шчэ ладзяць?
На жаль! і да нас ужо новыя моды улазяць.
Крычыць не адзін панічок, што не любе ён збыткаў,
як жыд які, есць, гасцём скупе наедку, напіткаў;
шкадуючы венгрыну, п'е ён напітак чартоўскі,
віно падраблянае, модны шампан той маскоўскі;
у карты ж за вечар пасля столькі золата страце,
што даў бы бяседу за то і для ста шляхты-брацці,
а нат (бо што маю на сэрцы, скажу то сягоння,
хай Пан Падкаморы не гневіцца і не бароне),
калі я сервізам цудоўным так пільне займаўся,
то нават і Пан Падкаморы з мяне пасмяяўся!
Казаў: старасвецкая нудная дужа махіна,
і выгляд, што мае яна, як забаўка дзяцінна,
і што для людзей такіх слаўных не гожая будзе.
Суддзя! і Суддзя гаварыў, што гасцей яна знудзе.
Тым часам, як бачу з прысутных паноў заздзіўлення,
то варта харошая штука была пабачэння.
Не ведаю, ці калі-колечы лёс яшчэ здара
гасціць у двары Сапліцоўскім такіх дыгнітараў.
Што Пан Генарал на бяседах ёсць знайка, то бачу,
затым жа і гэтую кніжку я Пану прызначу:
прыдасца, як будзеш бяседы спраўляці патронам,
манархам якім заграпічным, нат — для Напалеона!
Ды перш, чым аддаці скарбніцу кухарскае штукі,
скажу, якім чынам папала яна мне у рукі».

Аж гоман паўстаў за дзвярмі; галасоў жа нямала
«Няхай жа жыве наш Пятух на Касцеле!» — крычала,
і шляхта натоўпам з Мацеем у залю ўплывала.
Суддзя вёў гасця за руку да самога застолля
й садзіў яго міжы важоў у пачэсным тым коле,
гаворачы: «Пане Мацею, нядобры суседзе,
так позна прыехаў, без мала ужо па абедзе».
«Наеўшыся,— кажа Дабрынскі,— не дзеля наедку
прыбыў, а цікавасць напала, мой пане суседку,
каб зблізка зірнуць на сваё нац'янальнае войска.



Зашмат гаварыць — ані тое, ні сёе, хоць свойска!
Ну, шляхта пабачыла й цягне, і Пан мяне згледзеў
і тутака садзіш за стол — але дзякуй, суседзе!»
Уверх дном адвярнуў сваю нават талерку, то знача,
што есці не будзе, чагось нездаволен — няйначай.

«Ах, Пане Дабрынскі,— азваўся к яму сам Дамброўскі,—
то ж ты гэта, слаўны рубака такі Касцюшкоўскі,
Мацею ты, Розачка! Знаю цябе я са славы.
Ну, бачце! дагэтуль шчэ моцны і гэтакі жвавы.
А колькі ж то часу мінула! Глянь, я пастарэўшы,
глядзі, і Князевічу волас ужо пашарэўшы,
а ты йшчэ з малодшымі мог бы схапіцца у долькі;
красуецца Розга твая, кажуць, часу то столькі!
Я чуў, што нядаўна ты нат маскалёў тут ацвічыў[28].
А толькі браты дзе твае? Я страшэнна бы зычыў
пабачыць Цызорыкаў гэтых і вашыя Брытвы,
'кземпляры апошнія ўжо старавечнае Літвы».

Суддзя адказаў: «Генарале, па гэным звіцястве
Дабрынскія блізка усе пахаваліся ў Княстве;
хіба увайшлі да якога твайго легіёну!»
«А праўда,— казаў маладзенечкі шэф эскадрону,—
ў мяне у кампаны другой ёсць вусаты страшыла
вахмістрам, Дабрынскі, празваны інача Крапіла,
мазуры ж яго ведзмядзём прызываюць літоўскім,
а варта яго прывясці: маладзец не такоўскі».
«Ёсць,— кажа паручнік,— і іншыя родам із Літвы,
жаўнер адзін, ведамы добра пад прозвішчам Брытвы;
другі, той, што ездзе з трамблёнам сваім на флянкеры[29],
а ёсць і ў стралецкім палку яшчэ два грэнадзеры
Дабрынскія».

«Ведаць хацеў бы аб іх камандзіры,—
казаў Генарал,— аб Рубайле, Цызорыку спраўным;
мне правіў пан Войскі аб ім столькі дзіваў так слаўных,
як проста аб нейкім із волатаў тых старадаўных».
«Цызорык,— пан Войскі казаў,— хоць у краі застаўся,
ды боязна следства было, прад Масквою хаваўся;
усеньку зіму, бедачына, туляўся па лесе
і толькі што вышаў. У ваенным цяпер інтарэсе
ён мог бы прыдацца, бо рыцарскім ёсць чалавекам,
а толькі шкада, што крыху ўжо прыціснуты векам.

А вось жа і ён!» Тут пан Войскі паказуе ў сені,
дзе чэлядзь, сяляне натоўпам стаялі ў сцісненні,
а над галавамі ўсіх лысіна бела, бліскуча
з'явілася раптам, як месяц у поўні з-за тучаў,
і тройчы ўзышла і зайшла у галоў абалокі.
Шоў Ключнік і кланяўся, ўсіх распіхаючы ўбокі,
а вышаўшы, кажа:

«А Ясне Вяльможны Гатмане,
ці то Генарале, ды справа не ў тытулаванні,
Рубайла — то я і прыйшоў на тваё закліканне
з сваім во Цызорыкам гэтым, які не з аправы,
ні з напісаў, але ад гарту дабыў сабе славы,
што нават аб ім жа і Ясне Вяльможны Пан ведаў.
Каб ён гаварыці умеў бы, то, можа б, паведаў
крыху пахвалы аб руцэ уладальца старога,
якая служыла і доўга і верна, падзякаваць бога,
Айчызне й сямейцы вяльможных Гарэшкаў таксама,
аб чым у людзёх і дагэтуль не згінула слава.
Мапанку! то ж рэдка які пісарчук правантовы [30]
так зручна сцінае пяро [31], як Цызорык галовы.
Задоўга й лічыці! А вушы й насы незлічоны!
Ды шчэрбы ніякай няма йшчэ на брэдзе ягоным,
ніколі не сплямілў яго і разбойніцкі ўчынак;
адкрытая толькі вайна, або так — паядынак.
Ну, раз толькі! Дай яму, Пане, ты вечна спачынак!
Нязбройнага сцяў чалавека (праз шкоднасць ягону!)
А й то, няхай бог будзе сведкам, pro publico bono».

«А ну, пакажы,— смеючыся, прамовіў Дамброўскі,—
харошы цызорычак, меч то сапраўдны катоўскі!» —
і сам аглядае мяча і дзівуецца шчыра,
чаргова другім афіцэрам дае ту рапіру.
Прабуюць усе, але здолее ледзьве каторы
падняць яе ўверх. Хоць не ўсе афіцэры у зборы;
казалі, Дамбінскі, што сілай рукі сваей слаўны,
каб быў бы, рапірай валодаў бы лёгка і спраўна.
З прысутных адзін толькі шэф эскадрону Дварніцкі,
таксама начальнік, плютону паручнік Ружыцкі [32],
круцілі жалезным друком, хоць не лішне свабодна:
і так з рук у рукі рапіра хадзіла чародна.

Князевіч, што праўда, і ростам з усіх найбуйнейшы,
там быў, паказалася, і у руках наймацнейшы.



Узяўшы рапіру, так лёгка, як шпагаю, дзвігнуў [33]
і над галавамі гасцей, як маланкаю, мігнуў,
прыпомніўшы выкруты польскай фехтарскай [34] навукі:
млынок і крывы ўдар, і цяты, і крадзены, штукі
крыжовыя й розныя тэмпы контрпунктаў, тэрцэтаў,
якія умеў, бо быў сам ён із школы кадэтаў.

Калі, смеючыся, вымахваў, Рубайла ў здумленні
прыпаў, са слязамі яму абымае калені
і енча за кожным зваротам мяча: «Генарале,
як лоўка! Ці быў канфед'ратам? Як хараша, ўдале!
Удар во Пуласкіх! А так Дзержаноўскі складаўся.
Во Савы [35] удар! У каго Пан з рукой муштраваўся?
У Дабрынскага можа Мацея? А во, Генарале,
й мая гэта штука, дальбо, не хвалюся зухвале,
удар у засценку Рубайлавым толечкі й знаны,
«мапанку удар» ад майго бо імя і празваны.
А хто ж яго вас навучыў і так спрытна, удала?»
З каленаў падняўся, ў абоймы схапіў генарала.
«Спакойна памру! Чалавек бо знайшоўся на свеце,
дзіцятка мае дарагое прытуле нарэшце;
бо то ж аддаўна дзень і ноч галава мне балела,
па смерці маей каб рапіра мая не ржавела!
Дык не заржавее! А мой жа ты Ясне Вяльможны,
даруй, Генарале: пакіньце ражны свае розны,
нямецкія шпадкі! то ж сорам са шляхты дзіцяці
кіёчкі насіць: па шляхотнаму трэ ваяваці.
Я свой жа Цызорык табе во пад ногі складаю,
то найдаражэйшы мой скарб, што на свеце я маю.
Не меў ні дзіцяці, ні жонкі, бы вецер у полі,
а ён быў мне жонкай, дзіцём; не выходзіў ніколі
з абоймаў маіх, бо ад раніцы да сумароку
кукобіў яго, уначы са мной спаў ён пры боку;
калі ж пастарэўся (хоць людзі гавораць — не скора),
завесіў над ложкам яго, як той жыд дзесяцёра! [36]
Нат думаў з рукой закапаць у магілу й аружжа,
знайшоўся наследнік, аднак,— хай Табе цяпер служа!»

Дамброўскі, крыху смеючыся, а болей праняты,
гавора: «Калега, калі мне уступіш дзіця ты
і жонку, то сам застанешся залішне самотны

на старасць сваю; удавец і сірота журботны.
Скажы мне, якую ты прымеш за дар нагароду,
за ўдоўства й сіроцтва тваё што дало б асалоду?»
«Няўжо я Цыбульскі? — разжаліўся Ключнік, не
жарты,—
што жонку праграў маскалю, разаграўшыся ў карты [37],
як песня гавора! — А мне будзе до' і на гэтым,
што мой жа Цызорык блісне яшчэ раз перад светам
у гэтай руцэ! — Хіба сам Генарал тое знае,
што трэба, пры ім каб тасемка была бы даўгая,
даўжэнны бо меч; а рубаць трэ ад левага вуха
аберуч, пратнеш тады ад галавы аж да бруху».

Узяў генарал той Цызорык з гартоўнае сталі:
насіць задаўгі, таму слугі ў фургоне схавалі.
А што з ім далей прылучылася, розна казалі,
ды толькі ж ніколі наверна аб тым не празналі.

Дамброўскі пытае Мацея: «А ты што не рады,
калега, здаецца, з прыходу лег'ёнскай грамады?
Маўчыш, такі кіслы? Няўжо табе сэрца не скача,
як вока арлы залатыя і срэбныя бача?
Пабудку калі Касцюшкоўскую трубяць над вухам?
Мацею, лічыў бы цябе за вялікшага зуха!
Як шаблі не возьмеш, не хочаш сядзеці больш конна,
прынамся, з калегамі піць будзеш весела, згодна
за Напалеона здароўе, за Польшчы надзеі».

«А! — кажа Мацей,— чуў і бачу, якія падзеі!
Аднак двух арлоў у адным жа гніздзе не вядзецца,
а панская ласка адно да парогу, здаецца.
Вялікі герой Напальён, я не буду пярэчыць!
Пуласкія, другі мае, калі ўспомніць да рэчы,
казалі не раз, спаглядаючы на Дымур'ера [38],
што Польшчы то польскага трэба героя цяпер, а
не нейкага йтальца, француза, трэ' роднага Пяста,
ну, нейкага Яна, Язэпа, Мацея — і баста!
А войска! і польскае ж нібы! а ўсё: фізільеры,
чуваць, грэнадзеры, саперы і кананіеры [39]!
У гэтым натоўпе ёсць болей нямецкіх назоваў,
як нацыянальных, што нат не уцяміш ні слова.
А з вамі, відаць, і туркі, й татары, не зверы,
й не людзі, сызматыкі, што ім ні бога, ні веры:



бо бачыў я сам, як у вёсках жанчын нападаюць,
касцёлы рабуюць, нявінных людзей абдзіраюць.
Ідзе Напальён на Маскву! а далёка дарога,
калі туды выбраўся ён, абмінаючы бога!
Чуваць, што ўжо ён папаў пад праклянцце біскуп'е;
усё гэта...» Хлеб памачыў тут Мацейка у супе
і еў, не канчаючы гэтак апошняга слова.

Не ў смак Падкамору прышлася Мацеева мова,
і шэмрала моладзь; Суддзя перарваў тады свары,
прыход абвясціўшы заручанай трэцяе пары.

То Рэент; ён сам сябе Рэентам хутка абвесціў.
Дагэтуль насіў сабе польскую вопратку ў чэсці,
ды будуча жонка, Тальмена, пад страхам разводу
яму наказала пакінуць шляхоцкую моду [40],
адзеў таму Рэент французскую вопратку нову.
Знаць, фрак адабраў і душы яму добру палову:
ідзе, моў бы кій праглынуўшы, стырчком, нерухава,
як жораў; ані не зірне ні улева, ні ўправа;
хоць важная міна, відаць, што церпе ён мукі,
не ведае, як пакланіцца, дзе дзець свае рукі,
а любе ж так жэсты! за пояс рукамі ўсё садзе —
няма паяса! дык па брусе бяспоясным гладзе;
памылку сваю спасцярогшы, збянтэжан, спёк рака,
абедзве усунуў рукі ў кішаню адну фрака.
Ідзе, як праз розгі, між шэптаў і жартаў гасцёўскіх,
за фрак засаромлены, як за учынак шальмоўскі.
Як вочы ж Мацея спаткаў, задрыжэў аж з баязні.

Дагэтуль Мацей жыў із Рэентам добра, ў прыязні,
цяпер жа глядзеў гэтак дзіка і востра настолькі,
што Рэент збялеў, зашпіляў свае гузікі толькі,
казаў бы, той фрак з яго злупе Мацейка сярдзіты.
Дабрынскі ж сказаў адно толькі: «Дурны ты, дурны
ты!»
і гэтак быў згоршаны [41] з Рэента перапранання,
што зараз устаў ад стала, вышаў без развітання,
цішком на каня — і вярнуўся назад да засценка.

Тым часам прыгожая Рэента Пані, Тальменка,
блішчыць хараством — ну, дзівіцеся ўсенькі народы!

Убор з галавы аж да пят наймаднейшае моды.
А што за сукенка і на галаве што за строі,
дармо і пісаць, бо ніяк не апіша пяро іх;
хіба змаляваў бы іх пэнзаль: і цюль, і птыфенне [42],
і розны карункі, кашміры, і пэрлы, й каменне,
й ружова аблічча, ў бліскучых вачох ажыўленне.
Пазнаў яе Граф. Пабялеў ад здзіўлення й знявагі,
устаў ад стала і шукаў ля сябе ужо шпагі:
«І ты гэта,— ўсклікнуў,— ці, можа, маняць мае вочы?
Пры мне ты другому сціскаеш руку так ахвоча?
Жанчына няверная ты і так зменна душою!
Й не скрыеш ад сораму твару свайго пад зямлёю?
Няўжо ты не помніш сваей такой свежай прысягі?
А я, легкаверны, насіў твае стужкі, як сцягі!
А толькі бяда рывалю, што мяне зневажае!
Хіба ўжо ж па трупе маім к алтару ісці мае!»

Сарваліся госці, і Рэент страшэнна змяшаўся;
гадзіць рывалёў Падкаморы хутчэй паспяшаўся;
Тальмена сама тады Графа ўзяла на старонку
й шапнула: «Йшчэ Рэент мяне не узяўшы за жонку,
калі прашкаджаеш, то годзе майначыць празнадта,
а зразу скажы мне, ды коратка і вузлавата:
ці любіш мяне, ці у сэрцы сваім не змяніўся?
Калі ж ты гатовы, то зараз са мной каб жаніўся!
сягоння! Ад Рэента я адступлюся, як гэтак».
Граф кажа: «О, незразумелая мне ты, кабета!
Калісь у сваіх пачуццёх ты была паэтычнай,
цяпер выдаешся зусім для мяне празаічнай!
Што вашы жанімскія сувязі, як не аковы,
што звязуюць рукі адно, а не душы йдэовы?
Павер мне, бываюць асведчыны нат без вызнання,
і ёсць абавязкі такія, што без забавязання!
Два сэрцы на розных канцах на зямлі, два гаручы,
гавораць з сабою, як зоркі праменнем дрыгучым;
хто ведае! можа, зямля так да сонца імкнецца
і мілай для месяца так заўсягды выдаецца,
што вечна глядзяць і бягуць найбліжэйшай дарогай
к сабе, а не могуць прыпасці адно да другога!»
«Ну, годзе,— прарвала Тальмена,— бо я не планета,
а з божае ласкі, ды годзе ўжо, Графе, кабета;
я ведаю, кінь жа плясці ані сёе, ні тое.
Ды асцерагаю: як піснеш мне слова якое,



каб шлюб мой сарваць, то, як бог ёсць на небе,
клянуся,
што з гэтымі во кіпцюрамі к табе дабяруся
і...»«Не,— кажа Граф,— не змяшаю я вашага
шчасця!» —
і вочы з пагардай убок адвярнуў без учасця
і, каб пакараці гарэй так няверну каханку,
агонь пастаянны звярнуў ён на Падкамаранку.

Паваджаных Войскі хацеў кавалераў гадзіці
прыкладамі мудрымі, ну — і давай вывадзіці
расказ пра дзіка, што ў лясох Налібоцкіх папасваў,
і аб калатні між Райтанам і князем Дынассаў [43],
ды госці канчалі тым часам марожыну есці
і з замку ішлі на дзядзінец праветрыцца дзесьці.

З збаноў там сяляне чаргою мядочак цягнулі;
ўжо строіцца музыка, весела кліча на гулі.
Шукаюць Тадэя, каторы стаяў на старонцы
і важнае нешта шаптаў сваей будучай жонцы.

«Зафія! я мушу з табою параіцца ў рэчы
паважнай; пытаўся у дзядзькі, і ён не пярэчыў.
Ты ведаеш, шмат із тых вёсак, што маю ўладаці,
па праву павінны былі б на цябе прыпадаці.
Падданыя то не мае, а твае то сяляне,
не смеў бы устраіваць іх ды без волі іх пані.
Няўжо, калі маем Айчызну ўжо, дзякаваць бога,
са зменай шчаслівай сяляне не зышчуць нічога,
акроме таго, што дасталі бы пана другога.
Што праўда, дагэтуль то імі ўпраўлялі ласкава,
што ж будзе па смерці маей, то няведама справа.
Жаўнер я, абое смяротныя мы; прызнаюся,
бо я ж чалавек, што і собскіх капрызаў баюся:
дык лепш ад улады адмовіцца ўжо чалавеку
й аддаці сялян нашых лёсы пад права апеку.
Як вольны мы самі, то хай будуць вольны й сяляне;
аддайма ім тую зямлю на век-вечна ўладанне,
на ей што зрадзілісь, якую крываваю працай
здабылі, з каторай і жывяць усіх, і багацяць.
А мушу сказаць, што праз гэты надзел, безумоўна,
паменшыцца нашы даход, трэба жыць будзе скромна.
Я змалку прывык да такога жыцця, меў нагоду;

а ты, мая Зосенька, ты із высокага роду,
ў сталіцы гады правяла маладыя і гэтак
ці згодзішся жыці на вёсцы, далёка ад свету,
ў двары?»

Адказала тут скромная Зося нясмела:
«Я толькі жанчына, улада не бабскае дзела.
То ж Пан будзеш мужам, а я маладая да рады;
што зробіш, то ўсенечкім сэрцам згаджуся, без звады.
Як воласць звальняючы, зробішся крышку бяднейшы,
то будзеш затое для сэрца яшчэ даражэйшы.
Аб родзе сваім мала чула й не дбаю пра тое;
а толечкі й помню, што беднай была сіратою,
Сапліцамі ўзята затым за дачку, гадавана,
як родна дзіця, а цяперака й замуж аддана.
Калі ж і жыла я у месце вялікім, даўно то
й было, а на вёсцы мне жыць — то з вялікай ахвотай.
Павер, што мяне заўсягды мае пеўні і куркі
балей забаўлялі за тыя усе Пецярбуркі.
Ну, часам, малая, тужыла к забавам, дзе людзі;
цяперака ведаю: горад мяне толькі нудзе.
Аб тым праканалась зімой па кароткім пабыцце
у Вільні, што створана я на вясковае жыцце:
паміжы забаваў тужылася да Сапліцова.
А працы не страшна, бо я маладая й здарова,
насіці ключы і хадзіць каля дому умею;
пабачыш, як я гаспадарства наўчыцца пасмею».

Як Зося канчала казаці апошнія сказы,
то к ей жа падходзе і здзіўлены й кіслы Гярвазы:
«Ўжо ведаю,— кажа,— Суддзя расказаў мне пра
вольнасць!
Ды не разумею, што сцягуе гэта у воласць!
Баюся, каб гэта чаго не было па-нямецку!
то ж вольнасць зусім не мужыцкая рэч, а шляхецка!
Ну, праўда, выводзімся ўсе мы ад бацькі Адама,
аднак жа, я чуў, мужыкі то паходзяць ад Хама,
жыды ад Яхвета, а шляхта ад старшага Сіма [44],
таму нам як старшым і трэ панаваць над усіма.
Ну, ведама, ксёндз навучае інакш на амбоне...
гавора, што гэтак было у Старым шчэ Законе,
аднак як Хрыстос, хоць і сам каралеўскага роду,
радзіўся ў мужыцкім хляве між жыдоў, для народу,



то гэтым прынёс усім станам і роўнасць, і згоду.
Няхай сабе будзе і так, калі йначай не можна!
Тым болей, што, як гэта чую, і Ясне Вяльможна
Паненка мая, Пані Зоф'я, згаджаецца й рада;
загадываць ей, а мне слухаць, пры ей бо улада.
А толькі каб вольнасці гэткай мы не давалі
пустой і на словах, як то прымушалі маскалі:
нябожчык пан Карп для сялянаў быў даўшы і волю [45],
маскаль аблажыў жа патройным падаткам іх долю.
Дык раджу ушляхціць сялянаў старым абычаем,
абвесціць публічна, што мы у свой герб іх прымаем.
Хай часці сялянаў Паўкозіча дасць мая Пані,
другая Ляліву Сапліцаў няхай жа дастане.
Тады мужыка і Рубайла прызнае ўжо роўным,
як будзе ён шляхціцам, панам вяльможным, гярбоўным.
Пацвердзе ўсё сойм.

Пані муж хай не мае трывогі,
што, землю аддаўшы, вы будзеце самі убогі;
не дасць таго бог, кабы ручкі дачкі дыгнітарскай
былі ў мазалёх ад работы якой гаспадарскай.
Ё спосаб на гэта.— У замку, я ведаю, скрыня,
ў каторай схавана Гарэшкаў старое начынне,
пры тым жа і розны сыгнэты, канакі, манэлі [46],
багатыя кіткі, і збруя, і цуд-карабэлі.
А Стольніка скарбец, укрыты ў зямлі ад грабежы,
у спадку да Пані Зафіі, бясспорна, належа;
у замку яго пільнаваў я, як вока зраніцы,
і ад маскалёў, і ад вас жа, панове Сапліцы.
І добры йшчэ мех у мяне сваіх собскіх таляраў,
сабраных гадамі і з выслугі, й з панскіх прыдараў.
Я думаў, калі нам да замку прызнаюць жа рац'ю,
сабраныя грошы пусціць на муроў рэпарац'ю;
ды на гаспадарстве на новым прыдасца ў патрэбе,
дык, Пане Сапліца, к табе прабяруся найлепей,
жыць буду у Пані сваей на ласкавым я хлебе,
Гарэшкаў калышучы трэцяе ўжо пакаленне,
к цызорыку Пані дзіця даючы настаўленне,
як будзе то сын, а сын будзе, бо войны надходзяць,
а ў часе ж ваенным найболей сыноў усё родзяць».

Апошнія словы ледзь толькі даканчыў Гярвазы,
як поступам важным падходзе ўрачыста Пратазы;

скланіўся і зараз з-за пазухі контуша выняў
пахвальныя вершы на аркушы два з палавінай.
Злажыў жа іх падафіцэр малады, бледналіцы,
што слаўныя оды калісьці пісаў у сталіцы,
а после у войска пайшоў, але й там белетрысты
ўсё вершы рабіў. Прачытаў ужо Возны іх трыста,
дайшоў аж да месца узвышнага: «О, ты, катора
і радасць, і мукі раскошныя будзіш так скора!
якая к Белёне[47] як звернешся тварам прыгожым,
зламаюцца зразу і пікі, й шчыты ўсе варожы!
Змажы сёння Марса Гіменам, нязгоднай каб гідры[48]
сычачыя змеі хацела б далонь твая выдраць»!
Тадэвуш і Зося запляскалі і не кідалі,
моў, хваляць, а слухаць зусім не хацелі ўжо далей.
З загаду Суддзі ксёндз клябан аж на стол узлязае
і волю Тадэя сялянам усім абвяшчае.

Таку навіну ледзь пачулі прыгонны сяляне,
к Тадэю падскочылі, палі у ногі і пані!
«Здароўечка нашым паном!» — закрычэлі, бы п'яны;
Тадэй жа ускрыкнуў: «Здароўе усіх грамадзянаў,
і вольных, і роўных, палякаў!» — «Народу здароўе!» —
усклікнуў Дамброўскі; люд крыкнуў: «Віват і паноўе
важы, віват войска, народ і усенькія станы!» —
грымелі віваты, дзесяткі разоў паўтараны.

Адзін толькі Бухман быць рады з усімі не рачыў,
праект пахваляў, але толькі б яго перайначыў:
перш-на-перш легальна на тое б камісью назначыў,
якая б... Ды часу на гэта тады не хапала,
і Бухмана ўчоная рада напрасна прапала.

На замку дзядзінцы стаялі бо ўжо афіцэры
із дамамі, тут жа з сялянкамі разам жаўнеры.
Крычаць: «Паланеза!» — сабратыя ўсе ў адно слова.
Вядуць афіцэры ўжо музыку гучну, вайскову.
Тут шэпча Суддзя, адвярнуўшыся да генарала:
«Скажэце, Панок, каб капэля яшчэ пачакала,
бо, ведаеш, сёння пляменніка я заручаю,
а ў нашай фамілі было заўсягды у звычаю
пры музыцы нашай і простай, вясковай жаніцца.
Пабачце, стаяць дудары, цымбалісты й скрыпіца;
пасцівы народ: скрыпачу, знаць, капэля не ў носе,
дудар пакланіўся, вачмі дазвалення ўжо просе:



калі іх адпраўлю, то бедны музыка заплача;
народ жа пры музыцы іншай зусім і не скача.
Хай нашая музыка грае, народ развяселе,
тады ужо выступе й ваша цудоўна капэля.
Даў знак.

Тут скрыпач закасаў сваей світкі рукаўцы,
узяўшы за грыф, абапёр бараду на падстаўцы,
пусціў як каня наузавады, смык па скрыпіцы.
За ім дудары (дужа рады з дазволу Сапліцы),
як бы сабе ў крылле б'ючы, частым плеч сваім рухам
мяхі надзімаюць і твары напоўнююць духам;
казаў бы, то пара сарвецца, ўзляціць у паветра,
як дзеці бухматы Барэя[49], паўночнага ветра.
Цымбал не хапала.

Было цымбалістаў нямала,
пры Янкелі ж граці нікому адвагі не стала.
(А Янкель праз зімку няведама дзе прабіваўся,
цяперака раптам із войскам ізноў паказаўся.)
Ўсе ведаюць добра, што з ім да на гэтым струмэнце
ніхто не зраўняецца ў бегласці, смаку, таленце,
дык просяць заграці, падносяць цымбалы пад рукі;
бароніцца, кажа, што рукі згрубелі, як крукі,
ад грання адвык, для паноў та ігра за прастача,
ўцякае з паклонамі. Зося, як тое пабача,
к яму падбягае й падносе на белай далоні
дручкі, што па струнах звычайна мастак імі звоне,
другою ж рукою сіву бараду яго лашча
і, дзыгнуўшы, кажа: «Ну, Янкель, зайграй, калі ласка!
Заручыны гэта ж мае, мой стары прыяцелю,
а сам жа не раз абяцаўся мне йграць на вяселлі!»

Любіў Янкель Зосю, кіўнуў барадою на згоду,
вядуць музыканта ў сярэдзіну міжы народу
і садзяць на крэсла, кладуць на калені цымбалы;
на то узіраецца горда музыка удалы,
як той ветэран, што на службу ізноў жа прызваны,
калі унукі са сцяны цягнуць меч гартаваны,
смяецца дзядок, хоць даўно у руках меў аружжа,
ды чуе — шчэ моцна далонь і з аружжам падружа.
Прад ім на каленках стаяць пры цымбалах два вучні,
настройваюць струны нанова і пробуюць гучне;

мастак з прызакрытымі напалавіну вачамі,
з дручкамі у пальцах сядзіць нерухома ў маўчанні.

Спусціў іх на струны, адразу б'е ў такт трыумфальны,
после гусцей дай сячы, як дажджом ды навальным;
здзівіліся ўсе — але гэта была толькі спроба,
бо ўжо й перарваў, падымае дручкі свае оба.

Зноў грае. Так лёгенькім рухам дручкі задрыжэлі,
казаў бы, то мухі у струны крылом зазвінелі,
ціхое, ледзь чутнае толькі чувацца брынчэнне.
Мастак узіраецца ў неба, шукае натхнення.
Аж глянуў з гары на інструмант уверана, горда
і, рукі падняўшы, ударыў магутным акордам.
Здумеліся [50] ўсе.

Во сарваліся з струн і ляцелі
дзікім табуном, як бы гукі янчарскай [51] капэлі,
званілі званкамі і зэлямі [52], ў розны бубёнкі:
грыміць «Паланез трэцямайскі» [53] і скочны і звонкі!
І дыхае радасцю, радасцю пое ўсе сэрцы:
дзяўчаты і хлопцы не могуць стрымацца на месцы.
А думкі старэйшых з тым гукам у прошласць нясліся,
у лепшы часы, як сенат і паслы ўсе зышліся
пасля ужо трэцяга мая на ратушы ў залі,
з народам зноў згоднага там караля частавалі
й пялі у танцах: «Віват наш кароль, наш каханы!
віват увесь сойм і народ, і усенькія станы!»

Мастак прысняшае ўсё такт і ўсё тон напружае,
аж раптам — фальшывы акорд, як сык гада, пускае,
як скрыгат жалеза па шкле: аж усіх здрыганула,
й прачуцце злавешчым крылом іх вясёласць змахнула.
З трывогай пытаецца гурба народу вяліка,
ці струмант не стройны, ці то памыліўся музыка?
Не змыліцца гэткі мастак! Ён зумысле чапае
здрадліву струну і мелодыю муце, мяшае,
усё галасней біючы у акорд збунтаваны,
процьь тонаў мелодыі згоджанай сканфед'раваны.
Аж Ключнік паняў мастака, закрыў твар свой рукамі
і крыкнуў: «То ж то Т а р г а в і ц а! змяя міжы намі!»
І лопнула раптам са свістам струна тая злая...
Музы́ка да прымаў [54] бяжыць, такт мяшае, зрывае,
і, кінуўшы прымы, бяжыць із дручкамі да басаў.



Во тысяча розных, штораз галаснейшых, галасаў,
такт маршу, вайна і атака, штурм, чутныя стрэлы,
піск дзетак і матчыны плачы. Музыка умелы
так штурму жуду перадаў, што сялянкі дрыжэлі,
са страхам, слязамі цяпер спамінаючы ў жалі,
р э з ь П р а г і, каторую з песні й аповесці зналі;
дык рады, што ўрэшце музыка у струны усенькі
грымнуў, галасы іх здушыў, як прыбіў да зямелькі.

Ледзь выйсці быў час слухачом із таго задзіўлення,
зноў накшая музыка: зноў жа спачатку брынчэнне
ціхое і лёгкае, енчаць так тонкія стрункі,
як мухі, што вырвалісь з сеткі паўчынай карункі.
Ды струнаў усё прыбывае, разрознены тоны
ўжо лучацца разам і вяжуць акордаў лег'ёны;
ўжо згоднымі гукамі складна у такт наступаюць
і нуту жалосную слаўнае песні складаюць,
аб тым аб жаўнеры тулячым, што лесам і борам
ідзе у кумпаны з бядою, із голадам, горам
і па́дае ўрэшце пад коніка вернага ногі,
а конік нагою грабе яму гроб ля дарогі.
Старая то песенька, польскаму войску так міла!
Пазналі жаўнеры, музыку іх шмат абступіла;
заслуханы ў песні, на памяць сабе прывадзілі
той час, той страшэнны, калі на Айчызны магіле
спялі ту песню й пайшлі на край света у прочкі;
прыводзяць на памяць даўгія вандроўкі гадочкі
па сушы, марох, па гарачых пяскох і марозе,
паміжы чужацкіх народаў, дзе часта ў абозе
за сэрца хапалі тэй песні народныя словы.
І, так размышляючы, сумна хілілі галовы.

Ды зноў паднялі, бо мастак падымае і тоны,
напружуе, такты змяняе, а ўсё пра лег'ёны.
Аж глянуў з гары зноў на струны уверана, горда
і ўдарыў дручкамі аберуч магутным акордам.
Удар быў запраўдна мастацкі, магутна-пярунны:
як медныя трубы, на моц раззвінеліся струны,
із трубаў тых слаўная песня пад неба лунала,
той марш трыумфальны, што «Польшча яшчэ не
прапала»!
дык «Марш, марш, Дамброўскі, да Польскі!»— ўсе
пляснулі зборам

і ўсе: «Марш, Дамброўскі, да Польскі!» — акрыкнулі хорам.

Мастак як бы сам задзівіўся і з песні і з штукі,
пускае ўжо з пальцаў дручкі, падымае ўверх рукі,
а ліссяя шапка спаўзла з галавы аж на плечы,
паважна паднята сіва барада у старэчы,
дзіўнога румянцу кругі, бач, на шчоках ягоных,
і свеціцца жар юнака ў яго зроку натхнёным,
калі ж на Дамброўскага глянуў, то вочы рукамі
закрыў, але слёзы з-пад рук паліліся цуркамі:
«Цябе, Генарале,— прамовіў,— Літва уся наша
чакала так доўга, ну так, як жыды Масыяша [55],
цябе песняры ужо праракавалі ў народзе,
і неба нам цудам казала аб вашым прыходзе,
жыві і ваюй жа, ты нашы!..» Гаворачы, плача,
так любе Айчызну жыдоўскае сэрца прастача!
Руку падае пан Дамброўскі на шчыру падзяку,
той шапку здымае, ў руку пацалуе ваяку.

Зачаць паланеза пара. Падкаморы ўжо рушыў
і, лёгка закінуўшы вылеты ў важным кантушы,
пакручуе вусы, руку падае пані Зосі
і, ветла скланіўшыся, ў першую парачку просе.
За імі ж грамадзяцца іншыя парачкі скора;
знак дадзены, танец пачаты — вядзе Падкаморы.

Пабліскуюць над муравою чырвоныя боты,
б'е бліск карабэлі, пояс яго, слуцкай работы,
а сам жа ступае паволі, як бы не з ахвоты,
ды з кожнага боку і з кожнага руху спазнаці
не трудна яго пачуццё, яго думкі чытаці.
Во стаў, як бы хоча у дамы сваей запытаці,
схіліў галаву, хоча нешта шапнуць ей на вуха;
яна галаву адвярнула, ей сорамна зуха;
во шапку здымае танцор, пакланіўся пакорна,
і дама зірнула, а толькі маўчыць такі ўпорна;
ён кроку звальняе, вачмі яе сочa пагляды,
ў канцы усміхнуўся, з адказу, відацца, што рады,
ступае хутчэй, рывалёў ужо звысака мера
і шапку сваю канфед'ратку із чаплінім перрам
насуне наперад, то йзноў над чалом патрасае,
пахіле на бок і пакручуе вусы, міргае.



Ідзе, а за ім жа зайздросную ўсе грамадою;
ён рад бы ўжо вымкнуцца з дамай сваей маладою,
прыстане на месцы, руку сваю ветла узносе,
каб міма сабе прахадзілі, пакорна іх просе;
стараецца часам і зручна набок ухіліцца,
й дарогу змяняе, каб таварышоў так пазбыцца;
а толькі ж яны яго сцігуюць шыбка, начэпна
і ловяць усё выкрутасамі танца зачэпна;
злуецца, руку ужо на рукаятцы складае,
як бытта казаў бы: «Бяда вам, зайздросная зграя!»
Звяртаецца з гордым чалом, з вызываючым вокам —
і проста ў натоўп! а натоўп уступае шырока
дарогу; танцоры, змяняючы шых свой вялікі,
пускаюцца зноў жа за ім.

Адзываюцца ўсклікі:
«Глядзіце, усе маладыя! То можа апошні,
што так паланеза вядзе! Выкрутасы якія!»
Ішлі гэтак пара за парай і гучна й вясёла:
раскруцяцца складна ды зноў жа закруцяцца ў кола,
як вуж аграмнясты, што ломіцца ў тысячу звояў;
пярэста мяняюцца розныя колеры строяў:
і дамскіх, і панскіх, жаўнерскіх, як лускі бліскучы-
я, ў золаце косаў заходняга сонца паўзучы-
я па мураве, бы дыван той зялёны, распятай.
Вір танцаў, гром воплескаў, музыкі, клікі віватаў!

А толькі капраль жа Дабрынскі, той Сак, ні капэлі
не слухае, ані танцуе: яго не вяселіць;
ён рукі утыл залажыў, стаіць злы і пануры,
даўнейшыя к Зосі свае спамінае канкуры [56]:
як кошычкі плёў для яе, любіў краскі збіраці,
рабіці заушніцы, птушцы гняздо выдзіраці.
Няўдзячная! Колькі ж падаркаў так марна прапала!
Хоць бацька крычаў, і дзяўчына сама уцякала,
а ён! колькі раз, на баркане узлезшы, цікаўся
зірнуць праз вакно на яе; у каноплі скрадаўся
глядзеці, як Зоська палола ў сваім агародзе
ці там панавала сабе у курыным народзе!
Няўдзячная! Сак апусціў галаву, ўрэшце свіснуў
мазурку, затым сабе шапку на вушы націснуў,
ідзе у абоз, пры гарматах стаяла дзе варта,
і там, каб запомніцца крышку, гуляе ў дружбарта [57]

з жаўнерамі, асаладжаючы чаркаю жаласць.
Такая для Зосі была у Дабрынскага сталасць.

А Зося танцуе вясёла: у першай хоць пары,
здалёку ледзь відна яна. На вялікім абшары
падворка, заросшага зеллем, у строі зялёным,
убраная ў розныя краскі, з вянком заручоным,
між красак і траў яна кружа няўгледжаным лётам,
кіруе гульнёй, як анёл начных зор абаротам.
Згадаеш, дзе кружа, бо к ей усе звернуты вочы,
працягнуты рукі, там гоман вялікшы гугоча.
Напрасна стараўся застацца пры ей Падкаморы,
зайздроснік адбіў яго з першае пары ўжо скора;
й шчаслівы Дамброўскі нядоўга то шчасце трымае,
другому ўступіў, а ўжо трэці хутчэй паспяшае;
і гэты во зараз адбіты, пайшоў без надзеі.
Аж Зося, змарыўшыся, стрэла ў гульнёвай завеі
Тадэя і тут, баючыся далейшае змены,
каб з мілым застацца, закончыла танец даўжэнны.

Ўжо сонейка гасне, а вечар харошы надзіва!
Круг неба, так дзе-нідзе хмаркамі лёгка засланы,
сінее з гары, а на захадзе ў чырвень убраны.
Відаць, на пагоду, бо хмурынкі лёгкія свецяць,
залёгшы вун там, як бы спячае стада авечча,
а там вун драбнейшыя, качкі, казаў бы, на рэчцы.
На захадзе хмарка — малочная краска на грэчцы,
як сетка фіранак празрыстая, зверху парлова,
залочана па берагох, а глыбей пурпурова,
шчэ водбліскам захаду жарыцца, ззяе і тлее,
аж во пажаўцее, збялее й зусім пашарэе.
І сонца чало апусціла, балок зацягнула
і, раз яшчэ цёплым павеем дыхнуўшы,— заснула.

А шляхта ўсё п'е безупынна, віваты узносе
за Напалеона, важоў, за Тадэя і Зосю,
затым за ўсе тры заручоныя пары чаргою,
за ўсіх за прысутных, запрошаных ўсіх чарадою,
за ўсіх і прыяцеляў колькі іх памяць стрымае,
за ўсіх і памёршых, каторых тут памяць святая!
А тамака быў жа і я, мёд, віно сабе піў,
што толькі пабачыў, пачуў, то ў быліцы змясціў.

Канец [58]

# *Каментарыі*



Тэкст перакладу паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш» друкуецца паводле рукапісаў, якія захоўваюцца ў аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў Фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР. У аснову публікацыі пакладзена копія, зробленая з арыгінала перакладу вучнем Б. Тарашкевіча Л. Ліманоўскім. Копія гэта ўяўляе сабой восем сшыткаў у жаўтаватай вокладцы па 80 лістоў кожны (апошні сшытак прадубліраваны), запоўненых адным і тым жа почыркам. Тэкст перакладу размешчаны толькі на старонках справа. Злева ж, насупраць адпаведных радкоў паэмы, знаходзяцца каментарыі.

Тое, што пераклад належыць Б. Тарашкевічу, доказваецца ягонымі праўкамі, зробленымі на копіі сінім і звычайным алоўкамі. Праўкі накіраваны на паляпшэнне рытмікі перакладу, а таксама замену менш зразумелых слоў больш пашыранымі. Апрача таго, у тым жа аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў Фундаментальнай бібліятэкі АН БССР захоўваецца яшчэ адзін сшытак (у чорнай вокладцы), які паступіў у бібліятэку з Вільнюса. Ён заключае ў сабе 11 і 12-ю часткі («быліцы») паэмы. Непаўторны «вязаны» почырк, якім спісаны сшытак, а таксама «віза» памочніка начальніка гродзенскай турмы, датаваная 20 студзеня 1932 г., пераканаўча сведчаць, што гэта арыгінал перакладу. Істотных разыходжанняў паміж арыгіналам і адпаведнай часткай копіі няма. Часам сустракаюцца толькі апіскі. Такім чынам, верагоднасць і аўтарытэтнасць копіі не падлягаюць сумненню.

Пры падрыхтоўцы тэксту перакладу да друку ставілася мэта як мага дакладней захаваць усе яго адметныя рысы. Праўкі зроблены толькі там, дзе гэтага патрабаваў правапіс. Выпраўлены таксама (без агаворкі) яўныя апіскі. Зразумела, захаваны ўсе лексічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці арыгінала.

Як і сам тэкст перакладу, вялікую каштоўнасць для філалагічнай навукі маюць каментарыі да паэмы, зробленыя Б. Тарашкевічам. У іх выявіліся погляды вучонага на мову, на розныя гістарычныя падзеі. Тарашкевіч каларытна пераклаў падрадковыя заўвагі самога Міцкевіча (на жаль, не ўсе). Таму ў гэтым выданні па магчымасці захаваны каментарыі, якімі суправаджаецца пераклад. Праўкі ў іх (за выключэннем арфаграфічных) не рабіліся.

Такім чынам, каментарыі да перакладу маюць складаны характар. Гэта перш за ўсё заўвагі самога А. Міцкевіча, абазначаныя (як і ў рускім выданні 1949 г.) у дужках ініцыяламі А. М. Калі

гэтыя заўвагі перакладзены Б. Тарашкевічам, то ўслед за літарамі А. М. пастаўлены ініцыялы Б. Т. Тымі ж ініцыяламі адзначаны ўсе каментарыі, якія ідуць ад перакладчыка. Пры ацэнцы іх нельга не ўлічваць, што пісаліся яны ў турме, без адпаведных даведнікаў — тут перакладчыку прыходзілася абапірацца пераважна на ўласную памяць. Адсюль — некаторая скупасць каментарыяў, адсутнасць пры характарыстыках гістарычных асоб дат нараджэння і смерці (каб не выклікаць разнабою, гэтыя даты апушчаны і ў выдавецкіх каментарыях).

Урэшце, пры падрыхтоўцы рукапісу да друку ўзнікла неабходнасць растлумачыць некаторыя паняцці і словы (напрыклад, паланізмы), якія здаваліся перакладчыку зразумелымі. Ініцыялы пасля такіх заўваг адсутнічаюць.

Трэба падкрэсліць, што паколькі гэта выданне перш за ўсё разлічана на спецыялістаў, літаратуразнаўчы каментарый зведзены ў ім да мінімуму. Пры неабходнасці адпаведныя тлумачэнні можна знайсці ў рускім выданні паэмы 1949 г. або ў спецыяльнай літаратуры.

## ПАН ТАДЭВУШ, АБО АПОШНІ ЗАЕЗД НА ЛІТВЕ *

* За часоў Польскай Рэчы Паспалітай выкананне судовых выракаў было дужа труднае ў краі, дзе выканаўчая ўлада не мела блізка што ніякай паліцыі пад сваім загадам, а вяльможныя грамадзяне трымалі надворныя палкі, некаторыя нават, як князі Радзівілы, па колькі сот тысяч войска. Таму жальбіт, зыскаўшы дакрэт, мусіў па выкананне звяртацца да рыцарскага стану, знача, да шляхты, якая мела і выканаўчую ўладу. Збройная радня, прыяцелі і аднапаветнікі выбіраліся з дакрэтам у руках і ў таварыстве возні нага здабывалі (часта не без праліцця крыві) маёмасць, прысуджаную жальбіту, якую возны законным парадкам перадаваў альбо аддаваў на ўладанне. Такое збройнае выкананне дакрэту называлася **заездам**. У даўных часах, пакуль шанавалася права, найвялікшыя паны не смелі супраціўляцца выракам; рэдка здараліся збройныя напасці, а насільства блізка што ніколі не заставалася бяскарным. Ведамы з гісторыі сумны канец князя Васіля Сангушкі і Стадніцкага, празванага Чартом. Сапсуццё публічных абычаяў у Рэчы Паспалітай памножыла (колькасць) заездаў, якія ўсцяж мяшалі супакойнасці Літвы (А. М., Б. Т.).

### БЫЛІЦА ПЕРШАЯ

[1] Трыбунал — суд апошняй інстанцыі, устаноўлены ў Рэчы Паспалітай у 1570 г. для Вялікапольшчы (г. Пётркаў) і Малапольшчы (г. Люблін). Па гэтаму ўзору з 1581 г. у Вялікім княстве Літоўскім дзейнічаў свой трыбунал, які па чарзе засядаў у Вільні і Гродна. Пасада вознага далей у каментарыях ахарактарызавана самім паэтам.

[2] Літвой Міцкевіч называе ў адпаведнасці з тагачаснай традыцыяй таксама сваю родную Навагрудчыну, якая ўваходзіла раней у склад Вялікага княства Літоўскага.



[3] Усе ў Польшчы ведаюць цудоўны абраз святой дзевы на Яснай Гары ў Чанстахове. У Літве слывуць цудамі абразы святой дзевы Астрабрамскай у Вільні, Замкавай — у Навагрудку, а таксама Жыровіцкай і Барунскай (А. М.).

[4] Міцкевіч расказваў свайму сябру А. Адынцу, як ён у дзяцінстве «выкуліўся з акна і не падаваў прыкмет жыцця», пакуль маці не «даручыла» яго «літасці» Замкавай святой дзевы ў Навагрудку.

[5] Міцкевіч верыў у хуткае вяртанне палітычных эмігрантаў, да якіх належаў і сам, на вызваленую радзіму (знамянальна, што ў гэтым радку першапачатковае «мяне» ў канчатковым варыянце было заменена на «нас»), спадзяваўся, што неўзабаве ў Еўропе адбудзецца вялікі палітычны пераварот. Але ўжо ў час напісання паэмы гэта вера прымала містычную, месіяністычную афарбоўку. Надзеі ўскладаліся на «цудоўнае» ўмяшанне ў ходу гісторыі нябеснай наканаванасці.

[6] Падзеі ў паэме адбываюцца ў Сапліцове, шляхецкім двары, які, паводле адных даследчыкаў, нагадвае Чомбраў, дзе нарадзілася маці паэта, паводле другіх, тут выкарыстаны рэаліі шляхецкага засценка Сапліцы, які знаходзіўся непадалёку ад Завосся і Тугановіч (тапаграфія ў паэме зменена). Мясціны, названыя ў «Пане Тадэвушы», у пераважнай большасці існуюць (або існавалі) на Навагрудчыне.

[7] Галоўны герой названы Тадэвушам у гонар Касцюшкі. Чамарка — верхняя мужчынская вопратка, якую насілі сяляне ў Польшчы.

[8] Райтан Тадэвуш — пасол у сойм з Навагрудскага ваяводства, пратэставаў проці раздзелу Польшчы і закончыў жыццё самагубствам (Б. Т.).

[9] «Федон» — названне твора грэчаскага філосафа Платона аб несмяротнасці душы (Б. Т.).

[10] Катон — надта заўзяты рымлянін; не хочучы здацца на ласку ворагаў, закончыў жыццё самагубствам. Пра жыццё Катона пісаў Цыцэрон, вядомы аўтар (Б. Т.).

На самай справе на карціне, якая апісана ў гэтай сцэне, Райтан паказаны з кнігай «Жыццё Катона» грэчаскага гісторыка Плутарха.

[11] Ясінскі Якуб — польскі паэт-якабінец, паплечнік Т. Касцюшкі, адзін з арганізатараў паўстання 1794 г. у Літве і Беларусі.

[12] Карсак Тадэвуш — віленскі земскі суддзя, удзельнік паўстання 1794 г.

[13] Тут і далей слова «маскаль» ужываецца Міцкевічам у значэнні «прадстаўнік царскай улады», «салдат царскай арміі». Да рускага ж народа паэт адносіўся з вялікай павагай і сімпатыяй, аб чым сведчыць хаця б вобраз Рыкава ў «Пане Тадэвушы».

[14] Прага — прадмесце Варшавы. Абараняючы яго ад царскіх войск, у 1794 г. тут загінулі згаданыя вышэй Я. Ясінскі і Т. Карсак.

[15] Алькова — спальня, ніша для ложка.

[16] Дамброўскі Ян Генрык — вядомы дзеяч польскага нацыянальна-вызваленчага руху. Мазурка Дамброўскага — песня, якую ў 1797 г. склаў для яго легіёнаў Юзаф Выбіцкі. Потым стала нацыянальным гімнам Польшчы.

[17] Тамаш Зан, адзін з сяброў паэта, сцвярджаў, што ў сцэне,

калі Тадэвуш выпадкова трапляе ў дзявочы пакойчык Зосі, Міцкевіч выкарыстаў свае юнацкія ўражанні ад першага прыезду ў Туганавічы на Навагрудчыне, дзе таксама памылкова зайшоў у пакой сваёй будучай нарачонай Марылі Верашчака.

[18] Лабудздзя — лебядзіная.

[19] Царскі ўрад у здабытых землях ніколі адразу не разбурае правы і грамадзянскія ўстановы, але паволі падкопвае і падточвае іх указамі. У Маларасіі, напрыклад, аж да апошніх часоў прытрымліваліся Літоўскага Статута, які быў адменены ўказам. Літве пакінулі ўсю даўнейшую сістэму грамадзянскіх і крымінальных судоў. Таму па-ранейшаму тут выбіраюцца земскія і гарадскія суддзі ў паветах і галоўныя суддзі ў губернях. Але паколькі апеляцыі скіроўваюцца ў Пецярбург, у многія інстанцыі розных ступеней, таму ў мясцовых судоў засталася толькі цень даўнейшай традыцыйнай павагі (А. М.).

У паэме гаворка ідзе пра ўладальніка Сапліцова — земскага суддзю, які выбіраўся шляхтай. Маларасіяй Міцкевіч называе тут украінскія землі, якія адыйшлі да Расіі пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай.

[20] Войскі (tribunus) бываў калісь апекуном жанок і дзяцей шляхты ў часе паспалітага рушэння. Здаўна ўжо гэты ўрад без абавязкаў зрабіўся тытулярны. У Літве звычайна паважаным асобам дзеля ветласці даецца нейкі стары тытул, які ўжываннем упраўняецца. Імянуюць, прыкладам, суседзі свайго прыяцеля абозным, стольнікам або падчашым спачатку толькі ў гутарках і ў карэспандэнцыі, а затым ужо і ў актах урадавых. Расійскі ўрад забараняў падобных тытулаў і стараўся іх асмяшыць, а на іх месца ўвесці тытулаванне паводле рангаў сваей іерархіі, да якой літвіны дагэтуль маюць вялікую неахвоту (А. М., Б. Т.).

[21] Пударман, пударманталь — балахон палатняны ад пылу (Б. Т.).

[22] Веле (польск.) — многа.

[23] Лічна (польск.) — шматлікае.

[24] Пагранічны (падкаморскі) суд разглядаў спрэчныя справы, звязаныя з межамі землеўладанняў. На чале пагранічнага суда стаяў (да 1810 г.) падкаморы.

[25] Падкаморы, калісь высокі і важны ўрадовец, princeps nobilis, пад расійскім урадам зрабіўся толькі тытулярным. Судзіў яшчэ часамі гранічныя справы, але ў канцы і гэта права страціў. Цяпер заступае часам маршалка і назначае каморнікаў, знача павятовых землямераў (А. М., Б. Т.).

[26] Землянін — земляроб.

[27] Дазорца (польск.) — сторaж, у гэтым кантэксце — гувернёр.

[28] Кантуш (кунтуш) — багаты ўбор польскіх паноў, пераняты імі ад венграў пры каралі Баторыі (Б. Т.).

[29] Возны або генерал, выбраны трыбунальскай альбо судовай пастановай з аседлай шляхты, разносіў позвы, абвяшчаў уводзіны, рабіў меснае дазнанне і г. д. Звычайна дробная шляхта настаўлялася на гэты ўрад (А. М., Б. Т.).

[30] Існуюць меркаванні, што, апісваючы даўні замак Гарэшкаў, Міцкевіч апісаў Мірскі замак. Гарэшка — беларуская форма польскага прозвішча Ажэшка. З Ажэшкамі Міцкевічаў звязвала дальняе сваяцтва.

[31] Секвестр — канфіскацыя маёмасці.

[32] Палестра — адвакаты, судовыя чыноўнікі.

[33] Па кудзелі — сваяцтва па маці (у адрозненне ад сваяцтва па мячу — па бацьку).

[34] Рэфектар — абедзенная зала ў кляштары.

[35] Гербоўныя клейноты — выявы родавых гербаў.

[36] Паўкозіч — казярог. На гербе Гарэшкаў — галава асла на чырвоным фоне, а над шчытом герба (у выглядзе шлема) — палавіна казы.

[37] Квастар — збірае квэсту, г. ё. падаянкі на манастыр; барнадын — манах барнардынскага ордэна (Б. Т.).

[38] Тыкеле — толькі; ужываецца рэдка, паміж іншым у Фр. Багушэвіча (Б. Т.).

[39] Бат — пуга (Б. Т.).

[40] Венгрын — венгерскае віно (Б. Т.).

[41] У Рэчы Паспалітай існаваў звычай пасылаць дзяцей шляхты на выхаванне да магнатаў. З сярэдзіны XVIII ст. гэты звычай адмірае. Вайвода (ваявода) — вышэйшы саноўнік у Рэчы Паспалітай.

[42] Усцівасць (польск.) — добрасумленнасць.

[43] Веспасыян — рымскі імператар (69—79 г. н. э.) налажыў падатак на публічныя адходныя месцы, гаворачы: грошы не смярдзяць! (Б. Т.).

[44] Рэчы (руск.) — прамовы.

[45] Фамілія — сям'я.

[46] Гарда (арда) — арганізацыя качуючых народаў; нагайцы — татарскае племя з-над Волгі і Азоўскага мора, пусташыўшае не раз землі В. Кн. Літоўскага (Б. Т.).

[47] Падкаморы тут агульна асуджае заходнееўрапейскія ўплывы часоў Асветніцтва. Як вядома, у гэтых уплывах было і станоўчае, і адмоўнае.

[48] Падчашыц — сын падчашага; падчашы — прыдворны тытул (Б. Т.).

[49] Рарог — з сямейства ястрабаў. Ведама, што за ястрабам, каршуном дробныя птушкі, асабліва ластаўкі, уганяюцца натоўпам. Стуль і (польская) прыказка: лятаюць, як за рарогам (А. М., Б. Т.).

[50] Карыулька (франц. carriole) — павозка (Б. Т.).

[51] Кельняй праз сходнасць з мулярскім начыннем называлася задняя часць павозкі, прызначаная для лакея (Б. Т.).

[52] Гарбайталь (нямецк. Haarbeutel) — сетка на валасы, на касу, якую насілі мужчыны (Б. Т.).

[53] Налпа — малпа.

[54] Пахваляйца — пахваляецца. Перакладчык ліча магчымым ужыць гэту скарочану форму ў вершы таму, што **часта яе** можна пачуць у жывым выгаворы (Б. Т.).

[55] Крамарня — крама.

[56] У перыяд першай буржуазнай рэвалюцыі ў Францыі кавярні (кафэ) былі месцам збораў палітычных партый і моцна ўплывалі на грамадскую думку.

[57] Намёк на гераічныя ўчынкі польскіх легіянераў у Іспаніі (1808), на вайну Варшаўскага княства з Аўстрыяй (1809).

[58] Грэкі і рымляне вянчалі галовы пераможных ваякаў, герояў і паэтаў ляўравымі вянкамі (Б. Т.).

[59] Прозвішча Чарвяк (у арыгінале — Робак) бернардзінскі манах прыняў, каб падкрэсліць сваю прыніжанасць, марнасць.

[60] «З-за Нёмана»— з Варшаўскага княства. У пачатку XIX ст. граніца паміж ім і Расіяй ішла па Нёману (ад Гродна да Прусіі).

[61] Па ўскосных звестках, прататыпам капітана Рыкава паслужыў генерал-лейтэнант Рыкаў, які выслужыўся з салдат. Міцкевіч пазнаёміўся з ім у Адэсе ў 1825 г.

[62] Сярод простага рускага народа нямала расказваецца пра чары Банапарта і Суворава (А. М.).

[63] Куц (польск.) — поні.

[64] Пуклі (польск.) — локаны, кудзеркі, буклі.

[65] Тронкі — чарон, чаранок (Б. Т.).

[66] Брабанцкі каронкі — слаўныя сваім хараством каронкі з бельгійскай правінцыі Брабант (Б. Т.).

[67] Асэсары твораць земскую паліцыю павета. Паводле ўказаў часамі іх выбіралі абываталі (паны), часам яны назначаліся ўрадам; гэтыя апошнія называліся каронныі. Апеляцыйныя суддзі завуцца таксама асэсарамі, але тутака не аб іх гаворка.

Рэенты актовыя загадуюць канцылярыяй, дакратовыя (пішуць) выракі, усе ж яны вызначаюцца з рукі судовых пісараў (А. М., Б. Т.).

[68] Стрый — дзядзька, брат бацькі (Б. Т.).

[69] Тастамант (польск.) — завяшчанне.

[70] Рараты — начное набажэнства перад калядамі (Б. Т.).

[71] Малярства (польск.) — выяўленчае мастацтва.

[72] Двурурка (польск.) — двухстволка.

[73] Туж-туж (польск.) — побач, блізка, вось-вось.

[74] Фаварытны — любімы (Б. Т.).

[75] Базылішак — род яшчаркі, у народных казках-легендах мае від пеўня або індыка са змяіным хвастом, погляд яго лічыцца забойчым (Б. Т.).

[76] Фаварыты — бакі (Б. Т.).

[77] Станіслаў Панятоўскі — апошні польскі кароль (Б. Т.).

[78] Ваша, вашэць, вашэця — старабеларускія звароты да паважаных асоб.

[79] Зданне (польск.) — меркаванне.

[80] Мысліўцы (польск.) — паляўнічыя.

[81] Каншахты (польск.) — закулісныя перагаворы, махінацыі.

[82] Райтан Міхал — вядомы на Навагрудчыне паляўнічы (XVIII ст.).



[83] Граф Юзаф Несялоўскі, апошні навагрудскі ваявода, быў старшынёй рэвалюцыйнага ўрада ў час паўстання Ясінскага (А. М.).

[84] Варонча — вёска на Навагрудчыне (цяпер Карэліцкі раён), калісьці багатая рэзідэнцыя Несялоўскіх. У варанчанскім двары было мноства сетак для асочвання звяроў у час палявання.

[85] Ежы Белапятровіч, апошні пісар В. кн. Літоўскага, актыўна ўдзельнічаў у паўстанні Літвы пад кіраўніцтвам Ясінскага. Ён судзіў дзяржаўных злачынцаў у Вільні. Дзеяч, вельмі паважаны ў Літве за свае дабрачыннасці і патрыятызм (А. М.).

[86] Лех — легендарны заснавальнік польскай дзяржавы, брат Руса і Чэха. Выражэнне «ад караля Леха» адпавядае ўсходнеславянскаму «ад цара Гароха».

[87] Амбарас — клопат (Б. Т.).

[88] У Слуцку была фабрыка залатога шыцця і літых паясоў, славутая на ўсю Польшчу і ўдасканаленая стараннем Тызенгаўза (А. М.).

Міцкевіч тут недакладны: А. Тызенгаўз заснаваў фабрыку паясоў у Гродна; слуцкая ж належала Радзівілам, удасканаліў жа яе ў сярэдзіне XVIII ст. Я. Маджарскі.

[89] Войскі наладзіў вячэру ў замку не выпадкова: тым самым Сапліцы набывалі юрыдычнае права на гэту пабудову.

[90] Ваканда, вузкая, прадаўгаватая кніжачка, у якой запісвалі прозвішчы цяжабных асоб у парадку разгляду спраў. Кожны адвакат і возны павінен быў мець такую ваканду (А. М.).

[91] У гэтым пераліку названы сапраўдныя працэсы (напрыклад, Рымшы з даміііканцамі) і надуманыя, дзе аўтар выкарыстаў прозвішчы сваіх знаёмых і сяброў (напрыклад, Ф. Малеўскага).

[92] Тут і далей гаворка ідзе пра ваенныя паходы «бога вайны» Напалеона Банапарта. «Залатыя арлы» — эмблемы французскіх войск, «сярэбраныя арлы» — польскіх.

[93] Ламбардская раўніна ў паўночнай Італіі (Б. Т.).

[94] Генерал Князевіч, высланы італьянскай арміяй, склаў перад Дырэкторыяй здабытыя ў баі сцягі (А. М.).

[95] Князь Ябланоўскі, які камандаваў Наддунайскім легіёнам, памёр на Сан-Дамінга, дзе загінуў амаль увесь легіён. У эміграцыі засталося некалькі ветэранаў, якія ўцалелі ад таго няшчаснага паходу, паміж іншымі — генерал Малахоўскі (А. М.).

Заўвага Міцкевіча не зусім дакладная. Генерал Ул. Ябланоўскі камандаваў на Сан-Дамінга не польскімі легіёнамі, а французскай паўбрыгадай. Легіянеры ж, якіх французскі ўрад выкарыстаў у сваіх каланізатарскіх мэтах, спачатку знаходзіліся пад французскім камандаваннем, і толькі потым каманду над імі прыняў К. Малахоўскі.

[96] Называюцца сапраўдныя прозвішчы.

[97] Шкаплер (польск.) — ладанка.

### БЫЛІЦА ДРУГАЯ

[1] Лайба — вялікая парусная лодка, звычайна з дзвюма мачтамі. Ужывалася для сплаву тавараў па Нёмане.

[2] Груда знача не толькі замерзшая зямля, але і цвёрдая зямля наогул, часта ўзгорак; параўнай: грудзі, града (Б. Т.).

[3] «Surge, puer!» (лац.) — «Уставай, хлопча!» Зварот, узяты са школьнай граматыкі. Ім звычайна будзілі вучняў, якія не спяшаліся ісці ў школу.

[4] Некрут — рэкрут.

[5] Ліберыя — мундзер панскіх слугаў, лякаёў (Б. Т.).

[6] Галён — абшыццё (Б. Т.).

[7] Шчэрба (польск.) — рубец, шрам, рыса.

[8] Тасемка, тасьма (польск.) — стужка, галун.

[9] Мяшканне (польск.) — жыллё, кватэра.

[10] Нудна (польск.) — сумна.

[11] Няхай рача — няхай захоча: выражэнне пашаноты і ўніжанасці (Б. Т.).

[12] Ражонкі — гульня ў палкі, кійкі (Б. Т.).

[13] Бахмат — татарскі конь (Б. Т.).

[14] У старых замках ставілі на хорах арган (А. М.).

[15] Судны дзень — біблейскі канец свету.

[16] Прымас — першая асоба, начальнік касцёла ў Польшчы, гнезненскі архібіскуп. Віват — няхай жыве (Б. Т.).

[17] «Кахаймася» («Любімося») — традыцыйны шляхецкі тост.

[18] Цугі — панскія ўпражкі (Б. Т.).

[19] Кружганак (польск.) — галерэя, ганак.

[20] Правіца — правая рука.

[21] Стольнік — прыдворны вяльможа, калісь служыў каралю пры стале (Б. Т.).

[22] Ласне (польск.) — дарэчы, якраз.

[23] Лоўчына — жонка лоўчага.

[24] Кашталян (лац.) — начальнік абароннага горада. (Б. Т.).

[25] Вуй — дзядзька, брат маткі (Б. Т.).

[26] Палівода — задзіра, чалавек, здольны на ўсё (можа запаліць ваду).

[27] Чорная юшка, пададзеная за сталом панічу, які заляцаўся да дзяўчыны, абазначала адмову ў залётах (А. М.).

[28] У часе Касцюшкі — у 1792—1794 гг.

[29] Канстытуцыя, прынятая польскім соймам 3 мая 1791 г., давала пэўныя прывілегіі і правы мяшчанству і мела зарганізаваць адпор проці раздзелу Польшчы, гэтай ролі яна не споўніла, блізка зусім не змяніўшы цяжкога палажэння сялянства (Б. Т.).

[30] Пробаршч — ксёндз, які ўзначальвае парафію.

[31] Гайдукі — прыдворная служба, апранутая па-венгерску.

[32] Пешкі — пехацінцы, салдаты.

[33] Скарбец — памяшканне, у якім захоўваюцца каштоўнасці (скарб).



[34] Крэслы — сенатарскія, стугі, стужкі — ордэнаў, булавы — гетманскія (Б. Т.).

[35] Абмакванне рапіры (мяча) у крыві ахвяры з'яўлялася характэрнай прыкметай родавай помсты.

[36] У арыгінале — «як пячкур упёкся» (печкуроў пяклі і смажылі жывымі).

[37] Бургграф — стражнік замка (Б. Т.).

[38] Шкоц'я — Шатландыя.

[39] Лёрд — ангельскі арыстакратычны тытул: пан, вяльможа (Б. Т.).

[40] Шпада (польск.) — шпага.

[41] Кіпрыс — высокае стройнае дрэва ў цёплых краёх (Б. Т.).

[42] Каберац — дыван (Б. Т.).

[43] На шнуры, якім падпяразваліся манахі-бернардзінцы, былі вузлы, што зваліся «агуркамі».

[44] Таца (польск.) — паднос.

[45] Віціны — гэта вялікія лайбы на Нёмане, якімі ліцвіны вядуць гандаль з Прусамі, сплаўляючы збожжа і беручы на замену каланіяльныя тавары (А. М., Б. Т.).

Каланіяльныя тавары — бакалейныя тавары.

[46] Мокка — арабская кава, найлепшая (Б. Т.).

[47] Набел — малочныя прадукты.

[48] Пасяканы (польск.) — пакрышаны.

[49] Каноны — касцельныя законы (Б. Т.).

[50] Барбарынства (польск.) — варварства.

[51] Бюрка, бёрка (польск.) — пісьмовы стол, у гэтым выпадку — секрэтэр.

[52] Сапраўднае старажытнарускае прозвішча.

[53] Альтэрацыя — нервовы ўдар (Б. Т.).

[54] Пальпітацыя — біццё сэрца (Б. Т.).

[55] Польскі варыянт сапраўднага рускага прозвішча Казадаўлеў.

[56] Егермайстар загадуе ловамі, паляваннем (Б. Т.).

[57] Памфіль — самая важная карта пры гульні ў мар'яша.

[58] Велькапольшча (Вялікапольшча) — заходняя частка Польшчы, захопленая ў XVIII ст. Прусіяй.

[59] Швабы — немцы, прусакі.

[60] Драб — пешы салдат, у гэтым кантэксце — паліцэйскі.

[61] Матыў, каторы паўтараецца ў беларускай шляхецкай літаратуры, прыкладам у Марцінкевіча: паны добрыя, а толькі благія аканомы (Б. Т.).

[62] Рах, рах vobiscum! (лац.) — мір з вамі! (Б. Т.).

[63] Мніх (польск.) — манах.

[64] Лёска — палка, кій (Б. Т.).

[65] Майца — маецца (Б. Т.).

[66] У арыгінале — Тараевіча. Тараевічы — сям'я, якая была ў сяброўскіх адносінах з Міцкевічамі.

[67] Злота, срэбра — заместа золата, серабро — паланізмы, якія даволі часта спатыкаюцца ў народнай творчасці (Б. Т.).

[68] Спрат (польск.) — рэч, прадмет.

[69] Кн. Дамінік Радзівіл, вялікі ахвотнік палявання, эміграваў у княства Варшаўскае і паставіў уласным коштам полк язды, каторай камандаваў. Памёр у Францыі. Па ім згасла мужчынская лінія князёў на Алыцы і Нясвіжы, найвялікшых князёў у Польшчы і хіба ў Еўропе (А. М., Б. Т.).

[70] Сангушкі — магнацкі род у Літве і Беларусі. Цяжка сказаць, пра якога канкрэтна Сангушку тут ідзе гаворка.

[71] Меен адзначыўся ў нацыянальнай вайне пры Касцюшцы. Дагэтуль паказуюць пад Вільняй Меенаўскія акопы (А. М., Б. Т.).

[72] Купіск — вёска на Навагрудчыне.

[73] Балонь — раўніна, поле (Б. Т.).

[74] Важар — палкаводзец.

[75] Звыцяствы (польск.) — перамогі.

[76] Збірайцеся — збіраецеся (Б. Т.).

[77] Каралёвы (польск.) — цёмна-чырвоны.

[78] Замер (польск.) — намер.

## БЫЛІЦА ТРЭЦЯЯ

[1] Балок або болак — правільныя і жывыя беларускія формы, а ўжываныя даволі часта. Аблок — паланізм, облак — царкоўнаславянізм (балгарызм) (Б. Т.).

[2] Атвор (польск.) — адтуліна, шчыліна.

[3] Эпоха (грэц.) — нейкае здарэнне, ад якога пачынаецца пераломy падзеях, або — інкаш — працяг часу, які вырознюецца сваім асаблівым характарам. Тут гэта слова ўжыта ў іранічным, жартаўлівым сэнсе (Б. Т.).

[4] Дроб (польск.) — хатнія птушкі.

[5] Аўраоля (польск.) — арэол.

[6] Ангельская (англійская) трава — дэкаратыўная расліна з вузкім і доўгім лісцем.

[7] Шчыр — аксамітнік, дэкаратыўная расліна з цёмна-чырвонымі кветкамі.

[8] Сляз — мальва.

[9] Кітка — пук, вязка.

[10] Амальтэя — міфалагічная (казачная) каза, якая сваім малаком выкарміла грэцкага бога багоў Зявеса; за тое ён памясціў яе паміж зоркамі, а рог яе, напоўніўшы масай сліны, падараваў німфам (ніжэйшага сорту багіні, у родзе русалак) (Б. Т.).

[11] Ваганне (польск.) — нерашучасць, няпэўнасць.

[12] Дзед — тут у значэнні жабрак.

[13] Акрутны (польск.) — жорсткі.



[14] Скіўненне (польск.) — ківок (галавой).

[15] У гэтай і ў іншых прамовах Графа паэт жартуе з стылю псеўдакласічных паэтаў, якія падрабляліся пад манеру старавечных грэкаў і рымлянаў, пагарджаючы простай мовай і простымі жывымі выражэннямі (Б. Т.).

[16] Рок (польск.) — год.

[17] Шпалер — прысада з дрэў або кустоў.

[18] Кукобіць (дыял.) — галубіць, пяшчотна дакранацца.

[19] Ліна (польск.) — канат, вяроўка.

[20] Паводле грэцкай міфалогіі, душы памёршых сноўдаліся ў відзе ценяў па падземных Елісейскіх палёх (Б. Т.).

[21] Гапанча — плашч (Б. Т.).

[22] Паводле біблейскай міфалогіі, чысцец — месца пакарання за нязначныя грахі (у адрозненне ад пекла).

[23] Насечнік — насякомае.

[24] Ведама ў Літве народная песня аб грыбох, што ідуць на вайну пад камандай баравіка. У гэтай апісаны прыкметы ядомых грыбоў (А. М., Б. Т.).

Ёсць адпаведная песня і літоўская, і беларуская. Трудна сказаць, якую паэт меў на ўвазе, а можа, ведаў абедзве (Б. Т. ).

[25] Сцігаваць (польск.) — ганяцца, высочваць.

[26] Ляйкі — гаварушкі шэрыя.

[27] Белякі — падгрузды.

[28] Саксонскі — з саксонскага фарфору.

[29] Крываўнік — сердалік, чырвоная охра, каштоўны камень чырвонага колеру.

[30] Вэліновы папер — гладкі, цвёрды, белы (Б. Т.).

[31] Балонка — старонка.

[32] Алебастравы — тут у значэнні матавы.

[33] Караль — тое, што і крываўнік.

[34] Дроп — драфа, буйная стэпавая птушка.

[35] Галка сланова — набалдашнік з слановай косці.

[36] Фартуна, фартунка (польск.) — тут у значэнні маёмасць.

[37] Легіёны — войска Варшаўскага княства.

[38] Партыя — добрая, падабраная шлюбная пара.

[39] Парантэля — радня (Б. Т.).

[40] Грэчкасей — земляроб, заняты толькі сваёй гаспадаркай.

[41] Палестрант — судовы ці адвакацкі практыкант (Б. Т.).

[42] Дзісейшы (паланізм) — сягонняшні (Б. Т.).

[43] Ваяжор (франц.) — падарожнік (Б. Т.).

[44] Фундуш (польск.) — капітал, грашовыя сродкі.

[45] Сумка — сума грошай.

[46] Марыяш (франц.) — шлюб, вяселле.

[47] Пястунка — тут у значэнні выхавацельніца, няня.

[48] Удабрухацца (польск.) — супакоіцца, зрабіцца лагодным.

[49] Не гадзіцца — не варта, не належыць.

[50] Букаты камень — выпуклы камень (параўн. букатка хлеба, бохан, бухнуць, пухнуць) (Б. Т.).

[51] Абсталюнак — заказ (Б. Т.).

[52] Гледзішча — сцэна, карціна (Б. Т.).

[53] Мадэль — узор (Б. Т.).

[54] Тыбур — цяпер Ціволі, недалёка ад Рыму (Б. Т.).

[55] Паўзыліп — слаўная пячора недалёка ад Неапалю (Б. Т.).

[56] Шкелікі — наруглівыя жарты (Б. Т.).

[57] Менада — жанчына з кампаніі вясёлага грэцкага бажка Дыяніса Вакха (бог віна); у часе яго паходаў менады ішлі з лёскамі (палкамі), прыбранымі блюшчам і віном (вінаградам) (Б. Т.).

[58] Адружана — заручана (Б. Т.).

[59] Памеранцы — апельсінавыя дрэвы, цытрыны — лімонныя дрэвы, фігі — фінікі.

[60] Батанічны гарод — батанічны сад (Б. Т.).

[61] Сферы ідэалу — краіны летуцення, выдуманага хараства (Б. Т.).

[62] Брэйгелі — сям'я нідэрландскіх мастакоў XVI—XVII стст.: Пітэр і яго сыны: Пітэр і Ян.

[63] Ван дэр Хэлле—Пітэр Брэйгель-малодшы, які атрымаў гэту мянушку («пякельны») таму, што часта маляваў сцэны пекла.

[64] Руйсдаль Якоб — галандскі мастак XVII ст.

[65] Вядомы мастак-жанрыст; за некалькі год да смерці пачаў маляваць пейзажы. Памёр нядаўна ў Пецярбургу (А. М.).

[66] Шкіц (польск.) — малюнак, накід алоўкам.

[67] Балён (польск.) — паветраны шар.

[68] Шчогла — мачта (Б. Т.).

[69] Тут Б. Тарашкевіч уставіў выпадковае слова, якое потым, відаць, меркаваў замяніць на адпаведнік польскага слова «матэчнік».

[70] Занёманская пушча — Налібоцкая пушча.

[71] Шарварк (нямецк.) — праца пры дарогах, мастах і п. (Б. Т.).

[72] Акульбачыць — асядлаць (Б. Т.).

[73] Піяўкі — парода англійскіх сабак, малых, але моцных, яны служаць для палявання на буйнога звера, асабліва на мядзведзя.

Спраўнік, або капітан-спраўнік — начальнік земскай паліцыі. Страпчы — накшталт урадавага пракурора. Гэтыя чыноўнікі, маючы часта магчымасць злоўжываць уладай, выклікаюць у грамадзян вялікую агіду (А. М.).

[74] У арыгінале — «па-руску». Так было першапачаткова і ў перакладзе, але потым рукой Тарашкевіча выпраўлена на «па-беларуску».

[75] Сангушкоўскі — атрыманы ад князя Сангушкі.

[76] Тасак — доўгі і вельмі шырокі нож.

[77] Плябан (клябан) — парафіяльны ксёндз.



[78] Афэрта (польск.) — прапанова; тут — у значэнні набажэнства.

[79] Св. Губэрт — патрон паляўнічых (Б. Т.).

[80] Выцяг — выцягнуў; першая форма рэдкая (Б. Т.).

[81] Чапуля — ланцужок.

[82] Гаёвы — ляснік (Б. Т.).

[83] Шацёр — палатка (Б. Т.).

[84] Прарвацца (польск.) — перапыніцца.

## БЫЛІЦА ЧАЦВЕРТАЯ

[1] Папілёты — скрутулькі паперы, на якія навіваліся валасы (Б. Т.).

[2] Эмісар — тайны палітычны пасланец. Напалеонаўскія эмісары з'явіліся ў Літве і Беларусі ў 1808 г.

[3] Матачнік — глыбокія нетры пушчы, дзе захаваліся спрадвечныя дрэвы, выводзяцца і гінуць натуральнай смерцю дзікія звяры. Апісваючы матачнік, Міцкевіч выкарыстаў беларускія народныя легенды.

[4] Стрэльбы названы ў адпаведнасці са сваім паходжаннем.

[5] Аднарурка — аднастволка.

[6] Бігос — тушаная капуста з мясам.

[7] Панары — горы пад самой Вільняй, цяпер ужо голыя, а лясы з іх даўно ўжо сплылі ў Прусію; Белавежа — дагэтуль аканчальна не знішчожана праз сваю недаступнасць; Свіцязь — прыгожае возера ў Навагрудчыне; Кушалева — таксама ў Навагрудчыне (Б. Т.).

[8] Вітан — в. кн. Літвы (1293—1316), ваяваў з крыжакамі і з Польшчай (Б. Т.).

[9] Міндова (Міндоўг) — кароль Літвы ў XIII в. (Б. Т.).

[10] Вож — палкаводзец, правадыр.

[11] Гедымін — в. кн. Літвы (1315—1341), бацька Кейстута і дзед Ягайлы, заснаваў Вільню (Б. Т.).

[12] Ліздэйка — апошні вярхоўны язычаскі жрэц Літвы.

[13] Тут у Міцкевіча недакладнасць: Панары знаходзяцца даволі далёка ад Вілейкі. На самай справе гаворка ідзе пра гару, якую сёння называюць гарой Гедыміна (ля ўпадзення Вілейкі ў Вілію).

[14] Паводле традыцыі, в. кн. Гедымін меў сон на Панарскай гары аб жалезным ваўку і за радай вайдалоты (жраца) Ліздэйкі заснаваў места Вільню (А. М., Б. Т.).

[15] Ваўчыца нібыта выкарміла Ромула і Рэма, якія залажылі Рым (Б. Т.).

[16] Кейстут і Альгерд — вялікія літоўскія князі (XIV ст.).

[17] Жыгімонт Аўгуст быў падняты старым абычаем на сталіцу Вялікага Літоўскага княства; прыпаясаў меч і каранаваўся каўпаком. Дужа любіў паляванне (А. М., Б. Т.).

[18] Прамыслівы (польск.) — хітры.

[19] У Расенскім павеце ў памесці Пашкевіча, земскага пісара, рос дуб, ведамы пад іменем Баўбліса, калісь, у паганскія часы, уважаны за святасць. У сярэдзіне гэтага выгніўшага волата Пашкевіч залажыў габінет літоўскіх старасвечнасцей (А. М., Б. Т.).

[20] Непадалёку ад навагрудскай фары раслі старажытныя ліпы, якіх многа высеклі каля 1812 года (А. М.).

[21] У маёнтку Галавінскіх над Россю (правы прыток Дняпра) Міцкевіча гасцінна прымалі ў лютым 1825 г.

[22] Ян Каханоўскі з Чарналесся — выдатны польскі паэт (1530—1584) (Б. Т.).

[23] Гл. паэму Гашчынскага «Замак Канеўскі» (А. М.).

[24] Дрыяда — грэцкая німфа (русалка), якая жыве ў дрэве (Б. Т.).

[25] Пук (польск.) — бутон кветкі.

[26] Райводзе — водзіць рэй, кіруе.

[27] Тыр — горад старавечнай Фінікіі (проці Палестыны) (Б. Т.).

[28] Ноева скрыня — біблейскі Ноеў каўчэг.

[29] Гірам, кароль Тыру, паставіў вялікія будоўлі; ягоныя цеслі працавалі і ў Саламона. Фантазія некаторых выводзе і брацтва франк-масонаў (вольных каменшчыкаў) ад брацтва гірамаўскіх цесляў (Б. Т.).

[30] Сіён (Сіон) — свяшчэнны ўзгорак у Іерусаліме.

[31] Спічасты (польск.) — востраверхі.

[32] Шабас — яўрэйскае свята.

[33] Паэт памыляецца: цыцэсь, цыцэль — гэта фрэнзлі пры камізэльцы, а тут гаворка ідзе аб т. зв. дзесяцёра (божых прыказанняў), па-жыдоўску — тэфілім (Б. Т.).

[34] Рандар — арандатар.

[35] Скаржыць (польск.) — абвінавачваць, падаваць скаргу.

[36] Каламыйкі — русінскія песні накшталт польскіх мазурак (А. М.).

[37] Аўзоны — колішні назоў насельнікаў Італіі (Б. Т.).

[38] Маюцца на ўвазе легіёны Дамброўскага.

[39] Зыск (польск.) — барыш, даход, прыбытак.

[40] Дзяржава тут азначае, што арэнда (Б. Т.).

[41] Тамаваць старыя ўразы — спыняць (забываць) старыя сваркі (крыўды).

[42] Ганаровае месца, дзе раней ставілі хатніх багоў, дзе дагэтуль рускія вешаюць абразы. Там літоўскі селянін садзіць госця, якога хоча ўшанаваць (А. М.).

[43] Майначыць (дыял.) — ашукваць, змяняць, марнаваць.

[44] Мажджэры — малыя гарматкі, з каторых стралялі ў паноў на віват (Б. Т.).

[45] Reverendissime — найдастойнейшы, ксяндзоўскі тытул (Б. Т.).

[46] Крулёва (польск.) — каралева.

[47] Сызма (схізма) — праваслаўе.



[48] «Літоўскі Кур'ер» — польская газета, якая выдавалася ў 1797—1840 гг. у Вільні.

[49] Шляхта сцвярджала, што толькі яна «ад нараджэння» мае права быць свабоднай.

[50] Патэнты — дакументы, якія сведчылі аб шляхецкім паходжанні.

[51] Мітра — князёўская шапка (Б. Т.).

[52] Алюзія — намёк.

[53] Неафіта — пярэхрыст (Б. Т.).

[54] Стрыйкоўскі — польскі гісторык XVI в. (Б. Т.).

[55] Зажыць (польск.) — прыняць, адведаць, спрабаваць.

[56] Гданск быў узяты французскімі і польскімі войскамі 24 мая 1807 г.

[57] Выраз (польск.) — слова.

[58] Апісанні шляхецкіх гербаў.

[59] Вожкі — лейцы.

[60] Капота (польск.) — світка (Б. Т.).

[61] Сукмана — верхняя вопратка польскіх сялян.

[62] Тарататка — верхняя польская вопратка накшталт кафтана.

[63] Фрэнзлі (польск.) — махра.

[64] Фаска (польск.) — кадушачка, кадоўбчык.

[65] Наўзавады — навыперадкі.

[66] Змяшацца (польск.) — збянтэжыцца, сумецца.

[67] Некаторыя мясціны чацвертай песні належаць пяру Стафана Вітвіцкага (А. М.).

Сёння гэтыя мясціны добра вядомы, бо існуе арыгінал С. Вітвіцкага: 68 радкоў апісання лясных нетраў. Міцкевіч іх грунтоўна перапрацаваў.

[68] Курдуплыя (дыял.) — прысадзістыя, пакручастыя.

[69] Ройста (літ.) — балота, парослае хмызамі.

[70] Міцкевіч выкарыстаў тут беларускія народныя легенды пра лесавіка.

[71] Расамах — род ведзмядзя (Б. Т.).

[72] Дзюбы вялікіх драпежных птушак з часам усё больш скрыўляюцца і ўрэшце верхняе вастрыё, загнуўшыся, замыкае дзюбу і птушка мусіць паміраць з голаду. Гэта народнае паданне прынята некаторымі арнітолагамі (А. М.).

[73] Сапраўды не было выпадку, каб калі знайшлі шкілет здохлага звера (А. М.).

[74] Тут і далей парадзіруецца тэорыя Ж.-Ж. Русо аб тым, што цывілізацыя псуе людскія норавы.

[75] Збусаваны (дыял.) — жорсткі, сапсуты.

[76] Нурцаваць — даваць нырца.

[77] Радзелі — радаваліся (Б. Т.).

[78] Птушынкі — стрэльбы малога калібру, куды закладваюцца

дробныя кулі. Добрыя стралкі з такіх ружжаў падбіваюць птушак на ляту (А. М.).

[79] Папісвацца (польск.) — адзначыцца, праславіцца.

[80] Надпіс на стрэльбе ўзяты з тагачаснага анекдота.

[81] Запомніць (польск.) — забыць.

[82] Адвэт — помста, адплата (Б. Т.).

[83] Шарпантынка (лац. serpens) — закрыўленая змеявата шабля (Б. Т.).

[84] Вілейка, або Віленка, ўцякае ў Вяллю ў Вільні (Б. Т.).

[85] Абодва прозвішчы былі пашыраны на Навагрудчыне. Ігнат Дамейка, ураджэнец Мядзведкі (цяпер Карэліцкі р-н), быў сябрам Міцкевіча (потым стаў славутым вучоным).

[86] Дзельны (польск.) — адважны.

[87] Цынгель (нямецк.) — курок.

[88] Паядынак (польск.) — дуэль.

[89] Патынка — жаноцкі чаравік (Б. Т.).

[90] Апошне — апошняе. Сапраўды ж граф не апошняе патомства Гарэшкаў, бо ёсць яшчэ родная ўнучка Стольніка (Б. Т.).

[91] Лоўж — вялізная куча (Б. Т.).

[92] Грот — жалезнае вострае канцаўё пікі (Б. Т.).

[93] Пячэнне — тут у значэнні смажаніна.

[94] Ліквор (лац.) — вадкасць, тут — у сэнсе лікёр, настойка.

[95] У бутэльках гданскай гарэлкі бываюць на дне лісточкі золата (А. М.).

[96] Вогкі — вільготны (Б. Т.).

[97] Калатня — сварка; калатніцкія — тыя, хто сварацца.

[98] Крэска — голас.

[99] Кірэйка — шубка (Б. Т.).

[100] Накідзь (дыял.) — наканаванне.

[101] Нахвал (дыял.) — ухвальна, выдатна.

[102] Клеха — плех, ксёндз (Б. Т.).

[103] Разнічы (польск.) — зроблены мясніком.

[104] Публій Вергілій Марон — вядомы рымскі паэт, аўтар «Энеіды», травестацыя (смяшлівая пераробка) якой ёсць у беларускай мове (Б. Т.).

[105] Скочкі — зайчыя ножкі (Б. Т.).

[106] Аскарджаць (польск.) — абвінавачваць.

[107] Гала — каменне, галька.

[108] Маецца на ўвазе Публій Вергілій Марон.

[109] Каралева Дыдона загадала парэзаць валовую скуру на паясы і такім чынам акружыла скураю вялікае поле, дзе выставіла Картагу. Войскі вычытаў апісанне гэтага здарэння не ў «Энеідзе», а, пэўне, у каментарыях схаластаў (А. М., Б. Т.).

[110] Картага — Карфаген.

[111] Тарадайка — малая гаспадарская брычка (Б. Т.).



[112] Шматы (польск.) — ашмоцце, анучы.

[113] Ванелія — Евангелле.

[114] Маюцца на ўвазе зборы законаў (у тым ліку Літоўскі статут), якія забаранялі дуэлі.

[115] Дасконна — да скону, да смерці.

## БЫЛІЦА ПЯТАЯ

[1] Дыгнітар — вяльможа (Б. Т.).

[2] Тарнаваць (дыял.) — прахаджвацца.

[3] Пэрлы (польск.) — жэмчуг.

[4] Лакоткі (польск.) — прысмакі.

[5] Багіняй раскошы ў рымлян і грэкаў лічылася Венера (Афрадыта), перад ей ляцелі галубы (Б. Т.).

[6] Пялегаваць — кукобіць, няньчыць (Б. Т.).

[7] Запаліцца (польск.) — загарэць.

[8] Адправа — справа, з правага боку.

[9] Сястранка — пляменніца.

[10] Танчыць (польск.) — танцаваць.

[11] Сфіксавацца — звар'яцець.

[12] Відаць, Л. Ліманоўскім пры перапісванні прапушчаны наступны радок, дзе гаворыцца, што ля яліны быў вялікі муравейнік, населены руплівым мураўіным народам.

[13] Крэданс (польск.) — буфет, запасы харчоў.

[14] Інтрамітавацца — зрабіць законныя ўводзіны ва ўладанні (старасвецкі праўны тэрмін).

[15] Шпарагі (польск.) — спаржа.

[16] Аднойчы на сейме пасол П і л і п са спадчыннай вёскі К а н о п л і, узяўшы слова, так далёка адышоў ад сутнасці справы, што выклікаў сярод прысутных усеагульны смех. Адсюль з'явілася прымаўка: вырваўся, як Піліп з канапель (А. М.).

На самай справе Пiліпам у народзе называлі зайца. Міцкевіч прыдумаў тут гісторыю, адпаведную прымаўцы.

[17] Цвічыць (польск.) — вучыць, біць.

[18] Рываль (польск.) — супернік.

[19] Уліслядца (дыял.) — заляцацца.

[20] Згоршаны (польск.) — абураны.

[21] Зраніцы (польск.) — зрэнкі, вочы.

[22] Цэра (польск.) — колер скуры.

[23] Пегі (польск.) — рабаціннe.

[24] Шпегі (польск.) — шпіёны.

[25] Сціскла (польск.) — дакладна.

[26] Пярэймасць — ветлівасць, далікатнасць.

[27] Травіць — пeратраўляць, пераварваць.

[28] Уяўленне аб тым, што змеі здабываюць яд з траў, было пашырана сярод беларускага народа.

[29] «А слова сталося!» (рэліг.) — а прароцтва здзейснілася.

[30] Манахі ордэна капуцынаў абавязаны былі есці моўчкі.

[31] Штылет — кінжал (Б. Т.).

[32] Дынассаў — прынц дэ Нассаў-Зіген, вядомы шукальнік прыгод. Каля 1780 г. гасціў у Нясвіжы ў Караля Радзівіла.

[33] Датак (польск.) — міласціна.

[34] Spolia opima па-лаціне азначае: здабыча (Б. Т.).

[35] Луп (польск.) — здабыча.

[36] Ляўрыновы (польск.) — лаўровы.

[37] Філяр — слуп, стоўп, калона.

[38] Загары (польск.) — гадзіннікі.

[39] Драчыць — накручваць.

[40] Псота (польск.) — свавольства.

[41] Браць на свядэцтва — браць у сведкі.

[42] Парваўся (польск.) — усхапіўся, кінуўся.

[43] Фора — вон.

[44] Намёк на мядзведзяў, якіх у смаргонскай «акадэміі» вучылі танцаваць палкамі.

[45] Польскі ўскліч «Нестэты!» знача: на жаль, на бяду! (Б. Т.).

[46] Чуціць (польск.) — прыводзіць да прытомнасці.

[47] Фрамуга — ніша.

[48] Дзяды — беларускі народны абрад ушанавання продкаў, у час якога на могілкі прыносілася ежа для душ памёршых.

[49] Мярцы — мёртвыя.

[50] Мары — прывіды.

[51] Таргавіца — Таргавіцкая канфедэрацыя шляхты 1792 г., дзеянні якой былі скіраваны на падзел Рэчы Паспалітай.

[52] Гатыцкі — сярэдневяковы; сармацкі — старапольскі.

[53] Піўніца (польск.) — склеп.

[54] Люмінаваць (лац.) — асвятляць.

[55] Назвы хрысціянскіх малітваў.

[56] Буздыган — адзнака ваеннай улады, булава (Б. Т.).

[57] Пераклад недакладны. У арыгінале гаворка ідзе пра наезд на Карэлічы, якім кіраваў Рымша.

[58] Канфедэратка — высокая шапка з чатырма вострымі вугламі. Асаблівай папулярнасцю яна карысталася сярод барскіх канфедэратаў.

## БЫЛІЦА ШОСТАЯ

[1] У Літве называюць ваколіцай або засценкам шляхецкае аселішча, каб адрозніць яго ад сапраўдных вёсак або сёлаў, сялянскіх сяленняў (А. М.).



[2] Гаўяда — скаціна, тавар, быдла (Б. Т.).

[3] Кабала — варажба на картах.

[4] Рэестр тактовы абымаў крымінальныя справы, напр(ыклад) абразы ўрадавых асоб (Б. Т.).

[5] Позва — павестка, выклік у суд.

[6] Пракалатаць (польск.) — працягацца, прабадзяцца.

[7] Рэтар — вучань класы рыторыкі, у якой вучылі прамоваў (Б. Т.).

[8] Кісель — літоўская страва, накшталт студзеню; робіцца яна з заквашанага молатага аўса, які прамываецца вадой да таго часу, пакуль не аддзеляцца ўсе драбніцы мукі; адсюль і прымаўка (А. М.).

[9] Непахібна — непазбежна.

[10] Фарпочта — разведачны патруль (Б. Т.).

[11] Тыльжа — Тыльзіт, горад у Прусіі, дзе ў 1807 г. Напалеон заключыў мір з Аляксандрам I.

[12] На гербе Жмудзі быў мядзведзь.

[13] Лянца — уланская піка са сцяжком.

[14] Каралевец, Крулевец — Кёнігсберг (цяпер Калінінград).

[15] Гістарычная недакладнасць. Аляксандр I да самага пачатку вайны 1812 г. не пасылаў да Напалеона ніякіх паслоў, якія прасілі б аб міры.

[16] Біньён Луі — французскі дыпламат. У 1811 г. быў прадстаўніком Напалеона ў Варшаве, у 1812 г.— камісарам пры часовым урадзе Літвы.

[17] Значная частка магнатаў (Агінскі, Любецкія) і шляхты Літвы і Беларусі была ў 1812 г. за саюз з Расіяй.

[18] Калмажка — аднаконная павозка без рысораў.

[19] Воня — пах, арамат.

[20] Передаванне — суперніцтва.

[21] Тэльшы — горад у Літве (цяпер Тэльшай).

[22] Пасля многіх свавольстваў схоплены ў Мінску і расстраляны па трыбунальскаму прысуду (А. М.).

Зухвалы (польск.) — нахабны.

[23] Прапазыка — прапанова.

[24] Бадаць (польск.) — даследаваць.

[25] Ладунак — набой (Б. Т.).

[26] Тамляк (польск.) — рэмень пры рукаятцы шаблі, партупея.

[27] Калі кароль меў склікаць паспалітае рушэнне, наказываў затыкáць у кожнай парафіі высокую жэрдзь з прывязанай на вярху мятлой або «віццю». І гэта называлася «раздаць віці». Кожны дарослы чалавек рыцарскага стану павінен быў пад пагрозай утраты шляхоцтва адразу явіцца пад ваяводскую харугву (А. М., Б. Т.).

[28] Караняж — жыхар Кароны (Польшчы).

[29] Мянюшкі — гэта, уласна кажучы, зласлівыя прозвішчы (А. М.).

[30] Пятух на званіцы — флюгер.

[31] Крокус — шафранец, расліна, падобная да асоту.

[32] Шведскія часы — нашэсце шведаў у сярэдзіне XVII ст.

[33] У зямлі непасвячанай — не на могілках.

[34] Зыгмунтоўка—шабля часоў польскага караля Зыгмунта III.

[35] Арматура — зброя (Б. Т.).

[36] Марс — бог вайны; марсавы — ваенны, ваяцкі (Б. Т.).

[37] Бунчук — конскі хвост на кіі, азначаўшы ў туркаў ваенную адзнаку (Б. Т.).

[38] У 1768 г. шляхта зрабіла ў Бары на Падоллі збройны саюз проці Расіі і караля Станіслава Панятоўскага, які трымаўся з Кацярынай (Б. Т.).

[39] Дамасцэнская — выробленая ў Дамаску (Сірыя).

[40] Тызенгаўз Антон — літоўскі падскарбі, заснаваў у Гродна ў другой палавіне XVIII ст. шэраг мануфактур і навучальных установ.

[41] Агінскі Міхаіл Клеафас — грамадскі дзеяч і кампазітар, аўтар паланеза «Развітанне з радзімай».

[42] Граф Аляксандр Пацей, вярнуўшыся пасля вайны ў Літву, дапамагаў землякам, якія скіроўваліся за граніцу, і пераслаў значныя сумы грошай у касу легіянераў (А. М.).

[43] Рэлігійны гімн на словы Ф. Карпінскага.

[44] Літ-пояс — славуты слуцкі літы пояс XVIII ст.

### БЫЛІЦА СЁМАЯ

[1] Геньюша — генія, надзвычайнай здольнасці чалавека (Б. Т.).

[2] Маецца на ўвазе ўступленне французскіх войск у Прусію ў 1806 г.

[3] Грабоўскі Юзаф — удзельнік вайны 1812 г. Міцкевіч пазнаёміўся з ім у 1831 г. у Вялікапольшчы.

[4] Рэгімент (франц.)— полк.

[5] Аб'язерра (Об'езежэ) — мястэчка каля Познані.

[6] Тадвен Тадэвуш — удзельнік напалеонаўскіх паходаў.

[7] Каля Іены ў 1806 г. Напалеон атрымаў перамогу над прускай арміяй.

[8] Ляндраты, гафраты (нямецк.)— земскія і прыдворныя саветнікі.

[9] Ігра слоў: прусакі — жыхары Прусіі і насякомыя.

[10] Паражка (польск.)— паражэнне.

[11] O Herr Gott! O weh!— знача: а божачка, бяда! (Б. Т.).

[12] Бэты — пасцель (Б. Т.).

[13] Рэйтэрада — адступленне, уцёкі.

[14] Дзерці схабы — біць, лупіць, дзерці мяса.

[15] Гарцабы — косы, буклі парыка.

[16] Гульня слоў: па-польску крулік знача і каралёк, і трусік (Б. Т.).



[17] Маецца на ўвазе трэці падзел Рэчы Паспалітай у 1795 г.

[18] Намёк на І. Канта, да якога Міцкевіч ставіўся скептычна.

[19] Канэўка — конаўка.

[20] Прэгель — рака ва Усходняй Прусіі.

[21] Бухман выкладае погляды на паўстанне ўлады французскага пісьменніка XVIII ст. Жан-Жака Русо (Яна Якуба Русо), аднаго з папярэднікаў французскай рэвалюцыі. Гэтыя погляды знаходзяцца ў творы пад назовам «Грамадзянскі кантракт» («Contract social») (Б. Т.).

[22] Вясёлая шляхта XVI в. у ваколіцах Любліна ў Бабіне (стварыла) Бабінскую Рэч Паспаліту дзеля жарту і сатыры: трусы назначаліся гетманамі, скуралупы і зладзеі міністрамі скарбу і пад. (Б. Т.).

[23] Бальзабуб (Вельзевул)— старшы д'ябал.

[24] Рэгулямант — рэгламент, збор вайсковых прадпісанняў.

[25] Атрамант ( польск.)— чарніла.

[26] Воклічам «Не дазваляю!» кожны шляхціц мог сарваць пасяджэнне сейма.

[27] Галка — шарык. Шляхта галасавала, кідаючы ў урну белы або чорны шарык.

[28] Нарымбэрская сталь — выробленая ў Нюрнбергу (Германія).

[29] Зыскаць — атрымаць карысць, выйграць.

[30] Гнабіцель (польск.)— прыгнятальнік.

[31] Баніта — злачынец, асуджаны на выгнанне з краю.

[32] Інфіма — найніжэйшая класа ў гімназіі (Б. Т.).

[33] Егры — стральцы (Б. Т.).

[34] Бяліца (Беліца)— мястэчка над Нёманам (цяпер Лідскі р-н).

[35] Ласосна — левы прыток Нёмана.

[36] Файна (нямецк.)— добра.

[37] Рахмістр (нямецк.)— рахункавод.

[38] Канвікты — школы з інтэрнатамі, якія ўтрымліваліся езуітамі і піярамі.

[39] Вікт — харчаванне, сталаванне.

[40] Пратэга — пратэкцыя.

[41] Марымонт — пад Варшавай, слаўны сваімі млынамі (Б. Т.).

[42] Заводзіць (польск.)— плакаць наўзрыд, галасіць.

[43] Мястэчка Мыш — у Навагрудскім ваяводстве (Б. Т.).

[44] Уразы (польск.)— крыўды.

[45] Тачыцца — каціцца, ісці.

[46] Апона — накідка, пакрывала.

### БЫЛІЦА ВОСЬМАЯ

[1] Дыдона — карфагенская царыца, якая пакахала Энея, а калі той рашыў яе пакінуць, спрабавала пакончыць жыццё самагубствам.

Тут намёк на Тальмену, якая аказалася ў падобнай сітуацыі.

[2] Звярацца (польск.) — прызнавацца (у каханні).

[3] Шкляны гармонік складаўся з шкляных кружкоў, аб каторыя цёрся валік (сфера) і выклікаў гукі (Б. Т.).

[4] Fortissimo — з усіх сіл (муз. тэрмін) (Б. Т.).

[5] Гарфа Эоля — род гарфы, струны каторай рухае вецер, выклікаючы гукі. Эоль — бажок вятроў (Б. Т.).

[6] Паводле М. Стрыйкоўскага, дзве самыя яркія зоркі ў сузор'і Блізнят называліся ў старажытных славян Лелем і Палелем.

[7] Карона — Польшча, Літва — землі В. кн. Літоўскага (Б. Т.).

[8] Ёсць звесткі, што калісьці на Навагрудчыне Сітам называлі сузор'е Плеяды.

[9] Давідовы Воз — сузор'е, званае ў астраномаў (А. М.).

Знача — Вялікая Вядзмедзіца, палярная зорка, нерухомая, у канцы паўночнага полюса (Б. Т.).

[10] Люцыпер (Люцыпар) — анёл, які паўстаў супраць бога і ператварыўся ў д'ябла. Ёсць звесткі, што паэт выкарыстаў тут беларускія легенды.

[11] Ляцець на долькі — ляцець, дужацца, змагацца.

[12] Левятан (Левіяфан) — велізарная рыба, якой, паводле старажытнаяўрэйскіх вераванняў, павінны былі насыціцца веруючыя. Абрысы Левіяфана быццам бы праглядваюцца ў сузор'і Цмока.

[13] Было ў звычаі завешваць пры касцёлах знаходжаныя забыткі капальных касцей, якія народ уважае за косці волатаў (А. М., Б. Т.).

[14] Памятная камета 1811 года (А. М.).

[15] Памор — пошасць (Б. Т.).

[16] Пузыніна Альжбета — вядомая мсціслаўская мецэнатка XVIII ст.

[17] Ксёндз Пачобут, былы езуіт, слаўны астраном, выдаў працу пра малюнак задыяку ў Дэндэрах і сваімі назіраннямі дапамог Лаланду вылічыць рух месяца. Гл. яго біяграфію, напісаную Янам Снядэцкім (А. М.).

[18] Акадэмія — Віленская акадэмія (пазней — універсітэт).

[19] Цэля (польск.) — келія, камера.

[20] Снядэцкі Ян — прафесар Віленскага універсітэта (пач. XIX ст.).

[21] Аслі — калі, ці.

[22] Рагаткі — развілка дарог пры выездзе з горада.

[23] Браніцкі або Бранэцкі, вялікі гетман каронны і генерал расійскай службы, адзін з творцаў Таргавіцкай канфедэрацыі. З'езд таргавічанаў адбыўся ў Ясах, на граніцы Бесарабіі і Валахіі (Б. Т.).

[24] У часы Міцкевіча камету на Навагрудчыне называлі мятлой. Лічылася, што сваім хвастом яна можа «змесці» частку свету.

[25] Яблонскі (Ябланоўскі) Ян — вялікі каронны гетман (XVIII ст.).



[26] Фацэцыі — забаўныя гісторыі.

[27] Папскі нунцыюш (нунцый) — пасол Ватыкана.

[28] Ян III Сабескі ў 1682 г. назіраў камету Галея.

[29] «Fulmen Orientis» — Маланка Усходу (Б. Т.).

[30] «Яніна» — твор Я. К. Рубінкоўскага (1739).

[31] Князь Адам Казімір Чартарыскі, галоўны стараста Падольскіх зямель (Б. Т.).

[32] Менні — маёнткі.

[33] Ятра — вёска на Навагрудчыне (цяпер Навагрудскі р-н).

[34] Солтан Станіслаў — палітычны дзеяч XVIII ст., уладальнік Дзятлава.

[35] Дакладней, князь дэ Насаў-Зіген. Слаўны тады ваяка і падарожнік. Быў рускім адміралам і перамог туркаў у ліманах, потым яго самога ўшчэнт разбілі шведы. Нейкі час правёў у Польшчы, дзе атрымаў шляхецтва. Барацьба князя дэ Насаў з тыграм апісвалася тады ва ўсіх еўрапейскіх газетах (А. М.).

[36] Развадзіцца (польск.) — падрабязна, доўга расказваць.

[37] Лібія — тут у значэнні Афрыка.

[38] Шпіс — кап'ё.

[39] Гадзіць (польск.) — мірыць.

[40] Густаваць (польск.) — ужываць са смакам, асалодай.

[41] Гмін — народ, натоўп (нямецкае Gemeinde) (Б. Т.).

[42] Правінцыял — начальнік манаскай правінцыі (Б. Т.).

[43] In articulo mortis — у небяспецы, пагражаючай жыццю (Б. Т.).

[44] Габіт — манаская раса.

[45] Фанфарон (франц.) — фанабэрлівы чалавек, задавака.

[46] Віцяства — рыцарства, мужства (Б. Т.).

[47] Малады шляхціц даставаў у скуру ад бацькі ці апекуна толькі на падасланым каберцы (Б. Т.).

[48] Разбіраць (польск.) — раздзяваць.

[49] Гадзіцца (дыял.) — сароміцца, брыдзіцца.

[50] Непрызваіта (польск.) — непрыстойна.

[51] Маркітанкі — жанчыны, якія цягнуліся за войскам з гарэлкай, тытунём, харчамі (Б. Т.).

[52] Медуза — паводле грэцкай міфалогіі, страшылішча ў відзе жанчыны, якая забівае, сваім паглядам замяняючы ў камень (Б. Т.).

[53] Замераны (польск.) — нацэлены, скіраваны.

[54] Катва — якар (Б. Т.).

[55] Свіцязянка — русалка з возера Свіцязь.

[56] Качкі — чэлюсці (Б. Т.).

[57] Патароча — перашкода (Б. Т.).

[58] Баданне (польск.) — допыт, расследаванне.

[59] Бірбантэ-рокка (італ.) — замак на скале (замак разбойнікаў).

[60] Спатычка (польск.) — сутычка, бой.

[61] Залога (польск.) — каманда, гарнізон.

[62] Памяшанне благой лацінскай мовы з польскай ці беларускай, якое часта бывае ў старых актах; азначае: з барамі, з гаямі і граніцамі, кмецямі (сялянамі), солтысамі і ўсімі рэчамі (Б. Т.).

[63] Данасней (польск.) — зычней, гучней, мацней.

[64] Пляндраваць — рабаваць.

[65] Манлі(уш) абараніў у IV ст. да н. э. рымскі горад (Капітоль) перад гальскай навалай дзякуючы крыку гусей (Б. Т.).

## БЫЛІЦА ДЗЕВЯТАЯ

[1] Водсеч (польск.) — дапамога.

[2] Езная (польск.) — конная, на фурманках.

[3] Удабрухаць (польск.) — задобрыць, прымірыць.

[4] Рэдута — баль (Б. Т.).

[5] Шэрмаль, ракета — штучныя агні, феерверкі (Б. Т.).

[6] «Жоўтая кніга», названая так па яе вокладцы,— варварская кніга ваенных царскіх законаў. Не раз у мірны час урад абвяшчае, што цэлыя правінцыі знаходзяцца ў стане вайны, і, адпаведна «Жоўтай кнізе», аддае ваеннаму кіраўніку поўную ўладу над маёмасцю і жыццём грамадзян. Вядома, што ад 1821 г. і да паўстання (1831 г.) уся Літва падпарадкоўвалася дзеянню «Жоўтай кнігі», якой выканаўцам быў вялікі князь царэвіч (А. М.).

[7] Камрад (нямецк.) — таварыш.

[8] Бака Юзаф — польскі паэт XVIII ст. Жыў у Мінску. Далей Міцкевіч парадзіруе прымітыўна-макабрычныя вершы Бакі.

[9] Фрызура (франц.) — прычоска.

[10] Банковы білет — асігнацыя, грошы.

[11] Вэты — салодкая закусь па ядзе (белар. «нават» знача: на вэт, на канчатак) (Б. Т.).

[12] Гальба-цывальба (нямецк.) — азартная картачная гульня.

[13] Балабулька — балалайка.

[14] Лядача — нягоднік, абібок, абы што.

[15] Выпайсаць — аддзяліць зерне ад асцюкоў і мякіны, абмалаціць.

[16] Бердыш — сякерка.

[17] Брэд — востры бок (Б. Т.).

[18] Літоўская дубіна робіцца наступным чынам: знаходзяць малады дуб і насякаюць яго знізу ўверх сякерай так, каб, зрэзаўшы кару і мяздру, злёгку параніць дрэва. У тыя рубцы ўтыкаюць вострыя крэмені, якія з часам урастаюць у дрэва і ўтвараюць цвёрдыя гузы. У язычаскія часы дубіны з'яўляліся галоўнай зброяй літоўскай пяхоты; іх ужываюць часам і цяпер і называюць насекамі (А. М.).

[19] Пасля паўстання Ясінскага, калі літоўскія войскі адступалі да Варшавы, рускія ўвайшлі ў пакінутую Вільню. Генерал Дзееў са світай уязджаў праз Вострую Браму. Вуліцы былі пустыя, жыхары запёрліся ў дамах. Але адзін мешчанін, пабачыўшы гармату, кінутую ў завулку і зараджаную картэччу, нацэліў яе ў браму і запаліў кнот. Гэты адзін стрэл выратаваў тады Вільню: генерал Дзееў з некалькімі афіцэрамі загінуў, астатнія, баючыся засады, адышлі ад горада. Цвёрда не ведаю прозвішча таго мешчаніна (А. М.).

[20] Ганітва (польск.) — пагоня.

[21] Адылі — а толькі, аднак, тыкеле (Б. Т.).

[22] Benedicta carda — лекавая расліна, разнавіднасць асоту.

[23] Рапы — падводнае каменне (Б. Т.).

[24] Пардон (франц.) — прабачэнне.

[25] Бывалі і пазней яшчэ заезды, хаця не такія слаўныя, аднак досыць шумныя і крывавыя. Каля 1817 года грамадзянін У... у Навагрудскім ваяводстве пабіў у час заезду ўвесь навагрудскі гарнізон, а камандзіраў узяў у палон (А. М.).

## БЫЛІЦА ДЗЕСЯТАЯ

[1] Ніоба — паводле грэцкіх мітаў і «Іліяды»— абразіла Латону, матку Апалона і Дыяны, залішне пахваляючыся сваімі 14 дзецьмі, за што Апалон і Дыяна забілі дзяцей, а Зявес самую Ніобу абвярнуў у камень на гары Сыпілёс (Б. Т.).

[2] Тавар (дыял.) — жывёла, быдла.

[3] Матавільна — прылада, з якой разматваюцца маткі нітак (Б. Т.).

[4] Гадка (польск.) — чутка, пагалоска, гаворка.

[5] Нові — мясцовасць у паўночнай Італіі, дзе Сувораў у 1799 г. разбіў французаў.

[6] Мусіць, Прусіш-Эйлаў (А. М.).

[7] Карсакаў — камандуючы рускай арміяй у Швейцарыі (1799—1801).

[8] Рацлавіцы — вёска каля Кракава, непадалёку ад якой Касцюшка ў красавіку 1794 г. атрымаў значную перамогу.

[9] Мацеявіцы — вёска над Віслай, дзе Касцюшка ў кастрычніку 1794 г. пацярпеў паражэнне.

[10] Пунчык — пунш.

[11] Requiescat in pace — няхай адпачывае ў супакоі (Б. Т.).

[12] Pro publico bono — дзеля грамадскага дабра (Б. Т.).

[13] РэлІквіярык — найчасцей у форме крыжыка, у якім хавалася драбнінка «астанкаў» ад нейкага святога, касцей, вопраткі ці нечага іншага (Б. Т.).

[14] Гімен — у грэкаў бажок вяселля; гэтак Граф класічным стылем хоча сказаць, што гатоў бы ажаніцца з Тальменай (Б. Т.).

[15] Патоцкі Уладзімеж — польскі грамадскі і ваенны дзеяч.

[16] У сярэднія вякі, у феадальныя часы, рыцары біліся на турнеях; турнеі адбываліся ў мясцох, абгароджаных поручнямі — шранкамі; рыцары прысягалі вернасць колеру дамы свайго сэрца.

Тальмена патрапляе папасці ў стыль Графа (Б. Т.).

[17] Сярчыстыя (сярністыя) дажджы — залпы снарадаў.

[18] Злапаны (польск.) — злоўлены.

[19] Маецца на ўвазе польскі магнат Ян Танчынскі, які ў XVI ст. абручыўся са шведскай прынцэсай Цэцыліяй.

[20] Сабетацкія словы — словы, кінутыя так сабе, не па сутнасці.

[21] Каралеві — каралю; дав(альны) склон на -еві спатыкаецца ў паўдзённа-заходніх гутарках (Б. Т.).

[22] Sanctissimum (лац.) — святое прычасце.

[23] Гойны (польск.) — шчодры.

[24] Радзівіл Кароль — нясвіжскі магнат па мянушцы Пане Каханку.

[25] Здаецца, Стольнік быў забіты каля 1791 года, у часы першай вайны (А. М.).

[26] Шпільберг — аўстрыйская крэпасць для палітычных вязняў.

[27] Сакрамант (лац.) — прычасце.

[28] Віятык (лац.) — апошняе прычасце.

[29] Фішар Станіслаў — ад'ютант Касцюшкі, потым начальнік штаба Варшаўскага княства.

[30] Мазавецкія станы — саслоўі Мазоўша (частка Польшчы).

### БЫЛІЦА АДЗІНАЦЦАТАЯ

[1] Адзін рускі гісторык такім жа чынам апісвае варожбы і прадчуванні рускага простанароддзя напярэдадні вайны 1812 года (А. М.).

[2] Па сведчаннях мемуарыстаў, 1812 год быў у Літве і Беларусі незвычайна ўрадлівым.

[3] Камета 1811 г. лічылася сярод народа прадвесніцай вайны 1812 г.

[4] Рунь — зеляненочыя пасевы азімых (А. М.).

[5] Вырай у народнай мове знача асенні час, калі вандроўныя птушкі адлятаюць; ляцець у вырай знача ляцець у цёплыя краі. Адгэтуль пераносна народ называе выраем цёплыя краі і наогул нейкія казачныя краі, шчаслівыя, ляжачыя за морамі (А. М., Б. Т.).

[6] Польскія военачальнікі, якія ўдзельнічалі ў вайне 1812 г.

[7] Шляфміца (нямецк.) — спальная (начная) шапачка.

[8] Вельмі рэдкая цяпер кніжка, выдадзеная больш ста год назад Станіславам Чарнецкім (А. М.).

[9] Спецыялы (польск.) — прысмакі.

[10] Граф на Танчыне — канцлер Рэчы Паспалітай Ежы Асалінскі; у 1633 г. узначальваў пасольства ў Рым.

[11] Часта апісвалі і малявалі тое рымскае пасольства. Гл. прадмову да кнігі «Кухар дасканалы». Гэта пасольства выклікала вялікае здзіўленне ўсяго заходняга свету; блеск і аздоба стала былі такімі выдатнымі, што адзін з рымскіх князёў усклікнуў: «Рым шчаслівы, прымаючы такога пасла». Чарнецкі сам быў галоўным кухарам Асалінскага (А. М.).



[12] Маецца на ўвазе прыём польскага караля ў Нясвіжы ў 1784 г.

[13] Ятка (польск.) — крама з мясам і мяснымі вырабамі.

[14] Свята Міцкевічам прыдумана.

[15] Паводле каталіцкага веравызнання, у кожнага чалавека ёсць свой анёл-сторож.

[16] Пава мае прыгожа ўзорысты хвост, як вочы (Б. Т.).

[17] У Літве, з уваходам французскіх і польскіх войскаў, па ваяводствах завязалі канфедэрацыі і абралі паслоў на сойм (А. М., Б. Т.).

[18] Градытуравы (франц. gros de Tour) — цяжкая шаўковая тканіна з французскай фабрыкі ў горадзе Тур (Б. Т.).

[19] Ухвала (польск.) — рашэнне.

[20] Універсалы — пасланні да народа ў Рэчы Паспалітай; вальны сойм — усеагульны сейм.

[21] Вядома, што пад Гогэнліндэнам польскі корпус пад камандаваннем генерала Князевіча вырашыў лёс перамогі (А. М.).

[22] Сама-сьерра — вузкі горны пралаз, што вядзе праз Пірэнеі з Францыі да Мадрыда (Б. Т.).

[23] «Ляска» — булава, знак улады (паланізм, па-беларуску: леска) (Б. Т.).

[24] Інфамія — няслава (Б. Т.).

[25] Правы — справядлівы (Б. Т.).

[26] Gravis notae maculae — запісанне цяжкай віны ў судовых актах (Б. Т.).

[27] Генеральнасць — галоўная ўправа канфедэрацыі (Б. Т.).

[28] «Анёл-панскі» — каталіцкая малітва за памёршых.

[29] Інтэрцыза — прадшлюбная ўмова (Б. Т.).

[30] Аўтэнтычныя прозвішчы літоўскіх і польскіх шляхецкіх сем'яў.

[31] Польскія паны пажанілі сваю каралеву Ядвігу з в. кн. літоўскім Ягелам і так зрабілі спрытны крок да дзяржаўнай уніі (Б. Т.).

[32] Ягайла (Ягела) перамог крыжаносцаў у бітве пад Грунвальдам.

[33] Тэмляк — падвязаная да шыі хустка, якая падтрымлівае раненую руку.

[34] Сыгнет — персцень (Б. Т.).

[35] Рабіць гатавальню — строіцца, рабіць туалет.

[36] Вядомая пагаворка, звязаная з літоўскім магнатам А. М. Пацам.

[37] Рубронт (франц. robe ronde) — жаночая сукня або матэрыял на яе (Б. Т.).

[38] Ляліва — герб з паўмесяцам і зоркай на чырвоным полі.

[39] У баі пад Падгайцамі (каля Львова) гетман Я. Сабескі ў 1665 г. перамог туркаў.

[40] Пакорпаны (дыял.) — сцягнуты (ніткамі).

[41] Дыяна — багіня ўловаў, мела на чале паўмесячык (Б. Т.).

[42] Вена — пасаг (Б. Т.).

БЫЛІЦА ДВАНАЦЦАТАЯ

[1] Тут маецца на ўвазе не камплект сталовага посуду, а асабліва аздоблены прыбор (прылада) для салодкіх страў, фруктаў і прыправаў, які ў XVI—XVIII стст. ставіўся на сярэдзіне стала.

[2] Патравы (польск.) — стравы.

[3] Радзівіл-Сіротка адбыў далёкія падарожжы і выдаў апісанне свайго паломніцтва па «святых мясцінах» (А. М.).

[4] Вараннёвы — канфітуровы (Б. Т.).

[5] Парцэляна — фарфор.

[6] Барва — фарба, колер (Б. Т.).

[7] Гранка, гронка (польск.) — група людзей.

[8] Афірматыва — пацвярджаючы голас, згода (Б. Т.).

[9] Негатыва — адмоўны голас, нязгода (Б. Т.).

[10] Збор — сход, сабранне (Б. Т.).

[11] Вазон — урна для галасавання.

[12] Veto — не пазваляю! (Б. Т.).

[13] Прыар — настаяцель манастыра.

[14] Комжа — літургічнае адзенне.

[15] Тут Войскі яўна ідэалізуе грамадскі лад былой Рэчы Паспалітай.

[16] Канстэбль (англ. constable) — паліцыянт (Б .Т.).

[17] У XVIII ст. жонку нават дробнага чыноўніка тытулавалі яснавяльможнай, звычайнага шляхціца — толькі вяльможнай.

[18] Кантуз — сальцасон; аркас — сцюдзёная страва з жаўтка і смятаны; бляманш — мігдальная галярэта (Б. Т.).

[19] Помухля — рыба (з мянтузаватых); фігатэлі — фаршы (Б. Т.).

[20] Драганты — здоблены цукар; пінэлі — зёрны з шышак лімбы (карпацкай елкі); прунелі — род сліўкі (Б. Т.).

[21] Кавёр (франц.) — ікра.

[22] Флёндра — камбала.

[23] У XVI і ў пачатку XVII стагоддзя, у эпоху росквіту мастацтваў, нават балі афармляліся мастакамі і былі напоўненыя сімваламі і тэатральнымі сцэнамі. На славутым балі, дадзеным у Рыме ў гонар Леана X, быў сервіз, які па чарзе паказваў чатыры пары года — ён, напэўна, паслужыў узорам для радзівілаўскага. Застольныя норавы змяніліся ў Еўропе дзесьці ў палавіне XVIII стагоддзя, у Польшчы ж яны праіснавалі найдаўжэй (А. М.).

[24] Жагаркі (дыял.) — сучочкі, палачкі.

[25] Кітайскія цені — «рухомыя» малюнкі на палатне або на паперы; ствараліся перасоўваннем асветленых ззаду фігурак.

[26] Пінэці — слаўны на ўсю Польшчу чмутар; калі ў нас гасціў, не ведаем (А. М., Б. Т.).

[27] Бісы — бесы (з украінскага) (Б. Т.).

[28] Ацвічыць (польск.) — вытрэніраваць, спляжыць, высеч.



[29] Трамблён — стрэльба з шырокім вылетам; флянкер — фланг, крыло (Б. Т.).

[30] Пісарчук правантовы — рахункавод (Б. Т.).

[31] Пісалі тады гусінымі пёрамі, якія трэба было гастрыць (Б. Т.).

[32] Названы прозвішчы ўдзельнікаў вайны 1812 г., якія потым кіравалі паўстаннем 1831 г. Плютон — узвод.

[33] Дзвігнуць (польск.) — узняць, скрануць з месца.

[34] Фехтарскі — фехтавальны.

[35] Пуласкія бралі ўчасце ў Барскай канфедэрацыі. Казімір Пуласкі паў у амерыканскай вайне за незалежнасць. Дзержаноўскі і Сава (казак) — таксама канфедэраты (Б. Т.).

[36] Дзесяцёра — дзесяць біблейскіх запаведзяў.

[37] У Літве шырока вядомая чуллівая песня пра паню Цыбульскую, якую муж праіграў рускім ваякам (А. М.).

[38] Дымур'ер — генерал, французскі агент і арганізатар пры Барскай канфедэрацыі (Б. Т.).

[39] Названы разнавіднасці французскіх войск. Фізільеры — стралкі.

[40] Мода на французскае адзенне распаўсюдзілася ў правінцыі ад 1800 да 1812 года. Найбольш моладзі мяняла фасон адзення перад вяселлем, па жаданню сваіх нарачоных (А. М.).

[41] Згоршаны (польск.) — абураны.

[42] Птыфенне (франц.) — тонкая, празрыстая тканіна.

[43] Гісторыя спору Райтана з князем дэ-Нассаў (Дынассаў), Войскім не даведзеная да канца, ведама з традыцыі. Памяшчаем яе дзеля цікавасці чытальніка. Райтан, узбураны пярэхвалкамі князя дэ-Нассаў, стаў побач з ім на пярэсмыку; якраз велізарны дзікадзінец, раз'юшаны стрэламі і цкаваннем, ляцеў (на) пярэсмык. Райтан вырывае князю з рук стрэльбу, сваю кідае вобземлю, а схапіўшы рагач і падаючы другі немцу: «Цяпер, кажа, пабачым, хто лепей упраўляецца са шпісам». Ужо дзік налятаў, калі войскі Грачэха, стаяўшы воддаль, мэтным стрэлам паваліў звера. Паны зразу злаваліся; пасля пагадзіліся і багата абдаравалі Грачэху (А. М., Б. Т.).

[44] Хам, Яфет (Яхвет) і Сім — сыны біблейскага Ноя. Спасылаючыся на сваё паходжанне ад Сіма, шляхта абгрунтоўвала сацыяльную няроўнасць.

[45] Расійскі ўрад не прызнае вольных людзей, апрача шляхты. Сяляне, звольненыя панам, зараз запісуюцца ў сказкі (спісак) царскіх сталовых памесцяў і заместа паншчыны мусяць плаціць павялічаны падатак. Ведама, што ў 1818 г. абывателі Віленскай губерні прынялі на сойміку праект звальнення ўсіх сялян і вызначылі з гэтай мэтай дэлегацыю да цара; але ўрад наказаў праект умарыць і ніколі болей аб ім не ўспамінаць. Не было іншага спосабу звольніць чалавека пад расійскім урадам, як толькі прыняць яго да фаміліі. Шмат каго такім чынам і ўшляхцілі з ласкі або за грошы (А. М., Б. Т.).

[46] Канак — багаты жаночы нашыйнік; манэля — бранзалетка, аздоба на руку (Б. Т.).

[47] Белёна — багіня вайны (Б. Т.).

[48] Гідра — казачнае грэцкае страшыдла, катораму на месцы адсечанай галавы вырастала некалькі новых (Б. Т.).

[49] Барэй — казачны валадар паўночных віхраў (Б. Т.).

[50] Здумецца (польск.) — здзівіцца.

[51] Янчарскі — янычарскі.

[52] Зэлі — музычныя мядзяныя (мосяжныя) кружкі (Б. Т.).

[53] «Паланез трэцямайскі» быў напісаны ў гонар канстытуцыі 3 мая 1791 г.

[54] Прымы (лац.) — «першыя» струны, якія даюць самы высокі тон.

[55] Масыяш — Месія, выбавіцель.

[56] Қанкуры — залёты (Б. Т.).

Тарашкевіча, відаць, не задавальняла рыфма пануры — канкуры. На палях яго ж почыркам дапісана другая пара: ахвоты — залёты.

[57] Дружбарт — старасвецкая картачная гульня.

[58] Міцкевіч намерваўся дадаць да паэмы «Эпілог», нават напісаў яго, але не паспеў выправіць і таму не ўключыў у першае выданне. У некаторых пасмяротных выданнях гэты «Эпілог» змяшчаецца пасля дванаццатай песні (быліцы). Б. Тарашкевіч «Эпілог» не пераклаў.

## ЗМЕСТ

*АДАМ МИЦКЕВИЧ*

ПАН ТАДЕУШ

Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Рэдактар М. М. Дубоўская
Мастак К. С. Ракіцкі
Мастацкі рэдактар В. А. Жахавец
Тэхнічны рэдактар В. І. Кручонак
Карэктар Т. К. Чабан

ІБ № 1203

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР.

Здадзена ў набор 04.01.81. Падпісана ў друк 19.05.81. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Друк. арк. 9,25+ +0,125 укл. на мел. пап. Ум. друк. арк. 15,75. Уч.-выд. арк. 17,1. Тыраж 10 000 экз. Заказ № 19. Цана 1 р. 70 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.